# Арляк і зязюля

РАМАН



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1998

## Ад аўтара

*Напісаў "Ад аўтара" і падумаў: ну які ж я аўтар?.. Аўтар — гэта калі твор, якім ты ашчаслівіў чытача, перад тым як выліцца на паперу, зарадзіўся і выспеў у табе самім. А калі ты ўсяго старанна занатаваў, а потым набраўся нахабства ды яшчэ і выдаў пад сваім імем тое, што нехта шчыра і даверліва табе расказаў, — тады трэба разбірацца, хто сапраўдны аўтар. Такі, напрыклад, мой заліп'янскі, як можна было б яго назваць, запіс, што ўжо надрукаваны пад загалоўкам "Явар з калінаю", — хутчэй за ўсё сапраўдныя аўтары там памочнік ляснічага Іван Гаркуша і яго жонка Зоя Пятроўна, бо палова кнігі — гэта па-майстэрску пададзеныя самім Гаркушам яго-ныя "памоўкі", а яшчэ паўкнігі — шчымліва простая, хоць часам і не без прытоенай хітрынкі, жаночая споведзь. Зрэшты, быў там яшчэ і трэці сааўтар — Віталь Фёдаравіч Айчанаш, бо нямала цікавага расказаў мне і ён, ляснічы і былы партыйны работнік.*

*Тое, што я цяпер адважваюся прапанаваць чытачу, — у вялікай меры праця "Явара з калінаю", бо і ў новым маім запісе знаёмы ўжо Гаркуша — і галоўны герой, і ён жа — галоўны аўтар. Чытач памятае: з Гаркушам вандроўны лёс звёў і развёў мяне ў Заліп'і чвэрць веку назад — у семдзесят першым годзе. Але развёў не назусім, праз год адбылася яшчэ адна мая сустрэча з Гаркушам, ужо ў Гомелі, дзе я, памяняўшы прафесію, акапаўся, як сказаў бы Гаркуша, там, дзе "пішуць", — у рэдакцыі абласной газеты. Канечне, Гаркуша не быў бы Гаркушам, калі б зноў не расказаў мне пра сябе нечага вельмі цікавага, і гэтую яго "памоўку", у адрозненне ад заліп'янскіх, я назваў для сябе "гарадскою". Яна аказалася па-за сюжэтам "Явара з калінаю", і, здаецца, на яе аснове я адно збіраўся напісаць некалькі "апавяданняў пра Гаркушу", а потым і зусім махнуў рукою на гэтую вельмі ўжо неверагодную Гаркушаву гісторыю. Але здарылася так, што пасля выхаду з друку "Явара з калінаю" аб'явіліся два эпізадычныя героі гэтай кнігі, дакладней, герой і гераіня. Першая знайшла мяне жанчына — і вось тады я ўспомніў, што акурат яна ў гарадской Гаркушавай "памоўцы" — фігура далёка не другарадная, больш таго, нароўні з Гаркушам яна*

*выступае там на першы план. А калі, на маё вялікае здзіўленне, усё расказанае Гаркушам было пацверджана і гэтай жанчынаю, я зразумеў: яшчэ адна Гаркушава, ды ўжо і не толькі ягоная гісторыя заслугоўвае таго, каб з ёю пазнаёміць чытача. Так я і завяз у гэтым новым і, адразу скажу, драматычным сюжэце жыццёвай Гаркушавай эпапеі.*

*Але яшчэ некалькі ўступных слоў.*

*Леснікі дарэшты здзічэлі б у сваіх нетрах, калі б час ад часу іх не склікалі ў горад на якую-небудзь глыбакадумную нараду. Таму, калі пазваніў Гаркуша, я адразу ўявіў, з якою сумнай мінай слухаў ён нейкага ляснога тэарэтыка, які ўсур'ёз меркаваў, што можа нечаму карыснаму навучыць Гаркушу, — канечне, у перапынку ён, пераканаsuccessы практык, змыўся. Але, забягаючы ой як далёка наперад, скажу, што я памыліўся: на нараду ў Гомель Гаркушу ніхто не выклікаў, ехаў з Заліп'я ён акурат да мяне — гэта высветліцца ў самым канцы ягонай гарадской "памоўкі". А пакуль мы сышліся ў абед на непадмеценым, непрыдатным для ўрачыстай сустрэчы аўтобусным прыпынку, ды і сам Гаркуша быў у непарадным шэрым гарнітурыку і ў выцвілай, з дубовымі лісткамі на зялёным аколышку фуражцы. Вядома, я павёз Гаркушу да сябе на кватэру, каб чым Бог паслаў пачаставаць дарагога госця і гэтак хоць збольшага аддзякаваць яму за тое, што год назад цэлае лета раскашаваўся я са сваімі паперамі ў ягонай зале, а яшчэ і на кухні, за сталом у Зоі Пятроўны, быў не ў малой пашане. Сам я з жонкаю наймаў невялікі пакой у панельным доме; не сакрэт, што ў гараджан эйфарыя ад усялення ў цесныя "хрушчобы" вельмі хутка мінула; аднак Гаркуша, падымаючыся са мною на трэці паверх, разы два ўсцешна ляпнуў далоняю па сцяне, як быццам хацеў сказаць: "Гэта рэч", і па выразу ягонага твару можна было здагадацца, што ён мне зайздросціць: шчаслівы чалавек, жыве ў такім дыхтоўным гарадскім доме! Не дзіва, што ў пярэдняй ён зірнуў на мяне як на вялікага жартаўніка: маўляў, куды ты мяне прывёў, тут жа няма дзе павярнуцца!.. Мне зрабілася няёмка, як быццам яшчэ на парозе я ашукаў госця — не спраўдзіў нейкіх яго надзей. Так яно, мабыць, і было, бо калі я запрасіў яго ў свой да смешнага маленькі пакой, у адказ на мой шырокі гасцінны жэст, маўляў, вось тут я і жыву, праходзь, будзь як дома, збянтэжаны Гаркуша не змог вымавіць і слова. Ён разгублена апусціўся на канапу, і пакуль я мітусліва збіраў на стол закусь, заставаўся ў адной і той жа позе: прамое тулава, далоні на каленях, — сядзеў і ў глыбокім одуме расчаравана ківаў галавою.*

*Таму, хто вандруе ў горадзе па прыватных кватэрах, не лішне завесці пахватны раскладны стол: перавёз, раскінуў на два бакі,*

*і — асабліва калі ты пісьменнік — на одной яго палове навалам твая непрыкаяная бібліятэка, а на другой — рукапіс твайго будучага шэдэўра ці свежы часопіс. Цяпер жа за гэтай пісьмовай паловай я прымаў Гаркушу. Не буду маляваць нацюрморт, якая была на стале закусь, у семдзесят другім годзе ў нас хапала і каўбасы, і ўсякай іншай вяндліны, таму — адразу да галоўнага. Адкаркоўваю пляшку, наліваю госцю, сабе — і раптам лаўлю сябе на думцы: летась, калі я жыў у Гаркушы, мы ані разу з ім не выпілі, і я не ведаю, чаго можна ад яго чакаць, калі ён возьме чарку. Хаця чаму ж не ведаю: гарэлка растармажвае чалавека, робіць яго надакучліва шчырым і гаваркім, і калі Гаркуша падпадае пад дзеянне гэтага ўсеагульнага закону, наўрад ці вярнуся я пасля абеду ў сваю рэдакцыю. Але што зробіш, Гаркуша мой госць, і хоць я не прымаў яго "натурфіласофіі", згодна з якою сапраўдную каштоўнасць мае толькі тое, што людзі робяць "у натуры" — на полі, у лесе, а не ў нейкай там канторы ці рэдакцыі, па-чалавечы я быў шчыра яму рад, і таму, як толькі мы перакулілі па чарцы, на сваю рэдакцыю я махнуў рукою. Яшчэ, можа, і абышлося б без Гаркушавай "павоўкі", але я дапусціў тактычную памылку. Хаця якая ж тут памылка, проста я спытаў, бо не мог нават з адной ветлівасці не пацікавіцца: як там пажываюць Зоя Пятроўна і Валік?.. Вяла, без вялікай ахвоты закусваючы, Гаркуша гэтак жа неахвотна і адказаў: "Усё ў нас там добра, пісацель, усё цудоўна, лепей і быць не можа... — Але ж пачаў за здароўе, а скончыў за ўпакой: — А калі папраўдзе... ліні крыху яшчэ, а потым я табе раскажу... А калі папраўдзе, дык усё, браце ты мой, пайшло на пагібель, ох, і пайшло!.. Не-не, не палохайся, жывыя, дзякуй Богу, і здаровыя — і Зоя, і ўнук. Жонка ў мяне — на такую толькі маліцца, я і падноска яе не варты, бо і заморак побач з ёю, а галоўнае, не даў бабе сапраўднай долі. Іншыя вунь з галавы да ног размаляваныя, бо хоць бы ў лясгас рыла сунеш, а яны там у лёгенькіх басаножках шлэпаюць, толькі два раменьчыкі крыж-накрыж, дык пазногці на нагах і тыя пафарбаныя, такое чыстае, культурнае ў іх жыццё, а мая хоць і прыгажэйшая за іх у сто разоў, але ж баба, звычайная вясковая баба... Ці, можа, лесавая... Навешчавала некалі Сава — звякуеш са сваім Гаркушам у лесе. Ну, але ж змірылася, жыве, куды ўжо яна дзенецца. А цяпер яшчэ і ўцеха — унук. Харошы, разумны хлопчык. Гэтай зімою падладзіў я ў раёне тэлевізар, вось ён перадачку сваю дзіцячую ўсю ўбярэ ў сябе прагнымі вочкамі, а там жа зоркі і месячык, дык ён аднаго разу маладзік на небе ўгледзеў ды як узрадуецца: "Дзядуля, "Калыханка" пачынаецца!.." Дык і самому радасць. Таму я і кажу: усё добра — і з бабаю, і з унукам. Але ж сам ты жыў у мяне летась,*

*дык, пэўна ж, і не забыў: не было ў маёй хаце вялікага свята. Нейкі лад быў, а свята... Не было сваркі, ды не было і чаркі — не дзіва, што і мы з табою ні разу не пагудзелі за сталом як людзі. Бо якая бяседа, калі настрой паганы, хоць на сметнік выкінь: адно — прыязджаюць аднекуль такія, як ты, са сваімі дурнымі тэорыямі, а другое — ні ўдзень, ні ўночы не выходзіць з галавы не жонка ўжо, а дачка-скараспелка. Прыгажуня — вачэй не адвесці, і, здавалася б, радуйся, бацька, на сваё дзіця гледзячы, але ж як у шаснаццаць год выспее ды выбухне ў ёй д'ябальскае семя, хопішся за папругу, каб выгнаць з яе заўчасны шал, а яна з-пад чорных броваў, бы на лютага ворага, на цябе як зірне! — астынь, бацька, бо ніякай папругай ты яе не ўтаймуеш!.. Але калі ўжо ёй так прыспічыла, дык хай бы хоць паталаніла з чалавекам, а то ж падвярнуўся нейкі прыхадзень, мастак, растуды яго так, хадзіў па лесе ды нешта квэцаў — з таго часу вось ужо ці не шосты год ні ў яе жыцця людскага няма, ні ў нас з жонкаю. Летась я, можа, таму і тлуміў табе галаву сваімі байкамі пра жонку, пра колішняе наша каханне, каб хоць трохі забыцца пра дачку; роднае дзіця, не адцураешся, дык балела сэрца і цяпер баліць, і няма ні адхлання яму, ні спачыну..."*

*Такі ўсхваляваны ўступ да сваёй новай "памоўкі" зрабіў Гаркуша, і хай ён мне даруе — на гэтым уступе я мушу яго перапыніць. Бо гісторыя — не толькі Гаркушава; ён хаця і галоўны, але не адзіны яе герой і аўтар, і, напэўна, я правільна зраблю, калі спачатку дам слова жанчыне, пра якую я ўжо сказаў вышэй, так, дам слова ёй першай — прынамсі, гэта будзе паджэнтльменску.*

## 1. Першыя суніцы

Яна пастукалася ў мае падвойныя дзверы, настойліва, моцна — як быццам кінула мне свой нейкі выклік. Звычайна самы смелы наведвальнік, што ідзе да мяне ўпершыню, перад нечаканымі другімі дзвярамі хоць трохі ды збянтэжыцца і пастукаецца ўжо не так упэўнена, але яна, мабыць, і не падумала прасіцца да мяне яшчэ раз — з ходу штурхнула другія бюракратычныя дзверы... Жанчына!.. Канечне, перад жанчынаю я заўсёды ўстаю — не перавяліся яшчэ сярод нашага брата сапраўдныя рыцары. Але што гэта цяпер са мною? Я наваліўся далонямі на стол, хачу адштурхнуцца і ўстаць, але ні рукі не слухаюцца, ні ногі, хаця не, усё-такі павалі падымаюся — Божа, хто гэта перада мною?.. Няўжо мая "цвэйгаўская" жанчына?.. Не можа быць, мінула столькі часу — ля чвэрці веку, а яна і цяпер маладая і прыгожая, як некалі ў

Заліп'і!.. Галюцынацыя?.. Напэўна, так. Зусім нядаўна я перапісваў, рыхтаваў да друку незлічоныя Гаркушавы "памоўкі" і бясконцую споведзь яго жонкі, увесь час яна як жывая стаяла ў мяне перад вачамі, дык, канечне ж, і цяпер перада мною яе цудоўны прывід — да чаго можна дапісацца!..

Прывід, бо тыя самыя — шэрыя "месячныя" вочы!.. Але ж — і не зусім тыя. Я помню іхні амаль што заўсёдны летуценна-сумнаваты выраз, а ў гэтай — Зоі Пятроўны? — позірк гарэзліва-іранічны і, няйнакш, какетлівы... "Вы запросіце мяне сесці?" Усмешліва, толькі варухнуўшы адным куточкам поўных, злёгку падфарбаваных вуснаў (не фарбавала вусны Зоя Пятроўна!), яна дала мне зразумець, што мая разгубленасць яе не дзівіць, а толькі цешыць. Паклала на пристаўны столік чорную лакіраваную сумачку, трохі пасунула на сябе крэсла і развярнула яго так, каб сесці да мяне тварам — па другі бок майго большага, пісьмовага стала. Села, адным локцем прыгожа аблегла на край століка, і хоць вочы яшчэ ўсё пацвельваліся з мяне, яе позірк быў цяпер больш пранікліва, чым іранічны. "Я вас моцна нечым уразіла, — сказала яна. — Вы падумалі... Зрэшты, я забыла сказаць — я прачытала ваш раман і разумею — вам памроілася, што... Але вы памыляецеся, я не Зоя Пятроўна, проста я на яе падобная, дачка ўсётакі..."Яна як быццам супакойвае мяне, але яе голас непрыязнасухаваты, і — чула маё сэрца — вось ён, гэты яе выклік: "З вамі мы бачыліся адзін раз, толькі мелькам павіталіся, памятаеце — у Заліп'і, я прыехала і ў той жа дзень — назад, таму ў вашай кнізе болей сказана пра мой партрэт, што вісеў на сцяне ў зале. Вы параўналі яго з чэхаўскай стрэльбай. Па-вашаму, яшчэ тады, у Заліп'і, яна стрэліла: улетку вісеў партрэт, а ўвосень убачылі мяне і жывую. Але, даруйце, гэта быў не чацвёрты, а толькі першы акт, чацвёрты наступіў цяпер, вось зараз, калі я, сённяшняя, сяджу перад вамі. Затыкайце вушы, бо яна не стрэліць, тая ваша стрэльба, — бабахне!.. Я не стану для вас другой "цвэйгаўскай" жанчынай, бо не маю намеру перад вамі спавядацца, цяпер не семдзесят першы год, а дзевяноста чацвёрты, і на споведзь без ніякай рызыкі можна схадзіць у царкву, а шукала я вас і прыйшла да вас, таму што... накіпела!.. Так, гэта будзе для вас нечаканым, але я прыйшла... судзіць вас, так, так — не здзіўляйцеся, я буду судзіць вас, але не пытайце, за што, не спяшайцеся, спачатку пытанні задаваць буду я — гэта і будзе мой суд над вамі і ўсёй вашай бяздарнай хеўрай. Зрэшты, я задам толькі адно пытанне, а вы павінны адказаць на яго — не так мне, як свайму сумленню... Лічу, што мы з вамі дамовіліся. Але гэта той выпадак, калі... альбо — альбо. Альбо нікому не задаваць ніякіх пытанняў, альбо... гэта вельмі доўгая гісторыя, і пачынаецца яна там, у Заліп'і... Спа-

дзяюся, у вас ёсць попелка, перад вамі сучасная жанчына, і, даруйце, я хачу закурыць...”

“Калі ласка, калі ласка!” — я быў яшчэ здольны прамармытаць гэтыя два словы. Дрыготкай рукою намацаў у шуфлядзе попелку — трымаў яе там дзеля падобнага выпадку, хоць гэты выпадак быў ні на што не падобны; пад руку трапіўся карабок, я машынальна пабразгаў ім, але нязграбнымі пальцамі так і не змог вылавіць у ім запалку — госця паспела з пачка “Мальбара” высмыгнуць цыгарэту і пстрыкнуць запальнічкаю... Перад тым як распачаць нада мною нейкі свой суд, яна хоча сабрацца з думкамі: адна глыбокая зацяжка, другая; а тым часам патроху мінаў і мой шок — бяру сябе ў рукі, супакойваюся, хаця як сказаць: калі суддзя — такая раскошная жанчына, нават не чуючы за сабой ніякай віны, наўрад ці змагу я быць больш-менш спакойным.

На гэтым маім паверсе за пісьмовымі сталамі шчыруе шмат жанчын, і ўсе як адна прыгожыя. А яшчэ і на працу яны ідуць як на свята: што ні дзень — новая сукенка, а то і які-небудзь ансамбль, а ў модных жа туфліках, дык такой раскаванай праходачкай падасць сябе каторая ў доўгім калідоры — як на подыуме якога-небудзь салона мод!.. Бо гэтае глыбокае, як Марыянская ўпадзіна, дэкальтэ, гэты бязлітасны да нашага брата разрэз унізе — сваім кінжальным вастрыём ён б'е табе пад самае сэрца! Дэманструюцца часам і вячэрнія максі — як на прыёме ў французскім пасольстве ў гадавіну ўзяцця Бастыліі, а калі спёка, дык і лёгкія пляжныя сукенкі — з аголенымі да пояса спінамі. Але “свае” жанчыны разумеюць, што доўгае ўздзеянне іхняй прыгажосці шкоднае для душэўнай раўнавагі і ўвогуле для здароўя іх старэйшага калегі, таму зазірне каторая ў кабінет — падпішаш ёй нейкую паперу, і яна тут жа знікае. Дык хай бы пра маё здароўе цяпер паклапацілася і гэтая мая госця, ды то ж сказала: перш чым яна вынесе мне свой нейкі прысуд, мне давядзецца выслухаць яе доўгае абвінаваўчае слова.

Яна сядзела перада мной, жанчына рэдкай, але ж як быццам ужо і знаёмай мне, “заліп'янскай” прыгажосці — я ж ведаў калісь яе маці. Але тая ў свае трыццаць восем, дарма што была яшчэ маладая і прывабная, усё-такі выглядала вясковай жанчынаю, бо прыблізна пашытае на яе фігуру ці яшчэ прыблізней купленае ў вясковай краме плацце скрадвала яе прыроджаную жаноцкасць. А гэтая, гараджанка, была ў беласнежнай, з пышнымі манжэтамі, шаўковай блузцы, цёмна-сіняй, бадай што ў абцяжку і, як на яе ўзрост, рызыкоўна кароткай спадніцы, а нага ж на назе, дык, для афіцыйнай установы, мабыць, і залішне аголенае ў яе калена, добра, што ад яго хоць трохі адцягвае ўвагу гэтае грацыёзна-гнуткае, калі яна маніпулюе цыгарэтаю, запясце, гэтыя пафарбаваныя, што адлі-

ваюць перламутрам, пазногці, — не змог сабе ўявіць, каб такімі пальцамі яе маці калісьці выполвала зелле ў гадавальніку.

"Так, гэта будзе доўгая гаворка, — зноў папярэдзіла яна пасля дзвюх-трох прагных зацяжак. — Доўгая, але неабходная, інакш вы не зразумееце мяне, а я хачу, каб вы зразумелі, бо я ўжо вам сказала і яшчэ раз паўтару — накіпела!.. Дык вось слухайце, а будзеце, як за маёй маці, занатоўваць ці, можа, як цяпер заведзена, уключыце магнітафон, мяне гэта мала хвалюе. Або, як сказала б мая дачка, мяне гэта не калыша".

Я не стаў ні занатоўваць, ні ўключаць магнітафон — у мяне яго і не было. Яе расказ я занатую па свежай памяці трохі пазней, калі мне раптам стане ясна, што ён многае тлумачыць у даўняй гарадской Гаркушавай "памоўцы" і шмат у чым яе дапаўняе, а ўсё разам выстройваецца ў даволі-такі цікавы сюжэт. Прынамсі, мне так здалося. Словам, пазней я ўсё занатую, а пакуль… калі вышэй я сказаў, што першай д а́ ю слова гэтай жанчыне, дык мушу ўдакладніць: яна яго ўзяла сама, сваё слова, чытач быў гэтаму сведка. А далей — вось што яна мне расказала.

"Нарадзілася і расла я ў Заліп'і — вы гэта ведаеце, а вучылася дзе ж, як не ў Грабянцах. Ну а далей — звычайная завязка: там, у школе, яшчэ ў восьмым класе, было ў мяне і першае каханне. Хаця — не каханне, а так, штосьці прыблізнае, з майго боку. Я была ў класе самай… — Мая госця раптам змоўкла і пасля невялічкай паўзы — шчоўкнула пальцамі! Пасля яна будзе рабіць так кожны раз, калі ёй здасца: зараз у яе расказе выскачыць н е ч а к а н а е для мяне слова. Яна чытала кнігу і помніла, якою простаю моваю ў ёй расказвае мне пра сваё жыццё яе маці, і гэтай паўзай, гэтым шчаўчком яна як быццам падрыхтоўвала мяне да асабліва н я м а т ч ы н а г а слова, тым самым як бы нагадваючы мне, што яна — не колішняя яе маці, а сучасная жанчына. Вось так і першы раз — яна шчоўкнула пальцамі, і выразна пачуўся гэты яе націск. — Я была ў класе самай с е к с а п і л ь н а й дзяўчынкай. Мой бацька называў мяне скараспелкай, але цяпер я вучоная дамачка і лічу, што гэта не толькі вульгарна, але і не зусім дакладна, бо скараспелка — проста маладая ды ранняя, а я была яшчэ і прыгожая, знешне развітая, трохі па-вясковаму цельпукаватая, але ўвогуле — правінцыйная Брыджыт Бардо, пышнацелая, цупкая дзеўка. І ўсе хлопцы ў класе пажадліва пазіралі на мяне, праўда, зводдаль, бо наблізіцца баяліся. Але аднаму я памагла сама, дый то не "свайму" — ён вучыўся ўжо ў дзесятым класе. У мяне быў да яго (шчаўчок пальцамі!) прагматычны інтарэс: ён з пятага класа карпеў у фотагуртку, быў у школе прызнаным фотамайстрам — цяпер вы

разумееце, хто аўтар таго партрэта, што вісеў у нас на сцяне ў зале. А як я памагла яму? Ён захацеў сфатаграфаваць мяне на фоне лесу, а значыць, яму трэба было правесці мяне са школы за шашу, — канечне ж, я згадзілася, каго ж яшчэ з дзевак ён і фатаграфаваў бы, як не мяне, гэты гонар я ўжо ў сабе насіла. І ён з вялікім натхненнем здымаў мяне — зблізку і зводдаль, шчоўкаў, пакуль не скончылася плёнка… Потым, з фотаапаратам, ён правёў мяне і яшчэ раз, а тады ўжо і без апарата, бо ён быў школьны і яго трэба было вярнуць фізіку, што вёў фотагурток. Але як толькі мой Рамэо перастаў мяне здымаць, я адчула, што зусім да яго абыякавая, мне зрабілася сумна з ім і нецікава.

Я спачувала хлопцу, бо нічога ў будучым яму са мною не свяціла, але "па інерцыі" дазваляла яму праводзіць сябе са школы — за шашу, да лесу, ну, можа, трохі яшчэ і ў лес… Вы памятаеце той сыпкі пясок за шашою, ён не раз у вас апісаны; вы і самі брылі па ім, як ішлі першы раз ў Заліп'е, і мой бацька перабягаў яго разам са сваёй "шаршэ ля фам", каб справадзіць яе на аўтобус. Там высокае месца, і з яго вельмі далёка відаць, а была ж ранняя вясна, і ўнізе, дзе вывіваецца Ліпа, ва ўпадзінках цвіла жоўтая лотаць; яе рэдкія залацінкі былі рассыпаны і па ўсёй пойме, здавалася — іх жаўтаваты водсвет падае на тыя асобныя бярозкі, што ясней і аж неяк цяплей вылучаюцца на фоне густога сасонніку, а ён быў пахмурны, маўклівы і сцяною падступаў з другога боку да чыстай поймы… Нядаўна, такою ж ранняй вясной, неяк на прыродзе згадала тую даўнюю сваю пару, агледзелася і раптам адкрыла для сябе, што адразу пасля снегу і першая траўка, і клейкія лісточкі на дрэвах болей жоўценькія, чым зялёныя, таму так светла і паслаўся колісь унізе луг паўз Ліпу, аднак жа праўда — цвіла па ім і тая незабыўная, дзявочая мая лотаць!.. І бачу неба над Ліпаю — яго роўную сінявата-шэрую смугу, з яе ўзнікаюць, у ёй зараджаюцца кучавыя воблакі, бо спадыспаду яны быццам падасланыя гэтай сіняватай смугою; вышэй хмаркі падварушвае вецер, робіць іх патроху бухматымі і святлейшымі, а зверху яны і зусім ужо кучаравыя, бялюткія... Прыпарвае, і такая ў паветры млоснасць, што і самой робіцца ўтомна, ні пра што не хочацца думаць — ні пра ўрокі, ні пра блізкія экзамены (тады іх здавалі ў восьмым класе), а чаго мне смутна і неадольна хацелася, я і сама не ведала. Не надта ветліва казала свайму кавалеру: "Ну, усё, правёў, і досыць, далей я пайду адна".

З твару ён быў нават сімпатычны, мой Рамэо (у школе яго звалі Буслікам, бо ў яго была даўгаватая шыя), але ж ува мне ўжо тамілася жанчына, а ён яшчэ не асмельваўся дакрануцца да мяне рукою, дый не хацела я, каб ён да мяне дакранаўся. Не ведаю, чаму

так не прымала яго мая душа, а ў той дзень і ў тую хвіліну гэты не мой хлопец, што ўвекавечваў мяне на сваіх здымках, для мяне, абыякавай і няўдзячнай, наогул перастаў існаваць.

Гэта была хвіліна, калі я ўбачыла Яго. Будзеце занатоўваць мой расказ — "Яго" напішыце з вялікай літары.

Ужо як нешта пабочнае: на адзін кароткі міг нейкім інакшым здаўся мне мой Рамэо, бо часцей за ўсё з ягоных вачэй адно выглядвала нясмелая, цярплівая нязгода, што я яму не раўня, а тут на вуснах у яго з'явілася штосьці падобнае на ўсмешку — з ледзь прыкметнай кіслінкаю: маўляў, ганарыся сваёй прыгажосцю, а я таксама цану сабе ведаю. Пасля не раз ён прадэманструе мне гэтую сваю кіслінку на вуснах, але так будзе потым, а пакуль... я ўжо сказала: гэта была хвіліна, калі я ўбачыла Яго.

З шашы на нашу дарогу павярнуў нейкі мужчына — высокі, плячысты; я сказала свайму Рамэо: "Ну, усё, вяртайся дадому", але не паспела сама павярнуцца і пайсці, як проста перада мною ўзнік Ён. Не ведаю, што гэта было, мажа, нешта містычнае — так уразіў мяне ягоны твар; хаця, здаецца, пры чым тут нейкая містыка, я ж вучылася ў школе і была камсамолкай, бязбожніцай. Але ж гэта праўда: Ён прайшоў паўз мяне, і ў вочы мне кінулася, што Ён падобны... так, так, мне здалося, што Ён падобны... на Бога, толькі не на таго, якога мы прыблізна сабе ўяўляем, а на т а г о Бога, якога я ўжо бачыла раней. Так, бачыла. Ну, можа, не Бога, а нейкага апостала ці святога. Зараз я растлумачу. Вы памятаеце: калісь мая маці ўцякла са станцыі ад Лёшкі Гамона, а куды прыбегла — у Калінава, да сваёй цёткі, хавалася ў яе ў каморы, дык мне матчына цётка даводзілася бабаю, і, бывала, мы з маці і наведваліся да яе — я была яшчэ зусім малая. А баба, стараватая ўжо, хадзіла ў калгасны свіран, туды з поля прывозілі збожжа, дасушвалі і перавейвалі; памятаю такую машыну — веялку, у ёй ходырам хадзілі вялікія рэшаты, а свіран той быў у царкве — пасля рэвалюцыі яе зачынілі, і вось аднаго разу прыйшлі мы да бабы, а нам кажуць, яна ля той веялкі, дык і мы туды ж. Прыйшлі, а рэшаты ж тыя грукочуць, не пагаворыш з бабаю, дык пакуль яны спыніліся, я ўсё ў царкве і разглядзела. Хоць разглядаць там ужо не было чаго. Царква мураваная, і тынк у ёй, некалі пафарбаваны і распісаны, шмат дзе паападаў, а калі не, дык фарба паабшарпаная, а на сценах і пад купалам колішні роспіс усё роўна як падзяўбаны нечым вострым. Потым баба сказала, што так яно і было: святыя малюнкі абдзіралі і дзяўбалі бусаком пажарнікі — прыязджалі ажно з раёна. Але засталіся святыя і анёлы, якіх і бусаком нельга было дастаць, тады прыехала міліцыя і пачала страляць з пісталетаў, дык і ўсё цяпер падзяўбана кулямі — не пазнаць, што было на тых малюнках. Але

ж ці не цуд: адзін святы, пад самым купалам, колькі ў яго ні страляла міліцыя, застаўся ўцалелы. Дык ён і запаў мне ў памяць. Там, высока пад купалам, збоку было акенца, і святога я добра разгледзела, бо на яго акурат падала з таго акенца святло; у яго быў высокі, з пукатымі залысінамі лоб, і помню нават, якія пранізліва сінія былі ў святога вочы. Быў ён маладжавы, але з кароткай барадкаю, а яшчэ і з бакоў твар ягоны аброс такім жа, як і барадка, кучаравым светлым воласам, можа, трохі рудаватым, попельным. Дык вось і цяпер, калі Ён — разумееце, Ён! — з вялікім і нібыта квадратным рукзаком за плячамі прайшоў міма і, як гэта бывае пры выпадковай сустрэчы, мы зірнулі мелькам адно аднаму ў вочы, мне здалося, што я другі раз убачыла таго калінаўскага святога, — такія былі яны між сабою падобныя!.. І я маўклівым ценем пасунулася ўслед за Ім, бо Ён жа ішоў з аўтобуса ў Заліп'е, але нават калі б і не ў Заліп'е, усё роўна я пабрыла б за Ім, як на повадзе, і на край свету.

Наездамі Ён бываў у Заліп'і яшчэ летась і пазалетась, і зводдаль я не раз бачыла Яго, а яшчэ больш пра Яго чула. Найперш ад бацькі, што лагодна пасмейваўся з прыблуднага мастака: не малюе, бач, ■ піша. У "Явары з калінаю" вы сказалі пра бацьку — прыроджаны эстэт, дык і я магу пацвердзіць гэта. "Художнік ад слова "худа", — пацяшаўся бацька. Дзіва што, падыходзіць ён аднаго разу да "художніка", а што ж Ён малюе: дрэвы занадта разгалістыя — не пазнае бацька на карціне свайго лесу! Дык ён і пытае: "Чаму ж у цябе нават елка і тая нейкая круглая, ну хай вярба, дуб, а каб і елка!.." А "художнік" і адказвае: таму што ўсё круглае — добрае, такім Ён бачыць і бацькаў лес — добрым… "О-хо-хо", — хітаў галавою бацька… А потым была пацеха, як аднаго разу Ён нахабна ўлез у тую патаемную хатку, куды (шчаўчок пальцамі!) на уік-энд прыязджаў першы гаспадар раёна. Канечне, гэта было ўжо з Яго боку святатацтва, і казалі, ніколі не быў такім грозным ляснічы Айчанаш — даў валацугу дваццаць чатыры гадзіны, каб вымеўся з лесу, але тут жа і адмяніў загад — не захацеў усчынаць скандалу, бо пагалоска пра нелегальную хатку, пераскокваючы з языка на язык, магла трапіць і ў непажаданае вуха. Словам, з хаткі Яго выкурылі, але жыць у Заліп'і было дзе — пуставала Савіна хата.

Хто такая Сава, я ведала з невясёлых матчыных расказаў: яна памерла, калі мяне яшчэ не было на свеце. Ахвотнікаў пасяліцца ў хаце нябожчыцы не знайшлося, аднак лясніцтва яе глядзела: то пацячэ дах, дык гонту ў тым месцы памяняюць, то падновяць збуцвелы ганак, бо хату займалі-такі іншы раз людзі — тыя, што ўзімку прыязджалі здалёку па лес, а ўлетку і практыканты з ляснога інстытута. Дык цяпер і Ён жыў у Савінай хаце — калі прыязджаў маляваць. А што Ён там маляваў, я, канечне, не ведала,толькі чула ад

Светкі, маёй аднакласніцы, нібыта Ён памеўся намаляваць яе партрэт. Ды сказаў, каб яна прыйшла да Яго ў хату, а яна не пайшла, бо маці забараніла нават і думаць пра гэта: сходзіш у Савіну хату — не вяртайся ў сваю.

Светцы добра: яе хата побач з Савіной, пад лесам, а я жыву на гэтым канцы, ля канторы; схадзіла б дамоў да Светкі, але апошнім часам яна зрабілася нейкая не тая. Не падпускае да сябе, а чаму, не магу даўмецца. І вось думаю, якая яе муха ўкусіла, як да яе падступіцца, і раптам — а божачкі! — дайшло да мяне нарэшце, чаму яна так пагардліва мяне цуралася, пазірала на мяне са з'едлівай усмешачкай, — яна раўнавала!.. Бо сама яна была непрыгожанькая, і хлопцы на яе — нуль увагі, а мяне мой Рамэо праводзіў аж да лесу. Але ж каторы дзень ён ужо не праводзіў мяне, дык і дарма ўжо я ламала галаву, як вярнуць сяброўку: яна і сама ўбачыла, што са школы я іду адна, — дагнала ўзрадаваная, шчабеча, аж захліпаецца ад шчасця, так і аднавілася наша дружба. Цяпер мне трэба было толькі прыдумаць прычыну, каб прыйсці да Светкі дамоў, дык я і адзін дзень думаю пра гэта, і другі, а на трэці іду я са Светкаю са школы і раптам краем вока заўважаю — ёй вельмі хочацца мне нешта сказаць. Бо паветра во так похапкам удыхне і вось яна ўжо нешта скажа, ды не, зноў не адважыцца — толькі плямкне вуснамі. Але нарэшце-такі набралася смеласці дый кажа: “Ой, Насця!..”

Мая госця раптам змоўкла, і я адчуў на сабе яе настойлівы позірк, яна чакала, каб я глянуў ёй у вочы, хацела, мабыць, упэўніцца, ці даходзіць да мяне тое, пра што яна гаворыць. Нашы позіркі сустрэліся — я ўвесь увага! — і яна, удзячна кіўнуўшы галавою, працягвала: “Так, маё імя Насця. Вам гэта што-небудзь нагадвае?.. Насцяй звалі дваюрадную матчыну сястру, значыць, маю цётку, яна пайшла ў Карпаты з Каўпаком і не вярнулася — памятаеце?.. Маёй маці хацелася, каб і ў мяне было такое ж імя, каб жыла памяць пра тую, даваенную Насцю. Дык вось яна і жыве. Праўда, па пашпарце я не Настасся, а Анастасія. Над маёй калыскай адбыўся, як потым мне сказалі, сямейны (шчаўчок пальцамі!) анамастычны дыспут: бацька даводзіў, што Настасся — надта па-вясковаму, але маці стаяла на сваім — толькі Насця. Урэшце яны прыйшлі да… як гэта цяпер называецца?.. прыйшлі (шчаўчок пальцамі!) да кансенсусу: Анастасія — імя як быццам і сучаснае, гарадское, але яно дазваляе зваць дзяўчынку і Насцяй. Бацька, аднак, і пасля яшчэ настойваў, што лепей было б зваць мяне Стасяй, але ўсё-ткі прыжылося Насця. А ў выніку сёння перад вамі Анастасія Іванаўна; як сказала б мая сучасная дачка, не фантан, канечне; магла б я быць і

якой-небудзь Элеанорай ці Гартэнзіяй, але трэба мірыцца з тым, што ёсць. Маё дзявочае прозвішча Гаркуша, гэта вы ведаеце, а па мужу… таксама вельмі вядомае вам прозвішча, але яго я пакуль што называць не буду — усё ў свой час…”

Мне, падсуднаму, віна якога яшчэ не была даказана, захацелася падаць нясмелы голас, і я ўсё роўна як падтакнуў ёй радкамі верша, што ўсплыў на памяць: “Пришла, как лето, дочь Анастасия, вся в мать — и сероглаза, и добра”. Наўмысна трохі перайначыў верш, бо ў ім было: “голубоглаза и добра”. На маё здзіўленне, ёй таксама радкі здаліся недакладнымі. “И сероглаза, и добра”? — У яе голасе пачулася легкае сумненне. — Наўрад. — Трохі падумала і дадала цвёрда, упэўнена: — Я злая. Можа, і была калісьці добрай, а цяпер злая, інакш я і не прыйшла б да вас. А наконт “сероглаза”… Так, вочы ў мяне як быццам і матчыны, шэрыя, але калі я не на жарт раззлуюся, кажуць, тады яны ў мяне зялёныя… Але на чым я спынілася?.. Савіна хата, Светка… Так, са Светкаю мы ідзём са школы…

…Дык Светка мне і кажа: “Ой, Насця, зноў у Савіной хаце жыве мастак, той, каторы з Гомеля прыязджае”. А я, каб не выдаць сябе, абыякава пытаю: “Ну і што?” А Светка: “Як што? Ты быццам з неба звалілася! Ён жа людзей умее маляваць!.. Насця, прыходзь да мяне! Сёння! Не, лепей заўтра. Маці мне забараняе, але заўтра яна паедзе ў раён, дый не адна я, а з табою, дык яна і сварыцца не будзе, нават калі б і даведалася. Прыходзь, Ён толькі з лесу — а мы да Яго: намалюй нас, дзядзечка! Ой, Насця, мне так хочацца, каб Ён мяне намаляваў! А ты не хацела б? Гэта ж не тое, што твой Буслік цябе на картачку здыме, а зусім іншае, знаеш, як вунь тая паненка, хто яе маляваў — Рэпін?.. На вазку сядзіць і ўся такая з сябе ганарлівая, далей ужо і няма куды. Прыходзь, Насця!..”

Божа мой, яна мяне ўгаворвала! Я толькі пра тое і думала, як апынуцца ля Савіной хаты. А потым… Ён будзе маляваць!.. Каго? Што? Вось гэтае тваё рыжоцце? Валасы рудзенькія, тварык бледны, а вочкі маленькія, як зярняткі… Няма Яму каго маляваць, апроч цябе, такой прыгажуні! Хай бы толькі пільней на мяне зірнуў, а там… Мяне Ён будзе маляваць, сяброўка мая дарагая, а не цябе!..

Ля сваёй брамкі я паабяцала Светцы, што заўтра прыйду да яе абавязкова.

Але ж у Светкі толькі маці, а ў мяне яшчэ і бацька. Дык ішла і баялася, бо апошнім часам ён надта прыдзірліва пазіраў на мяне, а яшчэ я аднаго разу і пачула, як ён сказаў маці: “Нешта ў нашай дачкі туман уваччу, ты не заўважыла? Глядзі, каб чаго не ўчвары-

ла". Дык вось я і надумалася "ўчварыць". Бо чаго ж я ляцела, як на крылах, да Светкі? Прыбегла, а яна, дурнічка, аж закружылася па хаце: нарэшце Ён яе намалюе, як Рэпін сваю паненку на вазку. Што гэта не Рэпін быў, тады я і сама яшчэ не ведала... "Пайшлі, — кажа Светка. Яна і так бледная, а цяпер пабялела яшчэ больш. — Пайшлі", — кажа яна зноў, а сама ні з месца. Глядзіць на мяне, а ў яе ад страху аж вочкі пабольшалі.

І вось крадзёмся мы, як зладзейкі, уздоўж плота вуліцаю — каб хуценька з двара ды ў двор; Светка ці то ад страху, ці то ад баязлівай радасці папісквае, як мышанё, але і ў мяне самой душа ў пятах. Бо нядобрая была ў Савіной хаты слава. Гэта быў ужо той час, калі ўсё, як казаў мой бацька, пайшло на пагібель, дык і хлопцы, што прыязджалі на практыку, прыводзілі ў Савіну хату распусных дзевак, бо латва ж ім было іх з Грабянцоў весці: лесам пасёлак абагнуў, і вось яна, хата, — упёрлася вокнамі ў самы лес, дарогу пераступіў, і ты ў двары, толькі суседка, Светчына маці, і ўбачыць. Дык яна і настрашыла Светку гэткай хатаю, таму Светка так цяпер і калоціцца: і хочацца і колецца, а мне яшчэ страшней, бо адно, што баюся хаты, а другое — нават ужо не бацькі, а нечага іншага страшуся, а чаго, сама не ведаю, няйначай самой сябе. Але ж крадуся і не помню ўжо, як мы апынуліся ў Савіным двары, а потым і ў цёмных, пакуль не абвыкліся вочы, сенцах.

А далей ужо ўсё добра помню. Дзверы ў хату былі прыадчыненыя, і я ўбачыла Яго. І збянтэжылася. Бо Ён сядзеў збоку стала, аблягаючы на яго адным локцем, у другой руцэ ў Яго вялікі складаны нож, на ягоным кончыку — наколаты маленькі шматок сала, і гэтым нажом, з салам на кончыку, Ён вадзіў перад сабою ў паветры, як быццам нешта маляваў пэндзлем. І павольна жаваў — такім я ўбачыла ў Савіной хаце свайго Бога, і такая яна была ежа багоў, — хлеб ды сала, ну гэта я цяпер ужо так (шчаўчок пальцамі!) іранізую. "Пусціце нас у хату, дзядзечка! — прапішчала ў мяне пад вухам Светка. Ён перастаў жаваць, насцярожана прыслухаўся. А Светка зноў сваім мышыным галаскам: — Дазвольце нам зайсці да вас, дзядзечка, мы хочам, каб вы нас намалявалі!.."

Ён, дажоўваючы, паволі ўстаў з табурэткі, а мы нясмела, але ж і нахабна, бо без дазволу, пераступілі парог. З хвіліну Ён моўчкі глядзеў на нас, але спачатку недаўменна, маўляў, што за нязваныя госці, а потым я заўважыла, як Ён здзівіўся, калі другі ці трэці раз перавёў позірк са Светкі на мяне, і болей Светка Яго ўжо не цікавіла, бо мы глядзелі адно аднаму ў вочы — Ён здзіўлена, а я спалохана. А потым... На той час я ўжо бачыла ў кіно, як рабілі гэта калісьці іспанскія рыцары ці кавалеры, — так раптам і Ён, галантна пакланіўшыся, запаволеным махам рукі, у якой мы павінны былі

ўявіць шыракаполы капялюш, нібыта падмёў ім перад намі даўно не меценую і не мытую падлогу — яе ўжо дзеркачом трэба было шараваць, — і прамовіў, як акцёр на сцэне: "Дзве прыўкрасныя дамы ашчасліві мяне сваім візітам, і з гэтай хвіліны маё сэрца належыць вам, а разам і мой геніяльны пэндзаль — да вашых паслуг, хаця тым самым я і асуджаю сябе на такія творчыя пакуты, якіх не ведалі ні Рубенс, ні Ван-Гог, бо наўрад ці ўдасца мне перанесці на палатно хоць малую часцінку вашай незямной прыгажосці".

Бедная Светка і бедны пэндзаль! Гэта яе хараству ён не мог даць рады!..

І раптам… Удвая бедная "прыўкрасная дама", бо раптам мы пачулі, як ляснула, адчынілася наводмаш брамка, і хто ж, як не Светчына маці, зайшлася ў двары немым крыкам: "Лярва! Шалава! Маці з хаты, а ты ўслед?! Так ты мяне паслухалася! Сама байстру́чка, дык я і твайго байструка няньчыць буду? Не дачакаешся, паскуда, лепей я сама цябе, як жабу зялёную, раздзяру, а на сяннік ён цябе, юрлівую, не кіне!.. Выходзь, сучка, па-добраму, бо заб'ю!"

"Прыўкрасная дама" кумельгам вылецела з хаты. Мабыць, не без добрай вяроўчыны нахапілася маці, бо мы пачулі, як дарма просіць Светка літасці: "Мамачка, не бі мяне, ой, не бі! — Але яна хуценька здагадалася, як улагодзіць маці: — Не бі мяне, мамачка, я не адна, мы з Гаркушавай Насцяй!.."

Стала ціха. Не, Светка, здаецца, шморгае носам, а маці змоўкла. Насцярожана, але ўжо і ўсцешна спытала: "Гаркушава таксама тут? — Зноў памаўчала і раптам, о Божа, як жа па-езуіцку яна пашкадавала майго бацьку: — Няшчасны Гаркуша. Некалі распусная жонка скруцілася з прайдзісветам, а цяпер і во гэтая краля. — І зноў да Светкі: — Ты праўду кажаш, яна таксама тут?" — "Тут, тут, — хныкала Светка. — Во перахрышчуся!" — "Добра. — Ведзьма не таіла ўжо сваёй радасці. — От скажу Гаркушу, пайду гукну — каб ведаў, дзе шукаць гуляшчую".

Усё гэта я чула ўжо з… гарышча. Як толькі здрадніца Светка выдала мяне, я ўмомант узляцела па лесвіцы, хоць да тае хвіліны і не ўяўляла сабе, што яна ёсць у сенцах, — ішла да Яго — не разгледзела ў прыцемку, не да таго было. Прысела на кукішках за комінам і дрыжэла ад страху, аж пакуль і не бразнула брамка — нарэшце маці пагнала Светку дадому. А што адбылося пасля гэтага са мною, я нават цяпер не магу сабе растлумачыць: злезла з гарышча, і мой страх як рукой зняло, я п е р а б а я л а с я і ўжо нават не думала пра тое, што Светчына маці, можа, і праўда пабегла да бацькі. І я не кінулася гародамі дадому, каб апярэдзіць яе ды, можа, як-небудзь і апраўдацца, маўляў, я не была ў Яго, бо я ж, глядзіце,

дома. Я нічога ўжо не баялася, але чамусьці яшчэ на дыбачках усё роўна як падкралася да дзвярэй і ўвайшла да Яго ў хату.

Ён стаяў на тым жа месцы, каля парога, і, здаецца, не адразу мяне перад сабою ўбачыў, ды ўрэшце схамянуўся, і нашы позіркі сустрэліся зноў — як быццам мы і не пераставалі глядзець адно аднаму ў вочы. Не помню, ці Ён першы мяне абняў, ці спачатку я паклала рукі яму на плечы, але мы абняліся, і Ён сказаў: "Ты нават не ўяўляеш сабе, якая ты прыгожая, я і праўда цябе намалюю, чаму не спаткаліся мы раней?" А я адказала: "Ты мне таксама вельмі спадабаўся, і я буду любіць цябе ўсё жыццё". А Ён сказаў: "Не трэба так, бо гэта кіно. Проста мы будзем сябраваць. А пакуль бяжы дадому, а то і праўда пападзе ад бацькі". Мне не хацелася дамоў, і тады Ён сказаў: "Прыходзь такой парою заўтра. Адна. Лесам. Перабяжыш хуценька дарогу і — у двор. Я буду цябе чакаць. Ідзі." Ён далікатна, але настойліва павярнуў мяне тварам да дзвярэй, але я ўпарцілася, не ішла, і тады Ён лёгенька падштурхнуў мяне ў плечы. Я неахвотна выйшла ў сенцы, там яшчэ трохі пастаяла, але як толькі я ўзялася за клямку, каб выйсці ў двор, Ён ціхенька мяне аклікнуў: "Старушка, пачакай!" Спачатку я ажно пашукала ў прыцемку вачамі — дзе яна, тая "старушка", а потым даўмелася: гэта Ён мяне так аклікнуў. Я не пакрыўдзілася, бо ў шаснаццаць год цікава, калі цябе назавуць старушкаю. Пазней Ён мне раскажа, адкуль гэта ў яго ўзялося — "старушка". У Мінску ў Яго быў лепшы сябра, вядомы пісьменнік, дык яшчэ як былі студэнтамі, той іншы раз казаў: "Старычок, а ці не наведацца нам у інтэрнат да сваіх старушак?" Таму Ён мяне так і аклікнуў: "Старушка, пачакай!" Аклікнуў і выйшаў за мною ў сенцы. Я хацела яшчэ раз пакласці яму рукі на плечы, але Ён злавіў мае далоні і сказаў: "Мяне завуць... ты помніш, быў такі князь — Уладзімір Манамах? Дык вось, імя ў мяне тое самае, а прозвішча падобнае — Мох. Ну, не зусім прозвішча, бо напраўду я Мохараў, але і ў школе, і далей у мяне была адна і тая ж мянушка — Мох, і гэта мне больш падыходзіць, таму заві мяне Мохам і ты. Ну вось мы і пазнаёміліся. А цяпер... Слухай, старушка, як бы мне цябе так папрасіць, каб ты правільна зразумела... Словам, будзеш заўтра ісці да мяне, захапі, калі ласка, чаго-небудзь такога (Ён пстрыкнуў сябе пальцамі па шыі) — улавіла?" Я глядзела на Яго, на Моха, і нічога не цяміла. І тады Ён растлумачыў: "Вы "Рэвізора" праходзілі? Помніш, там Хлестакоў гаворыць: "Со мной странный случай, в дороге совершенно издержался". Ну дык вось і я — "издержался", разумееш? А нам жа трэба замачыць наша знаёмства, хіба не так? Пастарайся, старушка, прынясі, у бацькі ёсць, хай падзеліцца. Ну, ідзі, а заўтра я цябе такой парою буду чакаць. Можна было б і раней, але ж у цябе школа".

Не ведаю, як паглядзіць на гэта чытач, але далей з вялікай літары я буду пісаць толькі імя героя-любоўніка — Мох. Я разумею, гераіня абагаўляе свайго абранніка, але ж адно ў Бібліі, дзе і праўда гаворка пра Бога, “Ён”, “Яго” і іншыя асабовыя займеннікі пішуцца з вялікай літары; у нашым жа выпадку трэба ўрэшце прызнаць: Мох усё-такі “ён”, а не “Ён”. Што ж датычыць самога прыблуднага мастака, дык, як сказаў бы ў “Явары з калінаю” стары Мікалайка, маё дзела — старана; хоць ён і не вельмі мне спадабаўся, гэты Мох, не буду нікому навязваць сваёй думкі, бо, як зазначана было ў самым пачатку, я не аўтар, я толькі з а п і с в а ю . Так запісаў я і ўсё, што было сказана маёй госцяю далей.

“Сваёй просьбаю ён не надта мяне здзівіў, бо я не раз чула, як кажуць людзі: што ён за мужчына, калі не п’е гарэлкі. У лесе спакон веку гналі самагонку, выпіваў зрэдку і бацька. Прыязджала з лясгаса начальства — вёў у хату, частаваў, браў чарку і сам. А тады і яго частавалі: дзіўна было б, каб начаваў ён недзе на стражы, а ляснік не паставіў бы за вячэраю пляшку. Вялікае сённяшняе п’янства тады, мабыць, толькі набірала яшчэ сілу, пілі больш-менш у меру — як вучыў Джавахарлал Нэру, так тады казалі. У Грабянцах быў адзін сапраўдны алкаголік, Мікіта Сымончык, бяззубы, бо адбываў тэрмін на Поўначы — зубы ягоныя павыпадалі ад цынгі. Хадзіў Мікіта з устаўной пластмасавай сківіцай, дык бывала, нап’ецца і згубіць яе — то ля крамы, то проста на вуліцы, а нехта знойдзе, і тады ўсе смяюцца — нібыта свае зубы адзін аднаму паказваюць, маўляў, у нас яны во якія — свае, не ўстаўныя, і мы ніколі іх не згубім. І, напэўна, так часта, як цяпер, не гублялі — ні зубоў, ні розуму. Таму, калі Мох сказаў мне — прынясі, а я ўрэшце скеміла, чаго яму трэба прынесці, мяне трохі збянтэжыла толькі тое, што хвіліну назад ён глядзеў мне замілавана ў вочы, казаў, што я прыгожая, і раптам гэтае — прынясі! А так... я была на ўсё гатовая, грошы ў бацькі з маткаю з усіх шуфлядак павыграбала б і ўсе да капейкі яму аднесла б...

Але адно быць гатоваю, а другое — непрыкметна вынесці пляшку з хаты, ды каб ніхто не заўважыў прапажы і потым. З такою думкаю я і заснула, і прачнулася, і пайшла назаўтра ў школу. Нядобры, недаччын быў мой намер: зладзейка ў сваёй хаце! Але ж і салодка замірала сэрца: хто з маіх сяброўак можа пахваліцца, што ў яе ёсць такое, як у мяне: і сам Мох, і тое, што ён заве мяне старушкаю? Настаўніца, дзеўка-векавуха, расказвала, як нейкая Ліза пакахала нейкага Лаўрэцкага, а я слухала і ўспаміннала, як абняў мяне ўчора ён, Мох, і як сама я абхапіла яго за шыю. А потым

ішла дадому і несла ў сабе тую ж трывогу: як выкрасці пляшку і незаўважна прабрацца з ёю ў Савіну хату?

Самагонка стаяла ў нас на ніжняй паліцы ў судніку — пляшак дзесяць. Нават калі б бацька і адбіваўся, усё роўна ляснік ці проста самагоншчык пляшку першаку сілаю ўтопча яму ў сумку, дык, мабыць, і былі яны ў бацькі не лічаныя, дармовыя пляшкі. І я не баялася ўзяць адну — тут, дома, я нічым не рызыкавала. Рызыка пачыналася далей. Як пранесці пасёлкам — у чым я панясу пляшку? Абгарнуць газетаю — любому на вуліцы кінецца ў вочы. З якім-небудзь мяшэчкам можна было б пайсці ў той бок, дзе Грабянцы, — падумалі б, у краму. А калі ў Савіну хату… Можна — пляшку ў партфель, і шыбуе дзеўка ў той канец, дзе жыве Светка, а што ў партфелі — вядома ж, кнігі. Але, дапусцім, дайшла я сваёй вуліцаю да лесу, паварочваю, далей хаты вокнамі на лес, ну пайшла я паўз іх, а як незаўважна шмыгануць не ў Светчыну, а ў Савіну хату? Калі хто ўбачыць, дык якая розніца, з партфелем я ці без яго?.. Мох сказаў: пойдзеш лесам, а потым дарогу перабяжыш, і — у двор. Але крадуся я з партфелем па лесе, а нехта стрэне, ды нават бацька, і спытае: ці не ў грыбы ты, дзеўка, з партфелем выбралася? А самая вялікая небяспека ўсё тая ж — як перад Савіной хатай перабегчы дарогу? Светчына маці быццам толькі і зіркае ўвесь час з акна — абавязкова ўбачыць… Што ж рабіць?..

Усе пазногці паабкусвала, але ўрэшце прыдумала. Так, пайду з партфелем і як быццам да Светкі, але не вуліцаю, а сцежкаю паўз стадолу. Тую сцежку, што вядзе гародамі на край пасёлка, вы павінны памятаць: па ёй мая маці ўцякала некалі са свайго вяселля, але дзед Мікалайка злавіў яе за касу і вярнуў бацьку. І вось тая сцежка павінна была паслужыць і мне, але так, каб ніхто не тое што не злавіў, а нават і не ўбачыў. Хаця — на самой сцежцы не страх і сустрэць некага, па ёй з партфелем я магла ісці да Светкі, а далей… Збягу ў лагчынку да канавы, а яе мне сам Бог паслаў, хаця, напэўна, не Бог, а д'ябал, бо ён жа, а не хто іншы, ужо валодаў мною, гнаў, падштурхоўваў мяне на грэх… Вы памятаеце тую канаву. Яна пачынаецца ў рэдкім лесе, напроці Светчынай і Савіной хаты, цяпер вялікая круглая балаціна заплыла мохам ды багуном, а некалі там зыбалася ці не сама багна, дык ад яе яшчэ пры панах і пракапалі канаву. Яна перасекла вуліцу, памятаеце той драўляны масток над ёй, а далей яна — і канава і ўжо як быццам мяжа паміж Светчыным і Савіным агародамі. Вады ў ёй па костачкі, і бяжыць яна па белым пясочку, а галоўнае — паўз самую канаву з двух бакоў радкі маладога алешнічку. Высокім яму не даюць вырасці, ссякуць, а ён зноў адскочыць, дык ён густы і лапушысты, а гэта акурат мне і трэба — каб за алешынамі ніхто не ўбачыў. Скіну ля канавы туфлі і босая крадком падыбаю, як бусліха, па меленькай

вадзе. Нават калі б мяне і тут хто ўгледзеў, дык, ідучы да Светкі, захацела памыць ногі або — проста на мяне найшла такая дурасць, цікава канаваю, дый годзе. Апошняе, што мне спрыяла: Светчына хата да канавы была звернута замшэлай глухой сцяною, і ні сама Светка, ні яе паганая маці не маглі ўгледзець, як я — басанож, у адной руцэ партфель, у другой туфлі — прабегла ўпоперак гародам, дый не гародам, а па траве, бо гарод даўно запусцілі, адно выкошвалі, і толькі лыткі мае апошні раз бліснулі на ганку. Дзверы ў сенцы былі прыадчыненыя, плячом я прычыніла іх знутры, прытулілася і хвілінку пастаяла. Сэрца маё моцна білася: ён чакаў мяне, бо і дзверы ў хату былі трохі адчыненыя. Задыханая, не помнячы сябе ад шчасця, я ўбегла ў хату, паставіла на падлогу партфель, туфлі, яшчэ міг — і я зноў, як і ўчора, апынулася ў Мохавых абдымках!..

Улюбёнымі вачамі ён глядзеў на мяне і дзівіўся: "Якая ж ты смелая і прыгожая!" А потым... ён стаў апантана мяне цалаваць, яго кучаравая бародка і такія ж, трохі завітыя кольцамі вусы прыемна казыталі мой твар, шыю, і мне гэта вельмі спадабалася, я жадала гэтага, мяне разбіраў імпэт — яшчэ, яшчэ!.. Але што гэта з ім?.. Ён неяк раптоўна астыў, трохі адхінуўся ад мяне і, нецярпліва зазірнуўшы мне ў вочы, спытаў: "Прынесла?" Я ўсміхнулася ў адказ, і тады ён падхапіў мяне пад пахі і закружыў па хаце. Ды не доўга кружыў. Спыніўся, асцярожна паставіў мяне на ногі, пазмоўніцку падміргнуў і ступіў да нараў.

Так, у Савіной хаце, ад печы да лабавой сцяны, былі пасланыя дашчаныя нары. Але ж не на голых дошках спалі прыезджыя дрывасекі ды студэнты, а на цвілых сенніках, — нават цяпер, калі ў хаце моцна пахла фарбамі, я пачула, як ад нараў патыхае прэлым. А што ўбачыла... На падлозе і на нарах уздоўж сцяны стаялі, прытуленыя да яе, Мохавы... ну, цяпер я скажу — эцюды, а тады гэта былі для мяне карцінкі, і яны мне не спадабаліся. Успомніла, як бацька казаў — малюе абы-што. Дык і праўда — усё нейкае круглае: і дрэвы, і воблакі на небе... А каля печы на нарах у яго рукзак, Мох доўга і нервова корпаецца ў ім, нарэшце нешта знайшоў — бляшанку!.. Імпэтна ўспароў яе на стале вялікім складаным нажом — учора ён быў Моху за відэлец; ад чэрствага паўбохана — відаць было, што ён чэрствы, — адкроіў дзве скібкі і паклаў на адну і другую патроху рыбных кансерваў. "Ну, не марудзь, старушка, давай, што ты там прынесла, — падагнаў ён мяне. — Шклянкі ў нас ёсць, а болей — што нам яшчэ з табою трэба?" Я хуценька падала яму пляшку, ён наліў — сабе палову шклянкі, мне на чвэрць. Ён спяшаўся, а я, як увайшла, дык яшчэ і не садзілася, я была яшчэ босая; ён мімаходзь, як нешта дробязнае, заўважыў гэта і спытаў: "Ты што, па вадзе? Па канаве? Ну, малайчына! Як шпіён! Аўчарка

толькі дулю ягоную панюхае. Сядай, старушка. За знаёмства. Ну, паехалі!"

Я такі села, бо адчула, што мне робіцца блага: куды я трапіла? Крэйда на сценах паападала, апошні раз іх бяліла некалі Сава, на падлозе ў палец бруду, на стале — расплывістыя жаўтлявыя плямы. Прэч адсюль, бо дазнаюцца людзі, у якім брыдкім месцы была, якая ж гэта будзе ганьба, і не толькі самой, а і маці, бацьку! А даведаюцца ў школе! Добра, калі дадуць скончыць, а то яшчэ і выключаць! Які сорам, сама прыбегла, тых распусных дзевак з Грабянцоў хоць прыводзяць, дый поцемкамі, а я сама і сярод белага дня!.. Прэч адсюль, прэч, вось ён, мой партфель, а вунь туфлі — дзвярамі ляпну, і больш нагі маёй тут не будзе. Але чаму я сяджу, што мяне тут трымае? Не магу ўстаць, не магу ляпнуць дзвярамі. Бо навошта ж тады, як той шпіён, кралася я з пляшкаю па канаве?.. Не магу ўстаць… Бо хачу глядзець на яго… Якія сінія ў яго вочы — як у таго калінаўскага святога!.. Мох — Бог… Бог — Мох…

Чокнуліся, выпілі, і ён сказаў: "In vino veritas!.. Закусвай, старушка!"

Старушка!.. Я зноў падумала: пабачылі б мяне з ім мае класныя сяброўкі, пачулі б, як ён мяне заве, — ад зайздрасці паўміралі б. Пра Светку, "прыўкрасную даму", і казаць няма чаго, першая свае маленькія вочкі закаціла б… Канечне, што гэта за "ін віна верытас", я і пасля яшчэ доўга не ведала, міне час, і многае з таго, што ён мне, цёмнай вясковай дзеўцы, скажа, я аднаўлю ў памяці і дабяруся да сэнсу не адной такой мудрасці, — дойдзе чарга, пра гэта я вам яшчэ раскажу, — а пакуль я адно не зводжу з яго вачэй — ніколі я не была яшчэ такой шчаслівай!..

На падаконніку ў яго я ўбачыла палітру. Тады я, канечне, не ведала, што яна так называецца, але не гэта галоўнае. Я была лесавая дзеўка, і гэтая палітра нагадала мне… ёсць такая трава — падалешнік, вы яго ведаеце, дык палітра формаю нагадвае ягоны ліст: ушыркі раздаўся больш, чым у даўжыню, а яшчэ і гэтая акруглая ўпадзінка — у палітры там, дзе адтулінка для пальца, а ў ліста, дзе хвосцік… Але на палітру ён ні разу не зірнуў — не збіраўся ён мяне маляваць, выпіў — і яму зарупіла нешта іншае. На нарах, побач з тым сеннікам, на якім ён, мабыць, спаў, у галавах у яго ляжала кніга, як зараз бачу яе жаўтаватую вокладку, назва яе тады нічога мне не сказала, а цяпер я ведаю: гэта былі "Вясковыя аповесці" Васіля Бялова, тады ўсе ім захапляліся — канец шасцідзесятых. Дык і Мох з надта таямнічым выглядам разгарнуў кнігу і сказаў:"Я прачытаю табе зараз адзін сказ, і ты сама пераканаешся, што старажытныя рымляне мелі рацыю, калі сцвярджалі, што ісціна ў віне, бо і наш сучаснік прыйшоў да той жа высновы. Вось яно, гэтае месца, слухай…" Тут я павінна сказаць вам, што не ручаюся

за дакладнасць цытаты, будзеце занатоўваць за мною, знайдзіце гэтае месца ў Бялова, а я прыводжу яго па памяці, таксама перачытала пазней, вось ён, гэты сказ: “Мы выпили горячий пунш, который с непрывычки кидает человека в приятный пот, после потихоньку поворачивает вселенную другой, удивительно доброй и перспективной стороной”. Мох загарнуў кнігу і сказаў: “Ісціна ў віне, цяпер ты сама гэта бачыш, старушка”.

Помню, тады я падумала:”Гэтак ён дужа па-вучонаму апраўдвае тое, што яму так не цярпелася выпіць”. Цяпер жа я ведаю: гэта было так і не так. Бо для Моха ключавым словам у бялоўскай цытаце было слова “вселенная”, “сусвет”, а дакладней — яго займала тое, што сусвет, па-першае, здольны паварочвацца, а па-другое — добрым бокам. Звярніце і вы на гэта ўвагу, тады ў далейшым Мох з ягонай, як мой бацька іранізуе, “тэорыяй” не будзе для вас нечаканым.

Развітваліся ў сенцах. Да яго я ні з кім не абдымалася і не цалавалася, таму і не магла яго ні з кім параўнаць, але, дальбог, адчувала, што Мохавы пяшчоты — нейкія асаблівыя, вельмі ягоныя. Я хуценька перабегла ўпоперак агарод, і мяне захінуў з двух бакоў алешнічак. Асцярожна, каб надта не плёхаць, ступала па мелкай вадзе, а Мох як быццам яшчэ мілаваў мяне, і ў гэтых уяўных пяшчотах было тое самае, я г о н а е , што і палохала мяне, але і было бясконца жаданым, — толькі да адных яго рук, што абдымалі і лашчылі мяне ўсю, я гатовая была і заўтра бегчы па гэтай канаве.

Ды я ўжо бадай што і бегла, а не ішла па ёй — назаўтра. І мяне, задыханую, шчаслівую, Мох, як правёў учора, так і цяпер спаткаў у сенцах, і зноў ён цалаваў мяне і мілаваў, а потым падхапіў адной рукою пад калені і ўнёс мяне ў хату. А ў ёй таксама цалаваў мой твар, шыю, але ўжо нядоўга, бо зноў, як і ўчора, трохі адхінуўся ад мяне і, усё роўна як чым спалоханы, зазірнуў мне ў вочы: “Прынесла?” Я і зразумела, і не зразумела, пра што ён пытае: калі пра гарэлку, дык колькі мы ўчора адпілі з ім з той пляшкі!.. “Не прынесла”, — апалым голасам сказаў ён, рукі ягоныя абвялі ў мяне за плячамі, ён адышоў ад мяне і панылa апусціўся на табурэтку. Я адчула сябе вінаватаю, падышла і паклала яму на плячо руку, і тады ён мяне супакоіў: “Ты малайчына, што не прынесла. Сёння. Але заўтра не зрабі такога ж глупства, абавязкова прынясі. Не забудзь. А потым я цябе намалюю. Толькі не тут, а пад Высокай Грываю, там у мяне многае ўжо схоплена, засталося злавіць воблака, а потым прымемся і за цябе. Глядзі ж, прынясі!”

Бачу, вы ўсміхнуліся. Маўляў, трэба было зусім не мець на плячах галавы, каб не цюкнула: “Дурная ты дзеўка, гарэлка яму ў сто разоў мілейшая, чым ты сама, дык няўжо ты і яшчэ раз пабяжыш да яго з пляшкаю?” Ну так, цяпер і я магу не горш за вас усміхнуц-

ца, а тады і праўда ж згубіла дзеўка галаву, дык не ўтрымалі б мяне і на прывязі — так цягнула ў Савіну хату. Раніцай я ішла ў школу, а ён ў лес на эцюды, а пасля абеду я зноў, акурат збіваючы са следу сабак, па вадзе бегла да яго ў Савіну хату, бо я ўжо не магла жыць без ягоных пяшчотаў — нясцерпна жаданых і загадкавых. Добра, што хоць у школе не трэба было ўжо думаць увесь час пра яго, бо я была ўпэўненая, што зноў абавязкова з ім сустрэнуся, і, бывала, толькі ўсміхнуся сама сабе, калі каторая з сяброўак дзялілася страшэнным сакрэтам — як хлопец злавіў губамі мочку яе сімпатычнага вушка і як нешта яна пры гэтым адчула... Дома адчэпнага пабуду пасля школы і зноў лячу з партфелем — нібыта да Светкі, а ў партфелі ўжо не толькі пляшка, а і хлеб, а яшчэ і сала. Так я лётала, як на крылах, два тыдні, але колькі вяровачцы ні віцца, канец будзе.

Папалася я на гарэлцы. Хоць пляшак бацька і не лічыў, але калі б іх надта паменела, ён бы гэта заўважыў, і не ў мяне, дык у маці спытаў бы, куды падзелася гарэлка. Таму я не магла браць пляшкамі, я рабіла хітрэй. Патроху адлівала з усіх пляшак, а далівала іх вадою. Але ж, напэўна, гэта можна было зрабіць раз, ну два разы. А то ж я адліла і трэці раз, і чацвёрты. А потым адбылося самае горшае. Адчыніла я суднік і жахнулася: усяго дзве пляшкі! Зразумела — астатнія бацька некаму пазычыў. Пачула сваю пагібель, але ўжо не магла даць сабе рады: адліла і з гэтых дзвюх, даліла вадою і пабегла з партфелем у Савіну хату... А вярнулася пад вечар дадому...

Бацька з маткаю ўсё ўжо, відаць, перагаварылі і, прыціхлыя, сядзелі ў зале. Пасля даведалася: прыехаў з лясгаса пажарны інспектар, і, канечне, бацька прывёў яго дадому абедаць, паставіў на стол пляшку, а таго ж не ведаў, што гарэлка ўжо чатыры разы разведзеная вадою. Начальнік выпіў, па звычцы хэкнуў — каб выдыхнуць тую пару ад першаку, што пячэ ў горле, і ад здзіўлення залыпаў вачамі. Кінуўся бацька па другую пляшку, а ў ёй таксама градусамі толькі пахне. Перад начальнікам ён так-сяк апраўдаўся, маўляў, даўно стаіць, вытхнулася, а правёў начальніка — сеў і глыбока задумаўся: не мог так хутка вытхнуцца першак. І вось цяпер ля круглага стала сядзела ў глыбокай жалобе маці — згорбілася, на мяне нават не зірнула; затое, як толькі я ўвайшла, зірнуў бацька. Спадылба і скоса — раней ён ніколі на мяне так не глядзеў. "Дзе была?" — спытаў грозна. "У Светкі, разам рабілі ўрокі", — адказала я ні жывая ні мёртвая. "Брэшаш! — Бацька грукнуў кулаком па стале. — Не была ты ў Светкі. Паказвай, што ў партфелі!" — "А што ў мяне ў партфелі? — пасмялела я. — Падручнікі, сшыткі!" Пасмялела, бо пляшкі ў партфелі не было, парожняй, — з той, апошняй, што я прынесла Моху, мы з ім толькі па-

каштавалі. Паднесла, паказала бацьку адшпілены партфель, ён збольшага зазірнуў, а да чаго не дадумаўся — каб дыхнула, бо пакаштавала ж — пах, мабыць, пачуў бы. Але ўсё роўна небывалай суровасці ў ім не паменела. “Не магу сабе дараваць, — у горкім адчаі дакараў сам сябе бацька. — Трэба было, як Сава памерла, адразу хату спаліць і попел развеяць. Бо колькі ад яе сам нацярпеўся, як яна мяне калісьці бэсціла, зневажала, а цяпер і з-за яе паршывай хаты — гэткая ганьба! І як жа я не змог дапетрыць: калі ні набрыдзеш на яго, квэцае, а сам вясёленькі, бо як ветрык, дык і першачком ад яго павявае, думаю, хто яго так частуе? А тут вунь яно што! Але ж гарэлка — цьфу!.. Ты! Чуеш? Ты! Хто ты цяпер — наша дачка ці ягоная… Хто ты ў яго там цяпер?.. Кажы праўду, бо мне трэба ведаць, на ланцуг цябе прыкаваць ці да бабы Вулькі весці?”

“А мая ж ты дачачка, — загаласіла маці, — а ці ж на тое мы гадавалі цябе, каб ты ў шаснаццаць гадкоў скруцілася? Ды з кім? З гэтым прыхаднем? Ці ж табе ён пара? Адумайся, дачушка, бо яшчэ ж мо не позна!”

“А дзе ж яна дзенецца? — вёў свой грозны рэй бацька. — Папругі добрай паспытае, дык хутка аціхне. Усё, кропка! Слухаць маю каманду! Заўтра і надалей пасля школы з хаты ні нагою! А ён тут нядоўга паквэцае! Сёння ж вылецеў бы, але я гэтых свалачэй ведаю: абмажа дзёгцем вароты, зняславіць — яму гэта раз плюнуць, а мне ўжо такой славы досыць!.. Спусцім на тармазах; гэта ўжо мой клопат, каб ён і дарогу сюды забыў, а ты знай: ёсць папруга, а ёсць і спражка на ёй, глядзі, каб не пырснула твая шалёная кроў, дзеўка!”

Бацька ты мой родны! І рада была б я табе дагадзіць, ды не маю сілы. А калі я не магу даць сабе рады, дык і папруга твая нічога ўжо не паправіць. Бо сказаў ты — заўтра пасля школы замкнеш у хаце, ■ я ўжо наперад ведаю, што ў мяне будзе заўтра. З раніцы ў нас адзін урок, дый не ўрок ужо, а кансультацыя — перад першым экзаменам, дык мне толькі адчапіцца ад “прыўкраснай дамы”, ад Светкі, — каб не ісці разам дадому. А тады перабягу шашу і — на аб’езную дарогу, а па ёй — пад Высокую Грыву, там мяне будзе чакаць Мох, нарэшце ён мяне там намалюе!.. Не вінаватая я, бацечка, што такі неўтаймоўны ў мяне шал, бо такую вы мяне нарадзілі, а як ты думаў, вунь пра нашу мамачку, калі тое было, а яшчэ і цяпер Светчына маці языком меле, а ці ж я не матчына дачушка?..

Вы памятаеце тую аб’езную дарогу — па ёй некалі з Мікалайкавай стражы бацька і маці ехалі ў сельсавет запісвацца. Дык быццам падказалі гэтую дарожку і мне, бо па ёй бегла і я — па першыя суніцы. Так я сказала б, калі б каго на ёй стрэла: маўляў, на Белай

касе, у зацішку ды на ўгрэве, паспелі першыя суніцы, яны заўсёды там самыя раннія, дык мне і заманулася іх паспытаць — па дарозе са школы. І бессаромна схлусіла б, і сказала б чыстую праўду. Бо па суніцы бегла я, па самыя першыя, найсаладзейшыя свае суніцы. Яны там, пад Высокай Грываю, ля возера, на зялёнай палянцы, — гэта такая нясцерпная слодыч, што заходзішся ёю, сама перастаеш быць у гэтым загадкавым, таямнічым свеце, і ўвесь свет памірае, знікае ў табе, сціскаецца да маленькай, як макавае зярнятка, зусім нябачнай кропкі, а з яе потым і ўзнікае ўсё нанава — і шматгалосы птушыны звон, і кучаравыя сосны на Высокай Грыве, і белыя воблакі над ёй, і ты сама ў гэтым бязмежным, за той адзіны міг да канца разгаданым і спазнаным табою свеце!..

“Што я нарабіў, што я нарабіў! — Мох, мой усемагутны Бог, які так цудоўна забраў і зноў вярнуў мне як быццам той, але ўжо і зусім іншы, абноўлены мой свет, у страшэнным адчаі гупаў кулаком па злямчанай траве і выцэджваў раз-пораз праз сціснутыя зубы: — Што я нарабіў, што я нарабіў!..” Я падумала, ён спалохаўся, бо я ж была... непаўналетняя; дзівячыся з яго, ціха засмяялася, і смех мой быў са шчаслівым грудным прыстогнам: якое глупства, няўжо я пабягу некаму скардзіцца?.. Шмат пазней я зразумела ягоны адчай, і цяпер я, канечне ж, ведаю, чаму ён амаль што праклінаў тыя хвіліны...

Толькі дзеля аднаго лета, дзеля тых трох месяцаў варта было нарадзіцца на свет. Мы сыходзіліся ў лесе ці не кожны дзень, абы не дождж; гэта было наша нейкае адзічэнне, вяртанне ў тую першабытнасць, дзе нас кідаў адно аднаму насустрач неадольны інстынкт; за суніцамі паспелі чарніцы, маліны... і як ні лютаваў бацька, як ні галасіла маці, да ўсяго я ўжо была сляпая і глухая. Гарэлкі Моху я больш не насіла, гэта было адно, што мог забараніць мне бацька, дый Моху не руліла ўжо, не паліла, але ж тыдзень ён быў са мною, а на тры-чатыры дні адлучаўся ў горад, і чым ён бавіўся там, я не ведала, толькі не магла яго дачакацца. А чаму не прагнаў яго мой грозны бацька?.. Паспрабаваў быў — павесіў замок на дзвярах Савіной хаты, але Мох пайшоў начаваць на вышкі ў стадолу. Прыбег, узняў гвалт конюх — прыблуда закурыць ды падпаліць на вышках сена, пажару наробіць, ну, бацька і падхапіўся, кінуўся на лясніцкі двор — і да гэтага часу не ведаю, якая ў яго з Мохам была гаворка, толькі вярнуўся ён у хату прыгнечаны, пачарнелы.

А далей было ўсё так, як і напісана ў вашай кнізе: у лесе, на паляне, я пазірую Моху — у чым маці нарадзіла, бо я ўжо ведала, што ў мастакоў гэта звычайная справа — маляваць аголенае жаночае цела. Але ў людскіх вачах я не плацце скінула — адкінула апошні дзявочы сорам і гонар, дык мой бацька і выскачыў на па-

ляну з пугаю, Ды, мабыць, ад убачанага ў яго пацямнела ўваччу, бо спачатку яго павяло ўлукаткі, а потым ён верне ў лес, у лес — і знікае ў гушчары. Мох пачуў яго ў сябе за спіною і, трохі адвёўшы ўбок пэндзаль, стаяў і чакаў з рахманай пакораю ў вачах, маўляў, прыму любое пакаранне; а калі небяспека мінула, паспрабаваў усміхнуцца і ціха прамовіў: "Старыя саспелі, і трэба нанесці ім афіцыйны візіт. Што я нарабіў!.."

Ну а потым — памятаеце, маці ў вас кажа: "Увайшоў барадаты і зубы скаліць". Так, ён "скаліў зубы", і мяне гэта вельмі здзівіла, я не пазнала Моха, бо хоць ён і мог часам пажартаваць, роля вясёлага блазна яму зусім не падыходзіла. Цяпер-то я разумею: гэта была напускная бравада, яму з парога трэба было кінуць загадзя падрыхтаваны жарт, каб варожа настроеныя цесць і цешча першымі не пайшлі ў наступ, бо яму тады давялося б безнадзейна абараняцца. А так яны і слова не паспелі мовіць — ён адразу іх абяззброіў: "Не гаруйце, бацькі, усё будзе, як у лепшых дамах Парыжа, трохі пажыве ваша дачка ў вас, а там мяне як маладога спецыяліста ўлады абавязаны ўсяліць у шыкоўныя апартаменты, а мяне, дык, значыць, і яе — тады я і забяру яе ў горад". Маці ў плач: "Як цябе, такога нехрысця, зямля носіць, хоць на вуліцу не выходзь, а калі ў цябе яшчэ і зусім ліхое наўме — каб наглуміцца ды кінуць, дык лепей адразу згінь з вачэй, каб і каліва надзеі не засталося, яе грэх — наш грэх..."

Няшчасны мой бацька нервова барабаніў пальцамі па стале. І забарабаніў мацней — так здзекліва суцешыў іх абаіх Мох: "Бацькі, які сорам, які грэх? У Еўропе даўно ўжо сексуальная рэвалюцыя, а мы ж таксама Еўропа! А наконт таго, што я абыдуся не па-джэнтльменску... Дарма вы так... Лепей памажыце нам запісацца — тут, у сельсавеце, бо ў яе ж яшчэ няма пашпарта, а далей гэтага нельга ўжо адкладваць".

Бацька забарабаніў пальцамі яшчэ мацней.

## 2. У Гомель з падушкамі

"Мастак, растуды яго так! — стрымана, але са знаёмай ужо мне горыччу і роспаччу ў голасе вылаяўся Гаркуша. — Валацуга! А вось жа не паглядзела, што і рудым мохам зарос, мала ў лесе, дык яшчэ ён у яго і на шчоках, а яшчэ і за гальштук закладвае, хаця які там гальштук — брызентавая роба на ім ды кашуля ў клетачку. Папалася дзеўка! А выйсце каму ж шукаць, як не бацьку. Дык вось, калі ты пісацель, пакліч сто такіх, як сам, мудрацоў, — хацеў бы я пачуць, што б яны рабілі на маім месцы.

Шаснаццаць гадоў, непаўналетняя, і, канечне, я мог бы падаць на яго ў суд, але ўяві, што гэта не мая, а твая дачка: ты павёў бы яе да дактароў, ты збіраў бы сведкаў, каб праславіцца з ёю на ўвесь раён?.. Кінуўся быў з пугаю, але адразу і астыў, бо раптам падумаў: не на іх замахваешся, а на прыроду, гэта яна кроў нам бунтуе і муціць розум, калісь сам ты быў малады, а цяпер твая дачка, і такая ўжо бацькоўская доля: хадзі, як абухом аглушаны, але змірыся: пугай абуха не пераб'еш... Самае простае — турнуць гэтага прыхадня, як шкадлівага ката, але ж не смятану разліў і не глек разбіў, а даччыно жыццё. Ну, паказаў ты яму на парог — вон, нягоднік, але дачцэ яе дзявоцтва ўжо не вернеш, затое, калі не гнаць, дык мо ўламаў бы неяк старшыню ў сельсавеце, а той запісаў бы — ну так, усё роўна ганьба, але ж хоць і за прыблудным п'яніцам, ды замужняя, і ўжо народзіцца дзіця, а не байструк. А яшчэ я помніў, як мая бабуля, царства ёй нябеснае, казала: кожны павінен на гэтым свеце выпіць сваю норму: адзін п'е патроху, затое ўсё жыццё, а другі за адзін раз барыла высмакча — і здаволіўся. Дык, можа, думаў я, і мой зяць выбера свой ліміт дый неўзабаве завяжа?

Схуднеў, зблажэў — сябе ў люстэрку не пазнаваў. Бывала, пачуеш — саграшыла, не ўберaглася дзеўка, дык то ж недзе ў Грабянцах ці ў Пясчанай Рудні, чутка толькі пацешыць, а тут жа родная твая дачка — такая пацеха, што плакаць хочацца. Ды жонка мая і плача. А сабе ў кантору ідзеш — зубы сціскаеш: з'едуцца леснікі, а потым, нават спачуваючы табе, развязуць навіну па ўсім лесе — Гаркушава дачка ў прыполе прынесла!.. А хто не пашкадуе, дык ляснічы Айчанаш. Зойдзеш да яго з нейкай ведамасцю, а ў яго і ў вачах, і на вуснах нешта як змяінае — ледзьве не скажа: бач, якія вы святыя — і сам, і твая сямейка. А выходзіш — спіной адчуваеш яго здзеклівы позірк.

Хацеў застрэліцца. Ад Мікалайкі мне ў спадчыну перайшла ягоная дапатопная стрэльба, сам я не палюю, але тут яна была мне акурат. Два ствалы пад бараду і... Але як уявіў: ну, пахавалі мяне, а далей што?.. Аднаму Айчанашу радасць. Бо я табе, мабыць, не казаў, але ты і сам ведаеш: калісь Айчанаш, як вучыўся ў школе з маёй жонкаю, дужа ўлягаў за ёю, таму нездарма, як турнулі з райкома, ён і апынуўся ў Заліп'і, мяне не абдурыш — гарэў у яго зуб на маю жонку, ох і гарэў! Дык, вядома, ён толькі таго і чакаў, каб яна аўдавела. Але дудкі! Ну, застрэлюся я, а ўсё роўна ўсёй ганьбы з сабой не забяру, наадварот, уся яна на дачку і жонку ляжа. Дык лепей вазьму я на сябе самы большы сорам, бо не дачцэ ж і не жонцы ісці ў сельсавет ды маліць там, каб запісалі непаўналетнюю.

Так, на каленях маліў старшыню, бо ўвапнуўся — няма васемнаццаці год, не паложана. Я яму даводжу: байструк па вуліцы бу-

дзе бегаць, чым дзіця вінаватае? А ён — не паложана, дый годзе! Але здаўся-такі... Ну, а пра вяселле не магло быць і гаворкі, бо не выносіць жа на людзі сваю ганьбу, а яшчэ ці можаш ты, напрыклад, сабе ўявіць: сядзяць яны побач, маладая — як макаў цвет, а ён — вахлак вахлаком, як толькі яны гэтага не бачаць, дурныя бабы!

А далей я разважаў так. Некалі Сава калола мне вочы: ты ляснік, дык і Зоя з табой, апрача гэтага лесу, нічога іншага ў жыцці не пабачыць. Праўду казала. Еду міма могілак — і зноў згадваю тыя Савіны словы. Не змог некалі зачапіцца за горад — не знайшоў там работы па спецыяльнасці. Але ж мой свінаваты зяць ужо зачапіўся, ён жа нешта ў Гомелі малюе! А з інстытута, дык рана ці позна, а дадуць яму і ягоныя апартаменты, а тады ён забярэ ўрэшце да сябе і жонку. Словам, спі спакойна, Вера Макараўна, калі не Зоя, дык наша дачка ў лесе ўжо не звякуе.

Але што я раптам заўважаю: едзе мой зяць да сваёй жонкі ўсё радзей, а пра тое, што ён забярэ яе ў свае апартаменты, ужо нават і не заікнецца. Такі джэнтльмен! Ага, думаю, сабраўся рваць кіпці, хоча, каб мы патроху ад яго адвыклі, а потым ён і зусім нам пакажа дулю. Другі Лёшка Гамон — "наша дзела не раджаць"; але ж, думаю, хай мая дачка маладая, дык і безгаловая, а мяне, старога, ты не абдурыш. Нельга губляць ні хвіліны, і хоць ведаў: маці падыме гвалт — каб яе дачку ды невядома ў які свет? — урэшце сказаў цвёрда: "Ну, усё, бяру ў лясгасе "газік", вяжам падушкі, коўдры — і ў дарогу. Жонка павінна жыць са сваім чалавекам".

Ну, тут яна ўсхадзілася, мая баба: а ты падумаў, што не адны падушкі, яшчэ і лыжкі-міскі трэба, як жыць ды варыць пачнеш разам? А ты ж яе і голую вязеш, на зіму гледзячы! Дый ці чуў хто, каб родны бацька дачку сваю цяжарную ў свет выпхнуў? Бывае, і блізка замужам, а раджаць на карачках паўзе ў сваю хату, да роднай маткі". Але я стаяў на сваім: "Вось і прыедзе яна да цябе, а не захоча, дык там бальніцы такія ёсць, дзе бабы раджаюць. А паліто дзе і купіць, як не ў горадзе, абы грошы, але пакуль і плашч модны паносіць — летась толькі прывёз з раёна, яшчэ цёпла, а дождж, дык у яе ж і парасон ёсць. Усё, ніякіх размоў, заўтра званю ў лясгас, бяру "газік", і даеш Гомель!"

Сказаў — адрэзаў. Назаўтра з лясгаса прыляцеў на "газіку" Чэсь; сам я жвавы бываю, а гэты хлопец яшчэ жвавейшы; пакідалі на задняе сядзенне падушкі, коўдру, чамадан, а жонка ўсё ніяк не развітаецца з дачкой — бач, як навучае: "Будзеш ехаць, глядзі ў акенца, каб знайшла назад дарогу, да бацькі з маткаю. Ды каб сябе там шанавала, бо не на нечы глум цябе гадавалі. Як што не па табе, носам крутні, ты ў нас не абы-якая, сваё шчасце яшчэ сто разоў знойдзеш..." "Усё, — падагнаў я, — цалуйцеся! — А Чэсю камандую: — Пікі к бою, шашкі вон!"

Гэта ў мяне ад дзеда, ён служыў у кавалерыі, яшчэ ў царскай, дык у яго такая была звычка — перад дарогаю або калі цвёрда наважыцца нешта зрабіць, паддаваў сам сабе імпэту: “Пікі [redacted] бою...” Дык я і пераняў дзедаву прымаўку.

“Газуй, Чэсь!”

Выскачылі на шашу, і замільгала гэтае кіно: то поле, то лес, то белае, то чорнае, паяўляецца, знікае — на самалёце б лётаць Чэсю, а не “газікам” кіраваць. Павярнуўся, зірнуў на дачку: скажы ёй — бач, колькі клопату ўсім праз твае любошчы, — толькі вейкамі, як брытваю, павядзе; але заўважаю, быццам яна ўжо трохі і не рада, што заварылася ў нас з ёю гэткая каша. Але ж газуй, Чэсь, яе месца ў горадзе, бо тое, за што агітуе жонка, — не выйсце. Ёй ужо і Заліп’е любае, бач ты яе: “носам крутні дый назад”. Хай яна паспрабуе ў мяне там крутнуць!

Еду і не разумею жонкі, у думках спрачаюся з ёю. Сама звекавала гарбатаю бабай на маім гадавальніку, дык мала ёй гэтага, яна яшчэ не адпускае ад сябе і дачку. Прымхлівая боязь — як быццам і дачка паедзе ў горад на тарфяной машыне, а яна перакуліцца, і дачку таксама будзе потым мучыць тарфяное ўдушша. Але ж даўно ўжо на тарфяных машынах ніхто не ездзіць, і дарма яна думае — перакулілася некалі з тарфяною машынай, дык ад таго торфу і прыкінулася яе ўдушша. Ад іншага торфу яно, ад Айчанашавага!..

Два гады як разам, ужо і дачку гадуем, а ўдушша таго ані знаку. І раптам... Гэта было ў тым годзе, як памёр Сталін, увосень. За Грабянцамі выбіралі кок-сагыз, расліна такая, як дзьмухавец, сеялі на тарфяніку, [redacted] потым недзе з ягонага карэння выварвалі каўчук, таму ўсім — і школе, і бальніцы, і лясніцтву — даводзілася строгае заданне — выдзіраць тое карэнне. Дык стары Айчанаш і пайшоў на леснікоў у наступ. І хоць у нас быў свой план — брызгліна, яна таксама каўчуканос, Айчанаш і слухаць не хацеў — гнаў і старога і малога на кок-сагыз. Дзверы каленам адчыняў, нават ногі на парозе не вытра, прэцца ў хату, а малой нашай паўтара года, дык жонка і сядзіць дома, — тут Айчанаш і наляцеў на яе: “Ага, вось дзе ты, сабатажніца! Ад дзеда Мікалайкі, ад кулака навучылася! Той усё жыццё шкодзіў, а цяпер і ты! Бягом марш на балота, а там я табе дзялку па блату адмераю — самую большую! Ды глядзі не паслухайся — вылеціць твой гаўняны начальнік разам з табою!”

Адвёз я дачку на стражу да цешчы, а жонка падалася на балота. Тут і я нічога не мог зрабіць, ведаў — Айчанаша бяруць за горла з райкома, бо кок-сагыз — стратэгічная сыравіна, вось-вось на нас нападзе Амерыка, такі быў час, таму за зрыў задання па кок-сагызу можна было і ў турме апынуцца. Пайшла жонка. А ў абед яе прывезлі з пасінелым тварам. Потым яна расказала. Выдзірае яна тое карэнне, а ўперадзе тарфяны пагорачак. Сонца яго падсушыла,

а ветрык павеяў, дык ён і закурыўся тарфяным пылком. І вось як пачула яна той пылок, дык ёй і заклала грудзі — ні ўдыхнуць, ні выдыхнуць. Вось адкуль яно, яе ўдушша. Дактары кажуць: не, усё-такі гэта ў яе ад таго, першага торфу, маўляў, таму што перакулілася з машынаю, перапалохалася; але што яны ведаюць, нашы дактары, не з машыны гэта пачалося ў яе, а з Айчанашавага кок-сагызу. Перанервавалася, а тут і гэты пылок. Дык яна, дзівачка, цяпер і баіцца машыны. Не машыны трэба баяцца, а Айчанашаў. Стары памёр, дык на змену яму нахапіўся малады. Той цябе не пашкадаваў, а гэты ў Заліп'і тваю дачку пашкадуе? Пражыла век, а што добрага бачыла ты са мною ў лесе? Калісь Сава падарыла табе туфлі-лодачкі, дык два разы за ўсё жыццё ты іх і абула — адзін раз на вяселле ў Грабянцы, а другі раз не помню нават куды, на радзіны, мабыць. Дык хочаш, каб і твая дачка сябе ў лесе змарнавала? Не, гэтага я ўжо не дапушчу! Што праўда, то праўда: зяць трапіўся неважнецкі, але калі за яго добра ўзяцца — пагаліць, абскрэбсці на шчоках руды мох ды справіць людскую адзежыну, з ім не сорамна было б паказацца на вуліцы. А піць кіне; прыгразіла б жонка: або гарэлка, або я, дык што ён, дурны — дзе ён яшчэ такую прыгожую жонку знойдзе? А там і кватэру дадуць, рана ці позна даюць усім. Таму няма нам дарогі назад, толькі ўперад — газуй, Чэсь, ужо вунь відаць Гомель!..

Жыў мой зяць недалёка ад таго навуковага ляснога інстытута, у які хацеў я некалі нахабна ўлезці, ды пераблытаў Моргана з Мендэлем, ну дык цяпер я і камандую Чэсю, куды ехаць — налева, направа; хаця дарма: горад Чэсь ведае не горш за мяне. Спыніліся, і я кажу: "Слухай маю каманду. Я бяру чамадан, ён самы цяжкі, а вы хапаеце коўдру, падушкі — і дружна за мной!" — "Адамавіч, — засумняваўся Чэсь, — можа, спачатку схадзіць у разведку, а потым ужо і з падушкамі?" — "А што тут разведваць, — кажу, — абы нумарам не памыліцца". Кінуў позіркам — па адзін бок вуліцы высокія панельныя дамы, па другі — прыватныя, драўляныя, і толькі наш дом цагляны. Так зяць і казаў, усё сыходзіцца, дык што тут разведваць? "За мной, — кажу, — пікі ■ бою, шашкі вон!" І раптам чую — дачка: "Тата, вазьмі коўдру, а я чамадан панясу!" Саромеецца з коўдраю, бо гэта ж як быццам не хатняе, а сваё нутро на людзі вывернуў. Але не, галубка, трэба было раней падумаць, каб сябе і бацькоў сваіх не ганьбіць, а цяпер ужо няма чаго саромецца. "Чамадан табе нельга, — кажу, — бяры што загадана, а то яшчэ і падушкі панясеш!" Адчыняю брамку, марш-кідок па асфальтавай дарожцы, штурмуем веранду, і дзе ўжо тут будзеш стукацца, калі набралі такі разгон, — з ходу адчыняю дзверы ў пярэднюю!

Гаспадыня, мабыць, пачула ў двары наш тупат і сустрэла нас насмерць перапалоханая, як быццам не са сваім дабром мы ўваліліся, а, наадварот, уварваліся, каб да ніткі яе абрабаваць. Яшчэ не старая, майго веку, яна была ў квяцістым, да пят, халаце, — можа, толькі памылася, бо галава ў яе была абкручана ручніком, а вузел спераду, дык і канцы ручніка тырчэлі ў бакі, як рогі. "Не бойцеся, мы свае людзі! — гукнуў я з парога прыязна і весела, каб, крый божа, яна не закрычала "ратуйце". — Тут у вас жыве адзін наш чалавек, а гэта во такія-сякія ягоныя рэчы, дык ці не паказалі б, куды іх нам укінуць?" Заўважаю, дарма што рагатая, з твару яна досыць сімпатычная, гэтая жанчына, і, мабыць, не дурная, але пакуль што яна толькі тое і ўцяміла, што калі хуценька паказаць рукою на дзверы, дык, можа, гэтыя "свае людзі" нічога благога ёй і не зробяць. Яна паказала на адны з трох дзвярэй, я штурхнуў іх, і мая каманда акупіравала пакой.

Ад зяця я чуў, што кватаруе ён у нейкай удавы, яе чалавек быў вялікім начальнікам, ды гады тры назад аддаў Богу душу, таму яна і мусіла цяпер пускаць кватарантаў — не лішняя ў хаце капейка. Адразу было відаць, што жытло начальніцкае, бо падлога не якаянебудзь, а паркетная. Пакой быў, напэўна, кабінетам, бо ля акна — пісьмовы стол, пасярод пакоя — мяккае глыбокае крэсла, ля глухой сцяны — кніжная шафа, ніколі не бачыў столькі багата кніг. А спаў кватарант на нізкім драўляным ложку…

Дзверы ў пакой засталіся адчыненыя, я зірнуў мелькам раз і другі — рагатая гаспадыня стаіць нерухома ў пярэдняй, трохі пахіліла набок галаву і прыўзняла бровы — відаць, ніяк не магла даўмецца, што гэта за такія нязваныя госці, банда нейкая. Яе збянтэжаны выгляд мяне насцярожыў — можа, і праўду казаў Чэсь, што спачатку трэба было схадзіць у разведку: а раптам не туды трапілі? Выйшаў у пярэднюю, у душы адчуваю, што ў чужой хаце разышоўся па-свінску, але мне ўжо няма куды адступаць: як весела павёў гаману з самага пачатку, так па-заліхвацку і працягваю: "Ну вось, самі бачыце, якія мы, давайце знаёміцца. Вунь то — мая дачка, Валодзева жонка, завуць яе Насцяй, ну а я цесць Валодзеў, Іван Адамавіч. А гэты хлопец — наш лясгасаўскі шафёр…" Гаспадыня ўсё пільней і пільней углядаецца мне ў вочы і пытае здзіўлена: "А хіба Уладзімір Мацвеевіч жанаты? Вы не памыляецеся? Калі я да сябе яго прапісвала, адзнакі ў пашпарце не было!" Заныла ўсярэдзіне: утаіў, што жанаты. Але не падаю выгляду, як хочацца мне абазваць зяця сволаччу, наадварот, строю з сябе яшчэ весялейшага блазна: "Жанаты, не сумнявайцеся. У мяне ўжо скора і ўнук будзе. Ці ўнучка. А што не было ў пашпарце штампа, дык правільна, не было, але я сам запісваў іх у сельсавеце, там яму і паставілі штамп. Не было, а цяпер ёсць, так што ўсё законна, не хвалюйце-

ся!" Яе твар зрабіўся каменным, і ўся яна, як статуя, павольна павярнулася да мяне бокам, а потым — не відаць было, як яна пад халатам пераступае нагамі, дык, здаецца, не пайшла, а пасунулася — так і знікла за дзвярамі, мабыць у зале, бо як адчыніла дзверы, убачыў пад столлю вялікую шкляную люстру. Ну, усё, Іван Адамавіч, — сказаў Чэсь, — я паехаў, бо мне яшчэ трэба на базу, а там, самі ведаеце, чарга, так што бывайце".

Яго праўда: ён сваю справу зрабіў — прывёз, а куды — разбірайцеся самі. Сеў я ў зяцевым пакоі на мяккае крэсла, дый сам сабе думаю: што ўжо тут разбірацца, дачку не ўбярог, дык цяпер застаецца толькі суцяшаць, небараку. Зірнуў крадком, а яна, мабыць, і не чула маёй размовы з рагатай гаспадыняю, сядзіць, нерухомая, на ложку, а шэрыя матчыны вочы — па яблыку, так шырока яна іх расплюшчыла. Але хай бы толькі не чула, а то ж нічога яна і не бачыць перад сабою, так заварожана думае пра яго — чакае свайго хлюста. Бо хто ж ён, калі не хлюст: у яго жонка цяжарная, а ён халасцяком прыкідваецца. Дзіва што: у гэтай рагатай пад халатам грудзей — няма на іх Лёшкі Гамона, але, мабыць, і ён, гэты яе прымак, свайго не ўпусціць. А ў той жа час — як быццам яна і стараватая для яго…

Што ж рабіць? Трэба было б затрымаць Чэся, але позна. Ды калі б і затрымаў… Вяртацца з падушкамі назад у Заліп'е? Усе ж бачылі, вязе Гаркуша дачку ў горад, а тут выгрузіў бы яе з тымі ж падушкамі, што сказалі б людзі: павазіў па рынку сваю Арынку, ды так і не збыў нікому? Была б хоць абы-якая з твару, а то ж не налюбавацца, такая прыгожая, але ж дзе той Бог, чаму ён паслаў ёй гэткае шчасце: мала таго што да гарэлкі прысмактаўся, дык яшчэ і да баб ласы.

Але дарма я падумаў, што ў зяця шашні з маладжавай удавою; ляпнулі дзверы ў пярэдняй, і я адразу скеміў, што ўсё тут у іх намнога цікавей. Напэўна, гэта была дачка гаспадыні: стройная, танклявая, яна зазірнула ў наш пакой і — спынілася, здзіўленая, збянтэжаная: у пакоі чужыя людзі. Яна спалохана павіталася з намі — "здрасьце" і на дыбачках прайшла ў пакой да маці. У руцэ ў дзеўкі быў той футарал, у якім носяць скрыпку, і я падумаў: цікава тут майму зяцю, ён малюе, а яна недзе на скрыпачцы пілікае. Мая дачка — просценькая лесавушка, з ёю ён забаўляецца ля Высокай Грывы ды на вышках у лясніцкай стадоле, а тут навошта яна яму, калі ў яго і гэтая гарадская красуня, і яе апартаменты?

Так, няма нам тут чаго рабіць. Але ўсё-ткі трэба было б дачакацца гіцля ды зірнуць яму ў вочы: можа, хоць патупіць іх, калі не згарыць ад сораму. Трэба пачакаць, але ж не ідзе і наўрад ці скора з'явіцца, а няёмка ж заставацца ў хаце, ў якой табе не рады, бо чутна ж: маці і дачка ціха, але ўсхвалявана гамоняць у сваім

пакоі. Здалося, мая дачка прыслухоўваецца, пра што яны там гамоняць, але не, гэтак яна па-ранейшаму чакала свайго мастака — усё роўна як хто зачараваў, быццам любшы, нагаворнага зелля, напілася, дык нічога больш не піла б і не ела, толькі адным ім і жыла б. Верыць, таму ні чуць нічога не хоча, ні бачыць. Ну вер, думаю, вер. Толькі думаю так, бо паспрабуй ёй сказаць, каб не верыла... во, ляпнулі дзверы... паспрабуй сказаць, калі ён такі артыст: убег у пакой — і да яе, гэткі пыл у вочы, маўляў, жыць без яе не можа; а яна і бацькі не пасаромелася, павісла ў яго на шыі — ратуйце мяне, людзі добрыя, ад такога кахання! "Прыехалі, прыехалі — цалаваў, ажно захлынаўся, мядзведзь, і не разабраць было, што ён хацеў гэтым сказаць: ці то — "дзякуй, што прыехалі", ці то — "і прынёс жа вас чорт!". Яны селі на ложак, дачка паклала яму галаву на плячо і заплюшчыла вочы. Усміхалася, як дзіця ўва сне.

Д'ябал іх разбярэ! Можа, ён і ні пры чым, можа, толькі гаспадыня і хацела ажаніць яго са сваёй скрыпáчкай, а да распусты і не дайшло, бо чым больш маці хоча збыць некаму сваю дачку, тым больш яна да вяселля вока з яе не спускае... Дык што, бацьку можна ехаць дамоў? Калі б жа так! Бо нейкая падазроная цішыня за дзвярамі. А потым ветлівы стук у дзверы, і на парозе рагатая гаспадыня. На твары ці, можа, толькі на губах пагарда напалам са шкадобаю, яна балесна, праз сілу ўсміхаецца, а, відаць, інтэлігентка, дык яна так далікатна і гаворыць: "Даруйце, Уладзімір Мацвеевіч, але пасля таго, што адбылося, мушу вам нагадаць: некалі такім, як вы, у прыстойных дамах адмаўлялі ў прыёме. Спадзяюся, вы мяне зразумелі. Яшчэ раз даруйце". Сказала так і выйшла.

"Ну, што будзем рабіць?" — пытаю. А зяць уздыхнуў дый кажа: "Паспяшаліся вы, Адамавіч, я ж вас прасіў: пачакайце, дадуць кватэру, тады я і забраў бы — яе ці ўжо іх. Бо вы ж бачыце, якая тут сітуацыя: яе дачка вучыцца ў музычным вучылішчы, і мяне яны паважаюць, бо я часам нешта памагаю ёй зразумець, жывапіс і музыку шмат што яднае, таму тлумачыш ёй нешта, расказваеш, а яна ўбірае ўсё, як губка, такая тонкая дзяўчынка". Ну, я тут і не стрываў. "Так, — кажу, — яна тонкая, а мая дачка грубáя, але хто яе зрабіў такою, калі не ты?" Зяць паморшчыўся: "Адамавіч, вы не так мяне зразумелі". А я кажу: "Усё я зразумеў, дарагі зяць, мая дачка яшчэ і дня ў цябе не пагасцявала, а ёй ужо трэба вымятацца — разам з табою". Маўчыць зяць — як вады ў рот набраў, і бачу — пакрыўдзіўся. Я кажу: "Трэба шукаць другую кватэру". А ён зноў уздыхае: "Адамавіч, гэта не выйсце". Тут мяне аж калатнула: "А што выйсце? Назад? Дадому? Табе гэта, можа, і выйсце, а я на людское пасмешышча ні сябе, ні сваю дачку выстаўляць не збіраюся. Во, ужо ўсё тут — коўдра, падушкі, чамадан з трантамі, не хапае толькі тваіх апартаментаў". Я яго ўеў, але ж і ён мяне такса-

ма, усміхнуўся — здзекліва, з падколачкай: “Ну што ж, шукаць, дык шукаць, аб’яў на слупах многа”. Ах ты, гіцаль, думаю, гэтак ты мяне інфармуеш. “Намёк зразумеў, — кажу, — сёння ўжо, мабыць, позна, а заўтра... куды я дзенуся, пайду ці, можа, пойдзем — разам з дачкою, бо, як відаць, сам ты шукаць не збіраешся, ты ж у нас джэнтльмен”. Маўчыць, не мужчына, а цялё ці прыкідваецца цялём. Але ж як ён збіраецца жыць на свеце? Ужо ж сямейны чалавек!.. Пасядзеў я трохі дый кажу: “Так і парашылі. Глядзіце, там маці перадала вам нешта з яды, а на кухню вас, можа, яшчэ пусцяць, дык абедайце ці, можа, вячэрайце ўжо, а я пайду да знаёмых, і накормяць, і напояць, у іх і пераначую. А заўтра — як дамовіліся”.

Выйшаў на вуліцу дый сам сабе думаю: якія тут у мяне знаёмыя? А што — ёсць! І не абы-якія: Мажэйка, Піпчанка. Толькі дзіва было б каб узяў дый заявіўся да Мажэйкі: “шаршэ ля фам”, Лідка, Лідок, дваццаць гадоў мінула, а не магу забыць, як нядобра я з ёю абышоўся, а яна ж Мажэйкава жонка... А паехаць да Піпчанкі... Наўрад ці ўзрадуецца і ён, бо таксама пакрыўдзіў і яго некалі — пагрэбаваў пайсці да яго на “хаўтурную” работу... Ну дык і добра, гэта ж горад, схаджу ў сталоўку, а пераначаваць можна і ў гасцініцы. Хаця, эх, галава садовая, ехаў — не захапіў пашпарта, не пусцяць у гасцініцу, прыйдзецца начаваць на вакзале.

Такой бяды — перадрамаць адну ноч на калянай лаўцы, не было б большага гора. І тыдзень качаўся б на ёй, толькі б давесці да нейкага толку даччыно жыццё, напытаць бы ім куток, можа, тады і ў джэнтльмена настрой падняўся б, а то як у ваду апушчаны.

Малыя дзеткі, малыя бедкі, а тут яна ўжо дарослая, і трэба ёй са сваім боўдзілам недзе ў гэтым Гомелі прыткнуцца, таму бацька — як той птах: яно ўжо з гнязда вылецела, але трэба яшчэ ля яго завіхацца, чарвяка яму прынесці і ў дзюбку пакласці, ну а тут завіхайся ля яе з іншым клопатам — здабывай ёй прытулак.

Асенні дождж яшчэ як быццам цёплы, і многа людзей на вуліцы, але ўсё роўна такія мы з дачкою адзінокія, пакрыўджаныя Богам, ажно сэрца сціскаецца: ну чаму так — нарадзіўся, вырас чалавек, а яму няўтульна на гэтым свеце. Вось і сам некалі шукаў у горадзе работу — не знайшоў, а цяпер шукаю дачцэ кватэру, а таксама — ці знайду?.. Добра, што хоць у іх так заведзена — вешаюць на слупах аб’явы. Знізу яны парэзаныя на вузкія палёстачкі з нумарамі тэлефонаў, з адной адрываеш палёстачак, з другой, а тады ўжо і звоніш. Звонім з будкі. Я набіраю нумар, а дачка стаіць побач. Заўважаю, у шэрыя вочы ёй запалі-такі зярняткі дарослага клопату — па адной макулінцы, думала, з любым рай і ў будане, а тут трэба во так яшчэ перш вызваніць сабе і свайму мядзведзю нейкае чалавечае жытло.

Набіраю нумар, а сам думаю: нічога, дагукаемся. Хто ні едзе ў горад, спачатку жыве ў чужых людзей. У маіх леснікоў то сын, то дачка паўлазілі ва ўласныя катухі, але колькі ім і грошай, і сала папацягалі бацькі, пакуль ушчаміліся яны у нейкі кааператыў. Дык ёсць, дачка, і ў цябе бацька з маткаю. А тут, у Гомелі, найперш бацька, з ім не прападзеш. Ну во, дазваніліся. Жанчына ветліва тлумачыць, як нам да яе ехаць.

Едзем. Спачатку на аўтобусе, потым два прыпынкі на тралейбусе. Вось яны, новыя панельныя дамы, а вось і наш, ён яшчэ, відаць, толькі засяляецца. Узышлі на трэці паверх, пазванілі ў дзевятую кватэру. Адчыніліся дзверы, і высокая жанчына, з выгляду настаўніца ці якая бухгалтарка, акінула нас з галавы да ног спагадным позіркам. "Праходзьце", — сказала гаспадыня, і мы ўвайшлі ў пярэднюю. Увайшлі, але... можа, хто не паверыць, але яшчэ не ступіў я на парог, а ўжо адчуў, што гэтая жанчына на кватэру нас не возьме. Бо яна і спачувала нам, беспрытульным небаракам, але яе адразу мы нечым і насцярожылі, а чым — пра гэта я здагадаюся не адразу і не тут. А пакуль яна кажа: "Праходзьце, я пакажу вам пакой, сама жыла б, бо і вокны на сонечны бок, але нявыкрутка, дык даруйце, не ўсё ў аб'яве напішаш: мы хацелі б грошы наперад за год..." Яна як быццам і запрашала нас паглядзець пакой, але сама ж і нікуды з пярэдняй не вяла, бо, відаць было, мы ёй не спадабаліся. І я дарма яе запэўніваў: "Гаспадынька, заплоцім і за два гады наперад", дарма, бо яна вінавата зірнула на нас і сказала: "Даруйце, столькі клопату вам, бо гэта ж вы пазванілі, і пакуль ехалі, я пагаварыла па тэлефоне са сваім чалавекам, дык ён і кажа, не будзем мы пакуль што нікога браць".

Еxаў у тралейбусе і тужыўся даўмецца, чаму гэтая жанчына так адразу нас не ўпадабала? Хаця чаму — нас? Яна ж, мабыць, бачыла, што мы — бацька і дачка, але на бацьку шапка з лясной цэшкаю, дык не збіраецца ж ён жыць у яе на кватэры і пільнаваць з горада лес, значыць, яна не захацела ўзяць дачку? Але чаму? Хлусіць, што сазванілася са сваім чалавекам, хоць яе чалавек, можа, тут і прымешаны. Можа, памаўзлівы, а кватарантка вунь якая прыгожая, дык яна і пабаялася — ведама, чаго. Але калі так, дык яна магла і пацікавіцца, ці не замужняя кватарантка, і калі яна з чалавекам, дык чаго ёй, гаспадыні, баяцца? Але нічога не спытала, і цяпер ламай бацька галаву, чым не дагадзіла ёй дачка, бо, не дай Бог, і ў другія дзверы пастукаешся, а табе зноў ад варот паварот.

Па другім адрасе вярнуліся ў цэнтр горада. Такі я баран, толькі цяпер разабраўся: трэба было пачынаць з цэнтра, а мяне вунь куды спачатку занесла — на ўскраіну. Ну ды нічога, абы тут пашанцавала. Недзе блізка гула шырокая галоўная вуліца, а гэта быў нейкі патайны завулак: невысокія цагляныя дамы быццам хаваліся ад

вялікага горада пад раскідзістымі клянамі. Церусіў дождж, сам не надта намакаеш, калі з аўтобуса ды на тралейбус, а з дрэў капае, і па апалым лісці не ідзеш, а шлэпаеш: на роўным асфальце вадзе няма куды дзецца, таму лісце ўбірае яе, набракае, і на яго ступаеш, як на мокрую анучу, — вада цвыркае з-пад падэшвы. Хаця — не лісце было мне ў галаве, ішоў і думаў пра сваё: а раптам зноў няўдача? Але як толькі гэтая, другая гаспадыня адчыніла нам дзверы, я яшчэ раз пашкадаваў: трэба ж было нам валачыся на край горада — надта ветліва і гасцінна сустрэла нас немаладая, з выгляду вясковая жанчына. Відаць, нядаўна жыве ў горадзе — гаворка яе зусім калгасная. "Праходзьце, людцы добрыя, — яна так нам узрадавалася, што гаманіла і гаманіла, не сціхаючы, я нават не змог улучыць моманту, каб павітацца. — Праходзьце, ды не ўздумайце разувацца, ногі вытрыце, а болей хай яны не дураць галавы, гэтыя гарадскія. Я так і кажу ім, дачцэ і ўнуку: дома некалі, як прыйдзе хто ў хату, ці ж во так разуваўся, як у вас? Во смеху было б, каб хто ў валенцах на парог, а ты яму — ану разувайся! Хоць, бывала, зімою, дык і праўда, пасядзіць сусед на лаве, а снег адтане, дык з-пад бахілаў і пацякла рэчка! Але ж высахне, а як трохі і нячыста пасля, дык падлогу, дзякуй Богу, і мыеш, а не толькі мяцеш. А тут рознай трасцы насцелюць, адно спатыкаешся ў гэтых іхніх тэпцях, дык не бярыце ў галаву, ступайце во сюды, у гэтую залу. Сядайце во тут, ля стала; сядай, мужчынка, і ты, дзяўчо маладзенькае, сядай, а я сяду таксама. Во так мы тут і жывём. Тры пакоі. На гэтай канапе хлопец, унук мой, і ўдзень качаецца, і ўначы, мы з дачкою вунь за тымі дзвярамі, а во гэта, бачыце, адчынена, дык там, як не пагрэбуеце, адной дзеўцы акурат, пакойчык невялікі, але надта цёплы зімою. Дальбог, цёпла ў нас. Не тое, што ў хрушчоўках. Паеду да таварышкі ў адведкі, у сына жыве, а ў іх, не паверыце, як зіма, дык і лезе іней у хату. А ў нас — Божа барані. Бо дамкі на гэтай вулічцы не абы-якія, дарма што не вельмі паглядныя, затое сцены, кажуць, у дзве цагліны, дзе ж таму інею прашыцца; і столь, зірніце, якая высокая, і падлога не той ледзяны, як у маёй таварышкі, нінолім, а дошкі — як у нас дома, адно што не жоўценькія, а фарбаваныя. Усё гэта пасля вайны палонныя немцы рабілі — во якія гэта дамкі. Таму ўбачыла я вас дый сама сабе думаю: шукае бацька сваёй дачушцы катушок, дык хай і ёй будзе тут, як і нам, добра. Бо я ж бачу, і сама яна харошая, бо з вёскі — у горадзе, мабыць, не сапсавалася, дык і не распусная. Гарадскія, яны ж усе такія аторвы, а ваша, бач, якая рахманая дзяўчынка".

"Гаспадынька ты мая дарагая, — думаю сам сабе, — няўжо ж ты не чула: у ціхім балоце чэрці водзяцца, харошая мая дзяўчынка, ды трошкі цяжарная. Ды ўжо і не трошкі. Змоўкла б на хвіліну, бо трэба ж мне сказаць: не адна яна ў мяне, а яшчэ і зяць у прыда-

чу”. Але жанчына не сціхала, сыпала і сыпала сваю гамонку — як з меха.

“...Людцы мае добрыя, каб вы толькі ведалі, якія яны тут усе распусныя — што хлопцы, што дзеўкі! П’юць, гвалтуюць, рэжуць адно аднаго. Дык мая дачка і кажа: глядзі ж, як прыйдзе хто па аб’яве, каб не брала абы-каго. Прыглядзься, а тады скажы, хай увечары прыйдзе, я сама зірну — каб не ўпусціць у хату якую гуляшчую, бо апякліся мы ўжо раз. Узялі — кажа, на маляра вучуся, а яна вунь які маляр: пад вечар вусны ды вейкі наквэцае — і на гулі, а там п’е ды курыць, а тады валачэцца, ды ўжо не адна, а з такім жа распуснікам, зачыняцца, дый шалы ў іх там. Ажно сцяну шанпанскім аблілі, дык і цяпер вунь рáгі, як ад памыяў... Божа!.. Хай бы хоць аднаго вадзіла, а то ж сёння аднаго, а заўтра другога, а то і двух разам — ратуйце мяне, людзі добрыя!.. А пусцілі во так пад зіму, а зімою і хацеў бы выгнаць, сучку, ды нельга, бо закон забараняе. Ён забараняе, а яна гуляла, гуляла дый дагулялася — зірнулі, а яна ўжо дзіця носіць. Во як мы папаліся. Добра, што лахудру турнулі з яе вучобы той рамеснай, дык яна і сышла ад нас — куды, адзін Бог ведае, а то было б нам — каб яшчэ і дзіця закугікала, яе і зусім не выкурыў бы. Во якія яны цяпер, пусці ў хату, а пасля хоць сам з яе ўцякай... А вы ўвечары прыходзьце, дачка з работы вернецца, дык я ёй і скажу: харошая дзяўчынка, сарамлівая, можа, паступіла куды, дык бацьку і рупіць, каб у добрых людзей жыла, прыходзьце”.

Яна, дзякуй Богу, змоўкла, і я сказаў: “Прыйдзем, гаспадынька, прыйдзем. Абавязкова прыйдзем”. Гляджу на дачку, а яна вочы патупіла: бач, як яе, сарамлівую, хваляць. І шкада мне яе, і так захацелася адхадзіць папругаю, бо я пачаў здагадвацца, чаму так адразу не спадабаліся мы той, першай гаспадыні. Як быццам і вольна абвісае на дачцэ плашчык, але ад вопытнага вока яе жываток не ўтаіў, а хто ж пусціць у хату напроці зімы цяжарную — каб неўзабаве дзіця “закугікала”?..

Выйшлі на вуліцу, у кішэні ў мяне яшчэ тры нумаркі, але не хачу ўжо ні званіць попусту, ні кудысьці дарма ехаць. Па мокрым кляновым лісці дабрылі да тэлефоннай будкі, і я ўсё-такі набраў нумар, каб потым не дакараць сябе, што заўчасна апусціў рукі. Зноў у трубцы азвалася жанчына — грубым, хрыплым голасам. Ехаць было недалёка, і вось яна ўжо адчыняе нам дзверы, мажная, дваім не абхапіць, кабеціна. Гэтага я і чакаў: яна, як і тая, першая гаспадыня, акінула нас з галавы да ног насцярожаным позіркам; пільней і непрыязней, чым да мяне, прыгледзелася да дачкі, усе яны тут вопытныя, наскрозь цябе бачаць, і цяжарная да іх не патыкайся. Але пакуль яна не рыкнула на нас, я, мабыць, з адчаю кінуўся яе маліць: “Не ганіце нас, паслухайце, калі ласка, хто мы такія.

Гэта мая дачка, замужняя, чалавек яе на рабоце, дык вось я і шукаю ім кватэру. Ну так, яна цяжарная, але раджаць яна будзе ў нас, у сваіх бацькоў, бо хто ж яе тут дагледзіць, а пасля і з малым яна будзе жыць у нас, у Заліп'і. Таму вы не бойцеся, яна, можа, месяцаў пяць і пажыве ў вас, трэба ж ёй тут за сваім чалавекам прыглядзець, бо самі ведаеце, нашаму брату трэба вока ды вока". Я выкладваўся перад гаспадыняю, як толькі мог, каб крануць яе сваёй шчырасцю, але чым больш я стараўся, тым большы выклікаў у яе недавер. Мажная, мардатая, яна глядзела на нас ужо, як на жулікаў, што хацелі яе абдурыць, аблапошыць. "Цяжарных не бяру, — голас у яе быў хрыплы, як з перапою. — Вялікая мне радасць... Цяжарная... Магла б і пацярпець..."

...Брыдзем мокрай вуліцаю, здаецца, у бок праспекта, бо ўперадзе мацнее ягоны гул, і я заўважаю: вунь як высока несла пад парасонам сваю гордую галоўку дачка, а цяпер быццам паніжэла ростам — і галаву прыгнула, і плечы звяла: за адзін дзень прайшла такую навуку, што каб вярнуць усё назад, дык, можа, і праўда пацярпела б. Успомніў, як некалі мой добры сябра Піпчанка сказаў пра такіх маладых ды гарачых: "Яны думаюць, гэта ім жартачкі: "Ну саграшылі мы яшчэ раз...", а таго не ведаюць, што за ўсё ў жыцці трэба плаціць". Але ж... Ну добра, гэта мы, хто колькі, а ўсё ж пажылі на свеце, дык і паспелі саграшыць, а яно яшчэ толькі ў праекце, яшчэ нават на свет не пастукалася, чаму ж і яго ўжо на парог не пускаюць?..

Піпчанка... Чаму я другі раз сёння яго ўспомніў? Можа, пазваніць? Даўно не бачыліся? Ну і што? Няўжо ён ад даўняга сябра нос адверне? У самога паўдома — пакоі чатыры, ды і сувязі ў яго тут; можа, нешта нараіць, а потым — хто-хто, а Піпчанка, напэўна ж, паверыць, што не будзе яна раджаць у чужых людзей, прытуліць, не ў сябе, дык у каго са знаёмых. Пазваню, тэлефон — год майго нараджэння.

Пікі ■ бою, шашкі вон! Набіраю нумар і называю пароль, па якім Піпчанка адразу пазнáе, хто яму звоніць: "Ало, Антон? Ну саграшылі мы з жонкаю яшчэ раз..." Дачка на ўсе вочы дзівіцца на мяне: ляпнуў бацька!.. У трубцы ціха, ціха, а потым: "Ага, палянюк аб'явіўся. Колькі лет, колькі зім. Што, зноў работу прыехаў шукаць?" А я кажу: "Не, Антон, не работу. Але што шукаю — ты ўгадаў. Кватэру шукаю. Бо сам жа кажаш — колькі лет, колькі зім, вырасла дачка, аддаў замуж, чалавек яе тут, у Гомелі, а жыць няма дзе..." — "Кватэру шукаеш? — Чутно, Піпчанка цяжка ўздыхае. — Бач, не паслухаўся колісь, не пайшоў да мяне ў цэх, цяпер не шукаў бы, бо даўно б сваю меў. Эх, вы, палешукі, вам дабра зыч, а ў вас прыхамаці. Але можна было б сустрэцца, разам што-небудзь прыду-

малі б. Словам, праз гадзіну прыходзь на плошчу. Як тады — памятаеш? Паедзем да мяне, пасядзім, пагамонім".

"Хто гэта, тата?" — пытае дачка. "Піпчанка, вялікі чалавек, — адказваю. — Не вешай носа, дачка, Піпчанка нас выручыць, абы толькі мы не былі надта пераборлівыя. Пойдзем, пасядзім у якой забягалаўцы, а праз гадзіну ты сама яго ўбачыш, Піпчанку".

У сталоўцы ўзялі па салаце ды па шклянцы чаю, не наядацца ж, ідучы ў госці. Еў, адпіваў маленькімі глыткамі чай, а сам думаў: правільна папікнуў Піпчанка — "вам дабра зыч, а ў вас прыхамаці". Гэта ён мне пра маё табу: не магу быць лесазводам, таму і не пайду да цябе ў лесанарыхтоўчы цэх. Ну, не хочаш, дык і пільнуйся свайго дурнога табу — будзь лесаводам. Стрымаў слова, што калісь даў Каржу, — не здрадзіў лесу, дваццаць год толькі тое і ведаў, што саджаў, даглядаў, бярог ад пажараў. А што за гэта атрымаў? Казаў калісь Мікалайка: лес адзене і абуе, толькі не будзь у ім разявам, дык, мабыць, я і ёсць разява, бо мяне ён не адзеў і не абуў. Нават хаты сваёй не скідаў, пратурыць Айчанаш з работы, або нават і да пенсіі дацягнеш, вымятайся, скажуць, з казённага жытла, вось тады і будзе табе тваё табу — не магу быць лесазводам. Іншыя плявалі на гэтае табу, дык у іх не тое што хаты, палацы каменныя, дочкі ды сыны на "Волгах" ды на "Масквічах" пруць ад бацькоў то сцягно, то мех бульбы ў свае харомы гарадскія. А ты цягайся во так, шукай сваёй няшчаснай дачцэ прытулку, бо не паслухаўся калісь Піпчанкі, не махнуў рукою на сваё ідыёцкае табу. Дык хай гэта будзе дурню навукаю, сыдземся зноў з Піпчанкам, не стану грэбаваць, што б ні прапанаваў.

Піпчанку я ледзьве пазнаў — зблажэў, небарака. У вачах — як быццам напамін усім нам, грэшным: ад смерці ніхто не ўратуецца, — праўду кажуць, што праца накладвае на чалавека свой адбітак. Мы збольшага абняліся, я нават трохі патармасіў Піпчанку за плечы, думаў, усміхнецца, але не, сур'ёзная гэта справа — "прыгожа пахаваць савецкага чалавека", так некалі казаў пра сваю працу Піпчанка. Я пазнаёміў яго з дачкою, ён змрочна паздароўкаўся з ёю за руку, і мы сталі моўчкі чакаць аўтобуса.

Моўчкі і ехалі да Піпчанкі. Мне здавалася, ён ужо каецца, што запрасіў нас, бо вязе ў госці, а не толькі маёй дачкі, мяне самога быццам не заўважае, — нейкі ён як не на гэтым свеце. Вось і Піпчанкаў прыпынак, а вось і яго прыватны дом. Увайшлі ў двор, ля ганка ляжыць вялікі чорны сабака, Піпчанка патрымаў яго за ланцуг, і мы падняліся на веранду. Піпчанка прапусціў нас у пярэднюю, а потым і ў залу, дзе я ўжо сядзеў калісь з ім за сталом... Той самы стол і тыя ж ля сцяны мяккія крэслы. Піпчанка моўчкі паказаў на іх рукою, а сам выйшаў.

Маркотны Піпчанкаў выгляд і настрой мяне насцярожваў і бянтэжыў: дваццаць гадоў назад, калі я быў у яго першы раз, Піпчанка таксама быў негаваркі і ўнікаў глядзець мне ў вочы, але тады яму было няёмка, бо ён мусіў прапаноўваць мне "хаўтурную" работу. Цяпер жа пра свой крэматорый ён мог зусім не ўпамінаць, і калі мая дачка не ведае, у якой невясёлай канторы ён кіруе, дык яна і не будзе нічога ведаць. Тады чаму ён такі змрочны?.. Пачуў, як Піпчанка ціха перамаўляецца на кухні з жонкаю, з кім жа яшчэ; мабыць, памагае ёй сабраць нешта на стол; але здалося мне, што да жонкі выйшаў ён, каб адцягнуць той час, калі трэба будзе пачынаць гаворку, дзеля якой сам жа і запрасіў нас у госці.

Чарнявая Піпчанкава жонка таксама пастарэла, яе колішні поўны твар прывяў, на ім прыкметныя ўмяцінкі — як на той чарнічцы, што, нікім не сарваная, вяне на каліве пад канец лета. Быў калісь першы раз у Піпчанкі, дык прыглядаўся да яго чарнушкі, прыкідваў, што такою, як яна, гараджанкай магла б быць і мая Зоя. Не выйшла так, як хацелася, з жонкаю, дык няўжо тое самае паўторыцца і з дачкою?.. Памажы, Піпчанка, спадзяюся на цябе, як на Бога!.. Было відаць, што жыве Піпчанка заможна, халадзільнік, мабыць, не пуставаў, бо праз якія хвілін дзесяць гаспадыня заставіла закуссю ўвесь стол: парэзаная наўскось каўбаса, ды не аднаго гатунку, а можа, трох, нават зусім тонкая каўбаска, паляўнічая, так яна завецца, а да яе і чырвоная ікра, а яшчэ і шынка, маленькія, з мезены палец, салёныя гурочкі, усё з магазіна, гарадское, далікатнае. А Піпчанку ўсё-такі нешта непакоіць, бо ягоная жонка нясе з кухні фужэры і чарачкі, а ён ідзе з пляшкаю ўслед і быццам збіраецца з думкамі — як пачаць гаворку, такі ў яго пахмурны, заклапочаны твар.

Жонка паставіла на стол фужэры і чарачкі — па чатыры, але сама не села, толькі запрасіла нас з дачкою — "сядайце, калі ласка", — адступіла да дзвярэй, пачакала, пакуль Піпчанка зірне ў яе бок, дачакалася і ўмольна прамовіла: "Антон!" Піпчанка нецярпліва павёў галавою: "Ты зноў за сваё. Села б ды выпіла з гасцямі. А гаворка будзе такая, якое жыццё. Ад яго нікуды не дзенешся. Як і ад смерці".

Піпчанка адкаркаваў пляшку нейкага дужа марачнага віна — этыкетка была ўся ў незлічоных медалях, а жонка, сваёй перасцярогаю, толькі памагла яму пачаць тую гаворку, да якой яму рана ці позна трэба было неяк падступацца. І я адчуў, што зноў, як і дваццаць гадоў назад, гаворка ў яго будзе пра смерць, пра нейкія яго пахавальныя турботы, адчуў і пашкадаваў, што не прыйшоў да Піпчанкі адзін, без дачкі.

Мы з Піпчанкам чокнуліся і выпілі, а дачка толькі прыгубіла. Піпчанка праніклiва зірнуў на яе і з паразуменнем кіўнуў гала-

вою. “Канечне, канечне, — сказаў Піпчанка, — кватэра вам трэба”. — “Трэба, Антон, вельмі трэба”, — пацвердзіў я. Але відаць было, што мае словы для яго нічога не значаць, ён ведаў усё лепш за мяне. “Кватэра вам трэба, — паўтарыў Піпчанка. — І яна ў мяне ёсць. Але калі вы думаеце, што ў нас з вамі будзе вельмі простая гаворка, дык вы глыбока памыляецеся”. — “Кажы, Антон, кажы, — я бадай што маліў Піпчанку. — Не цягні ката за хвост”. — “Гаворка ў нас будзе філасофская, — нават не зірнуўшы на мяне, працягваў Піпчанка, — і я сумняваюся, ці гатовыя вы да такой размовы. Вунь яна, мая жонка, ужо больш за дваццаць гадоў жыве са мною, а ўсё ніяк не ўцяміць, што рана ці позна ўсе мы памром і што нікуды ад гэтага не дзенешся. Дык вось, слухайце мяне ўважліва. Я не пытаю, хто ён у вас — твой зяць, яе чалавек, бо на гэтым размова можа адразу і скончыцца. Лепш я буду разважаць, а вы прыкідвайце самі, падыходзіць вам тое, што я магу вам прапанаваць, ці не. Дык вось. Ёсць два варыянты, і, я адразу вас папярэджваю, абодва для вас яны будуць нечаканыя. Варыянт першы — кватэру ў мяне можа заняць... алкаголік”.

Паляўнічая каўбаска засела ў маім горле — алкаголік!.. Зірнуў на дачку, яна перастала жаваць, патупіла вочы. Алкаголік!.. Ён што, здзекуецца з нас?.. Хаця адкуль яму ведаць, што мой зяць... ну, не алкаголік, гэта я сам магу абазваць яго і алкаголікам, і алкашом, але калі гэтак назаве яго нехта іншы, гэта чапляе нешта ў цябе ўнутры, ну, выпівае зяць, не без таго, прысмактаўся — гэта праўда, ну дык і што? Кажы далей: як гэта — кватэру можа заняць алкаголік? Няўжо ты, Піпчанка, не жартуеш? Бо калі на тое пайшло, дык, можа, першы раз нам па-сапраўднаму пашанцавала: алкаголік ён у нас, алкаголік! Кажы далей, якая там у цябе яшчэ філасофія?..

“...Бо хто такі алкаголік? — спытаў Піпчанка і сам сабе адказаў: — Гэта беспрынцыповы чалавек, у якога прытуплены ўсе пачуцці, у тым ліку і пачуццё страху, хоць у маім выпадку трэба гаварыць не проста пра страх, а пра той містычны жах, які валодае ўсімі вамі, цвярозымі. Алкаголік жа нічога не баіцца, ён згодзен рабіць усё, што яму загадаеш, абы ўзнагародай яму была чарговая порцыя спіртнога. І калі б я прапанаваў жыллё і зарплату алкашу, якога адусюль выгналі, ён не стаў бы пытаць у мяне, якую работу ён будзе ў мяне выконваць. Але акурат таму алкаголік і падыходзіць мне найменш, бо разам з пачуццём страху алкаголь вытруціў у ім і пачуццё адказнасці за даручаную справу. А справа ў мяне вельмі сур'ёзная”.

“Ну вось так, — падумаў я, — спачатку абнадзеіў, а потым — алкаголік яму не падыходзіць. Піпчанка, ты без нажа мяне рэжаш!”

“...Таму, — працягваў Піпчанка, — сам сабою напрошваецца другі варыянт: патрэбен філосаф”. — “Хто, хто табе патрэбен?”

Мне здалося, я нечага недачуў. "Вось бачыш, — папракнуў Піпчанка, — я казаў, для вас гэта будзе нечаканым. Таму яшчэ раз паўтару: патрэбен філосаф. Ты можаш запярэчыць: "Але ж філосаф — гэта той самы цвярозы чалавек, якога таксама нешта палохае, ну, напрыклад, тыя ж начныя могілкі". На гэта я адкажу: філосаф — чалавек не цвярозы, а звышцвярозы, якраз гэтым ён і пераадольвае свае містычныя прымхі, ён разумее, што не бывае жыцця без смерці, філосаф усё ўспрымае ў непадзельным адзінстве — вечны пакой тых, што ляжаць пад крыжамі і абеліскамі, зорнае неба, бязмежны Сусвет, таму даручаную работу ён будзе выконваць па-філасофску ўсвядомлена, і не страх, а радасць зведае ён, калі адчуе, што давераная яму місія і яго самога яшчэ пры жыцці далучае да вечнасці".

Філосаф!.. Канечне, сам я не вельмі сабе ўяўляю, што такое філасофія, але, здалося мне, хто-хто, а мой зяць — вялікі філосаф. Аднаго разу падышоў да яго ў лесе, а ён нешта квэцае на кардоне, дык я і пытаю: "А чаму ў цябе ўсе дрэвы нейкія круглыя, яны ж не такія?" А ён мне адказвае: "Адамавіч, свет на тым і трымаецца, што ўсё ў ім круглае — і планеты, і арбіты, па якіх яны рухаюцца, гэта тое сусветнае дабро, якое паслана нам Богам, інакш не было б ні жыцця наогул, ні нас, таму я і бачу ўсё круглым — і ўвесь свет, і ваш лес, і дрэвы ў ім". Глупства несусветнае, але што праўда, то праўда — такі ён у мяне філосаф, мой зяць, дык цяпер, за сталом, я і не ўтрываў: "Антон, кажы хутчэй, якая там у цябе, як ты кажаш, місія, бо калі алкаголік табе не падыходзіць, дык мой зяць і філосаф — гэта я табе гарантую!"

"Філосаф — гэта добра, — сказаў Піпчанка. — Давай за гэта і вып'ем. Бо алкаголік — гэта ўжо крайні выпадак. А якая ў мяне работа — слухай уважліва і не перапыняй. Мікраараён падступіў да самых могілак, а яны ж не абы-якія — прэстыжныя, дык вось і ўяві сабе, што сёння іх трэба вартаваць. Можа, чытаў у газеце, нейкія нехрысці знішчаюць помнікі, раскопваюць магілы, словам, акты вандалізму. Раней такога не было і абыходзіліся без варты, а сёння... Дык вось я і дамогся штатнай адзінкі вартаўніка. А цяпер прыкінь сам, праўда мая ці не: алкаш на ўсё гатовы, але таму і ненадзейная гэта варта, што вып'е — і пляваць яму на ўсё святое. Словам, тут патрэбен свядомы чалавек, філосаф, а чаму я казаў пра зорнае неба — вартаваць могілкі трэба ўначы... Ну а што да кватэры... Там, на ўскрайку могілак, ёсць ніштаватая мураванка, пакуль што гаспадарчая, але цяпер, калі побач горад, да яе можна падвесці і святло, і газ, і ваду — за гэта я ручаюся. Горад пойдзе на любыя выдаткі, пра гэта мне сказалі ў самых высокіх інстанцыях. Хаваем адказных партыйных работнікаў, генералаў, а назаўтра прыйдзеш... Во, нядаўна было. Нейкія падонкі адкапалі генерала,

мундзір знялі, а яго ў споднім прысланілі да часовага абеліска. Прыходзяць на трэці дзень родзічы, а ён сядзіць ля пірамідкі і рукою аддае чэсць. Але ж без фуражкі, дык насмяяліся, сволачы, бо хто ж аддае чэсць без галаўнога ўбору? Вандалізм, блюзнерства, вось да чаго мы дакаціліся...”

Божа, куды я прывёў дачку? Такі жах, каб хоць таго дзіцяці, што ў ёй, не збяёдаць. Гляджу на Піпчанку, а ўва мне і крыўда, і нязгода, хачу папікнуць яго нейкай сваёй праўдаю, а якою — сэрцам чую, а выказаць словамі не магу. Ды, можа, і не трэба, я ж у яго ў гасцях? Так, не трэба, але ж... дапяў нарэшце, чым ён мне цяпер не спадабаўся: не той Піпчанка! Колісь у яго быў клопат, каб “прыгожа пахаваць савецкага чалавека”, а цяпер ён вунь пра каго дбае — пра вялікіх начальнікаў ды генералаў. Каб тыя начальнікі да таго як памерці клапаціліся гэтак пра нас жывых!.. Крадком зірнуў на дачку: жуе нешта, а праглынуць не можа, дзіва што — мёртвы генерал у споднім!.. Што ж рабіць?.. Якую прыдумаць прычыну, каб па-добраму развітацца з Піпчанкам?.. Адчуваю, што пачынаю злаваць: “Эх ты, Піпчанка!”, а потым тое, што падумаў, і выдаў яму па-сяброўску: “Дзякуй табе, Антон, і за чарку, і за скварку, разумею, ты шчыра хацеў нам памагчы, але даруй за тое, што я табе скажу. Якім бы вялікім філосафам ні быў мой зяць, не ўгаворвай, не будзе ён вартаваць табе начальніцкія могілкі. Нават калі б ён і згадзіўся, я гэтага яму не дазволіў бы. Колькі паздзекаваўся з мяне стары Айчанаш, а цяпер і ягоны сын здзекуецца, дык мала таго, што яны жывыя пануюць, я ім яшчэ і мёртвым прыслужваць павінен? Не, Антон, я не згодзен. Добрага вам здароўя — і табе, і тваёй мілай жонцы, яшчэ раз за ўсё дзякуй, а нас з дачкою недзе чакае зяць. Бывай, Антон, мы пойдзем, будзем жывыя — не прападзём”.

...Не прападзём, канечне, але трэба вяртацца ў Заліп’е, іншага выйсця я ўжо не бачыў. Пераначавалі яшчэ адну ноч — я на вакзале, а дачка ў свайго мастака, а назаўтра куды ж ёй як не са мною дадому: мастака самога з хаты гоняць. Дык пакінулі мы яму падушкі ды коўдру, перабярэцца некуды — забярэ з сабою, узялі на станцыі білеты, чакаем аўтобуса, а дачка сядзіць на лаўцы і горка плача. Ну а я ж бацька, дык што мне рабіць — угаворваю ды лагодна ўшчуваю: “Паплач, дачушка, паплач, можа, хоць трохі пачнеш розумам жыць, бо толькі сэрцам жыла, а ці ж не чула, як старыя людзі кажуць: не давай сэрцу волі — не зазнаеш нядолі. Паплач, ды не гаруй лішне. Ты ж успомні, як было з тваёй маці. Надта ёй хацелася ў горад, Сава настроіла, але нават да станцыі не даехала — перакулілася машына. А ў цябе і чалавек у горадзе, хоць і нездаляка, а ўсё ж ён у цябе ўжо тут, а яшчэ і падушкі твае, і коўдра тутака, можа ж, ён іх не прап’е, дык і ты рана ці позна да свай-

го мастака прыб'ешся. А што з першага разу асечка выйшла, дык што ж, пажывеш пакуль што ў бацькі з маткаю, народзіш дзіця, а мы заколем кабанчыка, справім табе пальцечка, ты ж не сірата ў нас, у школьным фартушку з хаты не выпхнем. Ну во, паплакала, табе ўжо і лягчэй, цяпер вытры слёзы".

Так я і суцешыў дачку, але ці суцешыў сябе самога?..

## 3. ...А маці ліхая

Можна было залюбавацца, як грацыёзна, у двух пальчыках, адводзіць яна ўбок тонкую і доўгую цыгарэту, як запаволена, трохі наўскось ад сябе, выпускае з падружоўленых вуснаў дым, — калі б раптам пачалася татальная барацьба з курэннем, для такіх інтэлігентных жанчын абавязкова трэба было б зрабіць выключэнне — з эстэтычных меркаванняў. Але наўрад ці хвалявала яе тое, наколькі эфектнаю са сваёй прэстыжнай цыгарэтаю яна мне здасца. Па яе вачах было відаць: усё больш паглыбляючыся ў сваё мінулае, яна ў маім кабінеце не надта мяне, свайго падсуднага, заўважае. Як быццам таксама шэрыя, як і ў яе маці, з ледзь прыкметнай раскосінкаю вочы, і ўсё ж не матчына было ў іх амаль няўлоўнае зеленаватае адценне. І не было ў яе вачах таго ўсмешлівага, светлага матчынага шкадавання, калі, помню, і сам я шкадаваў аб нечым, што даўно мінула і ніколі ўжо не вернецца, і не было ў іх той ціхай жаночай пакоры, таго спрадвечнага прымірэння з лёсам. Калісь маці спавядалася перада мною, каб, як яна сама прызнавалася, выгаварыць свой грэх і супакоіцца, а дачка, бач, якая агрэсіўная — што ёй нейкі там лёс, яна нечым ці некім пакрыўджаная і таму шукае вінаватых, дык якраз у маім службовым кабінеце яна адразу і знайшла... сякеру пад лавай, і цяпер яна будзе судзіць мяне, а разам са мною і яшчэ кагосьці. Я мог бы далікатна абмовіцца, маўляў, даруйце, у мяне важныя справы, але мяне і самога ўжо зацікавіла, чым, дзе і калі я ёй не дагадзіў, таму каторы ўжо раз я толькі ветліва кіўнуў галавою — расказвайце, мадам, я вас уважліва слухаю.

"Гэта быў чорны для маіх бацькоў дзень — першага верасня. Дый для мяне таксама. Сяброўкі мае бягуць у дзевяты клас, а пра мяне з'едлівыя шэпты паўзуць па Заліп'і, бо гэтага нельга ўжо ўтаіць, і хоць з Мохам мы даўно запісаныя, я ўсё роўна баюся паказацца на вуліцу — гэта ж такая слава бацьку і маці: дачка ў шаснаццаць гадоў чэрава нагуляла. Стаю ля акна, жыватом да падаконніка прытулілася, а паўз акно — Светка. Ах, як жа помсліва кінула яна вочкамі-зярняткамі ў мой бок: ага, дагулялася,

прыгажуня!.. Недзе ў школе будуць хіхікаць, костачкі мае перамываць, бо Светка ўсё там расказала, а чаго не бачыла ці не чула — прыбрэша; сама нікому не трэба, дык зелянее ад зайздрасці.

Нікому не трэба!.. Цяпер успомню, дык, о Божа, такія гвае дзівосы: паехала Светка пасля дзесяці класаў у Гомель, а там вочкі свае маленькія чорнай тушшу абвяла — страхоцце, свет такога не бачыў, ды прывезла чалавека — усе ў Заліп'і зіхнулі: і прыгожы, і рабацяшчы, і гарэлкі ў рот не бярэ. І не яна яго прывезла, а ён яе — на "Масквічы". А тады прыедуць капаць матчыну бульбу, дык ён, чалавек Светчын, поўзае на карачках, а Светка ідзе следам па баразне ды пальцам торкае — а во бульбіну прапусціў, а во яшчэ. А паедуць, дык цешча ўслед і лантругам зяця абзаве, бо ён жа дроў ёй не насек... Шанцуе ж такім Светкам, і бацькам іхнім шанцуе, гэткага б зяця ды маім бацьку і маці, а то ж...

І так бацька ўбіваўся — горшага зяця не прыдумаеш, а з'ездзілі мы з ім у Гомель... У Моха там была Тонкая Дзяўчынка... Бацька пайшоў начаваць да знаёмых, а мы сядзім на ложку, Мох рукі сабе на калені паклаў і не ведае, што са мною рабіць, дык Тонкая Дзяўчынка і выручыла яго — пастукалася і з вінаватаю ўсмешкаю зазірнула ў дзверы: "Уладзімір Мацвеевіч, я пастаўлю вам чай, добра?" Чула, як ён ціха гаманіў з ёю на кухні — разам яны рыхтавалі мне пачастунак, я ж была іхняю госцяй, і ўжо тады першая рэўнасць варухнулася ўва мне, а цяпер, калі я стаю ля акна, як уявіла іх разам, ад рэўнасці аж паціху заскуголіла. Але няўжо ж, думаю, яны там нічога не ведаюць — ні сама Тонкая Дзяўчынка, ні яе строгая маці, няўжо яны ніколі не бачылі яго п'янага?.. Пасля, праз многа гадоў, я ўрэшце разгадала гэтую загадку. П'юць па-рознаму. Адны з Бахусам неразлучныя сябры, хаця Бахус — гэта пырскі шампанскага, звон келіхаў, а калі гарэлка, сівуха ды яшчэ пляшка з газетным заткалам — тут ужо зялёны змей, а не Бахус, дык вось, у аднаго з зялёным змеем брудэршафт кожны дзень, затое з другім ён забаўляецца, як кот з мышшу, — возьме ды на нейкі час і выпусціць пітка са сваіх абдымкаў. Але як толькі ў крыві ў яго не застанецца ні кроплі алкагольнай атруты, неадольная сіла пацягне яго зноў да пляшкі. Гэта запойныя алкаголікі, і цяпер я ведаю, што ім быў і Мох. І толькі цяпер я магу сабе растлумачыць, чаму ён быў такі мітуслівы, чаму яго так кідала — з горада ў лес, з лесу ў горад — і чаму ўрэшце Тонкая Дзяўчынка і яе маці маглі не ведаць, што ў яго запоі. Калі яму "падступала", ён спяшаўся ў лес на эцюды, а якія яны ў яго былі — такія, як у Савіной хаце, куды я цягала яму бацькаву гарэлку.

І зноў Светка бяжыць паўз акно — у школу... А тады чую, на кухні сварацца маці з бацькам — напаўголасу, але нервова, зацята. Асабліва здзівіла мяне маці: яна і раней не ўсё прымала ў бацьку,

але ніколі не ішла яму насуперак, а тут яна не толькі не пагаджаецца з ім, а сама наступае: "Пагасцяваў у зяця? Пастаяў, як старац, на парозе? З начальнікамі гыркацца, дык там ты горды, а тут дзе ён толькі і падзеўся, твой гонар! Не трэба яму наша дачка, дык і ён нам патрэбен, як сабаку пятая нага". — "Нам ён, можа, і не трэба, — пярэчыць бацька, — але не пра нас гаворка, а пра дачку. Скажы каму, падушкі адвёз, а сама яна тут, — смяяцца будзе". А маці аж кіпіць: "Да каго ты яе гоніш? Едзе, дык хоць бы цукерку жонцы прывёз". А бацька: "А яшчэ і цешчы. Дзіця народзіцца, яму і вазіць будзе". А маці: "Навязе! І дзіця народзіцца — тое ж будзе!"

Бацькаў клопат я ведаю: хоць і няўдалы зяць, ды калі б дачка як след за яго ўзялася, нешта путнае з яго выйшла б. А чаму так ваяўніча выступае супраць бацькавых планаў маці, не магу ўзяць у толк, няўжо лепш, каб у цяжарнай дачкі не было ніякага чалавека? Хоць і так ён заявіцца гады ў рады, кожнае ночы мая падушка мокрая ад слёз... Тонкая Дзяўчынка!.. Божа мой, звар'яцець можна!.. А тут маці падыходзіць, руку мякенька на плячо кладзе дый суцяшае: "Не журыся, доча, не зводзь сябе дый свайго дзіцяці, каб здаровенькае радзілася, а тады знойдзеш сабе ў сто разоў лепшага. Не ты першая апяклася".

Цяпер, калі я прачытала вашу кнігу, магу пацвердзіць: праўдзівая, шчырая, мая маці магла быць іншы раз і сабе наўме. Але тады я пакуль што гэтага не ведала, а каб у галаве ў яе нарадзіўся нейкі дзёрзкі план, употай ад бацькі і яму насуперак, такога я і ўявіць сабе не магла. Моха ў адстаўку, бо ў яе ўжо ёсць яму замена! Усміхнулася з матчыных слоў: "Знойдзеш у сто разоў лепшага" і падумала: суцяшае, як усе жаллівыя маткі суцяшаюць няшчасных дачок. Не чакала я, што мая рахманая маці паспрабуе перахапіць у бацькі лейцы, каб далей маім лёсам не ён кіраваў, а яна, дык і не спытала, якую маю долю яна, як тая варожка, бачыла ўперадзе.

...Стаю ля акна, а за ім ужо і першыя сняжынкі закружыліся, прыйшла зіма, і мне ўсё часцей згадваюцца матчыны словы: "Дзіця народзіцца — тое ж будзе". Дык і праўда, народзіцца яно, а што потым? І ёсць бацька, і няма. Быццам і робіць нешта, малюе, але ж калі мой бацька памочнік ляснічага, дык яму за гэта грошы плоцяць, а то ж не разабраць, зарабляе ён іх ці не, прыедзе, дык быццам той дармаед, тунеядзец — недзе ловяць іх ды судзяць, радыё вушы прагуло. Так розумам я быццам і схіляюся да маці, але сэрцам усё роўна, як яна ні ўгаворвае мяне, кахаю без памяці Моха і не магу яго дачакацца...

А ён і прыехаў — гэты раз пад Новы год. Але не звінелі ў нас келіхі пад бой Крамлёўскіх курантаў. Павячэралі, як звычайна, на кухні, а ў зале адно глядзелі навагодні "Агеньчык". Спявала Зыкіна, хахміў нейкі гумарыст, і да бацькі як быццам даходзіў ягоны

гумар, бо раз-пораз чулася: "Во дае, во дае!", але і бацька ні разу не ўсміхнуўся, а мы ўсе тым больш. Чакала — падасць голас Мох, прыдумае што-небудзь, каб хоць трохі падвесяліць ды абнадзеіць маці з бацькам, але ён толькі прыабдымаў мяне адной рукою за плечы, а другою задуменна церабіў сваю кучаравую бародку.

А ў сакавіку, на трэці дзень вясны, нарадзіўся Валік.

Толькі цяпер, больш ад яго, майго Валіка, чым ад вясновага сонца, пасвятлела ў хаце, і нарэшце пасвятлелі тварамі маці з бацькам. Помню, мы з маці купаем хлопчыка ў начоўках, а бацька ўсцешна пазірае зводдаль. А тады і ўсхадзіўся: справім хрэсьбіны — каб хата гула ад гасцей, пасадзім зяця побач з дачкою — як на вяселлі, хай усе бачаць, што ў майго ўнука ёсць не толькі маці!..

Каб сталася па-ягонаму, мне было б лепш: усе ўбачылі б мяне з дзіцём і ўсіх убачыла б я, адзін раз перасаромелася б, а тады смела выйшла б з малым і на вуліцу. Ды маці бацькаў намер сустрэла ў штыкі. Чаму? Ні бацька, ні я не здагадваліся — яна адцірала ад мяне Моха, бо на ягонае месца ў яе была ўжо свая (шчаўчок пальцамі!) кандыдатура.

Не згулялі хрэсьбін. Таму — як баялася выйсці на вуліцу цяжарная, так і з дзіцём саромелася паказацца на людзі. Але "баялася", "саромелася" — не тыя словы. Гэта быў мой панічны страх. Сёння часта пішуць пра стрэсы ды неўрозы, і ад некага часам чую: "А, глупства". Тады я такому разумнаму толькі пажадаю: не зведаў бы ты ніколі таго, што зведала я той вясною. Бо праўда ж гэта было штосьці (шчаўчок пальцамі!) клінічнае. Ужо добра пацяплела, дык у двор хлопчыка вынесу, а каб выйсці з ім на вуліцу — нават страшна зірнуць на брамку. Маці кажа: дурненькая, ну і што, як будуць твае дзеўкі ісці са школы, ім жа гэта цікава, яны пішчаць будуць ад радасці, як цябе з маленькім убачаць. Дык я быццам ужо і асмелюся, і вось я ўжо набліжаюся да брамкі, але крокі за два ад яе спыняюся, і далей ніякая сіла не пасунула б мяне нават на сантыметр — за нейкую нябачную магічную рысу.

Настала лета, а я так і не выйшла ні разу з дзіцём за брамку — такая неадольная была мая боязь. Не на вуліцу, а на гарод выйду ды там і гуляю з Валікам. Вечарам бацька вернецца з лесу, дык маці паціху яму і жаліцца: хоць ты шаптуху прывядзі, бо дачку няйнакш нехта сурочыў.

Гаравала маці, але і клапацілася пра мяне, а лепей сказаць — пра мой лёс. Даўно, мабыць, у яе выспеў план, як ратаваць дачку ад згубнага замужжа, але спачатку дзеля гэтага ёй трэба было неяк выпхнуць мяне з дзіцём за брамку і яшчэ далей. А як гэта зрабіць, яна доўга не магла даўмецца. Ды ўрэшце прыдумала, і было ўжо гэта ў канцы жніўня, Валіку не хапала тыдня да паўгода. Прыдумала і пачала дзейнічаць.

Чую, маці кажа бацьку: была ў Грабянцах і напытала там дзіцячую каляску, дык у суботу каб па яе адскочыў. Ну так, у Грабянцах у адной бухгалтаркі падрос хлопчык, і яму ўжо не трэба была ягоная каляска, дык бацька яе і прывёз. А яна маленькая такая ды файная калясачка, тая, у каторай дзіця ўжо сядзіць, а то можна спінку адкінуць, дык яно і паляжаць дагары можа. Прывёз бацька, а тады саджае ў каляску Валіка — не нарадуецца: "Ай, важкі хлопчык, важкі", пасадзіў і раменьчык зашпіліў спераду. Важу я Валіка па двары, а бацька нічога мне больш не кажа, як быццам толькі ў двары і можна катаць малога. Назаўтра ён сабраўся з раніцы і падаўся ў свой лес, вось тады я і падумала, што нездарма падгаварыла яго маці купіць гэтую каляску, бо цяпер ужо яна ладкуе ў ёй Валіка і здалёк пачынае: "Паслухай мяне, доча, што я табе скажу. Колісь, як была ты маленькая, ніхто пра такія каляскі і не чуў нават, дык я і на руках цябе знаеш куды насіла? А во туды за кантору, на луг. А на ім жа краскі цвітуць ды матылькі ўсякія лётаюць, дык у цябе, бывала, аж вочкі разбягаюцца. А табе ж латва цяпер з гэтаю каляскаю, давай, доча мая, выкацім за брамку, а далей колькі той вуліцы, адна хата ды за ёю кантора, хто цябе тут цікаваць будзе, а як хто і ўбачыць, дык каго нам баяцца? Ці ж мы ўкралі ў каго што ці каго забілі? У нас во якое дзіцятка харошае — ганарыцца ім трэба, а не хавацца".

Такая была матчына хітрасць: не шаптуха паможа збавіцца ад страху, дык каляска. І — дзіва дзіўнае! — каляска памагла мне адолець мой панічны страх. Бо, вы памятаеце, я не магла пераступіць нейкую нябачную рысу перад брамкаю, а тут першымі яе пераехалі маленькія колцы, дык і я — за імі; яшчэ трохі ўпінаюся, але маці лёгенька падштурхоўвае мяне ў плячо, яшчэ страшна, але я ўжо на вуліцы, на вуліцы!.. Качу каляску, маці побач, а мне хочацца вочы заплюшчыць, каб не ўбачыць таго, хто мяне мог убачыць. Ды вось мы ўжо і за канторай, вось мы ўжо і ў той цёмнай дуброўцы...

Ушыркі той дуброўкі і ста метраў няма, дык мы ўжо і выкацілі калясачку з Валікам на луг, а там хоць і няма вясновых кветак, другая трава ўжо, атава, але ўсё роўна так хораша, так прывольна! Маці пастаяла трохі са мною дый кажа: "Ну во, бач, благога я табе не нараю. Глядзі, доча, па траве яе не надта пакоціш, бо колцы маленькія, дык ты паўз самы лес — во, зірні, які тут цупкі дол, акурат дарожка, бо цянёк, дык і трава рэдзенькая. Так і да самых Грабянцоў, да моста дакоціш. Гуляйце, дзеці, а як назад захочаш, дык, можа, і без мяне ўжо вернешся, чаго табе і каго баяцца. Пайшла я, доча, бо трэба ж мне ў Грабянцы, у краму, збегаць.

Так мы і засталіся з Валікам на лузе... Сонейка свеціць, цёплы ветрык павявае... Пракаціла я трохі каляску паўз лес, звярнула на

луг і разаслала посцілку — узяць яе таксама нараіла маці. Валік ужо добра сядзеў, але яшчэ не поўзаў, дык я пасадзіла яго на посцілку ды й цешуся ім, любуюся. І — як жа я спалохалася: конік, вялізны ды зялёны, на посцілку — цоп! Валік вочкі на яго талопіць — доўга-доўга, а потым бачу, ён і ручкай да яго цягнецца, злавіць хоча. А ручка яшчэ кволая, няжвавая, дык дзе ж ён яго зловіць; толькі сагнаў коніка з посцілкі. Не, з конікам яму яшчэ не ўправіцца, але вунь якія цікавыя паўзуць жучкі — зялёныя, чорныя, рудыя, гэткага ён ужо зловіць. Ну, тут я ўжо напагатове: зловіць ды ў рот. Дзівіцеся, людзі, ён і праўда злавіў! Бо як толькі дакрануўся да жучка пальчыкам, той брык дагары — і прытварыўся мёртвым. Дык дзе ж ён яго ўжо не возьме ў пальчыкі, хоць яны ў яго яшчэ і непаслухмяныя. Не, у рот не панёс, доўга разглядаў жучка, а потым выпусціў і пацягнуўся ручкаю да другога, цікавейшага.

Так я ў той дзень і разведала дарогу на луг. Назад ужо каціла каляску смялей, адно апусціла вочы, як стрэла нейкага мужчыну, што выйшаў з бацькавай канторы. Дома дачакалася маці і трохі здзівілася, калі яна ледзь не з парога пачала распытваць мяне, ці добра было каціць паўз лес каляску і ці далёка пабывала я з Валікам. Я расказала, як лавіў Валік жучкоў, думала, маці расчуліцца, а яе, наадварот, нешта засмуціла. Ага, вунь што, ці не падумала яна, што далей паўз лес не пакаціла я каляску таму, што пабаялася там некага сустрэць? Маці надта пранікліва зазірнула мне ў вочы і ўсё роўна як загадала: "Глядзі ж, каб заўтра пабывала ля самай той дарожкі, што на Мелкі брод вядзе, помніш — з дуброўкі выскоквае?"

Перажывала за мяне маці, хвалявалася. Дык я і памелася ёй: добра, заўтра павязу я Валіка да самага Мелкага броду, звернем па дарожцы да рэчкі, і хай Валік падзівіцца на ваду, ён жа яе яшчэ ніколі не бачыў і не чуў, як яна ля берага ціхенька булькоча. Возьмем з сабою хлеба, дык, можа, і рыбак маленькіх ля берага пакормім — вось будзе хлопчыку радасць!.. Бачу, у маці адлягло ад сэрца. "Даўно б так, дачушка, — кажа яна, — едзьце — да самага Мелкага броду".

Дык вось назаўтра і прыадкрылася мне адным крайком матчына таямніца, яе хітрая задума.

Качу каляску паўз лес, паўз саменькі цёмны яго край, а яна злёгку хітнецца, дык Валік і ўскіне перад сабою ручкамі — як быццам ловіць імі свежы, лагодны ветрык... І раптам... што ж гэта?.. Яшчэ далёка да той патайной дарожкі, а па ёй з лесу выйшаў, трохі пастаяў і рушыў далей, да Мелкага броду, нейкі мужчына — у белай, з закасанымі рукавамі кашулі, ды не мужчына, а малады хлопец — тонкі ж і стройны. Не помніла, як разам з каляскаю крутанулася,

павярнулася да яго спіною, — даруй, Валік, што калоціць калясачку, патрывай трошкі! Смутная здагадка гнала мяне дадому: маці, родная маці, а якая са мною няшчырая!..

Валіка я пакінула ў двары, хай памахае ручкамі на курэй, а сама ўбегла ў хату. Маці гатавала на кухні, бач, якая яна ў нас увішная: мала таго, што боршч варыць, — прыйдзе ж бацька з лесу, яшчэ і ў галаве ў яе вунь які план патаемны!.. Задыханая, узрушаная, зазірнула ёй, здаецца, у самую душу: "Мама, скажы, толькі чыстую праўду, да каго ты хадзіла ўчора ў Грабянцы, з кім і пра што гаварыла?"

Стогн палёгкі вырваўся ў яе з грудзей, і яе шэрыя вочы, перад тым жахліва расплюшчаныя, ужо толькі дакараюць мяне і ўшчуваюць: "Божа, як жа ты мяне напалохала, мая ты дачушка! Ну куды ж я хадзіла, як не ў краму? Хлеба купіла, цукру. А каго я там бачыла, з кім гаварыла? Ды ці мала з кім перакінулася словам. Чаму ты так пытаеш, дачушка? Можа, думаеш, пра цябе якая гамонка была, ды яшчэ і нядобрая? Дык во, перахрышчуся, ані слоўка..."

Яна адно так сказала — перахрышчуся, а сама толькі памкнулася, толькі пальцы склала, каб перахрысціцца, а грэх на душу ўзяць пабаялася. Пабаялася, гэта не ўтаілася ад мяне, дык я мігам і скеміла, як я зараз яе падлаўлю. Зрабіла выгляд, што дарма я нечага ўстурбавалася, а сама думаю: вось зараз я скажу табе нешта, а тады і пабачым, ці не пабяжыш ты і заўтра з раніцы ў Грабянцы, калі толькі не сёння. І як быццам вінюся перад ёю: "Даруй, мама, не дайшла я сёння да той тваёй дарожкі, нешта Валік закапрызіў, але заўтра мы абавязкова там пабываем, пакормім ля Мелкага броду рыбак".

Бачу, захвалявалася маці — хапілася за гарачую накрыўку, дзьме на пальцы. А потым абедаем, кормім Валіка, цешымся, як пляскае ён далонькамі па стале, а я заўважаю: рупіць нешта маці, рупіць. Ды ўрэшце яна і кажа: "Вось табе і збегала ў краму. Галава ўжо дзіравая, як у старой бабы, хацела яшчэ і мукі купіць, але толькі цяпер во і агледзелася — не купіла. Дык вы ўжо адны пагуляйце тут, а я туды і назад — сонца яшчэ вунь як высока".

Прыспала той ноччу Валіка, а сама толькі заплюшчыла вочы — сон не браў. Ляжала і думала — пра каго ж як не пра Моха. Ды ўжо не толькі пра яго. Пастаралася маці — і адзін раз у Грабянцы збегала, і другі, дык, мабыць, думала я і пра таго хлопца, якога на лузе толькі і ўбачыла здалёк, яго я, канечне ж, пазнала... Напэўна, і бацька дамогся-такі свайго: пачала жыць розумам, бо ўжо дакарала Моха — за тое, што цураўся ён мяне, горка згадвала, якімі адчужанымі вачамі ён усё часцей на мяне пазірае, а яшчэ і гэтая мітуслівасць, калі раптам загарыцца яму на аўтобус, не трэба тады яму ніякая жонка, а што трэба — праўду кажа маці — горкі п'яніца. І найшло

ж на мяне гэткае зацьменне — там, ля кучаравага сасонніку, калі першы раз убачыла яго зблізку: Богам здаўся!.. Пакахала без памяці, а ён са мною толькі бавіць час, бо даўно кахае сваю Тонкую Дзяўчынку. Дык і пойдзем мы заўтра з Валікам да Мелкага броду, а з'явіцца мой школьны хлопец, хоць пагляджу, які ён цяпер, ці змяніўся хоць трохі...

Так, нездарма бегала ў Грабянцы маці: падбіраемся мы назаўтра з Валікам да той глухой дарожкі, а ён і выходзіць з густой дуброўкі, мой школьны Рамэо. Акуратная, закругленая спераду прычоска, сінія вочы, у меру кірпаты нос — сімпатычны хлопец. Студэнт, скончыў першы курс, ды не якога-небудзь, а ляснога інстытута, таму не дзіва, што і цяпер, на канікулах, ён прагульваецца па лесе. Але з выгляду ён гарадскі, упэўнены ў сабе кавалер — гэта ў ім новае, а знаёмае — ці не тая самая спачувальная кіслінка на вуснах? Згадала: гэтак жа кісленька ён усміхнуўся мне, калі апошні раз я развітвалася з ім ля кучаравага сасонніку, а міма прайшоў Мох. Тады мне здалося — мой Рамэо на развітанне пашкадаваў мяне, тое ж і цяпер — ён спагадна мне ўсміхаецца, ён мне спачувае... Я ніяк яму не адказала, развярнула каляску і пакаціла павольна паўз лес. Ён дагнаў мяне і пайшоў побач. Мы ішлі моўчкі, так бывае, калі двое аб усім перагаварылі і ўсё дарэшты адно пра аднаго ведаюць, а тут я ні слова яму не сказала, але ж, глядзі ты, я ў яго з усім маім жыццём як на далоні. Бо ён нарэшце кажа: "Я ўсё пра цябе ведаю і ўсё табе дарую. Разводзься, а я вазьму цябе, год яшчэ павучуся і перайду на завочнае аддзяленне. Тут, у Заліп'і, мяне прымуць тэхнікам, Айчанаш абяцаў, а жыць будзем у мяне ў Грабянцах, бо ў хаце толькі маці. Хлопчыка я буду любіць, як свайго, хоць твая маці і сказала, што яны нікому яго не аддадуць, будуць гадаваць самі".

Слухаю і вушам сваім не веру: я перад ім вінаватая, бо ён мне штосьці даруе, калі я стану яго жонкаю!.. А якая ж мая перад ім віна? Што не яго пакахала, а другога?.. Вунь колькі на свеце такіх, як ён, дык я перад кожным вінаватая? Божа мой, якім быў калісь нялюбым, такі нялюбы ён мне і цяпер!.. Сказала бадай што злосна: "Пагаварылі, і досыць. Далей я пайду адна".

Ён пачаў адставаць, а потым і зусім, мабыць, спыніўся. Пачула за спіною: "Я буду прыходзіць сюды кожны дзень".

На былога кавалера злавала, а яшчэ больш на маці: нездарма ў песні пяецца — бацька добры, а маці ліхая... Убегла з Валікам на руках у хату, на хаду з яго паўзункі мокрыя сцягваю, а сама не магу стрымаць сябе, каб не адчытаць сваю ўслужлівую маці: "Як табе не сорамна лётаць у Грабянцы, дачку яшчэ не развяла, а ўжо аддаеш за другога! Не падабаецца табе Мох, дык і не табе з ім жыць. Бацька і той лепш дачку разумее, а ён жа мужчына!"

Мяняю Валіку паўзункі, а ў самой дрыжаць рукі, ды суняла-такі, утаймавала хваляванне, а тады і маці ўвайшла да мяне ў спальню. Села на ложак, трохі памаўчала, а потым і кажа:

"Паслухай мяне, дачка, а тады сама і рашай. Не думай, што бацьку надта любы твой Мох. Проста ён і сам не ведае, якога шчасця табе шукае. Так ён некалі шукаў яго мне — там жа, у Гомелі. А я пражыла век у Заліп'і, дык няўжо такая я ўжо няшчасная? Адно што гэтае тарфяное ўдушша, дык не кожны ж дзень торф гарыць, а вецер таксама паносіць-паносіць тарфяны пыл дый перастане. Ніхто не ведае, дзе яно і якое яно, наша сапраўднае шчасце, а жыць жа на свеце неяк трэба. Дык я і падумала: што ж гэта ў цябе за жыццё, што гэта за чалавек у цябе такі! У яго ж і жонка, і дзіця, а ён едзе да іх без капейкі ў кішэні. Казаў бацька, дзіця народзіцца, дык тады ён і навязе яму цукерак. Навёз, аж усім соладка стала. Жыць на свеце, дык трэба есці і піць, а яшчэ і дах мець над галавою. А тады і кахаць люба. А каго — твая праўда, не мне рашаць, але ж ці не сама ты з гэтым хлопцам хадзіла, бачылі ж людзі, як ён цябе са школы праводзіў. І не думай, што я такая нягордая — не набівалася табою, не прыніжалася. Першая ягоная маці пачала. Вучыліся некалі разам у школе, ды, небарака, як і я, нікуды не паступіла, доіць кароў у калгасе — доля ў яе такая, а жанчына спагадная, ціхая, як свякрухі, дык лепшай і не прыдумаць. Вось яна мне і кажа: "Зоя, сохне сын мой па тваёй дачушцы, усе сцены яе картачкамі абвешаў, нікога, кажа, болей не палюблю, а што мне з ім рабіць, сама не прыдумаю". Дык я і падказала ёй, дзе яе сын мог бы з табою сысціся. А ты, бач, якая. Не, доча, не думай, што маці благая, а як бацька дык і глядзеў бы на твайго Моха, не нагледзеўся. Ён толькі цярпіць яго — і п'яніцу, і недалугу, а яшчэ каб ты толькі пачула, як аднаго разу ён мацюкаўся, такое брыдкае ягонае маляванне выграб качаргою з-пад вашага ложка..."

Праняла мяне маці сваёй праўдаю: церпіць бацька і Моха, і мяне. Я і раней гэта ведала, але толькі цяпер да мяне дайшло, як нялёгка даецца бацьку тое, што ён "добры". Церпіць, таму і не "ліхі". Толькі адзін раз і адвёў душу — разбушаваўся, лаяў Моха апошнімі словамі — маці дарма думае, што я нічога не бачыла і не чула.

Было гэта на пачатку лета, у Светкі канікулы, і яна ўжо не бегала ў школу паўз маё акно. Затое яе маці лётала штодня ў Грабянцы — у магазін, а я ўжо брала Валіка на рукі і стаяла з ім ля акна, дый часта ля адчыненага, дык аднаго разу і стала сведкаю, як ля нашай брамкі яна і падлавіла бацьку, змяя падкалодная. Бо як жа яна ўджаліла: "Во так, Іванка, такія яны, гіцлі прыблудныя. Мая лярва таксама пішчом лезла да яго ў Савіну хату — каб намаляваў, дык я дубцом яе так размалявала! А ты ж, ведама, далей жывеш,

дык і не ўпільнаваў, а яшчэ ў тваёй, мабыць, і юру болей — бач, як ён намаляваў яе, Іванка ты мой любы!..” Нічога бацька не адказаў, толькі панурыў галаву і так, моўчкі, з хвіліну чакаў, пакуль яна пойдзе сваёй дарогаю.

Канечне, да бацькі дайшло, які сэнс укладвала ведзьма ў свае словы — “ён яе намаляваў”, — ад “гіцля” дачка дзіця нагуляла! Але цяпер, калі я пажыла ўжо на свеце і падкавала сябе такімі-сякімі тэорыямі, мне здаецца, што злая жанчына развярэдзіла ў бацьку і ягоны, як цяпер кажуць (шчаўчок пальцамі!), комплекс: ён хваравіта, актыўна не прымаў Мохавага “малявання”. Мох быў для яго “художнікам” ад слова “худа”, дык, канечне ж, праз каго яшчэ як не праз такога “художніка” дачка з малым пазірае цяпер на вуліцу з акна, як з карціны! І таму такі ўзрушаны ён ўвайшоў у хату: стоячы ля акна, я адчула гэта спіною. Калі доўга не было Моха, бацька мяне суцяшаў, ну, злёгку ўшчуваў, а цяпер я павярнулася да яго тварам і зніякавела: на мяне непрыязна, абурана зірнуў быццам не мой бацька, ажно Валік адчуў гэта і заплакаў. А бацька ўжо не дакарае мяне, а можа, бэсціць — невядома, каго больш, мяне ці Моха. “Бач, як ён намаляваў цябе, мастак, растуды яго так!” І ўжо не зводзіць з мяне суровага позірку, як быццам мая віна была не ў тым, што ягоны зяць — алкаголік, а ў тым, што ён мастак.

Але гэта было яшчэ адносна ціхае бацькава абурэнне. Аднаго ж разу ён разбушаваўся ўжо не на жарт — цяпер, праз многа гадоў, я іншы раз пытаю сябе, а ці не прыснілася, ці не памроілася мне тая дзікая сцэна, што разыгралася ў мяне на вачах. Зрэшты, “у мяне на вачах” — недакладна, бо падглядвала я адным вокам.

Таго разу вярнулася я з Валікам з агарода (на вуліцу яшчэ не паказвалася), а на дыванку ў спальні лахмаценькі пыл; адкуль ён, думаю, узяўся? Падмяла венікам, укладваю Валіка спаць і раптам — за перагародкаю ў зале чую бацькаў голас, ды сярдзіты, злосны: “Мастак, растуды яго так! Падзівіся, цешча, што ён тут наквэцаў!” Прыслухалася, а потым... Ніколі не падглядвала ў шчылінку, а тут і сорамна, а прысела наўколенцы, краёк шпалерыны трохі адвярнула, а пад ёй у дошцы адзін сучок выпаў, дык і не шчылінка там была, а дзірачка — вокам прыпала дый падглядваю, усё бачу і чую.

Пад ложкам у нас валяліся дзве Мохавы карціны — адзін цупкі скрутак, дык бацька, пакуль нас з Валікам не было дома, выграб яго з-пад ложка і прынёс у залу. Адна карціна яго, мабыць, не зацікавіла, адклаў яе ўбок, важдаецца з другой. Прыладжвае на канапе — да яе спінкі і вышэй — да сцяны, карціна не хоча выпроствацца, зноў скручваецца, тады бацька груба скручвае яе наадва-

рот, “маляваннем” усярэдзіну, прыладжвае на канапе зноў — нарэшце ад яе можна адступіць і як след разгледзець...

У гэтым месцы я павінна вас папярэдзіць: я не хацела б услед за бацькам паўтараць аднаго яго нецэнзурнага слова, але не магу не паўтарыць, інакш уся сцэна паблякне, таму, даруйце, буду дакладнай. Зноў ён гукае маці: “Зоя, ідзі палюбуйся, гэта ж ён так нашу дачку намаляваў!” — “Божачкі, якая распуста! — жахнулася маці. — Іванка, кінь ты яе туды, дзе яна ляжала, хай яны малююць самі сябе, як хочуць, цяпер свет такі, ты ж сам кажаш — усё ідзе на пагібель”. Ну тут з бацькі і выбухнула: “Э не, такога блядства ў сваёй хаце я не па-цяр-плю!”

Калі б я не пачула ад яго гэтага грубага слова, можа, я і ўбегла б у іхнюю залу і адабрала б Мохавы палотны. А то ж ён аблаяў не толькі Моха, але і мяне, бо гэта ж мы разам развялі ў хаце... ну, ён сказаў, што мы развялі, збэсціў мяне бацька, а на мяне ж ён ні разу за ўсё маё жыццё не мацюкнуўся, дык я і не кінулася адбіраць карціны — хай бацька не ведае, што я чула ягоную лаянку, — каб не караў сябе, што гэтак мяне зняважыў. Дзіўлюся ў дзірачку ды слухаю; і тое, што я ўбачыла далей і пачула, вы не зможаце сабе ні ўявіць, ні сасніць у самым страшным сне, а ў мяне і цяпер мароз па скуры. Хоць, магчыма, я нешта і драматызую: вы ж самі сказалі, што мой бацька — прыроджаны эстэт.

То адно злаваў, а цяпер ён і заклапочаны, мой бацька, — на маці ўгледзеўся дый пытае: “Не бачыла — цюбіка якога-небудзь не пакінуў? Ці квачыка? — Зірнуў у мой бок, на перагародку, уздыхнуў. — Дзе ж ён пакіне. Усё з ім лётае. Галадранец, каравачнік. Чамаданчык задрыпаны — усё ягонае багацце. Во на зяця ўзбіліся!” Ён выйшаў з залы, а я адхінулася ад свайго “вочка” і хуценька села на ложак — падумала, зараз ён увойдзе да мяне ў спальню. Ды ўжо і хвілін пяць сяджу, Валік мой гудзе ў калысцы, засынае, а потым чую — зноў бацька ў зале. Дык і я, бессаромная, зноў да “вочка” — Божа, што ж я бачу!.. У левай руцэ ў яго бляшанка, летась фарбавалі перад кантораю штакетнік, дык у ёй, мабыць, і засталося на дне, а ў правай — квач, не вельмі вялікі, але ёмкі, ім, памятаю, бацька фарбаваў нашы рамы. Маці мая ў голас: “Што ты задумаў, стары пень, качалася яна ў іх пад ложкам, дык і хай качаецца, хто яе там убача?!” Бацька як не гыркнуў на яе: “Не твая справа!”А сам памачыў пэндзаль, і пачынаецца гэты кашмарны творчы працэс, бо новаспечаны вялікі мастак ужо вядзе знізу ўгору — вядзе, вядзе, вядзе — прамую, як пад лінейку, лінію, вядзе і папулярна тлумачыць жонцы: “Гэта арляк, ён расце збоку ў яе, каля нагі. Во гэта сцябло, а цяпер я намалюю яму і лісце, глядзі!.. — і зялёны пэндзаль у бок ад сцябла — шах, шах, шах!.. — Бачыш, яно і прыкрыла яе сорам. А то ён думае — ягоная жонка!

Так, жонка, але і наша дачка. Дык мы і грудзі ёй замалюем, і ўсё будзе ў ажуры. Але тут намалюем ужо яловую галінку. Ну во, цяпер глядзі — што я тут сапсаваў? Загаласіла!" Бацька трохі адступіў ад карціны, палюбаваўся — арляк і яловая галінка былі як жывыя — нават мне спадабаліся.

Але сапраўдны мастак ніколі не бывае да канца сваім творам задаволены. Так і бацька: акінуў вачамі палатно і нешта на ім заўважыў не тое. Прыгледзеўся пільней і прабурчэў, ды не злосна ўжо, а паблажліва: "Мастак, растуды яго так. Глядзі, маці, у нашай дачкі во тут, ля ключыцы, маленькая радзімка, а дзе яна ў яго? Чаго не трэба ён наквэцаў, а гэтага не бачыць. Дык я ж яму пакажу, як трэба маляваць!"

Бацька мой родны! Не ведаў ён, што мастакоў часам падсцерагаюць і творчыя няўдачы. Злётаў другі раз у кантору, зноў вярнуўся з фарбаю, ды ўжо з той, якою фарбавалі ў канторы падлогу. Праўда — радзімка карычневая, але ж асцярожна, татачка, бо ў мяне яна толькі адна, а ў цябе з квачыка фарба кап-кап-кап, колькі ж іх у мяне цяпер, тых радзімак, — і на плячы, і на шыі, і нават на шчацэ!.. "Казала табе, кінь дурное!" — маці аж заломвае рукі. Ды бацька супакоіў яе: "А што, хіба так не бывае — і на твары, і на шыі? Не бойся, твой зяць мяне загрудкі не возьме. А возьме, дык размова ў нас будзе кароткая".

...Згадала я тое бацькава маляванне і ў душы пагадзілася з маці: так, і бацька не любіць зяця, а толькі церпіць ды спадзяецца на цуд — а раптам ён яшчэ адумаецца ды стане чалавекам. Але ж цуды бываюць толькі ў казках.

Нахапіўся халодны вецер, прыгнаў вялікі дождж, і вечарам бацька вярнуўся ўвесь мокры. Стаіць у пярэдняй і як быццам чакае, пакуль уся вада з яго сцячэ на падлогу. Кажу яму: тата, скідай плашч, стала расшпільваць яму гузікі, тады і ён успомніў, што трэба распранацца. А разувацца не стаў, так і пацёг мокры след на кухню. Гарэла ў грубцы, дык ён сеў напроці, але дзверцаў не адчыніў, нагнуўся і, здавалася, слухае, як гудзе ў грубцы полымя. "Ну што ўжо там яшчэ? — спытала маці. — І так горка, а ад цябе такога ў сто разоў горай". Маці адцадзіла бульбу — у вялікі карэц, бацьку, ён любіў бульбяную юшку, але цяпер ён ні есці не збіраўся, ні піць. Ужо маці і бульбу патаўкла, і толькі тады азваўся бацька на яе адчай: "У Стахейкі быў. А ён да сына ў Гомель ездзіў, дык нідзе, кажа, не бачыў такіх чыстых вуліц. А чаму яны чыстыя? Таму што іх наш мастак падмятае. Іду, кажа, а іх чалавек дзесяць з мётламі, а з імі і твой зяць. Спачатку падумаў: суботнік, у горадзе на суботніках вуліцы прыбіраюць. Але ж як на суботнік іх малавата. А тады бачу: трохі ўбаку міліцыянер, прысланіўся да жалезнай гароджы, там акурат сквер, і курыць, як быццам і не ён наглядчык. Ды кінуў

цыгарэту пад ногі і камандуе: канчай работу, шагам марш на абед!.. Бо арыштанты — тыя, каторых на пятнаццаць сутак пасадзілі... Вось так ён мяне парадаваў, Стахейка. Ну а што ж вы не скачаце ад радасці? Ты, цешча? Ты, дачка? Радуйся, бо яму ж далі ўжо апартаменты, дык забярэ і цябе — на нарах шмат месца. І вуліцы разам будзеце падмятаць, ты ж вунь якая яму верная!..” — “Твой зяць, ты і радуйся, — не змоўчала маці. — І твая праўда: хай і дачка парадуецца. Вы абое, як на Бога, на яго моліцеся”. Бацька не варухнуўся, як і не пачуў матчынава дакору. Доўга ўсе маўчалі, нават Валік, якога я трымала на руках, прыхіліўся да мяне галоўкаю і, разявіўшы раток, моўчкі дзівіўся, як над дзверцамі грубкі, у шчылінцы, бліскае раз-пораз зыркае полымя. “Бачу, не ўсё да вас дайшло, — зноў загаварыў бацька. — Асабліва да цябе, цешча. А раз так, дык слухайце мяне ўважліва. Пачулі і адразу ж забудзьце, што я вам тут сказаў. Усё ў жыцці бывае. Вунь Хомчыка з Грабянцоў схапілі — і ў выцвярэзнік, а ён і ў рот гарэлкі не бярэ, толькі гаворыць — як жуе мякіну, ды яшчэ дурны: знайшоў, у каго дарогі пытаць — у міліцыянера! Дык, можа, так і з вашым Мохам. Словам, маўчок, вячэраем, а потым будзем разбірацца”.

Як жа ён цярпеў, мой добры бацька!.. І мне трэба было ўжо выбіраць — або іх, маці і бацьку, або таго п’яніцу з мятлою. Уявіла, нібыта з ім і я мяту вуліцу ў Гомелі, — дапёк-такі бацька, дапёк! Дык не дачакаецца ж ён мяне, хай завіхаецца з мятлою сам: як толькі пацяплее ды ўшчукне дождж, зноў паедзем з Валікам да Мелкага броду... Здалася, перастала супраціўляцца — не так маці, як самой сабе. Стамілася...

І моцы не было ўжо ніякай, і гордасці сваёй адцуралася, каціла перад сабою калясачку з Валікам, як сваю віну, віну перад хлопцам, які, праўду кажа маці, у сто разоў лепшы за Моха. Каціла, але і сама яшчэ не ведала, якая я гордая, бо чым бліжэй тая глухая дарожка, тым усё ясней чую ў самой сабе, як ён сказаў: “Я ўсё ведаю пра цябе і ўсё табе дарую”. Вось і тое месца, дзе мы першы раз з ім спаткаліся. Ён, мабыць, чакаў мяне, бо адразу і выйшаў з лесу. І гэтак жа, як першы раз, я развярнула каляску і пакаціла яе паціху назад. Ён зноў дагнаў мяне, і тады я спытала: “А што ж ты ведаеш пра мяне і што мне даруеш?” Ён паціснуў плячамі: “Тое, што і ўсе ведаюць. Хаця — напэўна, больш. Светка расказала, сяброўка твая. І пра Савіну хату, і пра цвілыя сеннікі. Ты думала, яна цябе пашкадуе? Расказала”.

Дык вунь што ён мне даруе — цвілы сяннік! Чым болей бруднага ён пра мяне ведае, тым больш ён мне даруе, і за гэта я павінна перад ім упасці ніцма. Светка не пашкадавала, а ён, бач, мяне шкадуе. Спынілася, вось-вось заплачу, закрычу — ад крыўды, ад абразы, але не — стрываю, задушу ў грудзях пякучыя слёзы! Толькі

люта зірнула яму ў вочы: “Прэч ад мяне і ад майго дзіцяці і не падыходзь да нас ніколі, бо другі раз я плюну табе ў твар!” Шпарчэй пакаціла каляску, а ён атарапела, але ж і вунь як ганарліва кідае наўздагон: “Глядзі ты, яна мне пагражае! Была б раней такая святая — са сваім алкашом!” “Не адказвай яму, не адказвай, — загадваю сабе, — і не аглядвайся на пачвару!.. Цвілы сяннік!.. Брэшаце, гэта не я, гэта яна, прыгажуня пісаная, у дзверы ламалася — намалюй нас, дзядзечка! Ведама ж, зялёная, як тая бульбіна, што паляжала на сонцы, дык як жа ён яе не намалюе! Гэта яе ўберагла маці ад прэлага сенніка, таму ёй і трэба цяпер спагнаць злосць — але каб на маім хлопчыку?! Брашы, сучка, можа, язык адыме! Бо мой Валік — з таго сунічнага паху, з таго зіхцення красак, з таго светлага шуму бяроз і хвой, над якімі плылі пухленькія, як Божыя анёлкі, белыя аблокі. І хай гэты вырадак што хоча вякае мне ўслед, кахала, кахаю і буду кахаць аднаго яго — Моха!”

## 4. Месячная саната

Яшчэ тады, як у сябе за сталом частаваў Гаркушу і ўважліва слухаў ягоную “памоўку”, я заўважыў, што ў ёй Гаркуша прапускае цэлы год сваёй сямейнай гісторыі. Цяпер прапушчаны год знайшоўся: з расказу Гаркушавай дачкі чытач ужо ведае, якія цікавыя падзеі адбыліся ў іх сямейным жыцці за гэты час. А што было далей — слухаем працяг Гаркушавай “памоўкі”.

“Пражылі мы яшчэ адзін год, і, канечне, перамена ў жыцці, дый вялікая — радзіўся Валік, радасці поўная хата, але як зірнуць у корань — тое ж самае: няма вялікага свята ў хаце, бо няма шчасця ў дачкі, дык няма яго і ў нас з жонкаю. Ніякія апартаменты мастаку ў горадзе не свецяць, а калі ўжо дзіця, дык дзе ты з такою музыкай знойдзеш там ім кватэру, гэта я ўжо і з галавы выкінуў. Ну дык яна і жыве з малым у нас. А што ў яе, пытаеш, з барадатым?.. Прыджгае, дык яна, дачка мая, вачэй з яго не зводзіць — Мох ды Мох, кахае каравачніка, куды дзенешся, а ён яе таксама — “старушка”, “старушка”, завуць так адно аднаго, сволачы; цешацца, на карку ў бацькі седзячы. Жонка мая зубы сцісне, але дагаджае зяцю, пячэ аладкі, аж курodым над патэльняй завіваецца, бо надта ж ён любіць іх — са смятанаю. А што рабіць цешчы? Паспрабавала была звесці дачку з тым хлопцам, з каторым яна яшчэ ў школе нюхалася, ды нешта, мабыць, перамудрыла, а можа, недамудрыла, бо выйшла асечка.

Так мы і жывём. Восень прыйшла, а потым і белыя мухі закружыліся, угаворваю жонку — цярпі, цешча, цяпер ты яго аладкамі, а ён цябе пад старасць у сваіх апартаментах жамкамі карміць будзе. Бо ён і цяпер вунь ужо як іншы раз дзякаваў — калі не цешчы, дык цесцю: сякеру схопіць ды як накінецца на дровы — бач, каб захацеў, дык і неблагім гаспадаром быў бы!.. Але ж гэткі ён пераменлівы: то нейкая ліхаманка яго ахопіць, то зірне на цябе з ягоных вачэй такая маркота, што, здаецца, сышоў бы ў лес і не вярнуўся, каб толькі яго не бачыць.

У такім чорным одуме і паехаў аднаго разу мой зяць у Гомель. Было ўжо гэта пасля Новага года. Паехаў, а дні праз два ўскоквае ў хату зноў. Я падумаў — з марозу, акалеў, пакуль бег з аўтобуса, аж не, гэта ён прымчаў на легкавушцы, а тая ля двара развярнулася, паціху гурчыць і чакае зяця. Ды не зяця, а тое, што ён памеўся, мабыць, вынесці з хаты. Не распрануўся, не падумаў, які холад уварвецца разам з ім у спальню — што яму малое дзіця, бо нешта ў яго там ужо зашаргацела, а гэта ў іх пад ложкам валяліся яго карціны, дык ён і выхапіў з-пад ложка скрутак. І вопрамеццю да машыны. Гляджу: дзверцы прыадчыненыя, і тут жа яна тузанулася, тая легкавушка, а ў руках у зяця быццам і не было толькі што ніякага скрутка. Але перад гэтым здалося: той, што ўхапіў скрутак, быў трохі падобны на Лёшку Гамона, помніш таго прайдзісвета, што некалі ў Заліп'і загнаў хахлам цэлы востраў страявога лесу?..

Вось такі выпадак. А чаму я пра яго расказаў? Трэба, каб ты ведаў мой вялікі сакрэт. Адно зяцева палатно я ўзяў дый падмаляваў, а калі папраўдзе — замаляваў на ім жаночы сорам. Бо на карціне была мая дачка, дык каб нехта любаваўся на яе, а я не ведаў, куды падзець ад сораму вочы? Не будзе такога!.. Цяпер ты здагадаўся, пра які сакрэт я кажу?.. Падмаляваў, а яно і памчалася ў белы свет, зяцева палатно, — з маёй падмалёўкай!.. Ну дык і цудоўна, думаю, а то з гэтымі мастакамі проста бяда: возьме тваю дачку, дык не толькі кармі яго ды паі, не толькі нікай па тых пад'ездах ды напытвай яму кватэру, а яшчэ і пільнуй, каб ён маляваў па-людску! Бо толькі цяпер, можа, людзі і пахваляць недзе ягонае палатно, а за распусту хто яго пахваліў бы?.. Ну вось, да гэтага майго сакрэту мы яшчэ вернемся, а пакуль... як не спаў я ноччу праз свайго шалапутнага зяця, так не сплю і далей. Удваіх з жонкаю не спім. А з гэтага нашага бяссоння якраз і бярэ пачатак тая гісторыя, пра якую я і хачу зараз табе расказаць. Словам, яшчэ адно мае падарожжа ў Гомель.

У каго Бог на покуці, а ў маёй дачкі на парозе: толькі адчыніць дзверы яе мастак, а яна ўжо моліцца на яго, ледзьве ніц перад ім не падае. А як змеркнецца, шалеюць за перагародкаю, дзе там у

зале заснеш, ды нават і ўгамоняцца, нам з жонкаю ўсё роўна не спіцца. Заплюшчыш вочы, прытвараешся, што спіш, маўляў, я заснуў, дык засынай і ты, — ну вось яна ўжо і спіць — дыхае роўна і спакойна, але ж не — яна таксама прытвараецца, хоча, каб засынаў хутчэй ты. Урэшце ўздыхнеш ці яна ўздыхне, а што сказаць адно аднаму, не ведаем, бо ўсё ўжо даўно сказана... Раней, бывала, Валік за перагародкаю заплача, а потым доўга капрызіць, дык і мы не спім, бо ўнука, здаецца, любіш і шкадуеш нават больш, чым некалі шкадаваў малую дачку, а цяпер Валік падрос і ўначы не плача, дык чаму ж мы не спім ды ўздыхаем?.. А таму, што, наслухаўшыся, як шчыруюць яны за перагародкаю, употай адно ад аднаго думаем: "Яе і з адным дзіцём няма дзе яму ў сваім Гомелі прытуліць, а як пусцяць на свет і другое..." І вось аднаго разу жонка мая цяжка ўздыхнула дый кажа: "Паехаў бы ты ў Гомель — можа, хто памог бы ім узбіцца на які казённы катух, даюць жа іх там некаму, няўжо ж нашы дзеці горшыя за іншых? Ёсць жа там нейкія начальнікі, няўжо ж у іх сваіх дзяцей няма ці ўнукаў і хіба каменныя ў іх сэрцы, каб яны табе не паспагадалі? З'ездзіў бы хоць да Мажэйкі, ты ж сам казаў, ён там вялікі начальнік, а што не па кватэрах, а па лесе — дарма, усе начальнікі ведаюць адзін аднаго, дык ці ж не папрасіў бы каторага трэба? Папрасіў бы. Ён жа калісь і Насцю нашу любіў, а потым і цябе ляснічым паставіў. Едзь, Іван, Мажэйка паможа, бо ён жа і цяпер, кажуць, прыязджае ў наш лес, "козліка" свайго ля Мікалайкавай стражы кіне, а сам па лесе блудзіць, аж пакуль і шафёр яму не пачне піпікаць".

Здалася жонка. То адгаворвала, каб не вёз дачку да нялюбага зяця ў Гомель, а цяпер бачыць, няма іншага выйсця, толькі было б ім там дзе прыткнуцца. Змірылася, пячэ зяцю аладкі, але ж на тое яна і жанчына, што і нашага брата так расчуліць — хоць плач. А расчуліць адным словам. Помню, калісь пра сябе сказала ну не адно, а два словы — гарбатая баба, а як ударыла мне ў галаву — гэта яна, мая жонка, гарбатая баба, лёс у яе за мною такі горкі! Дык да гэтага часу месца сабе не знаходжу, што не даў ёй лепшай долі. А тут яна зноў кажа: "Трэба ж, каб у яе там сваё гняздо было, бо без яго яна будзе як тая зязюля ў лесе, што адно па чужых гнёздах нікае, дык няўжо ты хацеў бы, каб у тваёй дачкі было такое зязюльчына жыццё, едзь, дабіся там ёй хоць якога гняздзечка".

Вось яно, гэтае жончына слова — зязюля! Мая дачка — бяздомная зязюля! Успомніў, як шукалі мы з ёю ў горадзе кватэру, і зайшлося сэрца, бо і праўда ж — зязюля! Ну, браце, нават самага апошняга бацьку праняло б гэтае слова, бо як у сук жонка ўляпіла! Канечне, трэба ехаць. Але да каго — да Мажэйкі? Ох, жонка, жонка, задала ты мне задачку! Калі б жа там быў адзін Мажэйка, а то ж... пражыла ты век з Гаркушам, а таго і не ведаеш, якія шуры-

муры круціў ён колісь з цяперашняй Мажэйкавай жонкай і як пасвінску з ёю ўрэшце абышоўся. Лідка, "шаршэ ля фам" — яна ніколі мне таго свінства не даруе!.. Спі,жонка, а мне трэба шмат што вельмі добра абдумаць, і я доўга яшчэ не засну, можа, да самай раніцы.

Так — і цяпер, ужо з Гомеля, прыязджаў Мажэйка ў Заліп'е, і не па службе, не ў кантору, а ў лес, да Мікалайкавай стражы. І для мяне гэта была вялікая загадка. Колісь лясгасаўскі "козлік" часта падскокваў да маёй канторы, і потым ён, Мажэйка, доўга курыў і нудзіўся ў маім кабінеце, але тады няцяжка было здагадацца, чаму яго цягне ў Заліп'е: ад вайны мінула не так многа часу і ён не паспеў яшчэ забыць сваю Насцю. А цяпер у Заліп'е ехаў не той нежанаты Мажэйка, а ўжо бадай што стары чалавек — яму ж на пенсію пара ўжо! Дык няўжо яшчэ і цяпер ён помніў сваё першае няўдалае каханне? Вельмі падобна было на тое. Спыніць машыну ля квартальнага слупа (леснікі так цяпер яго і завуць — Мажэйкаў слуп), прасекаю спускаецца на Масткі, падымаецца на Шырокае ляда — маршрут, па якім апантаная камсамолка Насця гнала некалі пад канвоем іх, Мажэйку і фінагента Навіцкага, мераць падпольнае Мікалайкава проса. У гэтым і загадка: жонка ў Мажэйкі — рэдкая жанчына, мая колішняя Лідка, "шаршэ ля фам", вось хто ўмее кахаць нашага брата, на сабе зведаў, дык няўжо і яна не змагла даць Мажэйку рады, каб хоць пад старасць забыў ён нарэшце сваю даваенную Насцю? Дальбог, я адчуваў сябе вінаватым, не паддаўся колісь Лідчыным чарам — як быццам дзеля Мажэйкі, думаў, што яна стане яму добрай жонкаю, а выходзіць, "шаршэ ля фам" не апраўдала маіх ці, можа, Мажэйкавых надзей!.. І вось сказала жонка: едзь да Мажэйкі, а таго не ведае, што я і сам ужо не раз намерваўся да яго з'ездзіць, але як падумаю, што давядзецца глядзець яму ў вочы!.. Сорамна — за тое, што было ў мяне колісь з Лідкаю, і няёмка, што ведаю ягоную таямніцу: у яго такая цудоўная жонка, а ён што ні год едзе туды, дзе не толькі ніякіх дзявочых слядоў, а ўжо і самой Мікалайкавай стражы няма — даўно згарэла.

Але трэба ехаць. Бо калі твая дачка, як тая зязюля, не мае свайго гнязда, дык хто ж, як не родны бацька, павінен пра яе паклапаціцца? Вядома, заяўлюся я ва ўпраўленне лясной гаспадаркі, але раптам Мажэйка запросіць дадому — што тады? Не давядзі Гасподзь сустрэцца з Лідкай, дваццаць год мінула, а помню, як падсадзіў яе ў аўтобус, а сам, як пабіты сабака, стаю, галаву ўнурыўшы, — маруда-шафёр дзверы зачыніў, але ніяк не рушыць...

Трэба ехаць, бо доўга адкладваў, а цяпер адкладваць ужо няма куды.

Ты помніш тое лета: па радыё казалі — у Мінску і ў Маскве з-за дыму не садзіліся самалёты, навалілася суш, якой не было сто

гадоў, лясы і тарфянікі гарэлі цэлы месяц, дык і выбраўся я ў Гомель, калі ў нас, дзякуй Богу, выпалі дажджы. Але дым яшчэ аднекуль пёрла, з-за Гомеля, ці што, — ехалі на аўтобусе з уключанымі фарамі, як у густым тумане. Дык і яшчэ раз, ужо ў аўтобусе, я сказаў сабе — трэба ехаць! Канечне, жончына тарфяное ўдушша — нажытае, такое з калена ў калена не перадаецца, але адзін Бог ведае, а раптам, калі во так і далей будзе гарэць зямля, яно, як да маці, прычэпіцца і да дачкі! Таму, раз ужо не ўбярог жонку, уратую дачку, не я буду, як не выцягну яе з Заліп'я... Еду, успамінаю той паганы кок-сагыз, з яго жончына ўдушша і пачалося — гэта пры Малянкове, а як нахапіўся са сваёй дурной кукурузаю Хрушчоў!.. Зноў стары Айчанаш гоніць леснікоў ды іх жонак у поле — не лес саджаць, а кукурузу ў тарфяных гаршчочках. І зноў здзекуецца з жонкі: бач, якая далікатная, ёй тарфяны пах шкодзіць! Кулацкае адроддзе, дык так і скажы, што ад калгаса нос вернеш! Але нічога, прышчэмім як след твайго ляснічага, сама прыбяжыш і спытаеш, дзе тыя гаршчочкі!.. Не ўратаваў жонкі, дык цяпер не тое што да Мажэйкі, да самога д'ябла гатоў дзеля роднай дачкі ехаць з паклонам.

Мажэйкі ў ягоным упраўленні я не застаў, сакратарка сказала — паляцеў на верталёце, недзе яшчэ не патушылі вялікі пажар, а Павел Іванавіч старшыня камісіі, што змагаецца з гэтай навалай. Чакаў я вельмі доўга, ужо сакратарка і дадому збіраецца, тады Мажэйка і з'явіўся. Адчыняе дзверы ў кабінет і стомлена пытае: "Вы да мяне, таварыш?" А яму сакратарка вінаватым голасам, бо ён такі зморны, учарнелы: "Да вас, Павел Іванавіч. З лясніцтва". Мажэйка прапусціў мяне першага ў кабінет, увайшоў сам, зняў фуражку, паклаў на пісьмовы стол — відаць, доўга ў кабінеце бавіцца не збіраўся, апусціўся на крэсла, прыгладзіў з бакоў валасы — так, толькі з бакоў, бо — я не мог даць веры сваім вачам — Мажэйка быў... лысы! Божа, колькі ж гадоў мы з ім не бачыліся, я помніў яго чорны, густы колішні чуб!..

Напэўна, ён быў яшчэ ў думках на тым вялікім пажары, бо, відаць было, яшчэ нешта сам сабе вырашаў, нават памкнуўся быў некаму пазваніць і паклаў руку на трубку, але перадумаў. З гэтым сваім клопатам у вачах павольна перавёў позірк на мяне — на твары ані знаку, што пазнаў, але пазнаў-такі, бо ранейшым стомленым голасам прамовіў: "А, вунь гэта хто... Гаркуша. — Потым усёткі сумна ўсміхнуўся. — Ну, вітаю цябе, Аніка-воін, як ты там, усё яшчэ ваюеш з Айчанашам? Ёсць чуткі, хутка ён зноў пойдзе ўгору, ажно сюды, у вобласць, меціць. Але кажы, што прывяло цябе да мяне, будзем разбірацца".

Ён нагадваў мне аднаго майго лесніка: весялун, на ўсіх святах першы завадатар, а прозвішча — Нудзьга, дык хай бы яно выпала

Мажэйку, бо пазнаю: тая ж даўняя ў яго на твары... як гэта кажуць... меланхолія, тая ж марудная ў ім разважлівасць. Ён будзе яшчэ са мною разбірацца, усё і так ясна: мне трэба памагаць, рабіць нешта трэба! Падумаў так дый кажу: "Што прывяло мяне да вас? Дачка ў мяне, Павел Іванавіч, зязюля, гэта і прывяло". Ён зірнуў на мяне бадай што спалохана: "Як зязюля?" А я і тлумачу: "Ну так, зязюля. Замуж выйшла, і чалавек яе робіць тут, у Гомелі, карціны малюе, а кватэры не даюць, таму і зязюля — свайго гнязда не мае". Відаць было, што яму адлягло ад сэрца, а чаму ён так спалохаўся, я ўжо зразумеў. "А, — кажа, — у такім сэнсе зязюля. А я быў падумаў... Некаторыя ад дзяцей адмаўляюцца, яшчэ ў раддоме". А я кажу: "Не давядзі Гасподзь, толькі гэтага не хапала". А ён: "Так, з дочкамі праблема... У мяне вось таксама... дачка. У Ленінградзе вучыцца. Выдатніцай у школе была, дык і паступіла з першага заходу, і ўсё спачатку ішло добра, а цяпер... Не ведаю, чым і скончыцца, — звязалася з іншаземцамі, баюся, каб не выключылі. Не выхаваў як след і цяпер сам сябе караю... Хаця, усё гэта складаней. Ох, як гэта ўсё няпроста, Гаркуша, — выхоўвае не хто, а што. А якое яно, нашае што? Адной рукою робім дабро, ну хоць бы саджаем свой лес, а другою... Яны з намі яшчэ разбяруцца. Хаця, здаецца, сам з сабою я ўжо разабраўся. Я — там, на фронце, ну яшчэ адразу пасля вайны. Там маё ўсё..."

Сваё "ўсё" ён вымавіў з націскам, і мне выразна пачулася ў гэтым нешта такое, што я падумаў: калі ён і цяпер ездзіць на Мікалайкаву стражу, дык, можа, ягонае "ўсё" і там, у Заліп'янскім лесе? І ён пацвердзіў маю здагадку, бо тут жа сказаў: "Шкада Ліду... — І раптам ён схамянуўся, як быццам толькі цяпер да яго дайшло, хто я і адкуль. — Дарэчы, а чаго мы тут з табою сядзім? Хадзем да мяне, уяўляю, як узрадуецца Ліда! Яна часта ўспамінае Заліп'е, нечым яно запала ёй у душу, хоць, здаецца, толькі наездамі там і бывала. Зрэшты, гэта ж Заліп'е..."

Ён набраў нумар і сказаў у трубку: "Ліда, я іду, у нас будзе госць, наш агульны знаёмы". А ў кабінеце ціха, дык я і чую, як насцярожана яна пытае: "Хто?" А ён: "Не скажу, хай гэта будзе табе сюрпрызам".

Гаркуша, ты трапіў у пастку! Што рабіць? З усіх сіл аднеквацца? Але ж ён толькі пра сваю дачку мне і сказаў нешта, а да маёй зязюлі не дайшла чарга, і калі адмовіцца ад запрашэння, дык чаго я да яго ехаў? Трэба ісці. Але ж Лідка, "шаршэ ля фам"! Запала ў душу Заліп'е! Чым яно ёй запала — маім подлым падманам? Мела яна ад мяне ўжо адзін сюрпрыз, дык ці не турне яна мяне з парога?..

Пісацель, нічога ты ў гэтым не разумееш: нізашто не ступіў бы я да яе на парог, але каб ты толькі ведаў, як захацелася мне хоць раз зірнуць на яе, а тады хай, думаю, праганяе!..

Мажэйкаў дом, нават не дом, а драўляны акуратны дамок і яшчэ два ці тры гэткія ж я ўбачыў у рэдкім скверы. Некалі гэтыя дамкі пабудавалі для высокага ляснога начальства, а яно, мабыць, адразу і абсадзіла іх дрэвамі. Гэта як той матрос — цяльняшку рвануў: “Плюй на грудзь, не магу жыць без мора!”, а яны, бач, у горадзе жыць не могуць без лесу. Але які ж гэта лес — амерыканскія кляны, а з усіх бакоў цагляныя гмахі, дык і сквер вытаптаны, пыльны, без аніводнай травінкі... Госпадзі, памажы!.. Ступілі на ганак, увайшлі ў калідор, Мажэйка адчыняе дзверы, прапускае мяне ў пярэднюю. І вось яна, гэтая страшная хвіліна, бо гэта ж яе, Лідчын, голас: “Божа, як ад цябе тхне дымам, Паша, я з другога пакоя чую!” — “Ліда, — гукае ёй Мажэйка, — сустракай госця. Глядзі, хто да нас прыйшоў!”

І вось, пісацель, уяві сабе — яна выходзіць да нас з другога пакоя. Тая самая Лідка, толькі шмат прыгажэйшая. Некалі гэта быў бледны, стрыжаны пад хлопчыка анёлак, худзенькі, ды і грудзі, між намі, мужчынамі, кажучы, не адразу, бывала, знаходзіў я рукою, а цяпер яна так хораша папаўнела — і тварам, і фігураю, і валасы ў яе доўгія — не да плячэй, канечне, а ўсяго толькі прыгожа закругленыя на шыі — відаць, да нашага прыходу яна паспела трошкі прычапурыцца. Але ж, браце, каб у сорак год быць такой прыгожай, аднаго прычапурвання мала. Так, яна падабалася мне цяпер яшчэ больш, чым тады, калі, з кірзавай сумкай цераз плячо, я праводзіў яе дадому, і ў гэтым няма нічога дзіўнага: часам з гадамі жанчына становіцца нават прыгажэйшай, чым была ў дзеўках, бо там у іх розныя прыхамаці — каб талію зберагчы і ўсё такое, словам, умяшанне ў прыроду, а тут у яе ўсё было натуральнае. І вось — яшчэ хвіліна, і я ўкленчу перад ёю, буду прасіць, каб хоць цяпер, праз дваццаць год, яна даравала мне маё колішняе свінства. Але ж тады ўсё адкрыецца Мажэйку, калі толькі ён і так нечага не западозрыў, бо вельмі доўга моўчкі мы адно з аднаго не зводзім вачэй.

“І праўда сюрпрыз, — сказала нарэшце Лідка. — Гаркуша... Праходзьце, Іван Адамавіч, даўно не было ў нас... такога дарагога... госця”. Яна хвалявалася, бо я ж помніў, гаворка ў яе плаўная, пявучая, а цяпер яна запынялася, вымаўляла па два-тры словы і як не паўшэптам. Ды ўрэшце дала сабе рады і перавяла позірк на Мажэйку: “Праходзьце, мужчыны. Пасядзіце, пагаманіце, столькі гадоў не бачыліся, а я прыдумаю што-небудзь на стол”.

Вядома, у хаце ў Мажэйкі ўсё было гарадское: мяккая, абабітая чорнай скураю канапа, цэлыя тры, адна ля адной, шафы, у адным куце — вялікае, у рост чалавека, люстра, у другім тэлевізар, ну і само сабой — стол, крэслы. А што яшчэ было ў іх, дык, мабыць, раяль ці піяніна, я ў гэтым не разбіраюся, але ж саджае мяне

Мажэйка на канапу і кажа: "Мая Ліда цудоўна грае на фартэпіяна", дык во што гэта было — фартэпіяна. А тут і яна, Лідка, нясе з кухні талерачкі, — нарэшце я чую той даўні пявучы яе галасок, бо яна какетліва пярэчыць Мажэйку: "Паша, не хвалі мяне так, я чырванею". Вейкі ў яе сарамліва апушчаныя, і што я заўважаю: яна скоса і так, знаеш, запаволена павяла вачамі ў мой бок, уздыхнула і выйшла на кухню... Што яны толькі з намі робяць, жанчыны! Ці, можа, мы з імі — аднаму Богу ведама.

Канечне, я прагаладаўся і быў не супраць, можа, не так выпіць,як закусіць. Але ж і выпілі. І раз чокнуліся, і другі — кілішкамі, маленькімі, грамаў па пяцьдзесят, не больш, ды ў галаве закружыла, і вось ужо трэці раз яна, Лідка, чокаецца са мною, нешта гаворыць, а ўсё гэтае застолле перада мною як у тумане, бачу толькі яе трошкі растуленыя прыпухлыя вусны і тую шчылінку на сярэдзіне верхніх зубоў — з той пары, як развіталіся мы з Лідкаю ў маім кучаравым сасонніку, колькі жыву, столькі гэтую яе сімпатычную шчылінку і помню!..

Мне трэба было развітацца і пайсці, пераначаваў бы на вакзале — не прывыкаць. Не пасмеў, адно прыўстаў за сталом і сеў — з такім дакорам яна на мяне зірнула. А Мажэйка сказаў: "Гаркуша, гэта нядобра, столькі гадоў не бачыліся, ты ж зірні, як расцвіла Ліда". Гэтак ён пажартаваў. А потым і ёй: "Ліда, я і Гаркуша просім, сыграй што-небудзь. Ты даўно не грала. Можа, "Месячную санату"? Пад настрой". — "Пад настрой? — Яна заплюшчыла вочы, трохі падумала. — Бадай, твая праўда..."

Чуў я раней тую музыку ці не — мабыць, чуў, але ж хто іх надта слухае, усе гэтыя іх сімфоніі. Сядуць кагалам сто гультаёў і пілуюць на скрыпках, хоць вушы затыкай, а бывае, што і адзін сотні варты, бо гэты ўжо за раялем ці як яно ў іх там завецца — піяніна, фартэпіяна, сядзіць і што ёсць моцы малоціць па клавішах. Не разумею я такой музыкі. Хаця як сказаць: нехта ў Маскве ці ў Мінску дуба ўрэжа, з высокага начальства, і як быццам тая ж сімфонія, а хапае за сэрца, таму што пад настрой: хоць ён ніякі табе і не родзіч, а ўсё роўна шкада... І ты можаш сабе ўявіць, як цяпер адно аднаму адпавядала, мой настрой і яе музыка, гэтая іхняя "Месячная саната". Жывыя Лідчыны пальчыкі плавалі па клавішах, і кожны яе лёгкі дотык да іх я адчуваў на сваім сэрцы. Ужо толькі таму, што я быў з ёю ў адным пакоі, яно было мяккае, як воск, а яшчэ і гэтыя глухаватыя, таямнічыя гукі, і гэты адзін, вышэйшы пранізлівы гук, калі яна мацней і выразней націскала на нейкі асабліва чуйны клавіш, — не, гэтага немагчыма было стрываць, я заплюшчыў вочы, бо які я быў бы мужчына, каб не стрымаў слёз.

І праўда — уявілася ціхая месячная ноч, нейкая шырокая вада, срэбная месячная дарожка, і люстраныя бліскаўкі мякка пераліва-

юцца на ёй, а тады адна нейкая ўспыхне — гэтак жа срэбна, але намнога ярчэй, бо зноў гэты мацнейшы і выразнейшы гук... А можа, гэта і не вада, а залітая чароўным месячным святлом лагчына — мабыць, паўз Ліпу, і вунь тыя дзве бярозы над ёй — здалёку як дзве чалавечыя постаці... Ды што гэта?.. Тыя срэбныя бліскаўкі ўспыхваюць ярчэй і ярчэй, яны ўсё большыя, але іх усё менш і менш, захвалявалася пад ветрам шырокая вада, а ён усё мацнейшы, гэты неспакойны вецер, якую ж вялікую трывогу, якую непагоду нясе ён здалёк — як быццам і тая, але ўжо і не тая, не ціхая, а ветраная месячная ноч, і вунь тыя дзве бярозы над Ліпаю — вецер хапае ніцае, як не да зямлі абвіслае лісце і быццам хоча шпурнуць яго як мага далей ад бярозы — трам-па́м-па-па́м-па! — але яно, важкае бярозавае голле, абвальваецца назад — трам-па́м-па-па́м-па!, а вецер зноў хапае яго і шпурляе — ажно падкідвае ўгору, а яно зноў падае назад і ўніз!.. Такая гэта была, пісацель, музыка!..

Яна скончыла граць, і мы доўга сядзелі моўчкі. Зірнуў на Мажэйку — ён прыкрываў твар рукою, перавёў позірк на Лідку — яна павярнулася да мяне, а ў яе вачах стаялі слёзы. Крыўда, шкадаванне, дакор зірнулі на мяне з яе цудоўных сініх вачэй, і тут жа — гэтая нечаканая крывенькая ўсмешка, не разабраць, прыязная ці зласлівая. Не, здаецца, прыязная, бо яна ўстала з-за раяля ці з-за фартэпіяна, не ведаю, як правільна, і ветліва кажа: “Чым яшчэ заняць дарагога госця? Давайце, Іван Адамавіч, я пакажу вам наш сямейны альбом. Сядайце на канапу, а я зараз”.

І вось мы сядзім побач з ёю на канапе, альбом яна паклала сабе на калені, але як толькі разгарнула яго, адна каляная вокладка легла на маё калена. А яна ўжо гаворыць: “Гэта, Іван Адамавіч, мой бацька. Бачыце, які ён у мяне герой. Насіў сталінскі фрэнч, а як жа — намеснік міністра, маці яго звала “мой жалезны нарком”, але да наркома, да міністра, ён не падняўся, хоць і хацеў, вельмі хацеў, нездарма і любімую дачку паслаў у лясны інстытут, бо тады мода была на лес — сталінскі план пераўтварэння прыроды, лясныя палосы!.. Быў у маці пад абцасам, але якія ні закочвала яна істэрыкі, у кансерваторыю дачкі не аддаў, там адны бязродныя касмапаліты, гнілое нізкапаклонства перад Захадам, і ён не дапусціць, каб ягоная дачка трапіла ў такое балота. У лес, толькі ў лес!.. Калі яна так любіць музыку, дык прырода і музыка амаль што адно і тое, лес ёй заменіць музыку. І маці мусіла здацца. А вось і яна сама, мая маці, знаёмцеся, Іван Адамавіч”.

Нешта ў Лідцы мне ўжо не падабалася. “Знаёмцеся, Іван Адамавіч!” З кім яна мяне знаёміла — са сваёй інтэлігентнай маці? Дык я ж бачыў яе жывую!.. Краем вока заўважаю: на вуснах у Лідкі тая ж крывенькая ўсмешка. Штосьці тут не так, думаю. А яна кажа:

“Мама мая памерла. Два гады ўжо таму. А была жывая, яшчэ тады, як вучылася я ў лясным, вельмі за мяне перажывала. І калі ў лясгас паехала. Супакоілася толькі, як ужо выйшла я за Пашу. Паўлам Іванавічам яна не магла нацешыцца: і прыгожы, і разумны, і культурны”. Заўважаю, штосьці не падабаецца ў жонцы і Мажэйку, але яна, не зважаючы на яго, працягвае: “Маці не раз казала: ніколі б не падумала, што сярод леснікоў трапляюцца такія інтэлігентныя, выхаваныя людзі, — гэта яна пра Паўла Іванавіча...” — “Лідачка, — не ўтрываў Мажэйка, — я паважаю тваю маці, і, магчыма, яна штосьці падобнае пра мяне гаварыла, але прашу цябе, не трэба пра гэта”. — “Трэба, Павел Іванавіч, — не пагадзілася Лідка. — Івану Адамавічу цікава будзе паслухаць... Я трохі забегла наперад... Галоўнае тое, што казала маці, калі я была яшчэ незамужняя... “Дочачка, — маліла яна мяне, — хай ужо бацька пагнаў цябе, як няродную, у лес, дык хоць будзь сама разумная — не выходзь за лесніка. Я ж у горадзе яго ўбачу — хочацца цераз вуліцу перавесці, бо тройчы ўжо людзі рушаць, а ён ніяк не скеміць, што ў іх тут за дэманстрацыі, ды не ўздоўж вуліцы, а ўпоперак, а потым на чырвонае святло як упудзіцца” — “Ліда, што з табою? — Яна не на жарт ужо ўстрывожыла Мажэйку. — Не магла твая маці гаварыць так пра леснікоў, яна была культурная і тактоўная жанчына. І нават думаць так пра леснікоў яна не магла, бо не лічыла іх ідыётамі”. — “Паша, — яна з’едліва ўсміхнулася, — я магу пагадзіцца, што не ўсе леснікі ідыёты, ёсць выключэнні, ты, напрыклад, але што сярод іх ёсць рэдкія крэціны...” — “Ліда, прашу цябе, замаўчы, у нас госць, што ён можа падумаць пра нас, пра цябе?” Але яна не слухала Мажэйкі: “А яшчэ маці казала, што ўсе леснікі — горкія п’яніцы, але хай бы хоць пілі тое, што ўсе прыстойныя людзі п’юць, а то ж усялякую брыду, а самы далікатэс у іх — “чарніла”. — “Даруй, Ліда, — цяпер ужо здзеклівы быў Мажэйка, — зноў-такі я не веру, што твая маці магла так сказаць, але калі б яна так сказала, то пацэліла б пальцам у неба. Пладовыя віны, ці, як ты кажаш, “чарніла”, бываюць вельмі неблагія, і п’юць іх вельмі інтэлігентныя людзі”. — “Інтэлігентныя людзі п’юць марачнае віно, а леснікі п’юць брыду, “чарніла”, тое самае, якім у тваім калідоры намаляваны лозунг: “Адна трэць лясоў свету належыць СССР”, хай Іван Адамавіч пацвердзіць, праўду я кажу ці не”. Ну, гэта яна ўжо ступала па вастрыі ляза. Што, я павінен быў расказаць Мажэйку, як некалі замест віна глынуў з пляшкі сапраўднага чарніла і як сваімі сінімі зубамі насмерць перапалохаў яе самую і яе маці?.. Хацеў у тон ёй гэтак жа здзекліва запярэчыць: “Няпраўду кажаш, бо тады, у лясгасе, я каўтануў сіняга чарніла, а ў твайго Мажэйкі лозунг напісаны чырвоным!”, але змоўчаў, адно мацней сціснуў зубы. “Ліда, — Мажэйка ўсё пільней узіраўся ў жончын твар, — па-пер-

шае, ужо не адна трэць лясоў свету належыць СССР — пажары, празмерныя высечкі, а па-другое, ты ператамілася, пойдзем, бо табе трэба адпачыць".

Яе не трэба было весці, яна сама рашуча ўстала і, нават не зірнуўшы на мяне, выйшла з пакоя. Дык і мне ў гэтых гасцях нельга было далей заставацца: неспакойна тут у іх, ветрана. Адштурхоўваюся рукамі ад канапы, але Мажэйкава далонь мякка легла на маё плячо, і ён умольна зірнуў мне ў вочы: "Не гарачыся, Гаркуша. Будзе нядобра, калі мы з табою так не па-людску разыдземся. Дый ноч на дварэ. Пераначуеш, а заўтра мы з табою яшчэ пагаворым. Давай пасядзім, хай яна там супакоіцца, я сам розуму не дабяру, што з ёю. Ніколі не было ў нас нічога падобнага".

Затое я ўсё вельмі добра разумеў. Памаўзлівая дамачка! Скінула пад сталом туфлік, на вуснах усмешачка, а сама як быццам незнарок пальчыкам маю нагу і раз кранула, і другі. Якою была, такой і засталася. Але хто яна такая, каб абзываць мяне крэцінам? У мяне ў сто разоў прыгажэйшая жонка, а ні разу мяне нават дурнем не аблаяла! Старым пнём іншы раз абзаве, а каб крэцінам! Яна і слова такога не ведае!.. А гэтая... помсціць — за тое, што не ўдалося некалі ў Заліп'і адбіць у другой. Леснікі не такія ўжо і цюхцяі, як казала яе мамачка, бо дачка ў сваіх мінскіх оргіях вунь якую прайшла навуку, а на лесніка Гаркушу нават яе не хапіла. А што было б, каб хапіла?.. У мяне і жонка царыца, і дачка вырасла — каралева, а тут ён, гэты яе асёл Мажэйка, паказвае ў альбоме сваю дачку — кракадзіл, а не дзеўка, а галоўнае, на каго яна падобная — на яе, на яго? Ні тое, ні другое, і было б дзіўна, каб у такой распусніцы дачка была падобная на свайго законнага бацьку. Усё, кладу канец гэтай і праўда ідыёцкай гісторыі, бо надта ж доўга яна ўжо цягнецца, аж дваццаць год!.. Пераначую, а раніцай — бывай, "шаршэ ля фам"!..

Мажэйка перавёў мяне ў суседні, даччын, пакой, у ім таксама ўсё было гарадское — і засланы прыгожым пакрывалам ложак, і мяккае крэсла, і шафа. Недзе Мажэйкава дачка канчала інстытут, у яе было гэткае ўтульнае жытло, а ёй яшчэ нечага не хапала — знюхалася з іншаземцамі, шпіёнамі... Мажэйка дастаў з шафы дзве чыстыя прасціны, паслаў пасцель, сказаў "дабранач" і выйшаў. А я лёг і адразу заснуў, так са мною бывае заўсёды, калі я перад сном нешта цвёрда вырашыў. А я ўжо сабе сказаў: заўтра да свету змыюся і больш нагі маёй тут не будзе!

Але спаў я, мабыць, нядоўга: за дзвярамі ў пярэдняй зазваніў телефон. Нехта падняў трубку, слухае, ну так, Мажэйка, бо ягоны голас: "Прысылайце". Потым да дома пад'ехала машына, Мажэйка выйшаў, ляпнулі дзверцы машыны, яна рушыла — і стала ціха. Заплюшчыў вочы, але другі раз хутка заснуць не змог. Не ведаю,

ці заснуў я ўвогуле, бо хоць я і не чуў, калі яна ўвайшла, вочы мае раптам расплюснуліся, і — ці не прывід гэта? — у белай начной кашулі яна сядзела блізенька ад мяне, утуліўшыся ў глыбокае мяккае крэсла. Такая гэта, пісацель, была месячная саната! Бо ў пакоі, быццам ад месячнага святла, было відна — ля дома гарэў ліхтар, а можа, і месяц свяціў — не помню, я ж хваляваўся — так выразна пад доўгай тонкай кашуляю ўгадваліся абрысы яе цела! У яе нага на назе, і вось яна, гэтая, каторая зверху, ножка, — найбліжэй да мяне тыя пальчыкі, што нядаўна, пад сталом, дакраналіся да маёй шчыкалаткі. І век не забуду таго, што сказала мне Лідка:

“Даруй мне, Гаркуша, гэты мой дурны выбрык. Хочаш, ганьбуй мяне, хочаш, за даўнія мае грахі выпалі мне гарачым жалезам кляймо на плячы — сама падстаўлю, але памятай: нікога я ў сваім жыцці не кахала — толькі цябе аднаго. І ўсё жыццё малюся, каб хоць ты недзе быў шчаслівы. Бо маё жыццё... сам бачыш... Ён не мой, і я не ягоная... Стары ўжо, сівы, а яго ўсё яшчэ ў твой лес цягне, там, на нейкай стражы, засталося ў яго, мабыць, яшчэ даваеннае першае каханне, дык я іншага разу і падумаю — колькі ж можна яго не забываць? А тады і сябе злаўлю на тым жа: а я ж цябе помню! Хоць і вялікі ты шэльма, ах, як жа абвёў ты мяне вакол пальца з тым аўтобусам, але ж помню!.. Гадавалі дачку... прыёмную, а ён усё ўбіваўся, хацеў, каб у мяне было сваё дзіця, бо гэта з вайны ён бяздзетны, а не я, а мне таксама, каб ты толькі ведаў, Гаркуша, як і мне хацелася нарадзіць хлопчыка, але ж... не абы-якога, бо як толькі падумаю пра яго, цябе згадаю... Не буду далей нічога казаць... не, усё-ткі скажу: калі я і была ў жыцці хоць раз шчаслівая, дык толькі тады, у Заліп'і, побач з табою, на тваім шынялі... А цяпер бэсці мяне, як хочаш... Пайду... Толькі... калі дазволіш... правяду далоняю... па тваёй шчацэ...”

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

“Эх, пісацель! Не было ў цябе такога ў жыцці і ніколі не будзе!.. Выйшаў я раніцай ад Мажэйкі, ён, канечне, яшчэ з пажару свайго не вярнуўся, глянуў на яе акно, а яна ўсміхаецца мне, ды не той, не крывенькаю ўчарашняй, а харошай, любаю ўсмешкай. Толькі чаму з яе вачэй цякуць слёзы, — ох, Гаркуша, Гаркуша, біць цябе трэба!..

А далей адбылося тое, чаго я зусім не чакаў. З усіх бакоў Мажэйкаў сквер акружаюць высокая дамы, але пад адным з іх быццам тунель — выезд на вуліцу, а ля гэтага тунеля, да якога я паціху набліжаюся, дзяжурыць светлая “Волга”. Акурат дзяжурыць — так мне падалося. І я не памыліўся. З “Волгі” высоўвае плечы спартыўны хлопец, вымае з кішэні цыгарэту, ідзе мне напярэймы, як быццам хоча ў мяне прыкурыць, але я даўно гэтым не баўлюся,

дык я і развёў рукамі — няма запалак. Хлопец згодна кіўнуў галавою, а сам так, каб чуваць было толькі мне, пытае: “Гаркуша Іван Адамавіч?” — “Так, — адказваю,— а вы адкуль мяне ведаеце?” — “Ведаем, — кажа ён ветліва, — у нас машына, мы вас адвязём куды трэба”. — “А, разумею,— здагадаўся я, — вас Мажэйка прыслаў”. — “Так, так, Мажэйка”. — “Ну дык мне на аўтобус”, — кажу я. Ён услужліва адчыняе мне заднія дзверы, а я лезу і чую, як нядобра шкрабанула ў мяне ўсярэдзіне: Мажэйка!.. Мала было мне ягонай жонкі, дык ён яшчэ дагадзіў і машынаю. Але хай бы хоць аднаго хлопца прыслаў, а то ж у машыне мне кіўнуў галавою і другі. Той, з цыгарэтаю, лезе ўслед за мною, так я і апынуўся паміж імі двума — маімі праважатымі ці, можа, целаахоўнікамі. “Паехалі”, — кажа гэты, што не вылазіў з машыны. Дзіўна: ён жа не ведае, куды мне трэба, і шафёр не ведае. Але ж вязе, а куды кіруе? Не на вакзал! “Хлопцы! — падхапіўся я. — Мне на міжгародні аўтобус!” А гэты, каторы не вылазіў з машыны, паклаў мне на плячо дужую руку дый кажа: “Іван Адамавіч, не трэба так хвалявацца. Канечне, на аўтобус. Мы толькі ў адно месца на хвіліну завернем, а потым і на аўтавакзал”.

Так яны вязуць мяне, а куды, напэўна, ты ўжо скумекаў, не буду называць тое месца, бо там, браце, вушы! Нават жалезныя вароты і тыя нас пачулі здалёк — адчыняюцца самі сабой, пад тры чалавечыя росты, а за імі вартавы з кінжалам на поясе. Запрашаюць мяне мае Праважатыя, буду іх так зваць, у каменны будынак, доўга вядуць па калідоры, а потым адзін бярэ мяне пад локаць, а другі адчыняе перада мною адны і адразу другія дзверы — яны там падвойныя. Так я і апынуўся ў кабінеце, а ў ім за пісьмовым сталом сядзеў, мабыць, немалы начальнік. Не помню ўжо, як мае Праважатыя яму пра мяне дакладвалі, спытай лепей, на якім я быў свеце, — так абамлеў, бо раптам згадаў, як некалі Чубок, хлопец з органаў, смаліў мне ўслед з пісталета — ажно пачуў, як заціўкалі паўз вуха кулі. Але ўсё-ткі цяпер я не развітаўся назусім з гэтым светам, з Заліп’ем, з сям’ёй, бо начальнік за пісьмовым сталом не здаўся мне вельмі строгім. Вочы ў яго былі трохі запалыя і нечым засмучаныя, і зірнуў ён імі на маіх Праважатых — быццам спытаў: “Каго вы мне прывялі і навошта?” І гэткую ж лёгкую прыкрасць я пачуў і ў ягоным голасе: “Іван Адамавіч?.. Ну сядайце, калі ласка, бач, як мы з вамі сустрэліся, не хацелася б, але што паробіш”. Ён паказаў рукою на крэсла, што адзін з Праважатых тут жа падставіў да стала, я сеў перад начальнікам і адразу пасмялеў, бо нечакана падумаў: цяпер няма таго хапуна, як пры Сталіне, і ніякіх шкодных вершаў пра арляк і каранёвую губку я не пісаў ужо сто гадоў, так што давай, начальнік, пачынай, хацеў бы я пачуць, чым вам гэты раз насаліў Гаркуша?..

Начальнік пераглянуўся з Праважатымі, і абодва яны зніклі за дзвярамі. Ну, што далей? Сваім спагадным выглядам начальнік паказваў, што не хацеў бы рабіць мне штосьці не дужа прыемнае, ды куды дзенешся. "Ну, давайце з вамі пазнаёмімся, — сказаў ён, — мяне завуць Іванам Мікалаевічам, як бачыце, мы з вамі цёзкі, а вас мы ведаем, так што, Іван Адамавіч, можам прыступаць да справы?" А я ў яго пытаю: "А да якой справы?" І пільна гляджу на яго, бо нічога не цямлю. А ён сумненька ўсміхаецца, быццам пацвельваецца з мае няцямнасці, але позірку майго не ўпадабаў — разгубіўся, не ведае, куды падзець рукі. Ды ўрэшце даў сабе рады — сашчапіў над сталом пальцы і сказаў строга: "Іван Адамавіч, пытанні задаваць буду я, а вы будзеце праўдзіва мне на іх адказваць. Дамовіліся? Дык вось маё першае пытанне: скажыце, калі ласка, дзе вы сёння начавалі?" Я адказаў: "У Мажэйкі". А ён: "Мэта вашага прыезду да Мажэйкі?" Эге, думаю, не такі ён прасцяк. Яшчэ толькі цапнуў цябе за рэбры, а ўжо мусіш выкручвацца. Бо не перці ж напрамкі: маўляў, дачка мая — бескватэрная зязюля, дык я і прымчаў, каб Мажэйка тут, у горадзе, памог ёй займець нейкі свой куток. Ляпні так, дык ты ж махляр, хацеў абысці закон, а галоўнае — падстаўляеш Мажэйку, як быццам і ён супраць закону. Але хай бы ён хоць нечым памеўся, а то ж наконт кватэры не было ў мяне з Мажэйкам аніякае змовы. Дый пра што гаворка — на што ён здатны? У яго дачка і тая прыёмная, а каб ён дабіўся табе кватэры?.. "Ну, што ж вы змоўклі, Іван Адамавіч? Адказвайце. — Гэта мой цёзка па-таварыску мяне падганяе. — А хочаце, я вам памагу? Ну скажыце, што проста прыехалі да Мажэйкі ў госці. Хіба так не магло быць? Сабраўся і паехаў". А і праўда, падумаў я, гэта ж так проста. Прыкінуў, якая тут можа быць ягоная хітрасць, на чым ён мяне падловіць, гэты мой цёзка, а ні на чым, дык я і кажу: "Ну, вядома ж, так яно і ёсць — прыехаў у госці". А ён пытае: "Ну а колькі ж гадоў вы не бачыліся з Мажэйкам?" — "Гадоў пад дваццаць, — кажу. — Пакуль ён у нас быў дырэктарам лясгаса, бачыліся кожны месяц, бо і сам я справаздачы вазіў у лясгас, і ён заглядваў у Заліп'е. А потым яго перавялі сюды, у лясное ўпраўленне... так... гадоў пад дваццаць..." — "Дваццаць гадоў, — пагадзіўся мой цёзка. — А цяпер давайце сабе ўявім. Прайшло пяць гадоў — вы да Мажэйкі ў госці не едзеце, дзесяць — таксама вам не зарупіла адведаць свайго былога начальніка, а як набралася пад дваццаць год, тут вы пра яго і ўспомнілі. Вы не маглі б, Іван Адамавіч, паясніць, чаму акурат цяпер вам захацелася наведацца да Мажэйкі?" Што я мог яму сказаць? Канечне, ён заганяў мяне ў кут. Сяджу, маўчу, а ён кажа: "Бачыце, Іван Адамавіч, адзін нуль на маю карысць. Прыехалі вы не проста ў госці. Таму пойдзем далей. Пастарайцеся ўспомніць, пра што вы гаварылі з Мажэйкам ці, можа,

пра каго?" — "Пра што гаварылі? Ды так, пра рознае, я нават не памятаю. Селі за стол, выпілі, закусілі, потым Мажэйкава жонка грала на фартэпіяна, а мы з Мажэйкам слухалі". Мой цёзка прыязна ўсміхнуўся: "Яна грала, а вы сядзелі і слухалі. Правільна, Мажэйка — чуллівая натура, але ж і вы, Іван Адамавіч, вунь як слухалі... што яна вам грала? "Месячную санату"?.. Цудоўная музыка!.. Дык вось я і думаю, ці тую выбралі вы сабе прафесію? Вам не лесніком быць, вас больш на мастацтва цягне, Іван Адамавіч... Ну так, пасядзелі вы, паслухалі, а што было там у вас далей?.." — "А далей, — адказваю, — мяне паклалі спаць, а потым Мажэйку падхапілі на пажар, а потым..." Папаўся!.. Во як ён мяне падлавіў!.. Але ж не можа быць, каб за гэта кожнага так хапалі... Колькі нашага брата ходзіць да чужых жонак і проста да баб, дык усіх так пільнуюць?.. Глупства, канечне... Ды нічога ў мяне такога і не было б, калі б Мажэйку не паднялі па трывозе... "Шаршэ ля фам"! Не жанчына, а д'ябал, колькі з-за яе набедаваўся, а цяпер зноў?.. Хапіла б і таго, што... як цяпер у вочы жонцы зірнуць, дык не, яшчэ і ён цябе тут распінае: скажы яму, што было потым... Вачамі стрэліў на цёзку дый кажу цвёрда: "А што было потым, хоць да сцяны пастаўце, хоць на кавалкі парэжце — ні слова не пачуеце!" А ён пасяброўску мяне дакарае: "Іван Адамавіч, само па сабе ваша асабістае жыццё нас мала цікавіць, усе мы грэшныя, і пакінем гэта ўбаку, калі вы толькі не змусіце мяне зноў да гэтага далікатнага пытання вярнуцца. Мне хацелася б, каб вы ўспомнілі галоўнае... Ну добра, я зноў падкажу вам... Скажыце, няўжо ў вашай размове з Мажэйкам ні слова не было сказана пра ягоную дачку?.. Што вас так збянтэжыла, Іван Адамавіч, у вас сківіца адвісла". Усё, злавіў канчаткова! Яго цікавіць іхняя дачка. А Мажэйка ж казаў мне!.. Навошта ён мне ўвёў гэта ў вушы — звязалася з іншаземцамі! Каб я цяпер яе тут выдаў?.. Хаця — што я магу ім выдаць? Калі яна недзе з некім звязалася, дык яны не ведаюць гэтага? А тады — чаго ён ад мяне дамагаецца?.. Чаго б ні дамагаўся, нічога я пра дачку не чуў, толькі бачыў яе картачку. Так я і сказаў цёзку. І вельмі яго падзівіў. "А вы што, — пытае, — ніколі раней іхняй дачкі не бачылі? Толькі цяпер вам паказалі яе ў альбоме? А калі не бачылі, дык чаму яна вас зацікавіла, навошта вам спатрэбілася ведаць яе ў твар?" — "Дык яны ж мне самі яе паказалі!" У мяне ўжо ніякага цярпення, а ён быццам здзекуецца: "Як натуральна ў вас усё выходзіць — самі паказалі. Ухіляецеся, Іван Адамавіч, ухіляецеся. Добра, зноў я вам падкажу, раз вы ўжо такі някемлівы. З дачкою Мажэйкі вы мелі кантакт і раней — на глебе вашай агульнай любові да мастацтва — хіба не так, Іван Адамавіч?.. Даруйце..." Дзынкнуў тэлефон, але я быццам і не пачуў яго, так мой цёзка агаломшыў мяне сваімі апошнімі словамі. Які кантакт з дачкою Мажэйкі?

На глебе якой любові? Да якога мастацтва? Ён што, звар'яцеў?.. І раптам я чую, а слых у мяне сабачы, я ўжо табе неяк казаў, чую, як у трубцы нехта пытае: "Ну, як справы, маёр? Ёсць якія-небудзь вынікі?" А мой цёзка (аказваецца, ён тут маёр) адказвае: "Тава-рыш... — Кінуў на мяне позірк і званне свайго начальніка пра-пусціў. —...вынікі адносныя. Ланцуг пакуль што не замкнуў-ся..." — "Ну што ж, — голас у трубцы, — хутчэй замыкайце. Ма-рудзіце, маёр, так вы не скора станеце падпалкоўнікам".

Толькі цяпер да мяне дайшло, што ўблыталі яны мяне ў ней-кую вельмі нядобрую гісторыю. Сур'ёзную гісторыю. Дык і я па-мужчынску сур'ёзна зірнуў на свайго цёзку дый пытаю: "Хлопцы, вы тут з глузду часам не паз'язджалі? Я — Гаркуша, памочнік ляс-нічага, а ў вас тут нейкія кантакты, ланцугі — электрыка нейкая! Адпусціце мяне дадому, чаго вы да мяне прычапіліся?" А мой цёзка зірнуў на мяне, ды ўжо не так насмешліва, як строга: "Яшчэ раз папярэджваю, што пытанні тут задаю я! І ад вас залежыць, як хутка вы трапіце дадому. І не будзем хваляваца, Іван Адамавіч, будзем памяркоўнымі, разважлівымі. — Голас яго загучаў мірна, ён ужо не гаварыў, а буркаваў, як голуб. — Вы самі, Іван Адамавіч, цягнеце час, прыкідваецеся нявіннай авечкай, і гэта прымушае мяне разам з вамі зрабіць невясёлую экскурсію ў ваша мінулае. Яно — вось у гэтай сімпатычнай папцы. Вось мы разам з вамі ад-горнем яе, і што ж мы тут, Іван Адамавіч, бачым? А бачым мы тое, што цяга да высокага мастацтва ў вас даўняя, ой, даўняя, Іван Ада-мавіч, — яшчэ ў тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят першым годзе вы ў сваіх вершах узводзілі паклёп на наша жыццё — было такое, Іван Адамавіч?.. Маўчанне — знак згоды. Нагадаю вам, што пісаў пра вас літаратурны эксперт: аўтар — гібрыд касмапаліта з нацыя-налістам. Першы ў гісторыі факт, Іван Адамавіч, калі касмапаліт ён жа адначасна і нацыяналіст. Вы не памятаеце, у якім вершы вы ўмудрыліся выступіць у ролі аднаго і другога? Правільна, верш называўся "Арляк", значыць, вы ўсё помніце. Да вашага арляка мы яшчэ вернемся, не да верша, а да расліны, што так завецца, а пакуль я хачу ў вас, Іван Адамавіч, спытаць: вас папярэджвалі, што нельга займацца антыдзяржаўнай дзейнасцю? Вы абяцалі ніколі больш ёю не займацца? Ну, хоць кіўніце галавою. Ну, ну!.." — "Дзіва што папярэджвалі, — адказваю. — І цяпер чую, як паўз вуха кулі свішчуць". А ён мяне ўшчувае: "Іван Адамавіч! Вы ж толькі не расказвайце нікому такіх баек: кулі паўз вуха свішчуць! Вас проста папярэдзілі па-добраму, а вы паабяцалі не ганьбіць больш сваімі антыграмадскімі ўчынкамі званне савецкага чалавека. Па-абяцалі, Іван Адамавіч? Так, паабяцалі, але слова свайго не трыма-еце. Ну, напрыклад, гэты ваш крылаты выраз:"Усё ідзе на пагібель". Іван Адамавіч, хто вам гэта ў галаву ўбіў? Ну няўжо вы самі шчы-

ра верыце ў тое, што ўсім гэтак настойліва ўнушаеце?.. У нас самая магутная ў свеце краіна, мы першыя запусцілі ў космас чалавека, а тут, дома, мы асушылі Палессе, і раптам — "усё ідзе на пагібель"! Ну добра, думайце сабе на здароўе, але навошта ж агітаваць іншых, вось у гэтай папцы зафіксавана: і аднаго настройвалі супраць меліярацыі, і другога. Я кажу — супраць меліярацыі, але гэта значыць, што і супраць нашага ладу, бо меліярацыя — сімвал новага жыцця палешукоў, ды і не толькі іх..." Ён ушчувае мяне, ды ўжо не лагодна, а строга, дык і мяне, адчуваю, разбірае ўсё большая злосць. Хай, думаю, некалі на вершах пагарэў, дык вінаваты, быў малады і дурны, не ведаў, пра што можна пісаць, а пра што нельга, а якая мая віна тут? Успомніў жончына тарфяное ўдушша, каб не яно, дык, можа, і не стаў бы я надта гарачыцца — "маё дзела старана", казаў калісь стары Мікалайка; але ж — не "старана": хоць і зашыўся ў лес, і дзе яно, тое перасохлае на порах тарфянне, — за Грабянцамі, а ўсё роўна няма і ў лесе ад яго паратунку, бо ўсхопіцца бура, быццам шэрай бруднай анучаю завалачэ паўнеба — і зноў канае ў хаце мая жонка, — словам, уявіў я сабе яе пакуты ды як ляпнуў далоняю па стале: "А хіба не мая праўда? Жонцы няма чым дыхнуць ад вашага смуроду, дык гэта, па-вашаму, не пагібель?!"

Такога адлупу мой цёзка не чакаў, але дзіву даўся не дужа: ну так, не памыліўся іхні хапун — упаляваў каго трэба. Так ён і кажа: "Вось цяпер я веру: пальца ў рот вам не кладзі. А я ўсё цацкаўся з вамі, саромеўся падступіцца да галоўнага".

Мне стала страшна — так захадзілі на шчоках у майго цёзкі жаўлакі. Дрэнь мае справы, бо, аказваецца, ён толькі збіраўся яшчэ прыступаць да галоўнага. Хоць бы адным вокам зірнуць апошні раз на Заліп'е, ды, мабыць, не выбрацца мне ўжо з гэтага каменнага мяшка. Такі ахапіў адчай, што сказаў толькі: "Хоць замуруйце тут, мне ўжо ўсё роўна". А ён пазірае на мяне, ды ўжо не так сурова, як грэбліва: "Досыць, Іван Адамавіч. Што вы артыст, відаць адразу, але пакінем убаку гэты ваш талент. Пагаворым — які вы мастак. І размова ў нас будзе вельмі канкрэтная. Зірніце, калі ласка, вось на гэты здымак, а раптам нешта пазнаеце..."

Пісацель! Ніколі не здагадаешся, каго я пазнаў на тым здымку. Сваю родную дачку! Але не падумай, што гэта была яе картачка. Хаця, як тут сказаць: картачка, а на ёй зяцева карціна, а ўжо на карціне мая дачка. Дзе яны ўцікавалі ўсё гэта і якая тут мая шкода; не магу даўмецца, а цёзка счакаў трохі дый пытае: "Пазналі? Па вачах бачу — пазналі. А цяпер скажыце, якую суму вам за яе заплацілі і чым — рублямі, далярамі?" — "Хто мне плаціў? За што? — Дзівуюся на цёзку, бо, колькі жыву на свеце, не чуў такіх дурнотаў. — Якімі далярамі? Я ў вочы іх не бачыў, паказалі б, што гэта

такое, дык пашукаў бы, бо мог, сволач, у якой-небудзь патайной кішэні заваляцца! — Абураюся, а самому раптам — цюк!.. Мастак, растуды яго так!.. Папаўся, бо з ягоным жа, во гэтым, палатном і памчалася тая легкавушка!.. Але ж калі сам улез у нейкае дзярмо, дык хай як хоча цяпер і адмываецца, а мяне хай і не думае ўквэцаць!.. А каб яшчэ і маю дачку?.. Не прызнавацца! Ніякіх палотнаў не ведаў і ведаць не жадаю!.. Паклаў на стол здымак і сказаў: — Нічога я на ім не пазнаў, першы раз бачу".

Збрахаў і вокам не маргнуў, ніколі не чакаў ад сябе такога нахабства, бо я ж сам яе падмалёўваў, гэтую зяцеву карціну. Але і ў адзін бок мазгамі кіну, і ў другі, не магу ўзяць у толк — пры чым тут я? Чаму ён прычапіўся акурат да мяне? Ну так, зяцева палатно падмалёўваў я, але ж яно ад таго толькі палепшала, на яго зірнуць цяпер можна, бо я ж замаляваў сорам! Вось калі б яно засталося такім распусным, як было, тады хай бы чапляўся, але ўсё роўна не да мяне, а да зяця, а да каго ж яшчэ?.. А цёзка мой пасмейваецца, кпіць: "Хе-хе!.. Першы раз бачыце!.. Не першы, Іван Адамавіч. Вы не толькі бачылі гэты выдатны твор, вы яго малявалі, ці, як гэта ў вас, мастакоў, называецца, — пісалі!.. А каб пераканаць вас у гэтым, я пакажу вам яшчэ два здымкі. Вось, глядзіце. Гэта фрагмент вашай карціны буйным планам — радзімкі на плячы і на шыі жанчыны. А вось гэта яшчэ буйнейшы план — радзімка, павялічаная ў дзесяць разоў. Вы не скажаце нам, што гэта за такія замкнёныя звілістыя лініі на вашай радзімцы?" Ну не, думаю, тут ты ўжо, браце, хочаш мяне ўзяць на дурніцу, карціну падмалёўваў, а калі там яшчэ і нейкія лініі — я не я і рука не мая". А ён працягвае: "Я добры, таму зноў памагу вам. Вось яшчэ адзін здымак, бачыце, акурат такі ж малюнак, такія лініі, але гэта — адбітак вашага пальца на шклянцы. Як яна да нас трапіла, няважна, важней, што і на карціне, і на шклянцы адбіткі супадаюць. Дык як жа так выйшла, Іван Адамавіч, што на карціне, якую вы першы раз бачыце, на адной з сімпатычных радзімак гэтай прыгожай жанчыны мы знаходзім адбітак акурат вашага пальца?"

Прапаў, бо цяпер мне ўжо не выкруціцца! Успомніў: з пэндзля капнуў такі, знаеш, згустачак, і радзімка была падобная на бародаўку, дык я трохі і прыплюснуў яе пальцам. Але ўсё роўна — ну якое тут злачынства, і чаму яно маё, няўжо яны так нядбайна віжуюць, што не напалі на след майго зяця, — карціна ж ягоная, а не мая!.. Так, не мая, аднак жа мой адбітак на радзімцы — во ўліп, дык уліп! Не дзіва, што і цёзка бярэ за горла мяне, а не зяця: "Спадзяюся, Іван Адамавіч, я пераканаў вас, што вам застаецца толькі адно: шчыра прызнацца, каму і пры якіх абставінах вы перадалі, і, вядома ж, не задарма, свой геніяльны твор. Шчырае прызнанне аблегчыць вашу віну, а віна ваша вялікая, вы нават не ўяўляеце

сабе, якая вялікая ваша віна. Вы, канечне, думалі, што гэта так сабе, бяскрыўднае свавольства, — не, гэта ў сто разоў сур'ёзней, як мастак вы пераплюнулі нават свае антысавецкія вершы. Ведаеце, дзе ўрэшце магла б апынуцца ваша карціна? За акіянам, у самім Нью-Ёрку! Добра, што нашы чэкісты яе вылавілі, і дзе, вы думаеце, — ужо ў самалёце! Цяпер вы разумееце, якую каласальную шкоду нанеслі б вы сваёй краіне, нашаму народу, савецкай уладзе?.. Прызнавайцеся, Іван Адамавіч, як бачыце, мы ўсё пра вас ведаем, і раю вам нарэшце ўспомніць, з якой мэтаю вы прыехалі ўчора да Мажэйкі і чаму вас цікавіць ягоная дачка, — яна павінна была перадаць вам новы заказ ці, можа, не заплаціла вам яшчэ за першы?"

"Адказнасць за праўдзівасць прыведзеных у сцэне допыту звестак і фактаў цалкам кладзецца на Гаркушу, бо ў мяне рэальнасць гэтай сцэны выклікае вялікае сумненне. **М.К.**" — такую сціслую зноску зрабіў я ў гэтым месцы Гаркушавай "памоўкі", калі рыхтаваў яе да друку. Мусіў зрабіць. Па-першае, гэта ўжо нейкая фантастыка: Гаркушава ці, лепей сказаць, нібыта Гаркушава карціна ледзьве не трапіла ў Амерыку!.. А па-другое... Я ніколі не цікавіўся дзейнасцю органаў дзяржаўнай бяспекі (спадзяюся, што і яны не цікавіліся мною) і таму не меў ніякага ўяўлення, як яны ловяць дзяржаўных злачынцаў, як іх дапытваюць і г. д., і калі б я не адмежаваўся ад таго, што пачуў пра ўсё гэта ад Гаркушы, я мог бы міжволі яму падыграць і тым самым пашкодзіць прэстыжу органаў, да якіх я адношуся з вялікай пашанай: строгі грамадскі парадак толькі таму і трымаўся ў нас больш за семдзесят год, што некалі яго навёў жалезнай рукою сам Фелікс Дзяржынскі... Словам, зрабіў абавязковую зноску і ўжо хацеў друкаваць Гаркушаву "памоўку" далей, як раптам — тэлефонны званок. Ну, канечне, друкуеш бадай што адным пальцам, дык некаму яшчэ трэба і зусім адарваць цябе ад машынкі. Падымаю трубку і не магу даць веры сваім вушам: "Добры вечар, спадар пісьменнік, дазвольце прадставіцца — з вамі гаворыць... ваш персанаж... Чубок". — "Хто, хто са мною гаворыць?" Напэўна, у маім голасе пачулася: "Табе там недзе рабіць няма чаго?", таму ён спяшаецца мяне папярэдзіць: "Не кладзіце трубку, спадар пісьменнік. Сапраўднае маё імя вам нічога не скажа, таму, даруйце, я вымушаны называць сваё прозвішча ці, можа, нават мянушку, якую вы мне далі ў сваім рамане "Явар з калінаю", дакладней, мяне перахрысціў ваш Гаркуша, таму я — Чубок, памятаеце такога свайго героя?"

Ці не сон гэта? Што Гаркуша і яго жонка Зоя Пятроўна — жывыя рэальныя людзі, гэта зразумела, але што нехта і з тых герояў,

якіх таленавіта малюе ў сваіх "памоўках" Гаркуша, возьме ды і пазвоніць табе па тэлефоне — гэткае мне чамусьці ні разу не прыйшло ў галаву. Чубок!.. Ну, канечне, памятаю. Двойчы ён паяўляецца ў рамане: першы раз з дапамогай пісталета "папярэджвае" Гаркушу, каб не пісаў крамольных вершаў (пра гэта ўжо сказана і ў гарадской Гаркушавай "памоўцы"), а другі раз — у сцэне з першым сакратаром ЦК. І вось цяпер ён, Чубок, уласнай персонаю — неверагодна! Яму, на другім канцы праваду, няцяжка было ўгадаць, пра што я думаю: "А-я-яй, спадар пісьменнік, разгубіліся? Я вас разумею. Так, той самы Чубок, ваш герой. Як памятаеце, адмоўны, і ў такой якасці, у якасці вашага адмоўнага героя, я і хацеў бы з вамі спаткацца. Правільна мяне зразумейце, я ўжо ў адстаўцы, і вам нічога не пагражае. Зрэшты, нічога вам не пагражала і раней, ваша творчасць была заўсёды лаяльнай да ўлад, а цяпер вам і зусім няма чаго мяне баяцца, бо ўжо не вы мой, а я ваш аб'ект. Цяпер вы су́дзіце нас, дык судзі́це справядліва! І калі вы спытаеце, чаму я хачу з вамі сустрэцца, я шчыра адкажу: хачу, каб вы мяне рэабілітавалі, бо мая дадатковая інфармацыя дазволіць вам па-новаму зірнуць на некаторыя мае дзеянні, якія, мабыць, шакіруюць чытачоў вашага рамана. Мяркую, і вам карысна будзе са мною спаткацца, бо здаецца мне, што так проста Гаркуша ад вас не адстане (як у ваду глядзеў!), будуць у яго яшчэ такія "памоўкі", калі, паверце мне на слова, мой кваліфікаваны каментарый, мая кансультацыя будуць вам зусім не лішнія... Вы мяне чуеце?.. Не хачу надакучаць, падумайце, я сябе вам не навязваю, але палі́чыце неабходным сустрэцца, дык мы жывём па суседству і адпачываць ходзім у адно і тое ж месца, у парк да Камсамольскага возера, там вы мяне і знойдзеце — на першай ад моста лаўцы. Даруйце, я патурбаваў вас. Усяго вам найлепшага".

Першае, што падумаў: таленавіты розыгрыш некага з сяброў; прыцюпаеш да Камсамольскага возера, а на першай ад моста лаўцы будзе сядзець каторы і скаліць зубы... Вярнуўся за пісьмовы стол, спрабую друкаваць, але і раз, і другі мой палец б'е не па той літары... А калі ўсё-ткі і праўда Чубок? Тады ён пасланы мне самім Богам і акурат у тую хвіліну, калі якраз няблага было б з яго дапамогай паспрабаваць на зуб гэтую апошнюю Гаркушаву "памоўку": ці не занадта ў ёй мастацкага фальшу? Напрыклад, ці не выдумаў Гаркуша ўвесь гэты свой допыт, а калі не, дык гэтак жа, як і яго, мяне надзвычай дзівіць, чаму органы, кажучы моваю Гаркушы, прычапіліся акурат да яго, хоць ён усяго толькі падмаляваў на свой эстэтычны густ злашчасную карціну, няўжо яны не дапетрылі, што сам шэдэўр належыць пэндзлю прафесійнага мастака, Гаркушавага зяця?.. Ды ці мала яшчэ што можна ў былога чэкіста выведаць?

Чытач лішні раз пераконваецца, што не я пішу гэтую кнігу; па-мойму, гэта той рэдкі выпадак, калі кніга сама сябе піша: паяўляецца новы герой і ён жа яшчэ адзін яе аўтар, цяпер ён чакае мяне на беразе Камсамольскага возера, і я іду да яго на сустрэчу.

За абеліскам у гонар горада-героя падымаецца сцяна высокага чарналесся — парк, а лепей сказаць, лес у горадзе, бо ў ім і думкі не ўзнікае, што на свеце ёсць нейкая ландшафтная архітэктура. Глухі сыры гушчар, не вельмі прыдатны для адпачынку, і я міжволі падумаў: ёсць нейкая змрочная сімволіка ў тым, што ветэран органаў прызначыў спатканне ў такім непрыветным месцы, але тут жа і сказаў сам сабе — ну, гэта ўжо занадта!.. Спускаюся па чарналессі ■ возеру, паціху іду паўз бераг. Параўняўшыся з першай ад моста лаўкай, скошваю позірк: ён, Чубок! Невялікая лысіна, бо не вельмі буйная і сама галава, а спераду, на голым цемечку, два ці тры сівыя кольцы — несумненныя рэшткі той "асобай прыкметы", па якой Гаркуша і назваў некалі гэтага чалавека Чубком. Па маіх падліках, было яму цяпер гадоў шэсцьдзесят пяць, але з твару ён здаўся мне маладзейшым. Сядзеў, скіраваўшы на возера прафесійны — нібыта абыякавы — позірк, і калі я праходзіў міма, не падаў і знаку, што зацікавіўся мною. Ля моста я трохі пастаяў і паволі рушыў назад... Так, ён... "Добры дзень, спадар пісьменнік, — павітаўся Чубок, як толькі я з ім параўняўся. — Сядайце, я рад, што вы знайшлі магчымасць сустрэцца са мною". Ён прыўстаў і моцна паціснуў маю руку. "Даруйце, — сказаў я, — мне няёмка за нашага агульнага знаёмага Гаркушу — прыклеіў вам мянушку, сам жа я, калі дазволіце, буду называць вас генералам, я не памыляюся — вы, канечне ж, генерал у адстаўцы?" У адказ ён сціпла ўсміхнуўся: "Можаце зваць мяне генералам. Зрэшты, гэта няважна, як мы будзем адзін аднаго называць, галоўнае, каб я быў вам карысны".

З гэтым "генералам" я вельмі ўдала да яго пад'ехаў. Канечне, генерал, і не абы-які. Усё жыццё пільнаваў пісьменнікаў, мастакоў і іншых інжынераў чалавечых душ, прафесійным нюхам здалёку чуе, чым кожны з нас дыхае, дык, вядома, генерал, генерал-псіхолаг, бо і цяпер ён проста чытае мае думкі:

"Вас бянтэжаць нейкія канкрэтныя праявы і цьмяныя месцы ў Гаркушавым эпасе. Я вас разумею. Але перш — аб маёй рэабілітацыі. Хачу вам сказаць, што я — не злы Гаркушаў геній, як гэта вынікае з вашага рамана, наадварот, злы геній Гаркуша, мой злы геній. Я вас зацікавіў? Тады ўважліва мяне выслухайце.

Так, мой прафесійны дэбют — гэта той самы мой візіт да Гаркушы, што так жыва апісаны з ягоных слоў у вашым рамане. Тады мы змагаліся з касмапалітамі, фармалістамі і ўсялякай іншай нечысцю, і што было, тое было: на Гаркушу, прымітыўнага верша-

творцу, мы навешалі тых жа сабак — ён у сваіх рыфмаваных практыкаваннях і касмапаліт, і нацдэм, і шкоднік... І праўда, што страляў я з пісталета, цэлячы яму паўз вуха. Усё праўда. Але, ствараючы мой адмоўны вобраз, вы, на вялікі жаль, не задумаліся, як гуманна па тым часе мы, органы, абышліся з вашым Гаркушам. Ягонае шчасце, што ў палкоўніка Навіцкага была нейкая зачэпка, каб яго пашкадаваць, таму ён і паставіў перада мной такую задачу: папалохаць, але так, каб на ўсё жыццё адбіць у лесніка ахвоту да шкоднага вершаплёцтва...Нядаўна прачытаў: у трыццаць сёмым годзе аднаму такому генію здалося — жартаўнікі-следчыя трохі папалохаюць яго і выпусцяць на волю... Не выпусцілі... Вы ўлавілі маю думку? Як было б цудоўна, каб небараку толькі папалохалі — як я Гаркушу!..

Канечне, гэта непрыемна, калі паўз тваё вуха свішчуць кулі, але затое не загрукацеў Гаркуша на Калыму — застаўся ў сваім лесе, не аўдавела ягоная жонка, у яго нарадзілася дачка, урэшце, ён дажыў да той пары, калі ў Заліп'е забрыў пісьменнік-лесаўпарадчык, Гаркуша стаў героем рамана — цяпер скажыце, што некалі я, малады лейтэнант дзяржбяспекі, не зрабіў яму дабра? Дарэчы, і сам я ад знаёмства з Гаркушам меў вялікую карысць — патрэніраваўся ў стральбе па жывой мішэні, таму, калі паступаў у вучылішча, залік па стральбе з пісталета здаў на "выдатна"; потым такі ж залік быў і ў акадэміі, і таксама ўсе кулі паслаў у дзесятку. Але найперш — я ўратаваў Гаркушу, і ў вачах вашых чытачоў вы павінны рэабілітаваць мяне, бо, калі не памыляюся, цяпер вы пішаце працяг Гаркушавай эпапеі. Не памыляюся. У семдзесят другім годзе Гаркуша прыехаў да вас у Гомель, сустрэча ў вас на кватэры доўжылася чатыры з паловай гадзіны, і... я разумею, што вас бянтэжыць: рэабілітоўваць мяне рана, бо мне няцяжка ўявіць, у якім непрывабным святле падаюцца органы ў чарговай Гаркушавай "памоўцы". Тады што ж, выслухалі адзін бок, да канца выслухайце і другі.

Мінула дваццаць год з часу маёй першай сустрэчы з Гаркушам. Памёр Сталін, гістарычны дваццаты з'езд развянчаў культ асобы, абнавіліся органы — усё памянялася да лепшага. Усё — толькі не Гаркуша, бо дабром за дабро органам ён не адплаціў. З цягам часу яго падрыўная дзейнасць набывала пагражальныя маштабы, і я пашкадаваў, што некалі выпусціў яму ўслед адну, а не дзве абоймы. Адно цешыла, што не даў Бог свінні рогі, бо калі б у Гаркушы быў сапраўдны мастацкі талент, гэта быў бы дысідэнт, роўны Салжаніцыну. Але з мяне хапала і прымітыўнага дылетанта: яго ўвесь час цягнула ў тыя высокія сферы, дзе складаюць вершы, пішуць карціны, так, так — сёння ён паэт, заўтра мастак, яму, як раз плюнуць, памяняць пяро на пэндзаль.

Але ўсё, як кажуць, па парадку. У Ленінградскім аэрапорце мытнікі вылавілі кантрабанду. Гэта была ананімная карціна "Жанчына з радзімкамі", антысавецкі характар якой быў відавочны. Вядома, пачаўся пошук яе аўтара — натуральна, па ўсім Саюзе. Так каляровы здымак крамольнай "Жанчыны" лёг і на мой стол. Дадаткам да здымка быў падрабязны аналіз карціны — рэальны, мастацтвазнаўчы. Быў даследаваны кожны квадратны сантыметр карціны, кожны яе мазок. Манера пісьма была названа пераймальнай, запазычанай у майстроў ранняга Адраджэння, аднак галоўнае, што вызначала карціну ў эстэтычным плане, — яе наўмысны стылёвы эклектызм, бо некаторыя сімвалічныя дэталі яе былі выкананы ў стылі грубага, "пячорнага" (так было напісана ў каментарыі) прымітывізму. Гэтымі дэталямі былі: яловая галінка, што захінала грудзі голай жанчыны, а таксама расліна, паводле заключэння батанікаў, падобная на папараць арляк, яго ўзорыстае лісце прыкрывала тое месца на жаночым целе, дзе даўнія мастакі звычайна малявалі фігавы лісток. Мастацкія вартасці карціны, пісаў эксперт, мізэрныя, але нашы ідэалагічныя ворагі абедзвюма рукамі ўхопяцца за гэты "шэдэўр", бо галоўным для іх будзе той змест, што выразна ў ім прачытваецца. Гэта паклёп на наша жыццё, на сацыялістычны лад з ягонай нібыта дзікунскай цнотаю, бо ў агульную гармонію карціны "цнатлівыя", пячорныя мазкі ўрываюцца грубым, пачварным дысанансам і пазбаўляюць адлюстраваны на палатне спрадвечны, створаны самім Богам свет ягонай першароднай, натуральнай прыгажосці".

"Божа мой, Божа, — падумаў я. — Што "паклёп на наша жыццё" ў крыві ў Гаркушы, гэта праўда. Але ж бег чалавек у кантору па квач ды па тую бляшанку з фарбаю — мог бы і пашкадаваць небаракаў-экспертаў, бо столькі цяпер іхнім разумным галовам клопату!.."

"А цяпер, — сказаў генерал, — вельмі важны нюанс. З аналізу карціны вынікае, пісаў эксперт, што шукаць яе аўтара трэба найперш у такіх раёнах, як Урал, Усходняя Сібір, Алтай, Кіргізія, магчыма, аўтар жыў там раней, а пасля пераехаў у іншае месца, магчыма, ён выязджаў у гэтыя горныя раёны на эцюды. Бо за спіною Жанчыны з радзімкамі — горны схіл, вышэй, на грэбені хрыбта, — перастойныя, з акруглымі кронамі сосны, што маглі захавацца ў маладаступных горных раёнах. На азіяцкае паходжанне карціны ўказвае і ледзь прыкметны мангалоідны тып разрэзу вачэй Жанчыны... Словам, і ў Азіі трэба шукаць, і ўсюды, бо сказана — мастак мог з Азіі пераехаць у Еўропу, але ж — вось гэты нюанс! — скажам, у Літве ці ў Беларусі шансы знайсці аўтара-антысаветчыка найменшыя, бо высокіх гор у нас няма, а ехаць на эцюды ва Усходнюю Сібір далекавата.

Але яшчэ не дачытаў я вучонага каментарыя да канца, захацелася нанава прабегчы па ім вачамі, бо здалося, прапусціў нейкую падказку, дзе трэба шукаць мастака, — не ў гарах, а недзе тут, у нас пад бокам. Перагарнуў паўсотню старонак і другі, і трэці раз — зноў прамільгнула нешта няўлоўна знаёмае, сілюся нешта ўспомніць — і не магу. З распухлай галавой паехаў дадому, ноччу доўга не мог заснуць, а раніцай, толькі расплюшчыў вочы, тая ж пакута. У той жа дзень выклікаю маёра. Не, за сваіх мастакоў ён ручаецца, паршывай авечкі ў ягоным статку быць не можа. Ёсць, праўда, двое, якіх ён ведае менш: адзін прыбіўся з Расіі, з Арла, бо ў яго тутэйшая жонка, але ён не жывапісец, а скульптар, а другі нядаўна з тэатральна-мастацкага інстытута, і яго акадэмічная манера далёкая ад якога-небудзь прымітывізму... "Скульптар з Арла?!" Маёр талопіць на мяне вочы. "Так точна, з Арла, а што такое?" — "Скульптар з Арла?!" Хапаю каментарый эксперта, ліхаманкава гартаю — вось што мяне зводзіла, вось яно, тое, чаго я не мог успомніць: арляк, папараць арляк! Другі раз у сваёй практыцы сутыкаюся я з гэтым прадстаўніком разнастайнай нашай флоры — арляк!.. Першы раз, дай Бог памяці, калі ж гэта было? Дваццаць год назад. Там быў верш "Арляк" нейкага касмапаліта ці нацдэма, як жа яго прозвішча — Саладуха? Ды не — Гаркуша!..

Астатняе, як вы самі разумееце, было справай тэхнікі. Дакапаліся: "Жанчыну з радзімкамі" пісалі два мастакі. "Пячорны" прымітыў на ёй належаў Гаркушу, а ўсё "акадэмічнае" — ягонаму зяцю".

Генерал зірнуў на гадзіннік: "Даруйце, вы пазнавата прыйшлі, як развіваліся падзеі далей, далажу другім разам, бо цяпер мне трэба ў садок па ўнука. Калі я вас зацікавіў, сустрэнемся на гэтым месцы ў любы пагодны дзень, хоць заўтра. Люблю, гледзячы на ваду, успамінаць былое".

"Калі я вас зацікавіў"! Дзіва што!.. У мяне дома на машынцы Гаркушава "памоўка", яго дапытвае маёр, і мне ўжо да зарэзу трэба ведаць, што яна магла ім даць, гэтая іхняя аперацыя — засада на Гаркушу? Ну добра, "пячорныя" мазкі — Гаркушавы, але ж не для Амерыкі ён падмалёўваў зяцеву карціну, навошта ж "шыць справу" з анекдота, а калі ўжо яны выцягваюць на допыце жылы з Гаркушы, дык не можа застацца ўбаку і ягоны зяць, бо першы аўтар карціны ўсё-такі ён, а не Гаркуша!.. І другое пытанне: няўжо гэтая іх версія — Гаркуша павязаны з Мажэйкавай дачкою — не шытая белымі ніткамі?.. Генерал спяшаўся, але, відаць было, мае пытанні здаліся яму слушнымі, ён з хвіліну падумаў і сказаў: "Першае пытанне філасофскае, і яно датычыць праблемы "інтэлігенцыя і народ". Вы, пісьменнікі, любіце паразважаць на гэтую тэму, але не толькі вас яна займае. Магу далажыць вам, што мною ў

гэтай праблеме зроблена вельмі важнае адкрыццё, і калі б у свой час да мяне той-сёй прыслухаўся, мы захавалі б стабільнасць грамадства і не мелі б таго хаосу, які маем сёння. Бачыце, якія ў мяне прэтэнзіі? Таму на першае ваша пытанне я не магу адказаць двума-трыма словамі, пагаворым у наступны раз. Другое пытанне — аператыўнае, але яно таксама няпростае, таму, даруйце, пра яго таксама потым. Унук, самі разумееце..."

Мы развіталіся, генерал пайшоў, а я зноў апусціўся на лаўку і надоўга задумаўся. У вушах у мяне гучала гарадская Гаркушава "памоўка" — працяг той сцэны, дзе яго дапытвае маёр, ягоны цёзка.

"Моцна ён прыпёр мяне да сцяны. Ну праўда, што было, тое было: напісаў некалі шкодны верш пра арляк, ды не толькі, пра каранёвую губку таксама, але цяпер, калі ён прыстае з нажом да горла — твая карціна ледзьве не адляцела ў Амерыку, прызнавайся, колькі табе заплаціла Мажэйкава дачка, я, дальбог, падумаў: альбо нехта з нас звар'яцеў, альбо... напэўна, яшчэ я сплю ў Мажэйкі, у тым даччыным пакоі, а далей мне ўсё прыснілася — як мяне прывезлі сюды, як ён вымотвае з мяне душу, гэты мой цёзка. Бывае ж так: сніцца нешта жахлівае, а ты ў сне сам сябе суцяшаеш: гэта сон, сон...

Не сон!.. Бо наяве было: падляцеў легкавік, а зяць з яго ў хату, выхапіў, як з агню, палатно і бягом назад. Толькі нечую руку і змеціў — схапіла скрутак, ды не — яшчэ нехта сівы на міг пахіліўся да дзверцаў, здалося, падобны на Лёшку Гамона. Так яна і панеслася, зяцева карціна, не было калі яму зірнуць на яе, а калі б зірнуў — ведаў бы: не той герой, хто пачынае маляваць, а той, хто канчае, бо не яму зараз будуць косці трушчыць, а мне.

Так я развітаўся ўжо і з Заліп'ем, і з усім белым светам.

"Ну што, Іван Адамавіч, — спагаднымі вачамі зірнуў на мяне мой цёзка, — будзем прызнавацца ці пачакаем вочнай стаўкі?" — "Якой вочнай стаўкі?" — Ад неспадзеўкі я ажно прыўстаў на крэсле. Як быццам і нічога страшнага, чуў жа, бываюць такія — вочныя стаўкі, але чамусьці спалохаўся. А ён зірнуў на гадзіннік і патлумачыў: "А вось такой... вочнай стаўкі. Акурат у гэтую самую хвіліну недзе ў Пулкаве, пад Ленінградам, падымаецца ў паветра самалёт, а сядзе ён неўзабаве на нашым аэрадроме, і сюды, у гэты пакой, знаёмыя ўжо вам хлопцы ўвядуць Мажэйкаву дачку, і яна ўсё нам раскажа — пра сябе і пра вас. Таму, Іван Адамавіч, мне і хацелася б, каб да яе прылёту вы самі ва ўсім прызналіся, гэта вам па-добраму залічылася б. А будзеце ўпарціцца, ну, тады што ж, крыўдуйце на сябе... Будзеце ўпарціцца?.." Майго адказу ён не

дачакаўся, бо што я мог яму адказаць? І тады ён сказаў: "Не хацеў я, Іван Адамавіч, ужываць апошні сродак, але што зробіш... Хочаце адпачыць, паслухаць класічную музыку?.. Вось я націскаю на гэтую кнопку, і..."

Пісацель, хай табе ніколі ў жыцці не давядзецца такога зведаць!.. Я думаў яны будуць трушчыць тут мае косці, а ён мяне і пальцам не крануў, и толькі знішчыў, растаптаў мяне, як быццам я не чалавек быў, а нікчэмная кузурка. Адкінуўся на спінку крэсла, скрыжаваў на грудзях рукі, заплюшчыў вочы — маўляў, вось як уважліва слухае ён гэтую музыку, а якую — ты яшчэ не здагадаўся? Так, гэта была яна, тая "Месячная саната", якую ўчора грала на раялі Мажэйкава жонка, Лідка, "шаршэ ля фам"!.. "Боская музыка! — Ён быў у захапленні ад Лідчынай ігры, мой цёзка. — І не благі запіс, як вы думаеце, Іван Адамавіч? Але адкрыю вам маленькі сакрэт: нас падвяла тэхніка, у гэтым пакоі толькі музыку і запісалі. Затое ў другім пакоі... О, Іван Адамавіч, які ж вы, аказваецца, пракуднік!.. Во, чуеце?.. Ну, ну, ну, ну яшчэ, Іван Адамавіч, ну яшчэ!.. Ах, які малайчына!.. Але ж і яна, ваша каханка!.. Што гэта ў вас там, спружынка?.. Якая пявучая!.. Адзін вялікі пісьменнік сказаў: няма на свеце музыкі больш цудоўнай, чым гэтая... Але ж прыкладны сем'янін, з чужой жонкаю!.. Слухайце, Іван Адамавіч, слухайце!.. Што з вамі, вы плачаце?.."

Плакаў я, плакаў! Ніколі ў жыцці не плакаў, а цяпер плакаў. Чаго ён ад мяне дамагаецца? Каб за гэтую ягоную праўду — праўду, праўду, праўду! — я заплаціў нялюдскай манюю, абгаварыў сябе і Мажэйкаву дачку, якой ніколі ў вочы не бачыў?.. Але што гэта?.. Зноў кароценька дзынкнуў тэлефон, і зноў у некага пра мяне клопат, нават голас здаўся трохі знаёмым: "Ну, ці ёсць якія зрухі? Цвёрды арэшак?.. Што ж, можна пакуль што адпусціць, самалёт не вылецеў, яна вярнулася ў Ленінград. Закругляйцеся".

Маёр на хвіліну задумаўся, пацiснуў плячамі. Відаць было, што адпускаць мяне ён не хацеў, але мусіў. "Ну што ж, Іван Адамавіч, — сказаў маёр, — на некаторы час мы нашу размову перапынім. Аўтобус ваш пайшоў, наступнага чакаць доўга, таму давайце пасяброўску дамовімся: мы адвязём вас дадому на машыне, а вы... А вы, Іван Адамавіч, у нас тут не былі, ніхто нічым тут у вас не цікавіўся, нічога не пытаў — вы пераначавалі ў Мажэйкі, а потым затрымаліся ў горадзе і спазніліся на аўтобус, дык вас і падкінулі на спадарожнай машыне. На спадарожнай — разумееце? Высадзім мы вас ля Грабянцоў, а да Заліп'я вы ўжо як-небудзь пяшэчкам — згода?.. — Ён хітравата прыжмурыў адно вока і паківаў мне гарэзліва пальцам. — Але ж і вялікі вы пракуднік, Іван Адамавіч!"

## 5. Святло ў аконцы

У яе голасе чуецца глухое раздражненне, яна стрымлівае яго ў сабе, не дае яму волі, але яно ўсё-такі час ад часу вырываецца вонкі, як і гэты незразумелы пратэст, — супраць каго і чаго, і няўжо гэта ўсё так сур'ёзна? Прыйшла, каб абвінаваціць мяне, а са мною і яшчэ некага ў смяротных грахах, але спачатку гэтая яе пагроза здавалася мне жартоўнаю, а цяпер бачу — не, яна ўжо і хацела б іншы раз пажартаваць, усміхнуцца, ды яе вусны крывяцца невясёлай грымаскаю.

"То была самая шчаслівая мая зіма. Помню, у той дзень, калі я ўжо чакала Моха, выстойвалі мы з Валікам ля акна, каб яшчэ на вуліцы ўгледзець свайго тату. А то яшчэ, памятаеце, як бывае ўзімку? Шыбуе нехта паўз акно, а ў хаце бяжыць, бяжыць ягоны цень — па сцяне, па столі, толькі ў другі бок — такое цікавае кіно; тады я не магла даўмецца, што за дзіва, а гэта белы снег так знізу ўгору адсвечвае ў хату, а чалавек ягоны водсвет сабою засланяе, таму і рухомы цень. Дык, бывала, настаюся з Валікам ля акна, прылягу на ложак, і раптам, дальбог, ён, Мох, — па ценю пазнавала! Падхаплюся, зірну ў акно — так і ёсць, адчыняе брамку.

Уволю налюбіўшыся, саджалі на санечкі Валіка і каталі, аж пакуль не зловіць ён на шчокі снегіроў. Спускаліся па лесе да моста, пад Высокую Грыву, гулялі з Мохам у снежкі, паказвалі Валіку звярыныя сляды — гэта зайчык прабег, а гэта ліска, хоць яму, немыслю, сляды былі яшчэ зусім нецікавыя. Затое разам з намі і ён падымаў вочкі ўгору, там нешта ўжо яго займала, а што ж як не ваверка, яна пераскоквала з галінкі на галінку, а з іх тады церусіўся белы сняжок.

Так, гэта было маё свята. Але не-не ды быццам вострай іголкай і кальне дзесьці ўсярэдзіне тая праўда, што і пальцечка са штучнага футра, і шапачка, і валёначкі — усё, што на Валіку, не бацька ягоны з Гомеля прывёз, а купіў мой бацька. Аднак жа ўвалімся з марозу ў хату, распранемся, разуемся — і зноў я шчаслівая, бо ці ж не шчасце бачыць, як барукаюцца на ложку бацька з сынам, як гарэзуе малы — то паваліцца бацьку на грудзі, то пакоціцца па ім, то абхопіць ручкамі за шыю...

Паедзе — і зноў мы з Валікам пільнуем ля акна; так ўсю зіму ля яго і прастаялі.

Здагадваюся, пра што вам рупіць у мяне спытаць. Ну, а як жа твая маці... ліхая — пазірала на вас замілаванымі вачамі ды цешылася? А потым і нарадавацца не магла, як, стоячы ля акна, пільну-

еш ты любага ёй зяця?.. Дык я вам адкажу: зімою ні разу маці не папікнула мяне тым акном. Зімою. А што было потым? А потым яна ўсё-такі не ўтрывала, але гэта было ўжо нават не вясною, а ўлетку.

А чаму яна раптам пайшла на мяне ў наступ — таму што ў Заліп'і аб'явіўся мой школьны Рамэо. Была ў яго ў лясніцтве нейкая практыка — ці то гербарый збіраў, ці то нейкія дзялянкі абмяраў з леснікамі, дык бачце, які важны ён ідзе раніцай з імі ў лес, а як жа — каб я праводзіла яго жаласнымі вачамі ды локці кусала, што не пакаялася летась перад ім, каб ён дараваў мне і ўзяў мяне з Валікам. А тады маці боўтае ў місе цеста на аладкі, ды так старанна, што гэта ўжо ёй край не церпіцца нешта мне сваё, матчына, сказаць. Перастала боўтаць, і такая ж яна пакрыўджаная, такая няшчасная — трохі павяла вачамі ў мой бок і дакарае: "Ну і што ты, мая дачушка, выгадала? Вунь які хлопец, вылюднеў — люба глянуць. Маці сынам не нахваліцца, а мне кажа: пагрэбавала твая краля, дык абальецца яшчэ слязамі. Каб такога хлопца ды на горкага п'яніцу прамяняць? Едзе сын на станцыю, а не сляпы ж, бачыць: як толькі аўтобус ля крамы ў Сасноўцы спыніцца, дык ён, зяць твой, з такімі ж п'яніцамі выскача, пляшку ўхопяць, а ў краме піць не даюць, дык яны за вуглом і смокчуць па чарзе з рыла. Так яна мне кажа, ягоная маці, а мне ад сораму хоць скрозь зямлю праваліся. Але хай ужо не шкадуеш ты маці сваёй, яна ж у цябе ліхая, дык хоць бацьку пашкадавала б, ён жа вунь які добры! Ва ўсім патурае табе, а зірнула б, які ў цябе ён — адзін цень ягоны. Шчокі, як у сухотнага, паўпадалі, жывот уваліўся, а летнік на ім — як на калу ці на шкілеце. Але хто ж табе бацька — чужы чалавек, табе толькі твой Мох — святло ў аконцы, зімою на шыбу хукала, каб не прагледзець сваё шчасце, а цяпер і сама ледзь не да аўтобуса бяжыш насустрач".

Вось так яна і ўкалола мяне тым зімовым акном. І дарма. Заступалася за бацьку, папракала мяне бацькам, а сама... Не, гэтага я ўжо ёй не магла дараваць! "Добра ж, мамачка, — думаю, — ты сама штурхнула мяне на тое, на што я не рашалася. Была зладзейкай у роднай хаце, а цяпер стану і шпіёнкай. Бо я шкадую свайго бацьку і люблю, а ты, мамачка, ці любіш яго хоць трохі? Шкадуеш — праўда, а ці любіш, ці кахаеш? Вось гэта я і хачу даведацца: хто ў цябе ў самай-саменькай душы — ці бацька?.. Ты хочаш, каб я выкінула з сэрца Моха дзеля гэтага пыхлівага шляхцюка, другога пана Быкоўскага, а чаму ж ты сама не выкінеш са свайго сэрца... "Табе толькі Мох — святло ў аконцы!" А табе, мамачка, — хто? Можа, скажаш — бацька?.. Добра, пакуль памаўчу, але высачу, тады не крыўдуй!.."

Шпіёнка ў сваёй хаце!..

Я забылася сказаць, што ў той дзень, як завяла маці сваю любімую пласцінку, якую даўно ўжо не заводзіла, — пра благога Моха ды пра залатога свайго хлопца, — у той дзень не было дома бацькі. Ды не проста не было — паехаў ажно ў Гомель. Быў у іх там нейкі Мажэйка, вялікі начальнік, дык маці і надавуміла бацьку, каб паехаў ды праз яго дабіўся нам з Мохам кватэры. Цяпер сама сабе думаю — святая прастата, а тады мяне ўразіла іншае: як жа так, думаю, ты ж ад мяне яшчэ са сваім шляхцюком не адстала, а сама быццам пра мяне з Мохам рупішся? Нячыстае тут нешта, мамачка, — выправадзіла бацьку! Ужо адно гэта здалося мне падазроным, а яшчэ ж — бацька толькі з двара, а ўжо чую, ляпнула брамка, так і ёсць, сунецца таўсматы Няхайчык. Самога не абхапіць, а яшчэ і ногі, як у слана, тоўстыя, непаслухмяныя, дык ён і шоргае падэшвамі. Быў бы дома бацька, Няхайчык і брамку абышоў бы — як агню, баяўся бацькі, а тут ён, чую, ужо і на ганку сапе, а маці пачула першая — бяжыць хуценька ў калідор, бо акурат яе Няхайчыку і трэба. Няхайчык — пажарны вартаўнік, аднак не лес ён ад агню беражэ, а пільнуе тую хатку, што ў зацішку ля Высокае Грывы; як субота, у хатку едзе з раёна першы сакратар, і трэба, каб у ёй было чыста прыбрана, дык Няхайчык і ўгаворвае маці, каб схадзіла ды навяла ў хатцы парадак. Так было ўжо не раз: маці аднекваецца, але ўрэшце мусіць уступіць, бо Няхайчык грозіць — глядзі, маладзіца, каб не ўгнявіла Айчанаша, бо не пашкадуе ён твайго Гаркушу!.. Такая непрыязная гаворка, усё роўна як спрэчка, у іх і цяпер; Няхайчык напірае, а маці не здаецца. Але чую, сёння яна ўпарціцца мякчэй, не так працівіцца Няхайчыку, як уступае, — надта яна сёння падатная — здалася, згадзілася!..

У хатку маці ходзіць з Валікам, ну ведама ж — не адна, Валік жа нешта ў гэтым кеміць, каб быць за сведку! І вось яна ўжо зашпільвае Валіку гузічкі — пад каўнерыкам, на рукаўках, каб у лесе не ўкусіў камарык, а на твары ў яе такая прыкрасць, якую я заўважаю заўсёды, калі яна мусіць дагаджаць Няхайчыку. Але, Божа, няўжо гэта мне толькі так здаецца: сёння яе прыкрасць як бы прытворная, маці не зусім шчырая: быццам і не па сваёй волі выбіраецца ў хатку, але ж і па сваёй, па сваёй!..

Зноў пачула я быццам змяінае сіпенне — пра маці: калісь з Лёшкам Гамонам ажно ў Сібір хацела ўцячы! А другі голас — нібыта ўжо людскі: на ёй першай Лёшка і апёкся, не было ў яе да Гаркушы нікога, а як выйшла за Гаркушу, дык і пагатоў! Але зноў — злое, змяінае: "Нікога не было да Гаркушы? Эге ж, не было! А..." Далей мне хацелася заткнуць вушы, каб нічога болей не чуць, але ўсё роўна — не чую, дык бачу: яна і цяпер яшчэ не старая, мая маці, дык няўжо гэта праўда, што нездарма ён прыбіўся ў Заліп'е, гэты Айчанаш, бацькаў ляснічы? Прымеў бы, дык са свету зжыў

бы свайго памочніка, а ўсё таму, што... вось ён, той зласлівы з'едлівы шэпт: "Нікога не было! А як у школе вучылася, хіба не Айчанаш вадзіў яе за клуб, пад панскія ліпы?"

Нядобрае пра маці лезла ў вушы, а тут яшчэ за акном на сваім шалёным матацыкле пранёсся і сам Айчанаш. Успомніла: іду са школы, з Грабянцоў, а ён даганяе, спыніўся і быццам загадаў: "Сядай, прыгажуня!" Нават не павярнуў галавы, глядзеў проста перад сабою, пакуль караскалася я на задняе сядзенне. І мы паехалі. Трымаюся за ручку, што перад маім сядзеннем, а ён як крутанецца — там была адна такая вялікая лужына, а я рукою як ухаплюся ў яго пад пахаю! І якім жа чужым пачулася мне Айчанашава цела, а тады яшчэ чужэйшай здалася перад вачамі і ягоная спіна. Я ўжо ведала: Айчанаш не любіць бацькі, а бацька Айчанаша, а тут я адчула непрыязь гэтай Айчанашавай спіны і да мяне самой. Але толькі цяпер, калі я ўжо сама зведала, якою яна бывае, як той казаў, праклятая любоў, я згадала той выпадак і зразумела: неўзлюбіў бацьку Айчанаш таму, што люта раўнаваў яго да маці, а мяне — таму што я нарадзілася ў яе ад майго бацькі. Толькі цяпер мне раптам адкрылася гэта: палаў, згараў ад кахання да маёй маці Айчанаш!..

А маці — да Айчанаша? Пра гэта мне страшна было падумаць, бо да слёз шкада было бацькі. Але калі бывае на свеце самы вялікі грэх, дык вось ён: у глыбіні душы я жадала, каб і маці была... ну хоць бы неабыякавая да Айчанаша. Чаму? А тады я падлавіла б яе: бач, як вучыць дачку, дык ты разумная, хочаш адвадзіць мяне ад Моха, а чаму ж ты сама сябе не адвадзіш: праедзе паўз хату ляснічы — слухаеш нешта ў самой сабе, і твар у цябе такі, як быццам табе баліць нешта, душа твая баліць, мамачка.

Дык вось сёння я і падлаўлю яе, а тады і скажу ёй у вочы ўсё, што я пра яе думаю!.. Хай яна толькі заікнецца нядобра пра Моха.

Маці ўзяла ўнука на рукі, я правяла іх за брамку, памахала Валіку пальчыкамі, і сама падумала: скора мы з табою, сынок, убачымся — там, у лесе. Мабыць, ніколі я не была яшчэ такой бессаромнай і бессардэчнай дачкою, аж неўзлюбіла сябе, бо і сама ж я была ўжо не дзіця, не дзяўчынка, а жанчына, маці і пачынала ўжо здагадвацца: чалавечае жыццё такое складанае, што нельга дамагацца ад некага — жыві проста, таму і маці трэба дараваць, што яна і праведная, і небязгрэшная; а тады і неразумнае, непрыгожае гэтае мае шпіёнства. Але я не магла ўжо даць сабе рады: не, усё-такі я выведу яе на чыстую ваду!.. Хацела з паўгадзіны счакаць, але не ўтрывала, замкнула хату і спачатку ціха, а тады ўсё хутчэй і хутчэй — наўздагон за бабай ды ўнукам! Па рэдкім бары збегла ў стары бярэзнік, да возера; з гэтага боку, ад Заліп'я, яго падперла запруда, а з яе, з вузкай калянай грэбелькі, ужо відаць і абнесеная зубчастым штакетнікам падпольная хатка. Цікавае месцейка: лес

не надта густы — сосны з бярозамі, дол роўны і сухі, а галоўнае, пад'езд на машыне да хаткі вельмі хітры: трэба ад моста, што на другім баку возера, узабрацца на Высокую Грыву, а потым на спуску з яе крута павярнуць налева і, абгінаючы гару, пад'ехаць да возера з гэтага боку, дзе запруда. Ну, а я ж пехатою, напрамкі, дык спускаюся з грэбелькі і бачу: зубчастыя вароты прыадчыненыя, значыць, маці адамкнула іх і была ўжо з Валікам у хатцы. Ішла — уяўляла, як убачу ля хаткі Айчанашаў матацыкл, а яго не было, дык і не ведаю, засмуціла гэта мяне ці ўсцешыла, мабыць, я адчула ўсё-такі палёгку. Ну, канечне, гара звалілася з плячэй, цяпер толькі прыдумаць, што я скажу маці, — чаму дома не ўседзела.

Увайшла ў хатку, а ў ёй ні маці, ні Валіка. Дзіўна, дзе ж яны? І раптам!.. Вось яно, тое самае!.. Не паспела яшчэ я тут агледзецца, а ў двор на матацыкле ўляцеў як апантаны Айчанаш. Саскочыў з матацыкла, і я, у хаце, злавіла на сабе ягоны хітравата-прагны позірк — не, мяне ён не ўбачыў, проста зірнуў так на маё акно. А потым... неяк дзіўна ён уладкоўвае матацыкл. Прыпёр адным бокам да лавачкі, а далей... што гэтак ён шукае вачамі?.. Убачыў ладны валун, да хаткі яго прывезлі аднекуль, каб паўнейшай была тут прырода, нахіліўся, абхапіў далонямі знізу і — адарваў-такі ад зямлі, але падняць не падолеў, тады ён падкаціў валун да матацыкла з другога боку. Дзіўлюся, што гэта ён задумаў і дзе мая маці, дзе Валік? А вунь дзе яны былі — хадзілі па ваду. Маці нясе вядро, а Валік ёй памагае — трымаецца за дужку. Увайшлі ў двор, і раптам я заўважаю, як перамяніўся матчын твар, не разбяру толькі, спалохалася яна ці ўзрадавалася. Спынілася, не ведае, што рабіць, на твары нешта падобнае на жаллівую ўсмешку, і няма ўжо ім куды дзецца, так яны з Валікам і набліжаюцца да Айчанаша. Падышлі, а ён перш падзывае да сябе Валіка: "Ну ідзі да мяне, хлопчык, ідзі. — Пад пашкі Валіка хоп дый на матацыкл. — Во які ты герой, сядзі смела, ён не паваліцца, не бойся!" Маці і зіхнуць не паспела, Валік заплакаў, раскірэчыўся, як жабка, і я ўжо ледзьве не кінулася з хаткі, бо гэтае іхняе (шчаўчок пальцамі!) рандэву магло кепска скончыцца для майго малога. Ды не выдала сябе, бо раптам Валік нахіліўся і аберуч ухапіўся за руль — мужчына ўсё-ткі, а маці — то была памкнулася ратаваць унука, а як ён не падае ды яго яшчэ і Айчанаш далоняю спераду злёгку падважвае, дык яна патроху і супакойваецца. І ўжо не так на Валіка пазірае, як... на Айчанаша. І, Божа мой, як яна на яго глядзіць! Улюбёнымі вачамі! Не помню, каб яна хоць раз зірнула так на бацьку. І ў Айчанаша ў вачах такая ж пяшчота, але, мабыць, яшчэ і насмешлівы дакор, а далей я ўжо і чую: "Ну што, Мікалайкава ўнучка, даўно ты мне ў рукі не пападалася, дык цяпер не адкруцішся, хай гэты малы тут пазабаўляецца, а мы там (павёў галавою ў бок хаткі) успомнім, як былі мала-

дыя". А маці яму адказвае: "Твая праўда, былі калісь маладыя. А цяпер старыя мы ўжо, Віталь Фёдаравіч, дык ці варта нешта ўспамінаць? Усё прайшло, мінула, як і не было. А яшчэ і зеллем парасло. Тваім злым зеллем, Віталік, ты яго пасеяў. Не любіў ты мяне, а толькі жадаў, а ■ цябе і любіла, і... Позна. Што было, таго не вернеш, ды ў нас з табою і не было нічога". А ён не згаджаецца: "Ну як жа не было, а за клубам, пад ліпамі?" А яна: "Хіба што там... Не любіў ты мяне... Як я чакала цябе ў бальніцы!.. Не дачакалася... Дык і цяпер... дарма ты яму гэтае седала масціў, не магу я пакінуць яго, маленькі — яшчэ зваліцца". А ён ужо не насмешліва, а вінавата глядзіць ёй у вочы і гаворыць: "Даруй, бо сам я дараваць сабе не магу. Столькі год прайшло, а... ты думаеш, чаго мяне так носіць па лесе? Ад свайго карыфея, мабыць, чула: як быццам сабакі за ім увесь час гоняцца. Здзекуецца, смакуе, бо ведае, чаму я месца ў гэтым лесе сабе не знайду, чаму кідае мяне з аднаго канца ў другі. Навошта я сюды вярнуўся? Думаў, яшчэ перайграем з табою нешта, а тут — не ўседзець у канторы, бо чую, ты побач, але... Дурная ты! Зглуміш жыццё з гэтым сваім недапечаным, ці ж такога лёсу ты вартая?.. А можа, яшчэ не позна, Зоя? Канчаецца мой лес, неўзабаве пайду на павышэнне, на вялікае павышэнне, дык яшчэ ўзялі б сваё ад жыцця, га, Зоя? Згаджайся, не раздумвай!.."

Як сказаў ён гэта, чую, сэрца маё замірае, бацечка ты мой родны, толькі адно і падумала. І ўжо ўсё роўна, што яна адкажа яму, галоўнае, што недарма ёй ажно млосна робіцца, варта праехаць яму на матацыкле паўз акно; а цяпер яна, здаецца, растае ад заміравання і шчасця, што так блізка яго бачыць. І яна была б не супраць, каб нешта з ім яшчэ "перайграць", ды бач, якая перашкода: "Не, Віталь Фёдаравіч, куды ўжо мне з табою. У цябе ў раёне твая Волька-артыстка, дый дачка ў цябе там, яны валасы мае павыдзіраюць". Яна сумна жартуе, а ён вунь як сур'ёзна ёй даводзіць: "Ты не зразумела мяне. У раёне я, можа, якіх паўгода і пасяджу, а там... гэта будзе Гомель, Зоя, а не раён. Дагадзілі мы з табою нашаму першаму гэтай хаткаю, яго пераводзяць у Гомель, а з сабою ён забярэ і мяне. Даў слова. А з жонкай я даўно разведзены. Згаджайся, Зоя". Але яна гэты раз быццам не пачула яго. "У цябе гузік адарваўся. Прышыць няма каму. — Не зводзіць з яго ўлюбёных вачэй, але ўсё ж насуперак самой сабе кажа: — Едзь, Віталь Фёдаравіч, пагаманілі, і досыць. Не хачу, каб людзі тут нас убачылі. Каб лішняга не падумалі. Мой ты быў хлопец, ды — не мой, і нічога ўжо не паправіш".

Маці зняла з матацыкла Валіка, узяла вядро з вадою і накіравалася да хаткі, а я, перад тым як запэрабіраць нагамі па лесвіцы — хутчэй на гарышча! — паспела яшчэ заўважыць, як Айчанаш скрыжаваў на грудзях рукі і роспачна паківаў галавою.

Потым я ціхенька злезла з гарышча і ўвайшла ў пакой, дзе завіхалася з мокрай анучаю маці; не помню ўжо, як я патлумачыла, чаму прыйшла ўслед, але не забуду, як унікала я глядзець ёй у вочы.

Скажаце, ну і што табе дало тваё шпіёнства? На чым ты яе злавіла, сваю маці? На здрадзе бацьку? Наадварот, такім верным жонкам трэба помнікі ставіць. Ну дык і праўда, акурат гэта я і хацела высачыць. Бо цяпер маці дала мне ў рукі такую зброю, дзякуючы якой я магла пастаяць за сябе і за Моха.

І нядоўга я чакала яе новага наступу. Бо гэта была ўсяго яе хітрасць: калі ўжо мы з бацькам не выкінулі з галавы п'яніцу Моха, дык і яна нібыта змірылася з намі — нават паслала бацьку ў Гомель да Мажэйкі, каб той паспрыяў нам з кватэраю. Але не кватэра была ў яе наўме, а яе ганарлівы шляхцюк — толькі і не даймала мяне ім, пакуль бацька быў у Гомелі. Наўрад ці дапускала яна, што вернецца бацька і скажа — ёсць там цяпер прыстанішча ў дачкі, хутчэй яна была ўпэўненая, што нічога бацька ў Мажэйкі не даб'ецца. Вось тады яна і пусціць зноў у ход свайго шляхцюка.

А тут і бацька ідзе з аўтобуса... Сеў на табурэтку — твар, як ад пылу, шэры, шчокі запалыя, вочы пагаслыя, а загаварыў, дык мы і не рады былі — дальбог, трызніў: “Мажэйка, Мажэйка! Знайшлі мне начальніка! Ніякай там няма ў яго ўлады. Але Гаркушу і без Мажэйкі ўсе ведаюць, пасадзілі ў легкавік і павезлі — кажуць, будзе вам казённая кватэра — спачатку табе, а потым, можа, і твайму зяцю... А пасля перадумалі, едзь, кажуць, пакуль што ў сваё Заліп'е...”

Такі ён вярнуўся з Гомеля, мой бацька, дык не дзіва, што назаўтра і заблісkалі ў матчыных вачах маланкі: “Ну і што вы са сваім шчырым бацькам выездзілі ў сваім Гомелі? Чаго вы дамагліся? Такога хлопца адпрэчылі! Пахадзіў-пахадзіў міма хаты дый паехаў, а ты цяпер кукуй ля акна, чакай свайго п'яніцу. А гэты, маці казала, недзе круглы выдатнік. Тваім ба́цькам вунь як ляснічы папіхае, бо надта ён у цябе разумны, думае, што “на практыцы” ўсё схапіў і ўсё чыста ў лесе выведаў, але як няма ў галаве вялікай навукі, дык насіся, як дурань з пісанай торбаю, са сваёй практыкай, за яе ў базарны дзень і рубля не дадуць. А як з інстытута... Сядзе на Айчанашава месца, вось пабачыш. А тады і сама ты адумаешся, ды позна будзе. Дык адумалася б цяпер. Пакуль жывыя ды не старыя маці з бацькам, дык і Валіка падгадуем, але ж рана ці позна, а давядзецца і вам самім пра сябе падбаць, дый не кожнае пра сябе, а каб ты пра яго, а ён пра цябе — як мы бацькам; але ж як твой пра цябе падбае, калі ў яго ні кала ні двара, ні занятку путнага. Я ж пагляджу на яго, а ён як колісь твой бацька — здурнеў быў, пісацелем захацеў стаць, а тады, бач, нехта прыедзе і забярэ яго і мяне з ім, ажно ў Мінск, а там мы піць ды гуляць будзем. Дык

бацька ж хоць падурэў трохі дый за розум узяўся, а твой жа як сурочаны нейкі...”

Слухаю, а ўва мне падымаецца, не дае ўжо дыхнуць мая злаcлівая радасць: нездарма я шпіёніла за табою, мамачка! Зноў разабраў цябе твой зводніцкі сверб, зноў ты пра тое ж — як пра бацьку дбаеш. Дык я ж цябе зараз асаджу! Зірнула на яе, ды так, што яна асеклася на паўслове. А я і пытаю: “Скажы мне, мама, толькі чыстую праўду, ці любіла ты калі-небудзь майго бацьку, ці кахала?” Як жа яны жахнуліся, шэрыя матчыны вочы! “Бог з табою, дачушка! — Яна таропка, зводдаль, перахрысціла мяне. — Каб не любіла, дык ці жыла б я з ім дваццаць гадоў? А чаму ты пытаеш? Можа, пачула пра мяне што брыдкае, дык не вер, што б дзе ні плявузгалі, была верная твайму бацьку і буду ягоная да скону”. Вось гэта я ў яе і падхапіла: “Мамачка, дык і я ж кажу: ты ў мяне святая. А святыя заўсёды пакутнікі, ты ведаеш. Дык і ты святая пакутніца, ты прынесла сябе майму бацьку ў ахвяру, а я не хачу быць ахвяраю таму, за каго ты мяне сватаеш. Я хачу любіць, разумееш, любіць — не дбаць пра яго, як ты пра бацьку дбаеш, не даглядаць яго, як ты даглядаеш, а любіць! А люблю я Моха, толькі яго, таму што ён мой — разумееш? — мой, мой, мой! І я не кіну яго! Гэта калісь цябе — чула я, чула! — дзед Мікалайка за каго захацеў, за таго і аддаў, бо ты падатная была, пакорная, а я не такая, мамачка, я буду змагацца, я не паддамся, як ты!” Маці горасна паківала галавою: “Дурненькая ты. Будзеш змагацца. Змагайся — ад бацькі ж навучылася. Ён ўсё жыццё змагаецца, а сталі мы ад гэтага шчаслівейшыя? Ты хоць падумала б: калі б я не была, як ты кажаш, пакорная ды не выйшла за твайго бацьку, дык і цябе не было б на свеце, радзілася б зусім іншая дзеўка. А так у мяне ты, бацькава дачка, дык ці ж я вораг табе, ці ж я табе зла жадаю? — Спачатку яна мяне ўшчувала, а потым па яе голасе чую — гэта ўжо вымова, і раптам — ого які, аказваецца, у маёй мамачкі характар. — Ударыла ў хамут! Любіш, дык і любі на здароўе, цалуйцеся, мілуйцеся, бо і праўда, якое ж гэта каханне — даглядаць, варыць яму ды кашулю мыць — маці і наварыць, і памые!”

Гэта ўжо ў нас усчалася амаль што сварка. Чула, варагуюць іншы раз і грызуцца дачка з маткаю, а ў сваёй хаце я і ўявіць сабе такога не магла, але не сцярпела, бо гэта нешта ўжо раўнівае, бабскае: “цалуйцеся, мілуйцеся!”, а яшчэ і гэты быццам не матчын, а нейкай чужой жанчыны папрок — яна Мохаву кашулю мые! Не сцярпела, але адно — быць шпіёнкай у роднай хаце і таіць у сабе штосьці выведанае, а другое — кінуць у твар маці такое, калі ты ўжо не яе дачка, а вырадак. Дык вось я і кінула: “Супакойся, не будзеш ты яму болей ні варыць, ні кашулю мыць, сама і навару, і памыю. А табе толькі падзякую — за тое, што не паўтару тваёй

памылкі: буду мыць і варыць таму, каго кахаю. А трэба будзе, дык і гузік прышыю — таму, без каго не магу жыць".

Як пабялеў матчын твар! "Змяя! — Гэтак пагардліва і грэбліва яна ніколі на мяне яшчэ не глядзела. — Высачыла. Дык хутчэй бацьку выкладзі, ён жа сляпы, нічога не бачыць!.."

Божа мой, бацька ўсё бачыў і чуў, бо даўно ўжо, мабыць, стаяў у дзвярах! Ды я ўжо не магла сябе стрымаць — напаследак зайшлася ў істэрыцы: "Не чапай майго Моха! Пацярпі! Скора ён забярэ мяне, скора забярэ! Табе на злосць!.." Кінулася ў спальню, упала тварам на падушку — чэрствая, брыдкая: накінулася на маці, але каму цяпер ад маіх слоў мацней баліць — ёй ці бацьку?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Скора Мох мяне забярэ!.. І адна ноч у слязах, і другая... Ужо і месяц мінуў, а ад яго ні слыху ні дыху — як у ваду кануў... І зноў — заснуў Валік, а я ляжу з расплюшчанымі вачамі. Слёз ужо няма — выплакала, адна душа заходзіцца болем. І раптам чую: бацька ўключае на кухні святло, пацiху адчыняе мае дзверы. У майцы, сеў ля вушака на табурэтку. "Не спіш?" Я не адказала. "Што я табе скажу, дачка, — уздыхнуў бацька, — гэта нас, мужчын, трэба праз аднаго вешаць, і мяне ў тым ліку, а маці сваю ты не крыўдзі. Досыць таго, што мною яна на ўсё жыццё пакрыўджаная... Гарбатая баба, звекавала ў гадавальніку... Але паслухаць яе, дык ваша бабскае шчасце акурат тут, у Заліп'і... Не, другі раз я гэтага не дапушчу... А ты ёй даруй: яна не возьме ў толк, што ты — зусім іншае. У цябе Мох, і ён у Гомелі. А што недзе трохі забарыўся, дык усякае ў жыцці бывае. Калі што якое, я сам усю віну вазьму на сябе".

Зноў бацька трызніць — ужо нейкай віною. Але дзякуй яму — пачарнеў праз Моха, а стаіць на сваім, не здаецца. А я тым болей не здамся... Бацька пабрыў да маці ў залу, чую, перамовіліся на ложку і ўжо, мабыць, заснулі, як раптам...

Святло ў аконцы!.. Не ведалі яны, што такое можа быць у дачкі і ўначы... Яны там, у зале, заснулі, а я чую, нехта ціхенька стукае ў маю шыбу. Падхапілася, адхінула фіранку — госпадзі, ён, Мох!.. Ляснулі зашчапкі; аконца — насцеж, упала ў начной кашулі яму ў абдымкі — каб хто ўбачыў, падумаў бы, нехта Гаркушаву дачку выкрадае. А ён, абцалаваўшы мой твар, шыю, грудзі, перш увапхнуў мяне, а ўслед і сам лезе, як мядзведзь, у хату!..

А раніцай, калі ўжо і Валік збегаў да бабы — татка прыехаў! — Мох пачаў горача тлумачыць, чаму так доўга яго не было: з нейкім Жорам адлучаўся на раён, там рабілі нейкія вітрыны (так мне тады пачулася, хаця там былі ў іх, напэўна, вітражы), а я моцна прыпала шчакою да ягонай шчакі, і той боль, які я насіла ў сабе доўгі час, вырваўся з маіх грудзей: "Усё. Больш я тут без цябе не застануся.

Куды ты, туды і я". І — о, цуд! — Мох на момант затаіў дыханне, пагладзіў мае валасы і супакоіў: "Ну і правільна, старушка. Складвай чамадан, паедзем. Праўда, пакуль што шыкоўных апартаментаў я табе не абяцаю, але гэты мой друг, Жора, уступае мне невялікі пакой — не фантан, канечне, але жыць можна, у яго там была майстэрня, і яе няцяжка прыстасаваць пад жыллё. Так што збірайся".

Ад радасці не ведала, як абвясціць пра гэта ў хаце. Паснедалі, Мох з Валікам пайшлі прагуляцца, тады я і абвясціла. У бацькі свята. "А я што казаў — прыедзе і забярэ! Бач, як добра, што адвезлі калісь падушкі ды коўдру, цяпер за чамадан — і на аўтобус. А ты, маці, гаравала!"

А далей яго і зусім разабрала. Зухавата пляснуў у далоні, маці зірнула на яго, як на блазна, а ён пацвельваецца: "А што, цешча, можа, збярэш чаго на стол? Вернецца зяць, пасядзім, пагамонім. Пляшка ж там у нас ёсць?"

Недавер і скруха ў вачах у маці, і ўся яна як ахінутая жалобаю. А бацька падганяе: "Ну збяры, збяры на стол. Ты ж бачыш, акрыяў зяць, будзе толк!.."

Сам бацька паказвае прыклад: бяжыць у склеп, нясе два слоікі, адзін з памідорамі, другі з грыбамі, а маці хоць і збірае нешта на стол — талеркі, відэльцы, і, чуваць, на кухні ў яе нешта пражыцца, але твар у яе такі, як быццам яна не бяседны стол рыхтуе, а хаўтурны. Вярнуўся Мох з Валікам, маці вымучана ўсміхнулася зяцю, а бацька нецярпліва пацёр далоні і зноў пляснуў імі гарэзліва: "Сядай, Валодзя, вып'ем, а то пастаіць-пастаіць дый вытхнецца, га? А разам і пра жыццё-быццё паталкуем".

Здзівілася, як годна паводзіў сябе Мох — быццам і не заўважыў на стале пляшкі, а я ж помніла, як калаціліся ў яго рукі, толькі прынясу яму гэткага зелля ў Савіну хату. А цяпер ён адно дапытліва і трохі насмешліва зірнуў на бацьку, на маці — быццам адказаў ім: ну што ж, давайце паталкуем. Меў ён выгляд чалавека, які ведае сабе цану: шырока разведзеныя плечы, раскаваныя рухі, праўду сказаў бацька — акрыяў Мох, а калі выпілі па чарцы і збольшага закусілі, Мох першы і пачаў гаворку: "Я да вашых паслуг, Іван Адамавіч, але пра што будзем талкаваць, пра якое жыццё-быццё? Калі пра наша са старушкаю, дык ёсць грэх: слова джентльмена пакуль што не ўдалося мне стрымаць, не ўсё залежыць ад нас, Іван Адамавіч. Таму штó я вам скажу — будзем змагацца!" Заўважыла, як недаверліва варухнуліся матчыны вусны, а бацька згодна кіўнуў галавою і сказаў: "Так, не ўсё ад нас залежыць, твая праўда, гэта я на сабе зведаў. Але ўсё-такі, ну скажы ты мне, калі ласка, вось ты мастак, і калі нешта малюеш, ці пішаш, як гэта ў вас завецца, дык не задарма ж — я так разумею ці не? Яны ж там у вас

страшэнна зарабляюць — пісьменнікі, мастакі, хто там яшчэ — розныя кампазітары, артысты! Хіба не так? Я помню, быў на практыцы, недалёка ад Пракопаўкі, вёска такая, а ў ёй пасля вайны быў настаўнікам Іван Шамякін, дык, расказвалі, галашчок, а ён бяжыць у шыняльку дзетак вучыць, а як напісаў "Глыбокую плынь", глянулі, а на ім ужо паліто, дый не абы-якое — з каракулем! А мастакі ж яшчэ і багацейшыя. Пісалі ў газеце: адзін мастак, можа, Рэпін, намаляваў цара. І колькі, ты думаеш, заплаціў цар? Дзесяць тысяч залатых рублёў, а карова каштавала тры рублі! Ну, разумею, у цара было багата грошай, таму і заплаціў па-царску, але ж і цяпер намалюе, напрыклад, нехта Леніна, дык няўжо ягоны партрэт каштуе менш, чым цароў?"

Мох паклаў відэлец, аблакаціўся на стол — бацька цярпліва чакаў ад яго адказу. "За Леніна плоцяць, — пагадзіўся Мох, — нават вялікую прэмію могуць даць. Але, разумееце, Іван Адамавіч, не кожны возьмецца пісаць Леніна". — "Што ты кажаш! — здзівіўся бацька. — А хіба ж вас не вучылі? Хаця, канечне, — вялікая адказнасць, калі што якое, па галоўцы не пагладзяць". — "Так, вялікая адказнасць", — яшчэ раз пагадзіўся Мох, аднак мне пачулася, што ў бацькавы словы ён укладвае нейкі свой сэнс. Бацька гэтага не заўважыў. "Ну нічога, — суцешыў ён Моха, — не бяры ў галаву. Намалюеш што-небудзь іншае. Хаця таксама — сказаў бы ты мне, Валодзя, а вось за гэтае, як ты кажаш, за сваё... круглае... дабро... ці маеш ты хоць трохі?" — Бацька пацёр пальцамі — паказаў, што́ яго цікавіць... Мох надоўга задумаўся, і нешта каменнае пракінулася ў яго нерухомай паставе. Такім я ніколі яшчэ не бачыла Моха. Ён і раней мог заглыбіцца ў сябе, але ж было відаць, гэта — тая змрочная безвыходнасць, ратунак ад якой — хутчэй на аўтобус, і там, у Сасноўцы, пляшка за вуглом крамы на траіх. Тут жа было нешта іншае. Аднойчы, калі маё каханне да яго стала ўжо не такім сляпым (зрэшты, ці стала?), я ў яго спыталася: "Навошта ты п'еш?" І пачула ад яго цэлую тэорыю. "Для чаго ў прыродзе існуе алкаголь? Чаму прырода не выпрацавала ў чалавеку якой-небудзь ад яго засцярогі? Таму што алкаголь размякчае чалавека, робіць яго амаль што фізічна бесхрыбетным, чалавек гнецца, падае, гіне пад плотам, але... не ламаецца і, як гэта ні дзіўна, па вялікім рахунку часцей за ўсё застаецца чалавекам. Спадзяюся, старушка, я ў цябе не зламаўся, дык вось гэта і ёсць адзін са спосабаў, як можам мы ўратавацца ад сваёй чалавечай пагібелі. Але пры гэтым трэба заплаціць дабрабытам і шчасцем сваіх блізкіх, у нашым выпадку тваім шчасцем, старушка. Тады што ж рабіць? А тады я выбіраю другі спосаб. Бо ён ёсць. Можна і не піць, калі ў табе цвёрды нязломны стрыжань. Нязломны — разумееш? Бо цвёрды ц в я р о з ы стрыжань часта бывае крохкі. Пытаеш, як можа зламацца

цвярозы мастак? Вельмі проста. Пачну пісаць, як трэба, як пішуць усе, і тады мае карціны будуць паказваць на выставах, іх па нечай камандзе будуць купляць музеі, у мяне завядуцца вялікія грошы, да мяне прыйдзе слава, мяне ўзнагародзяць ордэнам, нарэшце, старушка, нарэшце... мне дадуць кватэру!.. Цяпер ты разумееш: вельмі лёгка зламацца, калі за гэта табе абяцаюць усё, — ад гэтага ўсяго вельмі цяжка адмовіцца! На гэта здольным аказаўся толькі адзін чалавек. (Мох назваў прозвішча, тады яно мне нічога не сказала, бо, як цяпер я згадваю, наогул пачула яго ад Моха першы раз — прозвішча Салжаніцына.) Да такога выпрабавання, — працягваў Мох, — я гатовы, але зноў жа — тая самая непамерная цана; што будзе з табою, старушка, з Валікам, вось чаго я пакуль што дакладна сабе не ўяўляю". Такая ў яго была тэорыя, і, мабыць, цяпер, за сталом, ён замацоўваў яе на практыцы, выбіраў другі спосаб, як застацца чалавекам: адно, што піў ён толькі за кампанію з намі ўсімі, а другое... Вы не забылі, што спытаў у яго бацька — ці мае ён хоць трохі за сваё "круглае дабро"? Дык пасля доўгай паўзы Мох і адказаў: "Не маю, Іван Адамавіч. Але ўсё роўна я ад свайго не адступлюся, як пісаў, так і буду пісаць. Рана ці позна прарвёмся, Іван Адамавіч, і ўсё ў нас са старушкаю будзе а'кей!"

Ніколі не забуду ягонага "а'кей", бо ён на мяне яшчэ і зірнуў, я ж сядзела напроці, і той позірк, не ведаю, як сказаць, не прыняў мяне, адштурхнуў?.. Не, ён не адштурхоўваў, проста я быццам наткнулася на нешта непранікальнае ў ім, пацвярдзелае. Мне зрабілася трохі не па сабе, на мяне зірнуў нейкі іншы Мох. Аднак тое валявое, мужчынскае, што цяпер у ім брала верх, падабалася бацьку: даўно ўжо гэтак не свяціўся яго твар, ніколі з такім задавальненнем не размаўляў ён з Мохам. Не скажу так пра маці: з яе твару не сыходзіў усё той жа фатальны выраз: "Чуе мае сэрца бяду, ой чуе!"

Аднак і назаўтра ў нас з бацькам дзень быў як святочны. Бацька ў вясёлым настроі пайшоў на работу, а мы ўтраіх — я, Мох і Валік — да абеду гулялі на вуліцы. Ужо была восень, а вы ж, можа, памятаеце, напроці канторы, ля вугла Лёшкавай хаты, расце высокі раскошны клён, дык Валік і збіраў пад ім апалае лісце. А яно ж ведаеце якое — і, як воск, жоўтае, і ружовенькае, і яшчэ цямнейшае — бурачковае, і барвовае — ад радасці ў малога разбягаліся вочкі, не ведае, які лісток ухапіць; назбіралі пышны букет і прынеслі ў хату, каб парадаваць бабулю. Ды не надта яна ўзрадавалася.

Паабедалі, і Мох доўга быў "канём" — Валік любіў вярхом на бацьку вандраваць з пакоя ў пакой, баязліва і радасна павіскваць, падгінаючыся пад вершнікі... Потым Мох зазірнуў у свой вялікі, з

цупкага брызенту рукзак, выбраў кардонку — на іх ён піша ў лесе, праверыў нешта ў эцюдніку — так ён збіраўся на Белую касу, — яшчэ там, пад клёнам, ён сказаў мне, што акурат такой парою, увосень, яму даўно хацелася яе напісаць. З Валікам на руках я папраўіла на шыі ў Моха клятчасты шарф, ён узяў на плячо эцюднік, яшчэ раз пацалаваў нас. Падышла з Валікам да акна, і Мох, ужо з вуліцы, памахаў нам рукою.

Заўтра і я так разам з ім памахаю рукою роднай хаце. Засталося толькі скласці чамадан. Хаця што тут складваць: спаднічка, кофтачка, два плацці... А з абутку — лакіраваныя туфлі-лодачкі. Божа мой, гэта не туфлі, а цэлая легенда! Іх некалі маёй маці, калі яна яшчэ была дзеўкаю, падаравала настаўніца, Сава, сама яна калісьці, можа, два разы і абула іх на танцы, яшчэ недзе ў Гомелі, а потым і маці пражыла век, не вылазячы з Заліп'я, дык дзе ж тут у іх пафарсіш — таксама лічаныя разы абула, як ішла ў госці... Паклала нешта з бялізны, ручнікі, колькі талерак ды лыжак — на чамадан хапіла... Складваю, а сама заўважаю: маці яшчэ не верыць, што ўсё гэта ўсур'ёз. Так яна і пайшла ў Грабянцы па хлеб — панесла гэты свой недавер уваччу.

Пад вечар мы зноў стаялі з Валікам ля акна — чакалі з лесу Моха. Маці недзе забарылася ў Грабянцах, ужо змяркалася, а яе ўсё няма; неяк вусцішна рабілася ў мяне на душы, бо, здалося, я чую матчын голас: "Чуе мае сэрца бяду, ой чуе!" Моха не было, дык дзе ж ён? Адчула, як вочы мае поўняцца слязамі.

Вярнулася з Грабянцоў маці і вельмі здзівілася, што цёмна ў хаце. Уключыла святло, а я сяджу на канапе і плачу. Маці апусцілася на крэсла ля стала, Валік адразу ўзабраўся ёй на калені, але яна не заўважала яго, сядзела як каменная. Чула — распранаўся ў пярэдняй бацька, а калі ўвайшоў да нас у залу, я падхапілася і ўткнулася тварам яму ў грудзі: "Ён уцёк, татачка, ён уцёк!" Уздрыгвала ад крыўды і роспачы — так, уцёк; сказала яму — куды ты, туды і я, дык і спалохаўся, што ўвяжуся за ім, дурыў галаву — ідзе, бач, на Белую касу, а сам уцёк, уцёк!.. Не магла суняць слёз, і хацелася, каб бацька суцешыў, супакоіў, абнадзеіў. Дык ён і суцешыў, але як! "Нічога, дачушка, — ён ласкава паляпаў мяне па плячы, — такая ўжо гэтая хата, не ён першы з яе ўцякае. Але тады злавілі, зловім і цяпер". — "Пляцень ты непадплятаны! — загаласіла маці. — Калі я ўцякла, ты яшчэ не пасмеў дакрануцца да мяне, а ў тваёй дачкі ад яго дзіця ўжо во якое! Даччына доля рушыцца, а табе дурныя жарты наўме!" Бацька як і не пачуў яе галашэння: "Тады дзед Мікалайка вярнуў дэзерціра, а цяпер каму ж як не мне лавіць давядзецца?"

## 6. Аблога

“Ну дык вось, — расказвае ў мяне за сталом Гаркуша, — адпусцілі мяне з таго каменнага дома, падкінулі да Грабянцоў — шыбуй, Гаркуша, у сваё Заліп’е, жыві і чакай, як вол абуха, бо ён жа не назусім выпусціў мяне на волю, той маёр, а як бы ўмоўна: як толькі прыляціць з Ленінграда нейкі іх самалёт, яны зноў пацягнуць мяне на допыт ці ўжо на вочную стаўку — прысабачылі яны мне Мажэйкаву дачку, якой я і ў вочы не бачыў!.. Жыву, а да канторы машына падскоча — душа ў пяты, але яшчэ большы страх не за сябе, а за пранцаватага зяця. Ты ведаеш, я толькі тое і зрабіў, што крыху паквэцаў на ягоным палатне, а галоўнае ж маляваў ён! Дык рана ці позна, думаю, дабяруцца і да яго, а гэта і дачцэ яшчэ адно гора: мала таго што не прасыхае, дык каб яшчэ і ў турму запраторылі? Бо і праўда, палатно ў каго апынулася — у шпіёнаў!..

Ворагу свайму не пажадаю — каб зяць маляваў. Але ж заяўляецца, ужо ў лесе восень зашастала, і такая ў яго навіна — ён забірае дачку ў Гомель. Ну, думаю, пранесла: і мне пятлю на шыі паслабілі, і яму не накінулі, а яшчэ ж, браце ты мой, пляшкай грукнуў аб стол, дык ён ад яе і нос верне!.. Ды рана я радаваўся... Дачка ў чамадан ужо і ўсякіх трантаў накідала, а яму яшчэ маляваць прыспічыла, дык ён — у лес, а з лесу няма і няма — задаў драла!.. Дачка — у плач, а мне што рабіць — суцяшаю: нікуды ён ад цябе не ўцячэ, у яго штамп у пашпарце, і за светам знойдзем. Але кажу адно, а думаю ўжо другое: не можа быць, каб уцёк, штосьці тут іншае. А што — па спіне маёй халадок прабягае.

Нядобрая была ў нас тая зіма. І жонка мая ўжо не тачыла дачку, а яна так зблажэла, адны вочы на твары — глядзяць на цябе і моляць: што ж ты, бацька, не шукаеш за светам Моха? А я такі і праўда не спяшаўся яго шукаць. Быў ужо сабраўся: знайду і вазьму ўсю віну на сябе, а пасля прыкінуў — нельга мне т у д ы , бо яго яны не адпусцяць, а мяне прыхопяць за кампанію. Не, думаю, пакуль і па мяне самі не прыедуць, хоць дроў ім тут насяку ды вады прынясу з калодзежа.

Адна была ўсім уцеха — Валік. Асабліва як забаўляўся ён з Барсікам. Ну, гэта кот, пасля ты сам жыў у мяне і бачыў: пушысты, руды, як агонь, толькі на шыі белы клінок. І стараваты, а такі ж гарэза: кінецца ад малога наўцёкі, а потым — круць, унук хоча яго ўхапіць, а ён яго — лапай!.. Ды разумны ж: іншы выпускае кіпцюры, а гэты быццам кеміць — малы хлапчук, дык толькі мяккай лапай яму — па ручцы, па ручцы!..

Толькі пад весну, можа, за месяц да таго, як і ты са сваёй таксацыяй прыцёгся ў Заліп’е, ад зяця прыйшло пісьмо. Прыкладна такое: старушка, на каленях малю, даруй, я не вінаваты!.. Ну, тут, ка-

нечне, дачка мая і падхапілася: "Еду!" Вочы — як у апантанай, нічога перад сабой не бачыць, на стол натыкаецца. І нічога слухаць не хоча, толькі сама сабе раз за разам: "Еду, еду!" А куды яна адна паедзе такая? Яшчэ пад машыну трапіць. Дык я і кажу: "Трохі пачакаем, дачка, а раптам ён сам заявіцца. А не заявіцца, тады і паедзем. Рэчаў багата браць не будзем, як на добры лад пойдзе, прывязём што трэба і пасля". Маці, дарма што ледзь не плача, не ўтрымалася, паз'еднічала: "Дзіва што. Ты ўжо і так падушкі адвёз. А дзе яны там? Не для таго іх маці мая калісь насыпала, каб ты раскідáў іх па свеце".

Ты не здагадваешся, чаму я так сказаў дачцэ — трошкі пачакаем? Таму што падумаў: а раптам сваё пісьмо мастак перадаў на волю з каталажкі? Бо чаму ён сам не едзе?.. І вось павязу я дачку, а куды? Ён і адраса не напісаў!.. Дык мінуў тыдзень і другі, дачка кідаецца ад акна да акна — дзе ён, яе збеглы; а бацька не вязе ў Гомель, дык яна раніцай аж кіпіць: "Казаў, паедзем, а калі, калі?.." Што я ёй адкажу? Уздыхну дый падамся ў кантору.

Так было і тым ранкам. Прыйшоў, ляскаю на лічыльніках, адвялі дзялянку, дык трэба падбіць кубатуру. І раптам... З таго часу, як за ляснічага сеў у Заліп'і Айчанаш, мая жонка і нагою ў кантору не ступала, а тут дзверы насцеж, і на парозе яна, жонка, з унукам на руках. Валік плача, так яна з ім бегла, бо нейкі жах гнаў яе да мяне, а які жах — словы нібыта і разбіраю, а сэнсу ўцяміць не магу: "Шукай дачку, Іван, шукай дачку!" Хапае мяне за рукаў, цягне на ганак, я прашу — растлумач, што там з дачкою, а яна як і не чуе: "Бяжым у дуброўку, яшчэ мо паспеем!" — "Куды паспеем? Скажы па-людску!" Урэшце да мяне дайшло: жонка спалохалася, што дачка наложыць на сябе рукі. Прымусіў спыніцца і тады што я ад жонкі чую: "Ты — у кантору, а яна як усхадзілася! Дальбог, з галавой нешта. Бо ўжо не зважае ні на Валіка, ні на мяне, толькі бегае ды мармыча: "Тонкая Дзяўчынка, Тонкая Дзяўчынка!" Выйшла я з хаты на хвілінку, вярнулася, а ў хаце толькі Валік. Шукай дачку, Іван, шукай дачку!"

Тут я ўсё і зразумеў. Супакойся, кажу, хадзем у хату. Не ў дуброўцы яе трэба шукаць, а трохі далей — у Гомелі, дык лепей збяры чаго на дарогу.

Паспеў на другі аўтобус... А што было ў Гомелі... Ну, вядома ж, яна зрабіла налёт на тую кватэру, дзе калісь жыў яе Мох. Думала, што ён і цяпер там — з Тонкай Дзяўчынкай... Стукаюся — адчыняе гаспадыня. Уздыхнула з палёгкай: "Ну, дзякуй Богу. А то ўжо хацела міліцыю клікаць". Вядзе мяне ў той пакой, дзе калісь мы былі ўжо з дачкою — прыязджалі да яе мастака. Бачу, тут яна і цяпер, сядзіць на той самай канапе. А гаспадыня кажа: "Я ёй тлумачу: няма яго ў нас, даўно няма, а яна сваё: "Вы хлусіце, ён у вас,

буду сядзець, пакуль не дачакаюся". Дык і вам скажу: выбраўся ён ад нас, ото як вы паехалі, назаўтра і ён выбраўся. Толькі падушкі вашыя ды коўдру пакінуў. Але з тыдзень назад прыехаў нейкі хлопец, сказаў — ад Уладзіміра Мацвеевіча, дык ён і падушкі забраў".

"Усё правільна, — кажу дачцэ, — не дачакаешся ты яго тут, хадзем, будзем шукаць па ўсім горадзе, не я буду, як не знайду". Кажу так, а сам думаю: "Раз нехта забраў ягоныя падушкі, значыць,ён на волі. Застаецца толькі знайсці — джэнтльмена".

Дачка ведала зяцеў тэлефон, той ягонай канторы, дзе, казаў, збіраецца іхняя брація, мастакі, бач, дык я адразу і пазваніў. А нейкая жанчына адказвае: у зяця ёсць таварыш, а таму далі ў новым доме майстэрню (я так зразумеў, што ў майстэрні яны малююць), дык зяць і памагае яму давесці яе да ладу. Горад я ведаў, некалі напытвалі дачцэ кватэру, дык ўсе вуліцы выездзілі, таму нядоўга мы яго і шукалі, той новы дом. Ён яшчэ не засяляўся, у ім чуўся стук і грук, увішныя хлопцы ўстаўлялі рамы, навешвалі і падганялі дзверы. Яны нам і падказалі, дзе тая малявальня — на пятым паверсе.

Ужо навешаныя дзверы — насцеж, а ў малявальні, няйначай, тыгры гыркаюць. Зазірнулі, а гэта скрогат — жалезам па цэменце. Да тоўстага прэнта прыварана сталёвая скрабёлка, і высокі дзяцюк падчышчае ёю ад зацвярдзелага струп'я цэментавую падлогу. Дужа знаёмая спіна ў гэтага дзяцюка. Дык гэта ж Мох! Ён нас не бачыць, бо мы ў яго ззаду, ну, я палюбаваўся, як шчыруе зяць, а потым ён далоняю пот з ілба выцірае, а я не вельмі гучна, каб не напалохаць, і кажу ў яго за спіною: "Ага, дык во дзе ты завіхаешся, джэнтльмен! Збег і думаў, што ніхто цябе тут не знойдзе!"

Як ён крутнуўся, якімі шалёнымі вачамі абдаў мяне! І ўсё — больш як і не было мяне перад ім, бо ён да дачкі, а дачка да яго як кінуцца — адно аднаму ў абдымкі! Ну, браце, гэта было кіно!.. Відаць, ёсць нейкі закон: калі нехта з дваіх уцёк, але раскаяўся, а той, хто быў пакінуты, — не забыў, не дай Бог, выпадак звядзе іх зноў — яны тады гатовыя згарэць у адным агні — па сабе ведаю. Некалі ўцякла з Лёшкам мая жонка, а потым як жа мы накінуліся адно на аднаго, якая шалёная была ў нас тая ноч — у лесе, на мяккім бярозавым вецці!.. Конь чакаў, чакаў дый патупаў паціху ў Заліп'е. Падняў на ногі ўвесь пасёлак, зараўлі матацыклы, леснікі носяцца па лесе, смаляць з ружжаў, але нічога мы з жонкаю не пачулі!.. Так цяпер і яны, дачка і зяць, — проста захлынаюцца адно ў адным, абсыпаюць адно аднаго пацалункамі, а дачка і смяецца, і плача.

Адвярнуўся, уздыхнуў, гляджу, а ў гэтай малявальні яшчэ нехта. Ды была тут і мэбля: збіты з габляваных дошак стол і старая канапа. Хлопец, што сядзеў на ёй, падняўся і пайшоў мне насуст-

рач. “А, гэта вы, — сказаў так, быццам мы былі даўно знаёмыя. Ён трохі гугнявіў, у яго быў высокі нудны голас, і яшчэ ён расцягваў словы, а ўсё разам — так зімою вые ў коміне вецер: у-у-у, у-у-у. — Вас як завуць? — спытаў хлопец, паціскаючы мне руку. — Іванам Адамавічам? А мяне можаце зваць Жорам. — Ён паказаў рукою на самаробны стол, на зашмальцаваную канапу. — У прараба тут быў штаб, дык бачыце, які стол зварганілі, а канапу, можа, са звалкі прывезлі. А мне кажуць: хочаш, каб роўна лёг лінолеум, збівай сам усе гэтыя шышкі”.

Пакуль мы знаёміліся, зяць з дачкою надта міла ўладкаваліся на канапе, дачка прыхінулася да свайго збеглага і паклала яму на плячо галоўку. Заўважыў, як зацікаўлена пазірае на іх Жора. А потым ён і кажа — Моху: “Дык гэта ў цябе такая жонка? Ах ты, нягоднік! Я думаў, яна ў цябе якая-небудзь вымазаная ў сажу Хоўра, раз ты яе ў лесе хаваеш, а яна ў цябе вунь якая прыгажуня! — І да мяне: — Трохі пагуляйце, Іван Адамавіч, а я адскочу ў адно месца, трэба ж нам адзначыць нашу сустрэчу, потым і пагамонім — за сталом”.

Ён згроб са стала палатняную торбу, з такой старцы калісь хадзілі, а ў іх у горадзе мода — фарсіць старызнаю, выйшаў, а я быццам чуў яшчэ ягонае завыванне: у-у-у, у-у-у... Зяць сядзеў ссутулены, вінаваты і глядзеў сабе пад ногі. А я глядзеў на яго і думаў: што ён за чалавек, гэты Мох? То быў ануча, а не мужчына, а прыехаў апошні раз — арол, герой; нейкія дзіўныя перамены, дык хто і што ён цяпер? Пакуль ясна адно: у гэтага гугнявага ён, няйнакш, за нейкага парабка. Дык я так і сказаў: “Да чаго ж ты дастукаўся, Валодзя, — прыслужваеш”. Думаў, будзе маўчаць ды слухаць, а ён зірнуў на мяне — быццам і вінавата, але гэты позірк выдаваў у ім і нейкі незнаёмы мне нораў: “Ваша праўда, Іван Адамавіч, нічым не магу вас парадаваць, і трэба нам з вамі сур’ёзна пагаварыць”. А я кажу: “Якраз дзеля гэтага я і прыехаў, давай выйдзем, прысядзем дзе-небудзь і пагаворым — па-мужчынску, бо далей адкладваць ужо нельга”. — “І я так думаю, — сказаў зяць, — тут, на беразе, ёсць лавачка — пасядзім, пагутарым, а старушка хай адпачне з дарогі”.

Дом падняўся ля ракі, на месцы прыватных сядзіб, ад іх засталося колькі старых яблынь, голле іх было абшморганае — мабыць, пад’ёмным кранам. Ледзь прыкметная сцежка прывяла нас на абрывісты бераг, да лавачкі, яшчэ сырой з зімы. Напэўна, улетку прыемна было б тут пасядзець, палюбавацца шырокай ракою, а цяпер... не тое прыкра, што яшчэ сыра і зябка, а тое, што... гора б маё сплыло так па рацэ, як вунь тая апошняя крыга... Мы селі, і што ж я, браце ты мой, пачуў ад свайго зяця!

“Аблажылі мяне, Іван Адамавіч, — сказаў зяць. — Хто-хто, а вы, такі разумны чалавек, маглі б здагадацца, што не ўцякаў я ад

вашай дачкі, гэта подласць, на якую я не здольны. Я пайшоў на эцюды — на Белую касу, але толькo ступіў у лес, перад той дарожкаю, што зварочвае на пагорак, бачу светлую "Волгу". З яе вылез малады хлопец, у руцэ ў яго цыгарэта, робіць выгляд, што хоча ў мяне прыкурыць, я сказаў — не куру, а ён мне — гэта нічога, усё роўна яны будуць рады падкінуць мяне да аўтобуса. Я сказаў, што іду не на аўтобус, а на эцюды ў лес, але... я ўжо здагадаўся, хто яны, гэтыя хлопцы, бо ў машыне быў яшчэ адзін, між імі я ўрэшце і апынуўся на заднім сядзенні. Бунтаваць было бескарысна, і яны прывезлі мяне ў горад, у адну вельмі нежартоўную ўстанову. А ў ёй мне і кажуць: "Ваша карціна ледзьве не трапіла да нашых ідэалагічных ворагаў". А я пацiскаю плячамі: "Ну і што, ніякай шкоды сваёй краіне я не нанёс. На маёй карціне адлюстравана гармонія Космасу, услаўлена ўсяленскае дабро, яна так і называецца — "Гармонія". Кажу так нейкаму Івану Мікалаевічу, а ён уздыхае: "Гэта праўда: на вашай карціне шмат дабра і гармоніі, але, па-першае, вашу гармонію груба парушае, нават разбурае нейкае пабочнае пачварнае ўварванне, а па-другое, і сама ваша карціна называецца не "Гармонія", а "Жанчына з радзімкамі". Мне стала смешна. "Справу шыеце, начальнік". А ён: "Ды не, не шыю. Вось зірніце на сваю карціну — пазнаяце?" Падае мне каляровы здымак, і я вачам сваім не веру: мая карціна і не мая, бо і сапраўды нейкі парканны маляр наквэцаў на ёй нешта пачварнае. А следчы кажа: "Бачу, пазналі — ваша карціна. Ну, дык раскажыце, праз каго вы хацелі пераправіць яе за мяжу? Ды не проста за мяжу, а за акіян!" А я адказваю: "Гэта правакацыя. Такую карціну, якую я бачу на гэтым здымку, я нікуды не збіраўся перапраўляць. Гэта апошняе маё слова".

Але гэта я так сказаў — апошняе слова, а ў іх яно было толькі першае. Мною зацікавіўся вышэйшы чын, падкаваны, у нас была тэарэтычная, філасофская гутарка, дык вось пасля гэтага я і трапіў на паўгода ў тыя апартаменты, якія не хацеў бы вам называць, скажу толькі, што дзверы там унутры без ручак. А далей... мне дзіўна, што той самы чын мяне адтуль і выпусціў. Такое ўражанне, што ён разабраўся — трапіў не на той след. І вось тут я, Іван Адамавіч, падыходжу да галоўнага. Рана ці позна яны зловяць таго, хто браўся пераправіць маю "Гармонію" за акіян, — так, Іван Адамавіч, не палохайцеся, за акіян! — і тады яны зноў зоймуцца мною. Калі нават не зважаць на тое, што́ на маёй карціне наквэцаў нейкі правакатар, усё роўна сваёй дзёрзкай спробаю — прарвацца т у д ы , я кінуў ім недаравальны выклік, і, канечне, ордэнам за гэта яны мяне не ўзнагародзяць. Ну дык і пляваў я на ордэн і на ўсю іхнюю славу, а што цяпер найбольш мучыць мяне, што ні ўдзень ні ўначы не дае спакою, — слова, адзінае слова, і, дарэчы, яно вашае, Іван

Адамавіч. А слова гэтае — "зязюля". Да мяне ж дайшло, як вы там, у сябе ў Заліп'і, называеце сваю дачку, — "зязюля", "бяздомная зязюля". Спачатку я суцяшаў сябе: у тысяч такіх, як мы з Насцяю, ні кала ні двара, але я не пераканаў сябе, маўляў, такое жыццё, і нікуды ад яго не дзенешся. Бо не змог адагнаць ад сябе гэтае слова — "зязюля", яно ўвесь час вярталася ў маю свядомасць, і нясцерпным рабіўся боль: мая жонка — бяздомная зязюля!.. Але раней, хоць і слабая, ды была яшчэ надзея: я ж з інстытута, і мне павінны даць кватэру, а цяпер, калі яны возьмуцца за мяне другі раз, я стану палітычным злачынцам, і не будзе мне ня гэтай зямлі месца — ні кватэры не будзе, ні працы, я і сёння раблю, можна сказаць, напалову падпольна ў гэтага, як вы яго ахрысцілі, гугнявага. А тады і ён мне адмовіць. Вы думаеце, увосень я хлусіў вам, што забіраю Насцю? Ён, гэты мой дабрадзей, паабяцаў мне пакой — там у яго не то кладоўка, не то майстэрня, але калі я вярнуўся адтуль, ён, напалоханы, перадумаў — і цяпер... няма куды мне ўзяць вашу дачку... Зязюля!..

Аднак жа калі я мужчына, дык павінен шукаць нейкае выйсце. Я доўга не мог адважыцца, каб сказаць вам, Іван Адамавіч: ваша дачка — рэдкай прыгажосці жанчына, магу засведчыць гэта як мастак, і яна вельмі лёгка знайшла б лепшага, чым я. Валік ёй не перашкодзіў бы, і, як ні горка гэта мне прызнаць, у яго паявіўся б і лепшы бацька. Іншага выйсця для іх я не бачу. А ў мяне аднаго яно сваё — буду прарываць блакаду. З імі — не магу, бо тым самым я канчаткова зрабіў бы іх няшчаснымі, загубіў бы іх жыццё".

Слухаў зяця і глядзеў на ваду. Тут, у нас пад стромаю, рака гула і з плёскатам віравала, а на другім баку, паўнюткая, ушчорк з нізкім абрывістым берагам, яна вось-вось разальецца па лузе; і там, бліжэй, на сярэдзіне, гладзь ракі роўная-роўная, і так магутна вада імкне і сплывае некуды з вачэй, што ажно прыцягвае, неадольна вабіць услед, — ах, як цудоўна было б у такой рацэ ўтапіцца — ад гэтага нялюдскага жыцця, ад свайго бяспутнага зяця!.. Бо што я пачуў ад яго, што пачуў!.."

Гэтак жа скажу і я: што я пачуў ад Гаркушы!.. Ну так ужо і трэба яму тапіцца, так ужо і пакрыўдзілі ягонага зяця. Ветліва пагутарылі, ну, патрымалі нейкіх паўгода, але ж адпусцілі!.. Мяне больш цікавіла іншае: навошта яны чапалі Гаркушу, калі ведалі, што сапраўдны аўтар карціны ягоны зяць? Гэта было... цьмянае месца ў Гаркушавай "памоўцы", і я вырашыў яшчэ раз сустрэцца з генералам, каб да канца ўсё праясніць.

Генерал адпачываў ад доўгай службы ў органах на той самай лаўцы, хаця — не зусім на той. Ля возера актыўна забаўляецца

сучасная моладзь, а яна і ў эпоху сексуальнай рэвалюцыі шукае сваім сілам яшчэ аднаго бурнага выйсця, таму ў знаёмай лаўкі, на яе закругленай спінцы, не стала дзвюх драўляных рэйчын, а намёртва ж былі прыкручаныя да чыгуннага каркаса балтамі. "Здравія жалаю, таварыш генерал!" — бадзёра павітаўся я, але мой афіцыйна-фамільярны зварот яму чамусьці не спадабаўся — ён скептычна ўсміхнуўся: "А, спадар пісьменнік. Заўсёды рад бачыць. Сядайце, я да вашых паслуг. Хаця мушу вас папярэдзіць, я не генерал Калугін, каб на ўвесь свет балабоніць пра тое, што яшчэ не перастала быць дзяржаўным сакрэтам, але ў межах магчымага гатовы адказаць на ўсе вашы пытанні".

Я нагадаў яму, на якія мае пытанні ён не адказаў мінулы раз.

"Так, я памятаю, — сказаў генерал. — Першае пытанне — чаму Гаркушаў візіт да Мажэйкі мы паставілі ў сувязь з тым, што Мажэйкава дачка вучылася ў Ленінградзе, чаму мы яго затрымалі і гэтак далей. Другое — чаму ў гісторыі з карцінаю на першы план для мяне выступае Гаркуша, а не Мохараў. Давайце пачнём з другога пытання.

Паўтару тое, што сказаў мінулы раз: вы падымаеце праблему, імя якой "інтэлігенцыя і народ", і, як памятаеце, я сказаў — у гэтай праблеме я зрабіў адкрыццё, якое, калі б яго ў свой час прызналі, уратавала б нашу былую сістэму ад гібелі.

Не падумайце, што я на сябе многа бяру. Больш за трыццаць гадоў працаваў я з пісьменнікамі, мастакамі, журналістамі, хаця яны, канечне, часцей не ведалі, што я іхні анёл-ахоўнік. Як сказаў Райкін, свіцыфіка. Але ж вы памятаеце, хто быў маім прафесійным дэбютам? Гаркуша! Так, Гаркуша з яго падрыўнымі вершамі пра каранёвую губку і папараць арляк. Яго даўно цягнула на мастацтва, аднак, пагадзіцеся, Гаркуша — не творчая інтэлігенцыя; можа, ён і стаў бы ёю, ды я своечасова адбіў у яго ахвоту займацца прыгожым пісьменствам; Гаркуша — гэта народ. І калі ён другі раз узнік перада мною са сваёй "Жанчынай з радзімкамі", я атрымаў цудоўную магчымасць параўнаць, хто больш небяспечны для дзяржавы — такая, як гэты Мохараў, творчая інтэлігенцыя ці такі, як Гаркуша, просты народ, бо ў нашым выпадку абодва выступаюць у адной і той жа сферы — сферы мастацтва, а да таго ж і абодва дэманструюць сябе на адным і тым жа палатне.

Гаркушу я ведаў даўно, заставалася пазнаёміцца з Мохаравым. Што я і зрабіў. А цяпер давайце разам з вамі разгледзім ягоную філасофію.

"Дабро — круглае" — сцвярджае Мохараў у кожнай сваёй карціне, гэтак жа і ў "Гармоніі", ці "Жанчыне з радзімкамі", як стала яна называцца пасля Гаркушавага ўмяшання. Там усё — і грудзі, і твар, і клубы ў жанчыны, усе гэтыя акруглыя формы прыйшлі як

бы з Космасу, бо над жанчынаю і воблакі, і нябесная сфера, і быццам прывіды нейкіх іншых планет ці светаў маюць такую акруглую выяву. Мадэрнізм, замешаны на антычным ідэалізме, бо згадваецца касмічны геаметрызм філосафаў Старажытнай Грэцыі: у іх першасны Космас — гэта ўсякія трохкутнікі, з якіх утвараюцца шасціграннікі, васьміграннікі розных стыхій — зямлі, вады і гэтак далей. А потым з'яўляецца Бог і з гэтага матэрыялу стварае шарападобны Космас з прыгоднай для жыцця Зямлёю ў цэнтры. У Мохарава, канечне, усё па-сучаснаму хітрэй, у яго круглая Зямля рухаецца па кругавой арбіце вакол Сонца, а яно яшчэ вакол нечага, і ўвесь Космас трымаецца на гэтым кругавым руху, інакш ён загрымеў бы ў тартарары, у тым ліку і Зямля, а так на ёй ствараюцца ўмовы для чалавечага існавання. Вось гэта касмічнае спрыянне чалавеку, па Мохараву, і ёсць не што іншае, як касмічнае круглае дабро, якое на Зямлі з'яўляецца тым вышэйшым ідэалам дабра, да якога ўсім нам трэба імкнуцца. Акурат такую неадольную цягу ўсяго зямнога да касмічнага ідэалу мы і бачым на палотнах Мохарава. Напрыклад, у яго ўсе дрэвы — круглыя, у тым ліку і елка. Кажу яму, ну так, вярба, дуб, яны і праўда бываюць круглыя, а чаму і елка? А ён: вы не вельмі назіральны чалавек (гэта я — чуеце? — працую ў органах і — неназіральны!). Старая елка, кажа ён, таксама ўверсе закругленая, не так, як дуб ці вярба, але ўсё ж, а маладая таму вастраверхая, што хутчэй за іншыя дрэвы гоніць сябе ўгору, дзе яна зможа нарэшце акругліць верхавіну. Скажаце — трызненне? Як быццам, але працягваю размову. Ну, дапусцім, кажу, з елкай мы разабраліся, а як жа Пікасо з ягоным кубізмам? Адбівае падачу, ды як рэжа! Такога Пікасо, кажа, вы не прымаеце, тут ён для вас абстракцыяніст, ваш Пікасо — гэта ягоны "Голуб міру", эмблема-шэдэўр, бо ў ёй акурат і пераважае ідэальна плаўнае закругленне ліній. Вось так. А кажуць, няма прарокаў у сваёй айчыне. Добра, думаю, усё-такі я цябе даканаю. Згадаў, як у акадэміі здаваў залікі па эстэтыцы, а там жа і ўсе іхнія буржуазныя "ізмы", дык я і пытаю: "Ну а што вы скажаце пра "Чорны квадрат" Казіміра Малевіча?" — "О! — загарэўся ён. — У "Чорным квадраце" тоіцца вялікая здагадка яе аўтара аб вечным імкненні ўсяго існага пераадолець у самім сабе зло і наблізіцца да дабра — праз усё большае акругленне сваёй формы. Самая "някруглая" форма — трохкутнік, а ў Малевіча — квадрат, а гэта ўжо пэўнае акругленне, першая ступень набліжэння да формы круга. Далей можа быць шасцікутнік, васьмікутнік, аднак поўнае зліццё някруглай формы з ідэальным кругам — недасягальнае, аб чым сведчыць невырашальнасць праблемы квадратуры круга, таму што ідэальны круг, інакш кажучы, ідэальна круглае дабро — гэта сам Бог, а боскай дасканаласці нішто існае, у тым ліку і чалавек, дасягнуць ніколі не зможа".

Уф!.. Аж галава кругам ад гэтай фантасмагорыі. Ды ўсё ж пытаю: "А чаму ў Малевіча квадрат чорны?" А ён: "Гэта зразумела, таму што ўсім вядома — зло чорнае. Але калі б у нас быў арыгінал, фізічная экспертыза паказала б, што квадрат Малевіча не абсалютна чорны, бо такім, абсалютна чорным, можа быць толькі трохкутнік, які ўвасабляе сабою абсалютнае зло, квадрат жа — не толькі першая ступень акруглення формы, але і яе прасвятлення — такое мінімальнае прасвятленне і паказала б фізічная экспертыза ў Малевіча".

Гляджу на яго і думаю: што мне з ім рабіць? Хай бы гэта было ў яго нешта зусім абстрактнае, безыдэйнае, а то ж — ідэя, ды і не якая-небудзь, а касмічная! Дарэчы, гэтую думку — чалавек на Зямлі павінен памятаць аб нейкай вышэйшай касмічнай ісціне — Мохараў мог запазычыць у аднаго беларускага класіка. Не падкажаце, у якога? Ну-ну, спадар пісьменнік, успомніце — гэта ж Багдановіч! "Нашто на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?" Інакш кажучы, навошта класавая барацьба, ідэалагічнае змаганне, калі ідэі, за якія вы тут, на Зямлі, чапляецеся, мізэрныя ў параўнанні з касмічнай абумоўленасцю вашага існавання? Гэтак жа і ў Мохарава чытаецца ягоная касмічная геаметрыя: зірніце, усе мы залежым ад гэтага сусветнага кручэння-вярчэння, няма ісціны, вышэйшай за гэту, дык не грызіцеся між сабою за ўяўныя зямныя ісціны, маліцеся аднаму галоўнаму Дабру, якое там, у Космасе, і будзьце на Зямлі ягоным працягам. Як бачым, не такая ўжо і бяскрыўдная філасофія ў гэтага Мохарава, але ж, Божа ты мой, хто, гледзячы на ягоныя карціны, успрыме гэтае трызненне так, як ён хацеў бы: круглае дабро ў Космасе, дык і на Зямлі яно таксама... круглае! Або хто паглядзіць на такую карціну і адразу перастане змагацца за мір, стане пацыфістам, кінецца ў абдымкі імперыялізму? Кожны скажа — глупства, ціхае вар'яцтва. Гэтак жа нічога в і д а в о ч н а антысавецкага ў шэдэўрах Мохарава не ўгледзеў і я, не было на яго палотнах і вялікай парнаграфіі, проста фантазіі звіхнутага, а калі яшчэ ўлічыць, што, канечне ж, ніхто іх ні на якую выставу і на гарматны стрэл не падпусціць, дык і тым больш хай, думаю, на здароўе малюе свае касмічныя арбіты ды голых антычных багінь з іх па-палеску раскошнымі жаночымі формамі. Аднак жа цікава пагутарыць з чалавекам такога шырокага кругагляду, дык я і пытаю: "Калі дабро ў вас круглае, то зло — вострае, я правільна вас зразумеў?" А ён: "Правільна. "Я с детства не любил овал, я с детства угол рисовал" — гэта не ад Бога, а ад д'ябла".

Бяскрыўдны прарок, падумаў я, але хай бы ён ствараў свае шэдэўры ў якім-небудзь іншым горадзе. А калі ўжо ён тут..."Зло вострае" — гэта, няйначай, ягоны неўроз, фобія. Такіх дзівакоў на

свеце шмат. Узяць хоць бы майго стрыечнага брата. Прыйшоў неяк да яго, ну, ён паўлітру на стол, а сала (акурат зіма была) у яго на балконе. Дык ён што робіць. Прывязаў да батарэі вяроўку, аперазаў сябе другім канцом і... думаеце, выйшаў на балкон? Папоўз!.. Вось такія бываюць у іх вывіхі. А ў гэтага сваё. На першы погляд, філасофія: зло — вострае, а на самой справе тая ж фобія — боязь вострых прадметаў. І калі ў іншых выпадках мы нават і грашылі псіхіятрыяй, дык тут ніякага граху, — выклікаю хлопцаў і кажу: "Гэты чалавек — не па нашай епархіі, адвязіце яго за раку, там з ім лепш разбяруцца".

Ну вось, разабраліся з філасофіяй Мохарава, а цяпер пра тое, што найбольш вам рупіць. Чаму ўсё-ткі першага мы затрымалі Гаркушу і ўвогуле чаму мы да яго "прычапіліся"? Дык вось уявіце сабе: гутару я з мастаком Мохаравым, а з галавы не выходзіць ляснік Гаркуша. Перада мною арыгінальны філосаф, аўтар канфіскаванай мытнікамі "Гармоніі", а я адчуваю, што для мяне ў гэтай крымінальнай гісторыі дамінуе, як нешта рэальна дэманічнае, не ён, вытанчаны эстэт, а прымітыўны Гаркуша; чаму — сам яшчэ не магу сабе растлумачыць, але дамінуе ці, так ужо і скажу, дэмануе — ад слова "дэман". Напэўна, у маіх чэкісцкіх мазгах гэта быў першы пробліск таго адкрыцця, пра якое я вам казаў, потым я да яго яшчэ вярнуся. Што зачэпка для затрымання Гаркушы ў нас была — гэта несумненна, хто ж, як не ён, пакінуў адбіткі сваіх пальцаў на паналатне; але ўва мне выспявала ўжо нейкая падсвядомая пераканаасць: калі нават нічога большага Гаркушу не ўдасца прад'явіць — скажам, лопне версія з Мажэйкавай дачкою, дык і надалей ад каго мы "не адчэпімся", то гэта ад Гаркушы.

Адправіў у каменныя палаты мастака і неўзабаве пашкадаваў, небараку: сам жа я пераканаў сябе, што ягонае "круглае дабро" ніякай катастрофай дзяржаве не пагражае. А каб сказаць так пра Гаркушу, трэба яшчэ добра падумаць...

Словам — інтэлігенцыя і народ. Для мяне гэтая крымінальная гісторыя мела ўжо найперш такі, філасофскі, змест, і мы будзем спасцігаць яго далей вось цяпер, разам з вамі, а таму я павінен раскрыць для вас і тое дэтэктыўнае ў ёй, што вам яшчэ невядома. Ну праўда, чаму мы схапілі на вуліцы Гаркушу, якія былі ў нас падставы падазраваць, што "Жанчыну з радзімкамі" ў Ленінград перавезла Мажэйкава дачка, і ўвогуле, адкуль гэта ў нас узялося, што яна магла ўступіць у злачынную сувязь з Гаркушам, а можа, і з Мохаравым? Давайце паспрабуем намацаць, дзе і якія маглі завязацца вузельчыкі гэтых сувязей.

У адным вашым апавяданні сказана, што сваю дачку Мажэйка прывозіў у Заліп'янскі лес, у той самы, куды прыязджаў на эцюды і хто? Правільна, мастак Мохараў, будучы Гаркушаў зяць. А цяпер

скажыце, Мажэйкава дачка і Мохараў не маглі сустрэцца ў вашым Заліп'янскім лесе? Але вы не ўсё яшчэ ведаеце: Мажэйкава дачка вучылася ў Ленінградзе на факультэце мастацтвазнаўства, а ў сваёй курсавой рабоце расклала па палічках нашых мясцовых мастакоў — выдзеліла некалькі плыняў, почыркаў, манер. І вы ўжо здагадваецеся — так, пісала яна і пра Мохарава, і акурат пра тыя яго карціны, на якіх яна пазнавала штосьці заліп'янскае. Да гэтага дадайце: у Ленінградзе яна з галавой акунулася ў багему, не грэбавала сувязямі з іншаземцамі і нашымі дысідэнтамі, з групай студэнтаў выступіла ў абарону літаратурнага ўласаўца Салжаніцына. А цяпер, калі вы ўсё гэта ведаеце і калі вы такі геніяльны Шэрлак Холмс, скажыце, што ў нас не было падстаў для гэтай версіі: у Ленінград карціна трапіла праз Мажэйкаву дачку. А вось ад каго да яе яна трапіла!.. Трэба было зафіксаваць злачынны кантакт Мажэйкавай дачкі альбо з Мохаравым, альбо з Гаркушам.

Не патрабуе доказу: да таго як выправіцца ў Ленінград, карціна адлежвалася ў Гаркушы, інакш ён не змог бы ўнесці ў яе свае першабытныя карэктывы. А таму, калі падазраваць дваіх, Мохараў трапляе ў больш выгоднае становішча, бо ён мог толькі папрасіць Гаркушу, каб той перадаў карціну Мажэйкавай дачцэ, а што Гаркуша сваім варварскім умяшаннем надасць палатну адыёзны антысавецкі сэнс, яму і ў галаву не магло прыйсці. Гэта яшчэ адзін адказ на ваша пытанне, чаму мы перш за ўсё ўзялі на прыцэл Гаркушу.

А потым і настаў гэты дзень.

Дарма мы не верым у існаванне добрых і злых сіл, бо тое, што адбылося, цяжка растлумачыць выпадковым супадзеннем. У Пулкаве нашы людзі "пасадзілі" на самалёт Мажэйкаву дачку — праз пяць хвілін нам гэта было ўжо вядома, і акурат тае раніцы Гаркуша выехаў на аўтобусе ў Гомель. Натуральна, яго мы "сустрэлі", правялі па горадзе ў лясное Мажэйкава ўпраўленне, потым абаіх — на кватэру да Мажэйкі. Ужо амаль што вечар, а тады дзе ж Мажэйкава дачка? Гэта быў для нас сюрпрыз: самалёт па тэхнічных прычынах вярнуўся ў Пулкава...

Што ж, пакуль нічога страшнага, бо Гаркуша, аказваецца, яшчэ і вялікі рамантык: Мажэйкава жонка — яго колішняя каханка, і ён у іх ахвотна заначаваў, а значыць, і даў нам шанс прадоўжыць аперацыю. Раніцай запросім яго да сябе ў госці, а там нарэшце прыляціць самалёт, так яны і сустрэнуцца ў нас на вочнай стаўцы, Мажэйкава дачка і Гаркуша. А зрэшты, мы проста разлічвалі на тое, што Гаркуша сам ва ўсім прызнаецца.

Гэта была наша грубая непрафесійная работа, лічыце — авантура, бо і Гаркуша ні ў чым не прызнаўся, і самалёт не прыляцеў зноў, цяпер ужо з-за дрэннага надвор'я. Аперацыя сарвалася, а га-

лоўнае, мы, дапытваючы Гаркушу, недаацанілі яго, думалі — прасцяк і нагала сябе перад ім раздзелі, таму цяпер можна было выкінуць і думку з галавы, што яны з Мажэйкавай дачкою спецыяльна для нас разыграюць сцэну сваёй сустрэчы ў Гомелі, каб мы іх тут акуратненька і накрылі...

Але, вядома ж, закрываць справу я не збіраўся; прыходзіць да мяне з чарговым дакладам маёр, і маё перакананне, што ў гісторыі з "Жанчынай" галоўны герой усё-такі ён, Гаркуша, умацавалася яшчэ больш, бо на даляглядзе замаячыла яшчэ адна крымінальная фігура і ланцужок нашай версіі пабагацеў на адно звяно. Шкада, што вы не пішаце дэтэктываў, а то я спытаў бы ў вас ды, бадай, і спытаю: як вы мяркуеце, які яшчэ адзін адмоўны герой павінен паявіцца ў нашай гісторыі, штó гэта за такое важнае звяно, якое падоўжыць ужо вядомы нам ланцужок: мастак Мохараў, Гаркуша, Мажэйжава дачка?.. Падумайце, а будзеце пісаць, хай і вашы чытачы паспрабуюць адгадаць. Скажу толькі, што гэты крымінальны дзеяч добра вядомы тым, хто чытаў ваш "Явар". Для мяне ж было істотным, што з яго паяўленнем яшчэ меншае падазрэнне падала на Мохарава і яшчэ большае — на Гаркушу, бо акурат ён даўно быў знаёмы з мацёрым рэцыдывістам. І першы раз за ўсе гады ў органах я зведаў згрызоты сумлення: навошта ж тады я так жорстка абышоўся з мастаком — каб над ягоным "круглым дабром" ламалі недзе галаву псіхіятры.

Гэта было маё пакутлівае набліжэнне да адкрыцця: як у маім прыватным выпадку меншым злом быў Мохараў, так і ўвогуле, думаў я, усе да яго падобныя інтэлігенты не такія страшныя, не такія небяспечныя для дзяржавы, як іншы раз пра іх чуеш па радыё ці чытаеш у газеце. Ну, палямантуе ў Мінску з нейкай трыбуны Карпюк, ну, выседзіць нешта антысавецкае Быкаў, — на здароўе, хай усе бачаць, што ў нас сапраўдная дэмакратыя, нават ворагаў народа пускаем на трыбуну. У крайнім жа выпадку іх лёгка нейтралізаваць, бо інтэлігентаў, хоць бы тых жа пісьменнікаў, не так многа, і не ўсе яны такія непрымірымыя з намі, як Быкаў. Далёка не ўсе!.. Таму іх яшчэ можна і прыкарміць. Цяпер вашы пісьменнікі і мастакі паднялі гвалт: пазачынялі беларускія школы, знішчылі беларускую мову! Дапусцім, так яно і ёсць. Але даруйце: мы зачынялі, мы знішчалі, а што рабілі вы? А вы нічога не рабілі, вы маўчалі, ніводзін з вас не выйшаў на плошчу і не спаліў сябе ў знак рашучага пратэсту перад Домам урада. Таму што мы прыкармілі вас, і паміж намі існавала маўклівая згода: за вашы напісаныя ў духу сацыялістычнага рэалізму шэдэўры мы прысуджалі вам дзяржаўныя прэміі... Цяпер вы разумееце, да якой высновы я паступова прыходзіў: у любым выпадку інтэлігенцыя — гэта тая мізэрная велічыня, пра якую матэматыкі кажуць: "ею можно пре-

небречь"; такія, як мой філосаф Мохараў, ніякай пагоды ў дзяржаве не робяць, а калі і робяць, дык і праўда ж пагоду, а не клімат, бо пагода — з'ява часовая, грамадскі ж клімат, яго нячастая перамена залежыць ад народа. А народ — гэта Гаркуша, і трэба займацца ім, а не Мохаравым, гэтага звіхнутага трэба вызваляць з яго каменнай клеткі. Словам, я еду ў клініку.

У доктара была запамінальная знешнасць: масіўныя акуляры, пародзістым, з гарбінкаю, нос, бародка-эспаньёлка. Але, такі самавіты, ён разгубіўся перада мною: пачаў вінавата апраўдвацца — яму яшчэ няясны дыягназ."Канечне, гэта адхіленне ад нормы: "дабро круглае, а зло вострае, але ж ён мастак, у яго спецыфічнае вобразнае ўяўленне, і, магчыма, ён не трызніць. Што ж да боязі вострых прадметаў, то... — Доктар падаўся да мяне грудзьмі і, як па вялікім сакрэце, паведаміў ледзь не шэптам: — Ён не баіцца іх! Ён не баіцца вострых прадметаў!.. Гэта вельмі лёгка правяраецца. Калі ў пацыента айхмафобія, дастаткова зрабіць во так пальцамі: "ідзе каза рагатая...", як ён панічна ад вас адхінецца, а то і пашыецца галавою пад коўдру. А гэтаму я і "казу" рабіў, і нажніцамі перад ім маніпуліраваў — не рэагуе! Зараз я вам прадэманструю".

Прывялі Мохарава, ён быў у сіняй піжаме і ў кароткіх, як з нізкарослага в'етнамца, штанах. Доктар пасадзіў яго на крэсла і сказаў: "Хворы Мохараў, апошнім часам я скінуў лішнюю вагу і хачу, каб вы памаглі мне правесці адну нескладаную аперацыю. Вось я знімаю з сябе папружку, і нам з вамі трэба пракалоць на ёй дадатковую дзірку. Зробім мы гэта вельмі проста. Вы трымаеце папружку за канец — вось так, правільна, на ўзроўні грудзей, а я вазьмуся пасярэдзіне. А цяпер я дастаю з шуфляды вось гэтую вострую штуковіну — і..." У руцэ ў доктара я ўбачыў вострую і доўгую, падобную на швайку, якою ў вёсках колюць кабанчыкаў, але надта бліскучую, з нержавейкі "штуковіну", ёю ён старанна прымерваўся да той кропкі на папружцы дзе хацеў пракалоць новую дзірку, аднак вострая "штуковіна", нацэленая ў грудзі Мохараву, слізгала то зверху, то знізу па канце папружкі, Мохараў панура трымаў яе за канец, але ў ягоных вачах не прамільгнула і ценю страху — так, ён не баяўся вострых прадметаў!

"Канчайце гэту камедыю, — сказаў я доктару, — і з гэтай хвіліны лічыце, што ён не ваш пацыент. Вярніце яму ягонае адзенне і адпусціце. — Калі Мохараў выйшаў, я дадаў: — Не той дыягназ, доктар, не той дыягназ". Узрадаваны доктар ахвотна са мною пагадзіўся: "Так, не той". Не ведаю, што ён меў пры гэтым на ўвазе, а сам я падумаў: "Не Мохаравым трэба займацца, не яго пільнаваць, а Гаркушу".

...Даруйце, — сказаў генерал, — на сёння хопіць. Іду па ўнука. Спадзяюся, мы яшчэ сустрэнемся, бо ўперадзе ў нас многа ціка-

вага, — з Гаркушам не засумуеш. Мохараў... з ім таксама яшчэ не ўсё ясна, але ж... гэта парода Рудзіных, Лаўрэцкіх, а вось Гаркуша — ён сябе неўзабаве пакажа, прычым нахабна, актыўна, у гэтым вы самі пераканаецеся".

Чытач помніць, як Гаркуша ўсклікнуў роспачна: "Што я пачуў ад зяця, што я пачуў!" А пачуў ён тое, што зяця "аблажылі". Дык цяпер і зусім ужо няма межаў ягонаму адчаю.

"Забіць мяне мала! Гэта ж праз мяне яго, як таго ваўка, і аблажылі! Трэба было мне квэцаць па ягонай карціне. Калі б не наквэцаў, ніхто зяця за ягоную "Гармонію" і пальцам не крануў бы. Падумаеш, намаляваў голую дзеўку! Ну, гармонія, дык і гармонія, хай бы любаваліся на яе хоць рускія, хоць амерыканцы — дзівіцеся, калі вам цікава. Але хто ж як не я заквэцаў яе, збэсціў, дык і не адсохла мне рука, як схапіў я той квач і пачаў пэцкаць! Сапсеў, абнахабеў, і вось яна, страшная расплата, — аблажылі!.. Ну добра, напісаў некалі апавяданне пра ваўка, дык ўсё ж такі дапамог той віхрасты, што сядзеў у рэдакцыі, наскладаў калісь вершаў, дык зноў жа хоць трохі ды падказаў карэспандэнт — каб не толькі было складна, але і вобразна. А тут жа не верш, а палатно! Трэба пяць гадоў вучыцца, дый маляваць далікатнымі фарбамі — тымі, што ў цюбіках, а яшчэ і не тым пэндзлем, якім штакетнік фарбуюць!.. Абнахабеў!.. Дык вось цяпер і расплочвайся — зяцевым лёсам, а гэта ж і даччыным.

Аблажылі!.. Але каго — зяця? Ну так, яго, ды калі як след разабрацца — нас абодвух, толькі мяне даўно і ў Заліп'і, а яго цяпер і тут, у Гомелі. Выходзіць, мы з ім сябры па няшчасцю. І я ўжо не ведаю, каго першага шкадаваць — яго ці сябе; дачку — гэта само сабою: не пашанцавала дзеўцы з чалавекам, а з бацькам яшчэ раней. Падумаў так дый кажу: "Разумею цябе, Валодзя, каб ты толькі ведаў, як я цябе разумею! Ты, можа, не паверыш, але я і сам некалі, як быў малады, складаў вершы, думаў, вырвуся з Заліп'я, ды не ўдалося, бо таксама аблажылі, таму цяпер і розуму не дабяру, як прарваць нам гэтую праклятую аблогу". А ён чутней задыхаў побач, ўсё роўна як сапе ўжо, бы той аблажаны воўк, а потым і пытае: "Іван Адамавіч, вы чулі што-небудзь пра "бульдозерную выставу"?.."

Сваім пытаннем ён мяне надта падзівіў — навошта яму тыя бульдозеры? Але цікавіцца чалавек, дык я і адказваю: "Не, на бульдозернай, як ты кажаш, выставе не быў. Вазілі ад лясгаса ў Маскву, на выстаўку, ну на тую, дзе ўсякія дасягненні, дык, мабыць, былі там і бульдозеры, але што я там, браце, выгледзеў — карчавальнік! Быццам той жа бульдозер, толькі ў бульдозера суцэльны

нож, а ў карчавальніка — выгнутыя іклы; пад пень падсодзіць, а потым р-р-а-з! — і корч наверсе. Карчавалык — гэта рэч. Была ў мяне адна высечка, надта прыдатная пад гадавальнік, але ж пні — дзвюма рукамі не абхопіш".

Нешта зяць не дужа мяне слухае. А потым тлумачыць: "Іван Адамавіч, я не пра тое. Я пра мастацкую выставу. У нас жа як: трэба, каб усе малявалі тое, што дазволена. Але ж кожнаму карціць намаляваць і нешта сваё. Дык вось знайшліся такія і ў Маскве — намалявалі, а паказаць каму-небудзь карціны ім не дазваляюць. І тады яны што прыдумалі. Там, у нейкім парку, была ў іх вялікая паляна, дык яны і прывезлі туды свае карціны — хацелі перахітрыць уладу. Ды не перахітрылі — на паляне іх ужо чакалі. Хто чакаў? Рабацягі з лапатамі — акурат у гэты дзень заманулася ім пасадзіць маладыя дрэўцы. Бо тут і машына з гэтымі дрэўцамі, а яшчэ і бульдозер, хоць, калі разабрацца, навошта ён тут? Ну як жа, спатрэбіцца! Першымі ў бой з палотнамі рушылі рабацягі, сякуць іх, бы капусту, лапатамі, а тады ўжо прэ, як танк, і бульдозер — прэч з дарогі, антысавецкае адроддзе! Аднаму мастаку ледзь ногі не адрэзала. Вось гэта, Іван Адамавіч, і называецца "бульдозерная выстава". Увайшла ў гісторыю. А цяпер, як вы думаеце, дзе сёння тыя мастакі? Не ўсе, канечне, але некаторыя блакаду прарвалі. Ды і не толькі гэтыя, іншыя таксама. Адзін, напрыклад, з Піцера, ну, гэты найперш сябе паказаў. Можа, чулі пра такога Шамякіна?" — "Дзіва што! — адказваю. — Хто ж пра яго не чуў. Быў калісь на практыцы, а там недалёка вёска Пракопаўка, дык у ёй і вучыў ён дзяцей, але ж потым яго забралі ў Мінск, а не ў Піцер". Зяцю прыкра, і ён мяне папраўляе: "Іван Адамавіч, я не пра гэтага Шамякіна, не пра нашага. Наш — галоўны беларускі пісьменнік, ён і быў калісь настаўнікам. А той маладзейшы. І не пісьменнік, а мастак. Цяпер там, на Захадзе, ён і славуты, і багаты, бо, я ж вам кажу, прарваў блакаду. Але гэта я так, між іншым. Хаця — не ведаю. Рана ці позна, а... Словам, Іван Адамавіч, гэта такая справа, што... або пан, або прапаў. Але прападаць я маю права толькі адзін, таму не ведаю, як вам і сказаць, — дарма вы прывезлі Насцю, хаця што я кажу — не дарма, я люблю яе, для вас гэта не сакрэт, але я не магу рызыкаваць шчасцем вашай дачкі. Вы спытаеце — а сваім? Дык вось у тым і фокус, што ў нас розныя ўяўленні аб шчасці, я, Іван Адамавіч, і галодны магу быць шчаслівым, таму я нічым асабліва не рызыкую". Падумаў: прыязджаў да цешчы, дык не надта ты ў яе галадаў, а з другога боку — усё жыццё і мне рупіць тое, што цяпер рупіць яму, дык я і кажу: "Але ж можа быць, што і "пан"? Чаму абавязкова "прапаў""? Дакуль мы будзем прападаць, калі мы ўжо ў людзі выб'емся, калі мы панаваць будзем? Мне ўжо гэта надакучыла: усё жыццё сам прападаў, а цяпер і разам з зяцем, з

дачкою? Досыць! Пікі к бою, шашкі вон — будзем вырывацца з аблогі!"

Слухай, пісацель, ну вось спачатку ён кажа, а потым і я — будзем прарываць аблогу, але не знаю, як ты, а я так і не дапяў, да чаго ён мяне падводзіць сваёй "бульдозернай выставай", сваім Шамякіным? Ну, ясна, палатно ягонае ў самалёце вылавілі, яно ўжо ў маіх пячонках сядзіць, але ж гэта адно, а зусім іншае... Словам, не дапяў... Здаецца, і не зусім дурны, а толькі згадаў, як вырываўся некалі з аблогі сам — з Заліп'я ў Гомель. А самае далёкае — Мінск; ты ж помніш, паслаў я ў газету вершы — пра арляк, пра каранёвую губку, ну, думаю, не сёння-заўтра буду ў сталіцы — прыедуць і забяруць. Ды не забралі. Потым жонка пабіла мой рэкорд — ажно ў Сібір з Лёшкам матанула, а гэта вунь які няблізкі свет, але ж ўсё роўна — не да амерыканцаў жа яна ўцякала! Так і пра свайго зяця — хіба мог я падумаць, што ён нейкі шпіён, ну, не шпіён, шпіёнаў жа ад іх засылаюць, а нейкі прадажнік, што ён туды меціць? Пасля, канечне, яго я раскусіў, а чаму не тады... Таму што раптам да мяне дайшло: дарма я, аказваецца, вёз яму сваю дачку! Ажно кулакі сціснуў, ажно зубы сцяў: "Што ж ты, джэнтльмен, губу закапыльваеш: "Мы па-рознаму разумеем шчасце!" Гэта што, нам з дачкою — ад варот паварот? Выходзіць, не мы табою пагрэбавалі, а ты намі? Гэткі ў цябе клопат пра сваю жонку, пра маю дачку: забірайце сваё дабро, яно мне не патрэбнае — так? Ведала б мая жонка, як аддзякуеш ты ёй за яе аладкі са смятанаю, яна табе вочы нахабныя трапкачом павысцёбвала б, а ў дадатак і я каленам пад зад на ганку так паддаў бы, што і за брамку потырч вылецеў бы. А цяпер... як я дам ёй рады, сваёй дачцэ безгаловай? Улюбілася, як чорт у сухую вярбу, едзем, а яна прагнымі вачамі дарогу ўперадзе хапае — хутчэй, хутчэй, там жа недзе мастак яе чакае! А тады і кажа: "Тата, апошні раз вязеш ты мяне, бо дамоў я ўжо не паеду. Або застануся ў яго, або..." Дык што мне з ёю цяпер рабіць, гэта ж натура — яшчэ, як тая Ганна Карэніна, пад поезд кінецца!.."

...Чую — зяць: "Не гарачыцеся, Іван Адамавіч, гэта намнога сур'ёзней, чым вам здаецца, — прарваць блакаду. (Пра што гэта ён? А, гэта ж я сказаў — будзем разам вырывацца з аблогі, дык ён мяне і супакойвае.) Я яшчэ буду думаць. Але калі ўжо рашуся, да вас пад'едзе адзін чалавек, скажу адразу, не самы лепшы наш суайчыннік, дык яму вы аддасце тое, што ён папросіць. Толькі і ўсяго". — "А хто гэты чалавек?" — пытаю. А зяць: "Вы з ім добра знаёмыя. Нават вельмі добра. Не хацеў бы раней часу называць яго, прыедзе — убачыце самі".

Не, супакоіцца я не магу, бо, здаецца, здагадваюся, пра каго гаворка. Нечая рука — хоп зяцеву карціну, і знаёмая морда з машыны торк — і назад! Няўжо і праўда Лёшка Гамон? Не можа

быць! Не паверу! Але ж... зараз я буду ведаць пэўна! “Слухай, зяць, — кажу быццам і стрымана, але чую, як зараджаюся лютай злосцю, вось-вось яна выбухне, як з гарматы, у той бок, дзе Лёшка Гамон, толькі дзе ж яго д’ябал носіць, самога б затаптаць у жарало ды смальнуць так, каб вецер і смурод ягоны разнёс па свеце!.. Зноў пачынаю: — Слухай, зяць, хачу пагаварыць з табою як мужчына з мужчынам. Гэта ж рэдкая двухногая сволач, гэта сукін сын, якога свет не бачыў, ён жа другі раз лезе сваім сукаватым ражном у маю сям’ю, у маё жыццё, ды нават і не ў маё ўжо, а ў наша, як жа ты мог пабратацца з такім прайдзісветам, па ім жа турма плача!.. Ты ж культурны чалавек, джэнтльмен, філосаф!..” — “Вось бачыце, — зяць і не думае апраўдвацца, — я вам казаў, гэта будзе вельмі няпроста. Таму я і не хачу ўцягваць... Насцю, вас... А што да турмы, дык гэты чалавек у турме сваё адседзеў. Там ён трапіў у вельмі сімпатычную, культурную кампанію — з мастацкім ухілам, і цяпер гэта ўжо зусім іншы чалавек. Але не будзем, Іван Адамавіч, спяшацца, а то можа быць — вы мне пра аднаго, а я вам пра некага зусім іншага. — Прыкідваю ў думках, каго б яшчэ мог прыслаць да мяне зяць, а ён працягвае: — Дый наогул, Іван Адамавіч, не бярыце пакуль што надта да галавы, можа, ніхто ад мяне і не з’явіцца, бо я ўжо сказаў, на прарыў трэба рашыцца і потым ісці да канца, без аглядкі, а мне цяжка не азірнуцца — на Насцю, дый на ўсіх вас. І ў той жа час, як ні балюча мне ад гэтай думкі, яна ўсё больш бярэ ўва мне верх: я не магу даць вашай дачцэ таго шчасця, якога яна жадала б сабе і якога заслугоўвае, і не магу ад яе патрабаваць, каб праз мяне яна была ў гэтым свеце непрыкаянай зязюляю”.

Хацеў нешта сказаць зяцю, але з пад’езда паклікаў Жора: “Гэй вы, мужыкі, гайда ў хату, за стол, а то жанчыну адну пакінулі, рыцары, называецца!..”

Жора павёў рэй і за сталом. Наліў у чаркі, чокнуўся з усімі, але трохі мацней са мной і з Насцяю. А потым і сказаў тост, але хай бы ён лепш памаўчаў, такі нудны даў Бог яму голас — акурат воўчае завыванне: “За ваша, дарагі Іван Адамавіч, здароўе, за шчасце вашай цудоўнай дачкі! З гэтага дня яна ў другім па велічыні горадзе рэспублікі будзе самай прыгожай жанчынаю, і хвала бацькам, якія ў лясным зацішку выпеставалі незямную кветку. Зайздрошчу гэтаму нягодніку, што ў яго такая жонка, і цяпер я вазьмуся за яго як след, бо каралеву і адзяваць ды абуваць трэба адпаведна, а ён строіць з сябе...” Вось тут я не помню, як Жора назваў таго мастака, якога строіў з сябе мой зяць. Звалі яго, здаецца, Пятром, а прозвішча неяк звязана з гарэлкаю...” — “Можа, гэта была не “гарэлка”, а “водка”? — падказаў я Гаркушу. — Тады гэта Пятроў-Водкін, быў такі рускі мастак”. — “Во-во, акурат так ён і сказаў: “Пятрова-Водкіна з сябе строіць!” Зяць унурыў галаву ў пле-

чы, а Жора ўводзіць мяне ў курс: "Шаноўны Іван Адамавіч, ваш зяць — выдатны партрэтыст, на адных членах палітбюро ён мог бы зарабляць немалыя грошы, бо адны паміраюць, другіх выбіраюць — трэба маляваць усё новых, і так бясконца. Уяўляеце, якая гэта залатая жыла? Мог бы зарабляць, ды не хоча. Але цяпер я ім займуся, зраблю ўсё, што ў маіх сілах. Канечне, кватэру ім пакуль што ніхто не дасць, але што-небудзь прыдумаем. Да вашага ведама, Іван Адамавіч, я не толькі мастак, але і невялічкі начальнік, ад мяне тое-сёе залежыць, дык і цяпер на раёне ёсць у мяне адна выгадная работа, вось я і думаю, хай яны паедуць ды пажывуць, як на курорце, бо там жа, як і ў нас, рака, раскошная прырода. А вернуцца ў горад, ёсць у нас там, дзе мастацкая зала, неблагая баковачка, у ёй я сам жыў два гады, пакуль не далі кватэру, дык пераб'юцца і яны. А далей усё будзе ад яго залежаць, ад ягоных паводзін..."

Што я пачуў? Помніш, зяць мой казаў, нібыта Жора спалохаўся і перадумаў аддаваць ім баковачку? Дык адно з двух: або зяць хлусіў — каб раз і назаўсёды адчапіцца ад маёй дачкі, і ў такім выпадку Жора выдаў за сталом ягоны падман, або... Мне так апрыкрала гэтая важданіна з дачкою, што не ставала ўжо сіл па-мужчынску зірнуць зяцю ў вочы: праўду казаў ці хлусіў? Бо калі не хлусіў, тады тут другое "або". Бачу, як загараюцца вочы ў Жоры, вернуцца на зіму ў Гомель — будзе ім баковачка, а што атрымае Жора — кукіш з макам, бо калі ўжо маці такое шчасце, як я, ні на кога не прамяняла, дык у дачкі гэты яе вахлак у тысячу разоў лепшы — не Мох ён у яе, а Бог!..

Столькі душы паклаў я ўжо на сваю дачку, што хоць і вялікі грэх мне будзе, калі так скажу, але ехаў дадому і не мог нарадавацца: збыў-такі нарэшце сваю доню яе джэнтльмену! Ды раптам памеркла мая радасць, бо зноў я падумаў — няўжо і праўда зяцеў хаўруснік — Лёшка Гамон? Калі праўда, дык цікава было б, каб ён заявіўся, зараджу стрэльбу, але гэты раз ужо смальну не ўгору!

Пытаеш, пра якую стрэльбу я кажу? Даўгаватая байка, але трэба, каб ты ведаў: за тое, што некалі падбіў Лёшка маю жонку на ўцёкі, я адпомсціў яму страшнай помстаю — век будзе помніць!..

Пасля таго як уцёк Лёшка ў Сібір, пра яго доўга не было чуваць, аб'явіўся ж, як Сталін памёр, ці не ў пяцьдзесят шостым. Лёшкава маці к таму часу перабралася ў Грабянцы, таму ў Заліп'і пасля доўгай адлучкі Лёшка ні разу не паказаўся. Хоць баяцца яму не было чаго, хіба толькі, каб я не агрэў колам, а за тое, што сплавіў хахлам паўгектара лесу, яго надта не пакаралі б, нават калі б нікуды ён і не ўцякаў. Такі разумны закон: калі ты ўкраў дрэва з карання, дык папённая плата — капейкі, бо гэта не пакража, а самавольная парубка, і за яе ў турму не саджаюць, а толькі штрафуюць, бо

дрэва нічыё, Божае. Вось каб гэта быў павалены страявы лес, тады ён — дзяржаўнае дабро, і артыкул у кодэксе знайшоўся б. Так што вярнуўся Лёшка і ў вус сабе не дзьме, а яшчэ ж і на працу жуліка ўзялі, і куды — крамшчыкам у Сасноўку! Дык вось гандлюе сабе Лёшка, а таго і не ведае, што ў гэтай краме яго і насцігне мая страшная помста.

Выйшла ўсё само сабою. Ніколі не было ў мяне сабакі, такі я ляснік — белая варона, хаця навошта лесніку сабака — каб улетку хапаў падлёткаў, а ўзімку брахаў на вавёрку? Не паляўнічы, дык ні сабакі, ні стрэльбы. Але памірае стары Мікалайка, і мне ў спадчыну пераходзіць ягоная бярданка. Не ведаю, што мне з ёю рабіць, ды якраз перапіс паляўнічай зброі, дык вязу ў лясгас справаздачу і бяру з сабой стрэльбу. А далей усё адно да аднаго. Там, дзе перапіс, прадавалі патроны, дык я і купіў пяць штук, што мне цюкнула, не ведаю, але дадому ехаў я ўзброены да зубоў. І зноў-такі — акурат у Сасноўцы паламаўся наш аўтобус. Каму да Грабянцоў, каму да Донек — усе галасуюць спадарожным машынам, а мне як хто на вуха шапнуў: зазірні ты, Гаркуша, у краму, там адна знаёмая морда, гадоў дзесяць ты ўжо яе не бачыў. Ну, я стрэльбу на плячо і — наўскось цераз дарогу.

Падымаюся па прыступках і каго ж яшчэ з ганка бачу ў краме? Лёшку Гамона! Ага, папаўся, шэльма! У краме ні душы, дык я во так прыжмурыў вока і не зводжу з Лёшкі прыцэльнага позірку. "А, вунь гэта хто... Гаркуша... Колькі ж гадоў мы не бачыліся..." Лёшка ліслiва ўсміхаецца мне, а мною як быццам кіруе н е х т а, бо ўсё я раблю не па сваёй, а быццам па нечай волі. "Даўно, — кажу, — не бачыліся, не лішне было б і адзначыць..." Дастаю з кішэні грошы, кладу на прылавак і загадваю: "Чакушку!" Лёшка матлянуўся ўздоўж прылаўка: "Чаму чакушку? Што мы, не мужчыны? Паўлітру! За мой кошт! І закусь..." А я паўтараю загад: "Чакушку!" Лёшка ніякавата зірнуў на мяне, але загад выконвае — ставіць на прылавак чакушку, адлічвае рэшту. Апускаю грошы ў кішэню, бяру чакушку, адкаркоўваю, Лёшка не зводзіць з мяне спалоханых вачэй, бо што гэта я збіраюся рабіць?.. А вось што. Я ўсё мацней і мацней раскручваю перад ім пляшку, ужо гарэлка выскоквае з рыльца, тады я перакульваю чакушку і — не выпіваю, а проста выліваю гарэлку сабе ў горла! Богам клянуся, ніколі ў жыцці я гэтак не рабіў і нават падумаць не мог, што здатны на такое... У Лёшкі вочы на лоб, а я прыстукнуў донцам аб прылавак, знімаю з пляча двухстволку, дастаю з кішэні патроны... Лёшка ні жывы ні мёртвы, ды раптам адкуль толькі ўзялася ў ім гэткая жвавасць — як нырнуў пад прылавак ды як пачаў там поўзаць — шур-шур-шур, у адзін бок, у другі, шыецца між нейкімі скрынкамі, думае, яны яго ўратуюць! А я патроны ў ствалы загнаў дый кажу: "Ну вось, Лёшка, і

прыйшла твая смерць. І дарма ты поўзаеш, я цябе чую — цяпер ты ад мяне справа. Вылазь, бо ўсё роўна жакан праб'е прылавак". А Лёшка зноў — шур-шур-шур!.. Ну, думаю, з яго досыць, будзе помніць, як спакушаць чужых жонак... Трохі яшчэ паслухаў, як ён поўзае, а потым выйшаў на ганак ды як смальнуў з двух ствалоў угору! І пайшоў дадому, полем напрасткі, недзе далёка ўперадзе займалася наша Зарэчная дача.

Так я адпомсціў Лёшку, і — так мы з ім паміры́ліся. Аднаго разу стаю ў Грабянцах на прыпынку, а тут і ён, бо ў Сасноўку, у сваю краму, ездзіў аўтобусам. Ну, думаю, зараз палезе біцца. А ён убачыў мяне — усмешка да вушэй, далонь адводзіць і па маёй плясь — вітаецца, а я гляджу на яго — чаго ён так радуецца? А Лёшка аж заходзіцца смехам: "Ну і Гаркуша, ну і малайчына! Слухай, я ж пасля зірнуў у люстэрка — пасівеў! Во, зірні, разбойнік з вялікай дарогі! Не чакаў я ад цябе такога! Ну, усё, браце, разумею, свіння я перад табою, але ж і ты не застаўся ў даўгу. Цяпер — мір і дружба. Усё ў жыцці бывае, сёння я з тваёй жонкай перасплю, а заўтра ты з маёю!"

Сволач ён усё-ткі, Лёшка, і жарты ў яго свалачныя. Дык няўжо з гэтым нягоднікам зноў зводзіць мяне жыццё? Калі так, што ж — цяпер і я не буду з табою цацкацца. Стрэльба недзе вісіць, патроны, можа, не адсырэлі, канечне, жакан — занадта, гэта ўжо турмою пахне, а дробны шрот, на рабчыка, самы раз, ды яшчэ буйной солі падсыплю. Пекану ў зад — да Грабянцоў дамчыш за адну хвіліну".

## 7. "Даганяю ці ўцякаю?"

Нарэшце Гаркуша дамогся свайго: калі першы раз яму ўдалося пакінуць у Гомелі толькі падушкі ды коўдру, дык цяпер — ехаў з дачкою, а дадому вярнуўся адзін; не без Жоравай дапамогі з дзвюх палавінак склеіў так-сяк маладую сям'ю, зрэшты, не такую ўжо і маладую: Валіку, які застаўся ў Заліп'і з дзедам і бабаю, пайшоў чацвёрты гадок. Гэта быў ужо той лабаты хлапчук, які (можа, памятае чытач) у "Явары з калінаю" ўвесь час круціўся ля бабчыных каленяў, калі яна, прыходзячы да мяне ў залу, расказвала пра сваё замужжа. Гэтак жа і Гаркуша ўспамінаў ды пасмейваўся з самога сябе, і толькі цяпер, пераносячы на паперу ягоную гарадскую "памоўку", я пачынаю здагадвацца: сваім гумарам ён паддаваў сабе весялейшага настрою, адганяў трывожныя думкі пра дачку, якая засталася з няўдаліцаю-зяцем у Гомелі. Засталася, але... ці надоўга? Тое "ці надоўга?" павісала над імі, як дамоклаў меч, вярэдзіла абаіх, яны расказвалі пра сябе, а жылі ўжо, мабыць,

не так сваім, як горкім даччыным лёсам. Дачкі не было да самай восені, але толькі цяпер, праз многа гадоў, ад яе самой мы пачуем нарэшце, якім яно было, тое першае яе "сямейнае" лета.

... Яна перапытала мяне: "Кажаце, бацькі ні словам не абмовіліся, дзе я і што са мною? А я ж, як толькі прыехалі мы з Мохам "на раён", адразу паслала ім пісьмо, а неўзабаве атрымала і адказ. Маці пісала: жыве на кватэры таксатар, такі чалавек, што ходзіць па лесе і перапісвае, дзе якія растуць у бацькі дрэвы. Выходзіць, я пра вас больш ведала, чым вы пра мяне. Але ж і праўда, нічога такога, што надта цешыла б іх, яны не маглі вам пра мяне расказаць, бо як быццам і не вяртаецца дачка, не ўцякае ад свайго шалёнага шчасця, ды чула бацькава, а найперш матчына сэрца, што ўсё роўна гэта не тая даччына доля, якою можна пахваліцца.

Дык вось пра тое лета, пра маё раённае шчасце.

Жора Лепень, Мохаў таварыш і нейкі яго начальнік, прывёз на "рафіку" нас у раён, адсюль мастакам прыслалі заказ, і, як я зразумела, Жора аддаваў яго "па дружбе" Моху. Там толькі што пабудавалі раённы Дом культуры, пампезны палац, дык яго і трэба было ўпрыгожыць звонку мазаікай — гэта калі малюнак набіраецца з розных каменьчыкаў і каляровага шкла. Здаецца, так, бо нямнога пра мазаіку ведаю і цяпер, а тады яна мяне і зусім не цікавіла, сам жа Мох не збіраўся далучаць мяне да свайго высокага мастацтва. І, мабыць, таму, што наконт мяне ў ім выспявала ўжо нядобрая задума, пра якую я і блізка яшчэ не здагадвалася.

Сабе ў памочнікі Мох узяў аднаго тамашняга хлопца — звалі яго Адасікам. Невысокі, ростам з мяне, быў ён, як цяпер бы я сказала (шчаўчок пальцамі!), схільны да паўнаты, і мне ён спадабаўся — не ў тым сэнсе, што... словам, побач з Мохам быў ён ніхто, а ўсё-ткі — сімпатычны: валасы каштанавыя, вочы карыя, шчокі з лёгкай ружовінкай, а яшчэ быў ён рухавы, вясёлага нораву таўстунок, нездарма ж завіхаўся масавіком у Доме культуры. Адасік скончыў музычную школу і вельмі добра граў на баяне, а яшчэ і нядблага маляваў — не дзіва, што ён стаў памагаць Моху. І адразу ён зрабіўся нашым агульным сябрам, так, агульным, бо — тут я трохі заінтрыгую вас — да пары да часу Адасік не падаваў знаку, з кім найперш ён хацеў бы сябраваць — з Мохам ці са мною. Пакуль ён толькі прыдумваў нам з Мохам розныя забавы, хаця я ўжо здагадвалася — не так Моху, як мне. Калі мы былі ўтраіх, нехта мог падумаць, што Мох — "стары муж, грозны муж", бо і праўда ж ён быў шмат старэйшы за нас, а яшчэ і пахмурны, дзікаваты, таму і магло здацца, што яго точыць рэўнасць, ну а хто яго маладзенькая жонка — напэўна, добрая шалахвостка, бо нездарма ля яе ўвіва-

ецца гэты ўвішны прыгожы таўстунок. Цяпер я ведаю, што сам Мох быў упэўнены ўва мне, як Цэзар у сваёй жонцы, але тады паспрабуйце разгадаць, чаму ён так бессардэчна абышоўся са мною, дый з Адасікам таксама. Успомню — і цяпер жах працінае.

Гасцініца, у якой пасяліў нас Жора, стаяла на высокім беразе, а была ранняя вясна, рака са́ма разлілася, зірнеш з акна — вадзе не відаць ні канца ні краю. А ў Адасіка была маторная лодка, і ў першую ж нядзелю ён павёз нас катаць па разліве. Стрымгалоў не ляцеў, каб не наскочыць на які-небудзь падводны камень ці пень, рухаліся павольна, і гэта было вельмі цікава — плыць па шырокай адкрытай пойме, а потым і па рэдкім затопленым лесе. А што было самае цікавае — зайчыкі, якія ратаваліся на невялікіх астраўках. Наўрад ці чакалі яны нас, як таго дзеда Мазая, бо не надта скакалі да нас у лодку, інакш і быць не магло — гэта я ведала ад бацькі. Вучу на памяць верш “Дедушка Мазай и зайцы”, а ён і кажа: “Не скокне заяц у лодку, а паспрабуй яго за вушы ўхапіць, дык заднія ногі ў яго такія жылістыя, а кіпцюры такія вострыя — ватоўку, а пад ёю і жывот, як брытваю, распора”. Тут практык перамагаў у бацьку паэта. Адасік жа стараўся — дзеля мяне. І помню адзін астравок. Глядзім, а ён сядзіць пад дрэвам, небарака зайчык, і адно з двух: або ён мёртвы, або перад смерцю сам сабе думае: “Усё, хана мне тут, беднаму”. Звычайна зайцы нас да сябе не падпускалі, пачуюць лодку, і мы ўжо бачым, як яны ўкрадліва, каб не выдаць сябе, валюхаюцца — скок, скок — перабіраюцца на другі бок астраўка, а калі мы з Адасікам засцігалі іх і там, яны ад нас уцякалі. Гэтаму ж нашаму зайцу як быццам было ўжо ўсё роўна, ад чаго ці ад каго паміраць, дык ён і падпусціў Адасіка зусім блізка. А я ўспомніла, якое харакіры мог бы зрабіць Адасіку бяскрыўдны зайчык, ды як крыкнула: “Не чапай!” А мой вокліч як падкіне зайца ўгору — з перапуду ён так далёка скокнуў, што плёхнуўся ў ваду і замалаціў па ёй пярэднімі лапамі. Вось такая была ў нас з Адасікам забава, а чым на гэтай выспе яна для нас скончылася... Зайцы на астраўках цікавілі толькі нас з Адасікам, Мох, як сур’ёзны чалавек, заставаўся ў лодцы. Так было і гэтага разу. І вось крыкнула я Адасіку: “Не чапай!”, а што з ім?.. Няўжо яго так напалохаў заяц? Аж, здаецца, пабялеў: стаіць і да нечага прыслухоўваецца. А потым падымае ўгору палец і спалохана глядзіць мне ў вочы: “Матор! Чуеш?” Я не паспела яшчэ прыслухацца, а ён сарваўся з месца і з крыкам “Мацвеевіч!” кінуўся на той бок выспы — да лодкі. Я — за Адасікам, густы верас,здаецца, хапае за ногі, не дае бегчы, а чаго бяжыць Адасік, чаго бягу ўслед за ім я — і сама не ведаю. Вунь хваёвая грыўка над крутым пясчаным адхонам, там унізе лодка, там Мох. Выскокваю з хвоек і ледзь не спіхваю Адасіка ў ваду. Задыхаюся, ён паварочваецца да мяне і круціць пальцам ля

скроні: "Ён што ў цябе, ненармальны?" І тады я бачу лодку — вунь дзе яна, імкліва абгінае густы лазняк і мільгае за крайнімі, трохі радчэйшымі кустамі. Не веру сваім вачам — і праўда, што гэта з ім? "Мох!!!" — закрычала, колькі мела голасу. А тады і Адасік: "Мацвеевіч!!! — Ён балюча ўхапіў мяне вышэй локця. — Яму што, мача ў галаву стукнула? У яго не ўсе дома?!" — "Пусці! — Вырываюся і зноў крычу: — Мох!!!"

Раўнівая помста, ці што? Які дурны! Ды не, не! Калі б і праўда яму стукнула пакінуць нас на выспе, дык памчаў бы напрамкі ў пасёлак, — вунь ён, на высокім беразе, і ўжо лодка паказалася б далей за лазняком, а яе не відаць, дык, мабыць, і выскачыць неўзабаве з другога боку. Ну, канечне ж, толькі папалохаў — лодка вылецела з-за кустоўя і кіруе проста на нас, вось яна ўжо запавольвае бег. Мох выключае матор, і нос лодкі торкаецца ў пясчаны край выспы.

"Ну і адчайны вы чалавек, — збягае ўніз Адасік. — Наскочылі б на мель, вось бы мы вас тут папачакалі!" — "А што, трохі здрэйфілі? — Мох змрочна пацвельваецца: — Гэта я пажартаваў. Сядайце, рабінзоны".

Дык вось я і кажу — бессардэчны быў гэты Мохаў жарт, які страшэнна мяне напалохаў. Але не тым, што давялося б чакаць, пакуль спадзе паводка. Хоць, Божа мой, толькі гэтага мне замужам не хапала, — спалохалася я нечага ў самім Моху — таго зусім ужо нядобрага, што я ў ім смутна пачула.

Рэшту дня я з ім не размаўляла. Толькі, калі клаліся ўжо спаць — ён на сваім ложку, а я на сваім, спытала: "Ну і што ты гэтым хацеў сказаць?" І яго жартоўны адказ балюча ўкалоў мяне і пакрыўдзіў: "Даруй, старушка. Проста найшло нешта. Хоць, можа, і дарма я вярнуўся: дваім вам не было б на востраве сумна, га, старушка?"

Так, ён мяне пакрыўдзіў: знайшоў, да каго раўнаваць — да Адасіка! А калі ты раўнуеш, дык узяў бы ды і прагнаў яго — ад сябе, ад нас дваіх. Так я падумала і тут жа злавіла сябе на тым, што не Мохава рэўнасць мяне трывожыць, нават калі яна і ёсць, а, мабыць, тое, чаго я ў ім яшчэ не распазнала, — нешта горшае, чым рэўнасць. Бо не гнаў Адасіка Мох, наадварот, ён, здавалася, прывучаў мяне да яго, а яго да мяне. А гэтаму, як нельга лепш, спрыяла яшчэ адна наша раённая забава.

Гэта быў рэстаран. Я ведала, што ў рэстаранах п'юць і гуляюць, — бачыла ў кіно, але якое ні вазьмі, балююць жулікі ці белагвардзейцы, таму і музыка там блатная або такая... не нашая, словам, была я дзікая дзеўка і не адразу разабралася, што хоць тут і раён, але гэты рэстаран і ёсць тое прыгожае гарадское жыццё, якога, можа, і зычыў мне мой бацька. І танцы ў рэстаране былі гарадскія, спачатку я таксама дзічылася іх, але ж — Адасік! П'яныя мужчы-

ны ласа пазіралі ў мой бок, але як толькі зайграе радыёла, Адасік падае мне руку і выводзіць мяне на вальс ці на танга. Я баялася, каб Мох не зараўнаваў мяне да "чужых" мужчын, бо Адасік хоць "свой" і, танцуючы са мною, лішняга сабе не дазволіць. Але неўзабаве я стала заўважаць — дазваляе! З кожным танцам ён усё бліжэй і смялей туліўся да мяне, асабліва калі гэта было танга, у ім ён быў віртуоз, дык вышкаліў і мяне, бо дзе раней я навучылася б так імпэтна выкручвацца; Адасік ўсё мацней і з нейкім таямнічым сэнсам сціскаў маю руку, і мяне палохала, як глыбока ён зазірае мне ў вочы. Але яшчэ больш мяне лякала нешта смутнае і загадкавае ў Моху: кіну ўпотай позірк, а на яго зноў наваліўся нейкі цяжкі одум — аблакаціўся на стол, абыякавы да гэтага вясёлага вэрхалу, але не падобны Мох на "старога мужа, грознага мужа", бо хоць бы раз зірнуў раўніва ў мой бок.

Потым Адасік праводзіў нас да гасцініцы, а я ішла і не магла забыць, як толькі што разбіраў яго імпэт і як глыбока ён заглядваў мне ў вочы. Не, тут было не тое, што гэты таўсмаценькі Адасік хоць трохі ўсхваляваў мяне як жанчыну, хаця хто нас разбярэ: гарачая Адасікава далонь яшчэ як быццам пякла мне спіну, але не, пра гэта не можа быць і гаворкі, — проста я не магла не параўнаць, як глядзіць мне ў вочы гэты закаханы ў мяне Адасік і... Мох. Так, Адасік быў закаханы ў мяне, і гэта было амаль што смешна, але ж калі ён глядзеў на мяне, я заўважала, што ў ягоных вачах, у самай іхняй глыбіні, была толькі адна я, а ў Моха... Так, я бачыла і сябе ў яго ў вачах, але зусім блізка, неглыбока... (Шчаўчок пальцамі, яшчэ адзін шчаўчок!)... Нядаўна прачытала ў аднаго паэта, здаецца, у... не помню, у каго, ну, словам, сярэбраны век... Верш называецца "Сляпы", а ў ім прыблізна такія радкі: на бельмах у сляпога адбіваецца ўсё, чаго ён не бачыць. Страшна, праўда? Дык і я смутна зведвала гэты страх: Мох амаль што невідушча глядзіць на мяне, а я бачу сябе толькі на паверхні яго вачэй, ну, можа, трохі і ўваччу, а глыбей і далей мяне ўжо няма, там у яго нешта чужое мне, бясконцае... На вузкім гасцінічным ложку мы горача любілі адно аднаго (Адасік, забудзь мяне і спі спакойна!), а ці была я шчаслівая, так, была, але не, мабыць, ужо і не была, а тым больш наўрад ці быў шчаслівы Мох, — неўзабаве ён засынаў на другім ложку, і я іншы раз чула, як стогне ён ува сне.

Божа мой, а чаму б нам і не быць шчаслівымі? Ужо колькі часу Мох не піў, нават у рэстаране жартаваў — тут не п'юць, а адпачываюць, і ,бывала, што браў толькі мінеральнай вады. Яму плацілі ўжо такія-сякія грошы, і не толькі за ягоную мазаіку. З нашага акна далёка за ракою была відаць маленькая цэркаўка, адтуль кожнай суботы прыязджаў на легкавой машыне бацюшка і забіраў Моха.Там, у царкве, ён паднаўляў, падмалёўваў багоў ды праро-

каў. І быў такі час, мабыць, тыдні з тры, калі я бачыла, які акрылены вяртаўся ён з той цэркаўкі, — нібыта ў саміх анёлаў крыл пазычыў. І твар у яго быў светлы ці, можа, лепей сказаць, прасветлены — як у тых вернікаў, што ідуць з царквы на Вялікдзень. Але, як цяпер я разумею, у Мохавым жыцці гэта была апошняя яркая ўспышка. Так асляпляльна ўспыхвае пад канец свечка, хаця пра Моха лепей будзе сказаць: яму далі запаліцца, але ягонае (шчаўчок пальцамі!) творчае гарэнне ў той жа царкве неўзабаве і патушылі.

Спачатку я не ведала, куды Мох ездзіць, таму што бацюшка быў малады і адзеты, як ўсе; пад'едзе да гасцініцы — шафёр, дый годзе. Звычайна ён з машыны не вылазіў, чакаў, пакуль выйдзе Мох. Але аднойчы машына пад'ехала, а Мох не спяшаецца — стаіць пасярод пакоя і зводдаль пазірае ў акно, а на твары ў яго нейкая прыкрасць. Здагадалася: яму не хочацца ехаць. Але чаму? Зірнула ў акно, а той малады хлопец, што сядзеў за рулём, ужо ходзіць туды-сюды паўз машыну, на адной руцэ ў яго ўздзеты на запясце ружанец, а другою ён перабірае пацеркі, і, здаецца, толькі цяпер я ўбачыла і яго светлую рэдкую барадку. Нарэшце Мох выйшаў, але ў машыну не сеў, і цяпер яны ўжо ўдвух павольна снавалі перад маім акном — так я і пачула іхнюю размову. "Сын мой, — з маркотаю ў голасе сказаў хлопец з барадкаю, — ты глыбока памыляешся..." "Сын мой... Вунь хто ён, — падумала я, — малады поп!" Ну дык і яшчэ пільней слухаю, і, канечне, тады я не ўсё зразумела, але цяпер магу збольшага перадаць сэнс таго, што калісь пачула. "Ты памыляешся, сын мой, — сказаў бацюшка, — нельга парушаць святыя каноны, якія ніспаслаў нам сам Гасподзь Бог". А Мох яму пярэчыць: "Гэта вы, святы айцец, памыляецеся: візантыйскія каноны пачалі парушаць яшчэ даўнія мае папярэднікі — у шаснаццатым, а то і ў пятнаццатым стагоддзі. І як жа вы не разумееце: парушэнне мастаком існуючага канона — гэта якраз і ёсць ніспасланае яму самім Богам творчае азарэнне, ніспасланая вышэйшая ісціна, якую з кожным такім парушэннем усё паўней і паўней раскрывае для чалавецтва мастак. Я мастак, святы айцец, і для мяне не існуе кананізаваных зямных правілаў, я слухаюся аднаго Бога на небе". — "Свят, свят, свят, — перахрысціўся бацюшка, — няўжо ж тыя "лятаючыя талеркі", што так падобныя ў тваіх нябесных высях на німбы святых, таксама ніспасланае табе Божае натхненне? Ад нячыстага гэта, сын мой, ад нячыстага".

Урэшце яны селі-такі ў машыну. Мне здалося, ехаў Мох у царкву апошні раз — можа, каб забраць свае фарбы ды пэндзлі, але не, яшчэ тыдні з два ён туды паездзіў.

А таго вечара ў мяне ўжо вярцелася на языку, маўляў, хто ён, гэты хлопец, што некуды цябе забірае, але Мох мяне апярэдзіў.

Лёг дагары на ложак, падклаў пад галаву далоні, а на твары ў яго той знаёмы мне ўжо клопат, калі ён не прыдумае, як нешта мудрае мне, цёмнай, растлумачыць. Ён так і гаворыць: "Не ведаю, старушка, як бы табе расказаць, каб ты зразумела. Гэтаму маладому бацюшку не падабаецца, як я малюю ягоных святых. Няйначай, правінцыйны поп у патайной кішэні носіць чырвоны партыйны білет, бо толькі ў партыі гэтак фанатычна аберагаюць яе замшэлыя догмы. Яму хочацца, каб святыя былі падобныя на саміх сябе, а я яму кажу — галоўнае не гэта. Кожны святы нясе ў сабе дабро. Але ж дабро — не бохан хлеба, яго нельга падзяліць на часткі. Значыць, і дабро ў асобным святым — гэта як быццам і частка дабра, бо ён жа ўсё-ткі адзін, але разам з тым гэта і тое цэлае дабро, дзякуючы якому існуем усе мы, існуе наш зямны свет і цэлы Сусвет. А ты сама ведаеш — Сусвет круглы, адсюль і мой клопат: так намаляваць святога, каб паказаць гэтае адзінства — адзінства часткі і цэлага, таму я так святога і малюю — акругляю яму авал твару, лоб, падбародак, усё ў меру, канечне, а ягоны німб намёкам, ледзьве заўважным ценем паўтараецца шмат разоў недзе ў Космасе, у круглым Сусвеце. А цёмны поп кажа: гэта ў цябе "лятаючыя талеркі".

Я слухала і — не магла не ўспомніць. Яшчэ не запісаліся, а ён ужо маляваў мяне ў чым маці нарадзіла. А калі намаляваў, я вельмі здзівілася: як быццам і падобная на сябе, але ж ці такая выкругленая ў мяне талія і ці не занадта поўныя на карціне мае клубы?.. Дык я цяпер і спытала: "А калі б ты маляваў не святога, а, напрыклад, проста мужчыну ці жанчыну?" — "О старушка! — пахвальна ўсклікнуў Мох. — Ты задала вельмі цікавае пытанне. Жанчына з яе цудоўна акруглымі формамі ідэальна ўпісваецца ў адкрытую мною ў Сусвеце бясконцую пераклічку яго плаўна закругленых ліній і выпуклых формаў, у гэтай пераклічцы — гармонія Сусвету, якая на Зямлі найбольш поўна і наглядна ўвасоблена акурат у жанчыне. І найлепшае пацвярджэнне гэтай бясспрэчнай ісціны — ты, старушка".

Цяпер, калі Мохавы карціны пачалі паказваць на выставах, мабыць, адна я разумею, адкуль гэта ўсё на ягоных палотнах: антычная багіня і іншапланецянін у скафандры, купал хрысціянскага храма і лінія зямнога далягляду, якім бачаць яго з арбіты касманаўты. Гэта Мохаў круглы Сусвет, у якім — і гэтыя ідэальна акруглыя саскі і грудзі антычнай багіні, як быццам ён маляваў іх з дапамогай цыркуля. Тады я толькі смутна адчувала, што і мяне Мох хоча ўпісаць у свой Сусвет, бо іншы раз я проста вар'яцела ад кругавых рухаў ягоных рук па маіх грудзях, па сцёгнах, па жываце; цяпер жа, надта вучоная, скажу: напэўна, гэта быў яго падсвядомы прафесійны цынізм, і Моху я магу яго дараваць: з жанчын адна

я зведала, што мужчынскія пяшчоты — гэта не толькі тыя грубыя вульгарныя мацанкі, на якія мужчыны часцей за ўсё толькі і здатныя, — іх пяшчоты могуць, аказваецца, мець і глыбокі філасофскі сэнс: тымі кругавымі рухамі, ад якіх я шалела, ён так спасціг мае ідэальныя жаночыя формы, што гэта не магло не адгукнуцца ў яго антычных багінях.

Але гэтак я дарую Моху цяпер, а тады... Колькі было ў мяне той адукацыі — восем класаў, побач з Мохам я была прыгожай лялькаю, не больш, дык ці магла я прыняць яго высокія матэрыі, нейкі Космас, Сусвет, таму яшчэ не даслухала яго, а ўжо ледзь не плачу, такая агарнула мяне крыўда. Божа, думаю, калі я напраўду пакахала яго, дык ён мне і свет і ягоны Сусвет засланіў, не пашкадавала бацьку з маткаю — зганьбавала сваімі любошчамі, гарэлку дома крала і яму ў Савіну хату несла. А ён?.. Не кахае ён мяне! Таму ў яго і той Космас у вачах, пустэча тая, і думкі ягоныя недзе лунаюць у той пустэчы. Абмілуе ўсю прагнымі рукамі, але толькі таму, што ты яму той круглы Космас нагадваеш. З глузду з'ехаў!..

Не кахае ён мяне! Успомніла, як ад'язджалі мы сюды, у раён, і як не хацеў ён мяне браць з сабою. Жора Лепень толькі і настояў. А Мох пазіраў на мяне панура, як на нялюбую. Потым, калі ўжо ехала з ім у "рафіку", згадала дзядзьку Васіля, нашага суседа ў Заліп'і, і яго маладзенькую сучачку. Збярэцца дзядзька на аўтобус, а сучачка ўвяжацца за ім, дык ён паўдарогі і шпурляе ў яе тым, што трапіць пад руку, палкай ці каменем, каб бегла дадому. Так і Мох бадай што гнаў мяне, толькі не кідаў абы-чым, каб адчапілася. І, напэўна, у "рафіку" вочы мае былі такія, як у той сучачкі, што мусіла ўрэшце вяртацца дадому, — жалліва-пакрыўджаныя.

Чула маё сэрца: калі нават Мох і не гоніць мяне, дык сам аддаляецца. Як перастаў ездзіць у царкву, вочы ў яго зусім патухлі, і мне ўсё больш здавалася, што Мох ціха звіхнуўся на сваім Космасе, ад якога адлучыў яго той малады поп. Бацька, бывала, як хто выдумае што з галавы, дык толькі скажа: "Пустая тэорыя", а пачуў бы ён, якая мудрая тэорыя ў ягонага зяця!.. Шкада мне стала самой сябе. Так захацелася быць... нават не жанчынаю, а... бабаю, проста бабаю, якую без усялякай тэорыі пакахаў бы нейкі іншы мужчына... Не, я і блізка не падумала пра Адасіка, ну які ён мужчына, зялёны цяльпук, але Мох як быццам улавіў нешта ў маіх думках, бо аднаго разу, перад тым як заснуць, сказаў са свайго ложка: "А ты знаеш, старушка, здаецца мне, што гэты Адасік неблагі хлопец. Як ты мяркуеш?" Я нічога не адказала, бо хоць і ўспомніла, як пакінуў ён мяне з Адасікам на востраве, не магла яшчэ здагадацца, чаму ён так пытае. Здагадалася толькі праз тыдзень.

Ужо два разы Адасік вазіў нас на маторцы ў Дубы — было на рацэ такое месца, дзе найлепш лавілася рыба. Дык сюды ў нядзелю нас прымчаў ён і трэці раз. Некалі ў паводку мы плавалі ціха, а цяпер Адасікава лодка неслася як не над вадою — ляцела! — толькі ззаду, там, дзе матор, яна донцам трохі абапіралася на ваду. Напроці затокі Адасік выключыў матор, лодка з разгону апісала прыгожую дугу і павольна прычаліла да берага — ужо ў рукаве затокі. Месца там трохі вусцішнае, да вады з двух бакоў пахмурна падступае старая дуброва, нездарма кажуць, што яна цёмная.

Рыба ў затоцы бралася часта, і Адасік з Мохам толькі паспявалі закідваць вудачкі. А я была берагіняю — сядзела ля вогнішча і берагла агонь, а найперш ратавалася ад камароў: клала час ад часу на агонь то сырую галінку, то жмуток травы — каб было болей дыму. Мужчынам лацвей — яны ў штанах, а мяне Мох яшчэ не адзеў у якія-небудзь джынсы ці тэхасы, ды, здаецца, ён і не збіраўся мне іх спраўляць, дык я і сяджу ля вогнішча ў плацці, і як ні абцягвай яго на каленях, трэба адганяць камароў і галінкай, каб не пакусалі ногі... Так было спачатку... А потым... Раптам я заўважаю: штосьці ў нас не так, як заўсёды, а што — не магу даўмецца. А гэта я, аказваецца, крайком вока ўлавіла, як Мох пачаў патроху аддаляцца ўздоўж затокі. І ў першы прыезд, і ў другі ён вудзіў на адным месцы, а цяпер ён прайшоў метраў дзесяць далей — не клюе, падаўся яшчэ трохі — тое самае. Ён ўсё больш аддаляўся, а потым і зусім знік за арэхавым кустом, што навісаў над вадою. Я падхапілася, як быццам мяне вывелі з цярпення камары, не спадабалася, што мы засталіся сам-насам з Адасікам. Чакала, што Мох вернецца, але мінула і пяць хвілін, і дзесяць... Маю трывогу заўважыў Адасік — ціха, каб не спудзіць рыбу, гукнуў: “Што, старушка, не відаць на гарызонце шэфа? — І напаўголасу праспяваў: — “Напрасно старушка ждет шефа домой, ей скажут, она зарыдает”. — А тады зусім ціха і таямніча паклікаў: — Ідзі сюды, навучу рыбу вудзіць, а то будзеш там камароў карміць”.

Вось калі да мяне дайшло тое Мохава: “Адасік неблагі хлопец”. І вось калі я напраўду спалохалася. Заўважала — Мох гоніць мяне ад сябе, як дзядзька Васіль сваю сучачку, але ж гэта магло мне і здацца, а тут ён ужо наяве цураецца мяне і — ці не дзеля гэтага памаўзлівага Адасіка? Божа, няўжо такое можа быць? Так, нездарма ж ён пакідаў ужо нас на востраве — гэта была ў яго рэпетыцыя... Мох не паказваецца, толькі, можа, рассунуў свой арэшнік дый цікуе: а што яна будзе рабіць? А і праўда — што?.. Напэўна, ён давёў ужо мяне да гэтай кандыцыі, бо я раптам падумала: ты свайго дамогся, не я першая пачала гульню, таму калі табе так хочацца, дык і ўбач — вазьму і падыду да Адасіка! Колькі ведала Моха — з таго часу, як убачыла яго па дарозе ў Заліп’е, не

магла сябе ўявіць асобна ад яго, а тут раптам уявіла: ён адно, а я — другое.

Іду, Адасік, іду! Ён не можа дачакацца: "Хутчэй, сáма клюе!" Адчыняе пляскатую бляшаначку, а ў ёй голыя фіялетавыя чэрві. Пальцамі ловіць аднаго, зачыняе бляшаначку і кажа: "Глядзі, як трэба насаджваць". Чарвяк адчайна выкручваецца, каму ж хочацца на кручок, але, здаецца, і пальцы ў Адасіка не слухаюцца, хвалюецца Адасік, а мне таксама не па сабе, бо мы з ім толькі ўдваіх. А потым Адасік кажа: "Вучыся правільна закідваць вудачку. Во так. Адвядзі назад і падымі канцом угору, каб як мага болей лёскі было навісу, а тады плаўна і закідвай яе трохі бокам, каб кручком не падчапіць сябе за каўнер. Ну, паспрабуй".

Узяла ў рукі вудзільна і хачу зрабіць усё так, як вучыў толькі што Адасік. Але што гэта? Канец вудзільна над вадою, а напятая лёска слізгае па маім плячы, і я чую, як яна цягне, задзірае ззаду маё плацце, мабыць, кручок зачапіўся за падол, і лёска, усё больш напінаючыся, падымае яго ўгору. "Ціха, ціха, — супакойвае мяне Адасік, — назад вудзільна, во так". Лёска аслабілася, Адасік знімае яе ў мяне з пляча, а сам апускаецца побач са мной наўколенцы. Чую, злавіў падол, яму ж трэба адчапіць кручок. Ды нешта ён марудзіць. Суцішваецца, замірае, і, Божа мой, што гэта? Шчакою Адасік туліцца да майго сцягна, адной рукою абхапіў паверсе плацця мае ногі, а другая яго рука, яго далонь, ягоныя пальцы крадуцца вышэй каленяў пад плаццем, бягуць, бягуць, як мышаняты, па маіх нагах угору, у мяне заняло дух, хачу што ёсць моцы крыкнуць, але толькі слабы енк вырываецца з грудзей. Адасік устае з каленяў, а ў мяне нават няма сілы, каб пляснуць яму па шчацэ, бо яшчэ ён і бязгрэшна пазірае на мяне, як быццам мне толькі здалося, што ён такі паскуднік. Адасік паказвае кручок, маўляў, глядзі — адчапіў, а ў дадатак і нахабна ўсміхаецца: ну праўда ж, нічога ён не нашкодзіў! Дык і я не знайшла нічога лепшага — адказала яму дурнаватай усмешкаю. Адасік насаджвае чарвяка, і я зноў закідваю вуду. Атрымалася. А потым я падчапіла і першую рыбку. І другую. Так я і забылася пра Моха. Першы раз за колькі гадоў забылася.

А ўспомніла, апамяталася, калі вада ў затоцы стала аж чорная, азірнулася, а гэта цёмная, як ноч, хмара навалілася ззаду. Буйныя кроплі рэдкімі воспінамі ўпалі на ваду — трэба ратавацца, і мы з Адасікам кінуліся пад дубы.

Дождж спачатку лапатаў над намі па лісці, і гэта было нават цікава, потым рэдкія кроплі сталі шпокаць у нас пад нагамі, а ўрэшце халодныя струмені паліліся нам на плечы і на галовы. У мяне ўжо не пападаў зуб на зуб — так прамокла, а што з Адасікам? Ягоная далонь слізгае па маім баку, абдымае мяне пад плячом, гэтак

жа ён хоча абхапіць мяне і другой рукою, але я пераняла яго далонь — штосьці недарэчнае: як быццам у нас тут, пад гэтай залеваю, нейкі танец, але ж не, Адасік прыпірае мяне спіною да дуба, а сам усё мацней прыціскаецца да маіх грудзей. Адчуваю, як шалёна ён мяне прагне, вада цячэ па нашых тварах, Адасік прыпадае нахабнымі вуснамі да маіх вуснаў — захлынаецца ён, захлынаюся я, але... не захлынулася, бо адкуль толькі ўва мне знайшлося столькі рашучасці і сілы: дзвюма рукамі злосна штурхаю Адасіка ў грудзі, і ён, можа, зачапіўшыся нагою за нейкі корань, нязграбна плёхаецца дагары ў мокрую траву. Выбегла з-пад дубоў на бераг, і з маіх грудзей вырваўся працяглы, адчайны крык: "М-о-о-о-х! М-о-о-х! М-о-х!"

Напэўна, ён ратуецца ад дажджу за тым арэхавым кустом. Бягу, а вада кіпіць у затоцы, як вар; нырнула пад арэшнік, думала, за ім недзе блізенька Мох, спынілася, крыкнула яшчэ раз — ніхто не адгукнуўся. Пагнала сябе яшчэ шпарчэй, адчай і злосць кіпелі ўва мне, як вада ў затоцы, — злавала на Адасіка, на сябе за тое, што не пляснула нахабе па мордзе. Але неўзабаве я пабегла цішэй, бо раптам зразумела, што не на Адасіка і не на сябе трэба злаваць, — усё праз Моха! Гэта ён пакінуў мяне з Адасікам сам-насам, і пакінуў наўмысна, ён з в о д з і ў мяне з Адасікам, ён а д д а в а ў мяне яму, вельмі магчыма нават, што ён папярэдне дамовіўся з Адасікам, таму гэты цяльпук і быў такі нахабны.

Моха не відаць і не чуваць — ні на гэтым баку затокі, ні на тым. Куды ж кінуцца? Назад да Адасіка? Ён толькі гэтага і чакае, бо ў яго ж лодка, але хай ён там у ёй акалее!.. Не ўшчукаў, ліў як з вядра дождж, і цяпер мяне падганяла толькі крыўда: за што мяне так пакараў лёс?.. Затока рабілася вузейшай, усё больш выгіналася, як серп, а яго кончык вытыркаўся з лесу. Выскачыла на луг, за шэрай заслонаю дажджу ўгадала райпасёлак, не так ён і далёка, бо гэта толькі рака вызмеілася вялізнай лукою, таму і здавалася, быццам за свет завёз Адасік, а калі напрасткі па лузе... а хоць бы далёка было і напрасткі, усё роўна спатыкалася б на кожным кроку, а бегла б, пакуль і зусім не ўпала б. Бо гэта там, у лесе, я даганяла Моха, а тут, на лузе, даганяю я ці ўцякаю? Уцякаю! Бо не мог жа ён так хутка апынуцца недзе ў пасёлку, — застаўся, затаіўся ў лесе, і калі я ад лесу бягу, а не да лесу, дык, напэўна, я ўцякаю і ад гэтага страшнага чалавека!.. Маці!.. Як яна мяне ад яго адгаворвала, а я не паслухася, і вось — мала дажджу, дык яшчэ і слёзы цякуць з вачэй — бягу і плачу, але шкада не сябе, а маці, бацьку, бо як выбегла на сярэдзіну лугу, дык, здаецца, убачылі яны мяне і жахнуліся: во да чаго давяло дачку надта ранняе ды палкае каханне! Дык лепей бы яны высцебалі мяне калісь лазінаю, каб я і не падумала

пра гэтае праклятае каханне да трыццаці гадоў, не сек бы цяпер мяне гэты халодны дождж у чыстым полі!..

Вуліцаю не пабегла, яшчэ падумалі б людзі — з розуму крануласся, заламала да ракі і да самай гасцініцы прадзіралася паўз бераг па густым кустоўі. Ускараскалася па крутым адхоне, а тры прыступкі — столькі было таго ганку — ледзьве адолела. Дзяжурная ў калідоры не дала веры сваім вачам: "А мая ты дзеўка, хто ж цябе так?" Бо я не толькі мокрая; рукі, ногі дый, мабыць, твар у мяне да крыві падрапаныя, плацце парванае — дзікае кустоўе паўз бераг было яшчэ і калючае. Дзверы за сабою яшчэ зачыніла, а ступіць кроку ўжо не магу. Дзяжурная абхапіла мяне за плечы і давяла да майго пакоя.

А ў пакоі мяне зноў пачало калаціць — як там, у дуброве, калі першыя сцюдзёныя ручаі пацяклі па целе. Дзяжурная прынесла гарачага чаю, але і ён не памог; легла ў пасцель, накрылася коўдраю — мяне ўсё роўна ліхаманіла. Нехта моцна загрукаў у дзверы — ведама хто: у гасцініцы жывуць п'яныя мантажнікі, яны ўжо не раз чапляліся да мяне, і калі б хто знаў, як яны мне абрыдлі, але трывала, таму што не сама па сабе я тут жыла, а з Мохам. А цяпер... Не адчапіўся, як дзядзька Васіль, ад сучачкі, дык, думае, завязу дый кіну ў раёне, а можа, не знойдзе назад дарогі. Знайду! Зараз сагрэюся, пакідаю ўсё ў чамадан, і хай ён засіліцца на тых дубах, хай яго вір паглыне з ягоным Сусветам!.. Шкада, аўтобус толькі заўтра.

Не прыцёгся нанач — давялося б у сабакі пазычаць вачэй, дык і век бы яго не бачыць!.. Засыпала і думала: вярнуся да бацькі з маткаю, слёзна перад імі пакаюся, а там хай будзе, што будзе...

Раніцаю мне засталося толькі забраць у дзяжурнай пашпарт, але спачатку яна аддала мне пісьмо. Вярнулася ў пакой, стала чытаць, і на душы ў мяне з кожнай хвілінаю рабілася горш і горш: маці пісала пра бацьку. Даўно ляснічы Айчанаш пагражае яму воўчым білетам, бо ўсё ён у лесе перакручвае на свой "практычны" капыл, а цяпер і зусім здурнеў: паехаў да тых немцаў, што аднекуль, ажно з-за Сожа, вядуць у сваю Германію нафтаправод, дый стаў іх там угаворваць, каб яны пашкадавалі ды неяк абмінулі ягоны лес. Вярнуўся, а тады панаехала ўсякіх начальнікаў, распіналі перш Айчанаша, нібыта ён дзяржаўны шкоднік, бо на бацькавым зламысным чарцяжы быў ягоны подпіс, а потым ужо і Айчанаш спагнаў злосць на бацьку. Сабраў леснікоў і надта здзекаваўся з бацькі — расказваў, як на сваім мапедзе заявіўся ён да немцаў і што там вычвараў. Дык цяпер, пісала маці, яна і сама не ведае, на якім яны свеце: добра, як бацьку перавядуць у леснікі, а то і зусім з лесу пагоняць...

Дачытала я матчына пісьмо да канца, і апусціліся мае рукі: няма мне дарогі ў Заліп'е, там і без мяне гора, а каб я прывезла яшчэ ім і сваё?.."

Тым летам я жыў у Заліп'і, ды яшчэ і на кватэры ў самога Гаркушы, дык, канечне, я ведаў пра ягоную аферу з нафтаправодам. Так, ведаў, бо і ў "Явары з калінаю" адным абзацам пра яе нешта сказаў. Падрабязна ж распісваць не стаў: мне здавалася, гэта не зусім тыповы для Гаркушы ўчынак, бо ўсё-ткі ў той драматычнай сямейнай гісторыі, пра якую расказана ў "Явары з калінаю", Гаркуша, з ягонай крылатай фразаю "Усё ідзе на пагібель", больш ціхі, чым актыўны пратэстант, а ягоная авантура з нафтаправодам не надта паўплывала на ягоны лёс і лёс яго блізкіх. Цяпер жа зусім іншая справа: на лёсе дачкі неразумная бацькава вылазка да немцаў адбілася вельмі істотна! Яна сама толькі што сказала: збірала-[illegible] дадому — і не паехала, а гэта, як потым пераканаецца чытач, вызначыць шмат што ў яе далейшым жыцці. Апрача таго, не трэба забываць, што Гаркушу не выпускае з-пад увагі яго даўні знаёмы па мянушцы Чубок, цяперашні "мой генерал". Нават тады, калі Гаркуша ўсяго толькі прымітыўна філасофстваваў, ён дужа цікавіў пільнага чэкіста. Цяпер жа, калі "філосаф" пачаў актыўна дзейнічаць, нельга не падзівіцца, як тонка спрацоўвае ў нашых чэкістаў прафесійная інтуіцыя. У тым эпізодзе, дзе Чубок разбіраецца з Гаркушавым зяцем, ён гаворыць: галоўная небяспека для дзяржавы — не звіхнуты на сваім Космасе мастак, а ягоны цесць, Гаркуша, — акурат гэта і спраўдзілася. Таму ўрэшце трэба і нам ведаць, на якое шкоднае дзеянне здольны Гаркуша. Словам, я мушу ветліва перапыніць маю госцю, каб яе ж дапоўніць: славуты Гаркушаў візіт да немцаў, пра які яна даведалася з матчынага пісьма, заслугоўвае таго, каб расказаць пра яго больш падрабязна. Гэта я і зраблю з дапамогай майго заліп'янскага сябра — ляснічага Айчанаша.

Спёка стаяла невыносная, гарэлі тарфянікі, у лес наперла дыму, і вось сядзім мы з Гаркушам на рагу сорак пятага квартала, а тут на матацыкле падлятае і Айчанаш. Па-заліхвацку тармазнуў і, даючы наперад адчуць, што не пацерпіць ніякіх пярэчанняў, строга звярнуўся да Гаркушы:

"Іван Адамавіч! Дырэктар патрабуе дакументацыю па трасе — чарцёж і ведамасць ацэнкі. Усе ўжо здалі, апрача нас. Дык не расседжвайся, дзейнічай, бо інакш я вымушаны буду прыняць адпаведныя меры. Лічы, што я цябе папярэдзіў!"

Чарцёж трасы, якую меў на ўвазе ляснічы, цікавіў і мяне, бо я ж мусіў перанесці яго на свае áбрысы, а пасля і на планшэты, і таму, канечне, яго словы я не мог прапусціць міма вушэй. Але ў тарфяным смуродзе я не пачуў, як да яго прымешваецца пах падпаленага бікфордавага шнура: тут, на рагу сорак пятага квартала, зараджалася не якое-небудзь радавое здарэнне мясцовага маштабу, а небывалая, грандыёзная падзея, — я ўспомню гэты момант, калі ўжо грымне выбух!..

...Знік, прапаў чалавек, і не хто-небудзь, а сам памочнік ляснічага Гаркуша — як у ваду кануў разам са сваім мапедам. Самадзейныя пошукі ў лесе не далі якіх-небудзь вынікаў, тады з Грабянцоў і прыехаў мясцовы Шэрлак Холмс — участковы Шульга, стаў выклікаць леснікоў і трапіў-такі на Гаркушаў след: самы далёкі, калінаўскі ляснік расказаў, што ягоная жонка як быццам бачыла Гаркушу — на выездзе з лесу, а ехаў памочнік ляснічага кірункам на ўсход сонца, галоўнае ж — на багажніку ў яго масцілася дзесяцілітровая каністарка, няйнакш з бензінам, з чаго была зроблена выснова, што выбраўся Гаркуша ў няблізкую дарогу. Зазірнуў Шульга і да Гаркушавай жонкі, спытаў, ці ў курсе яна, куды збіраўся яе чалавек, але яна нічога не ведала, тады ўчастковы супакоіў яе, маўляў, раз бачылі жывога, дык вернецца.

І ў той жа дзень грымнула!..

Над лесам, на поўдзень ад Заліп'я, загрукатаў верталёт; перад шашою ён крута, з рызыкоўна заліхвацкім нахілам, ледзь не секануўшы вінтамі па верхавінах дрэў, павярнуў на поўнач і ўзяў курс на раён. А можа, праз гадзіну ў Заліп'е прымчала грознае начальства, ды не толькі з лясгаса, а і з райкома, з райвыканкома! З гадзіну ў кабінеце ляснічага ляскаў пярун і бліскала маланка, і, казалі, Айчанаша было не пазнаць, так ён змяніўся з твару, праводзіў разгневаных гасцей, дык ажно забег наперад і ўгодліва адчыніў перад імі дзверцы іхняй "Волгі".

Назаўтра Айчанаш сам панёсся ў раён, вярнуўся ж адтуль ажно згорблены — такім ніхто яго ніколі не бачыў. Зачыніўся ў кабінеце і нікога да сябе не пускаў, але я не быў бы ягоным сябрам, каб не дастукаўся: трэба ж было распытаць, што за грымоты з яснага неба, ды паспрабаваць суцешыць чалавека.

З хвіліну мы сядзелі моўчкі: ён за сталом, я — на крэсле каля сцяны. Нарэшце нешта падобнае на стогн выдыхнулася ў яго з грудзей:

"На, чытай".

Гэта была тэлеграма. Айчанаш пасунуў яе на край стала, я ступіў да яго і прачытаў:

ПАЛАМАЎСЯ МАПЕД ДАБІРАЮСЯ СВАІМ ХОДАМ ГАРКУША

“Ну і што, — падумаў я, — незразумела, чаму ён там недзе са сваім мапедам апынуўся, але пакуль што ніякай трагедыі я не бачу. Хутчэй за ўсё нейкая камедыя”.

Так я і сказаў Айчанашу. Ён уперыўся ў мяне абураным позіркам. “Зірні, адкуль тэлеграма. З Украіны! Ды не з гэтай, што побач, а з той, ажно з-за Сожа! Цяпер ён тыдзень будзе каціць назад свой драндулет, але нас ён, дзякуй Богу, суцешыў — жывыздаровы! Не, ты ўлавіў гэты д’ябальскі гумар? Галоўнае, што нічога не здарылася з ім, як быццам акурат у гэтым праблема, а не ў тым, што з-за ягонай авантуры выбухне міжнародны скандал!”

“Ну, гэта ўжо занадта. — Я не мог стрымаць усмешкі, таму што ў ролі гумарыста цяпер ужо выступаў ён, Айчанаш. — Так ужо і міжнародны”.

“Ты што, здзекуешся з мяне? — Ён падхапіўся з крэсла, і мне здалося, што ён зараз патурыць мяне за дзверы. — Занадта! Нічога сабе занадта — Масква вісіць на провадзе!”

Ён паволі апусціўся на крэсла і закурыў. Цыгарэта сама па сабе супакойвае, а яшчэ ён адчуваў, што я чакаю нейкіх тлумачэнняў: Гаркуша і Масква — вельмі несуразмерныя велічыні, таму ён пастараўся ўзяць сябе ў рукі і хвілін праз пяць быў ужо зусім спакойны, адно з вуснаў у яго не сыходзіла пагардлівая ўсмешка.

“Хацеў скарэкціраваць трасу нафтаправода”.

Я не паверыў сваім вушам.

“Хіба гэта магчыма? Яе ж праектуюць недзе...”

“Ну так, ты правільна мысліш — праектуюць у Маскве! Але толькі для нас з табой гэта нешта значыць: “Москва! Как много в этом звуке...”, а для Гаркушы такіх высокіх матэрый не існуе. Апошнім часам я думаю: калі Хрушчоў нешта і даказаў, дык толькі адно: яшчэ невядома, што нашаму народу лепш падыходзіць — культ асобы ці разгул дэмакратыі, бо страшна ўявіць, што было б, каб кожнаму дазволіў рабіць, што яму ўздумаецца. Ты яшчэ не здагадаўся, чаго ён туды рвануў — ажно за Сож? Думай, таксатар, думай! Слабо? Тады слухай, я ж толькі што з лясгаса, а там — гэтыя немцы, дык расказаў іхні перакладчык — мяне ледзьве радзімчык не хапіў. Што за немцы? Ну, ты даеш! Нафтаправод жа міжнародны! А гэты ўчастак і ўкладваюць немцы, гэдээраўцы. Цяпер яны яшчэ там, за Сожам, дык туды і прыкаціў гэты дзеяч. Ну так, на мапедзе. Але не, я не магу, мяне ўсяго калоціць, ох і авантурыст!..

Ты разумееш сітуацыю? Трасу выбіраюць аптымальную — самую кароткую, алоўкам па карце ж-жых, і куды ты дзенешся, траса сячэ і твой лес, а значыць, і табе аператыўнае заданне: аформіць лесасеку і здаць леспрамгасу. А ён ужо ўсё падчыстую. Дзяржаўнае заданне! Дык вось ён у мяне яго і выканаў. Гнаў яго я ўсё лета —

нуль увагі, а тады, помніш, дым вялікі быў, загадваю — а ў яго праз тыдзень і чарцёж гатовы, і кубатура падлічана — небывалая аператыўнасць!.. Я яшчэ, помню, падумаў: чаму так мала кубоў, там жа дубы — аднаму не абхапіць?.. Але ж не магу я не верыць свайму памочніку: падпісаў — і ў лясгас. Вось тут мой памочнік і знік.

А цяпер слухай, што расказаў мне перакладчык пра гэтага аферыста. Ведае, якая вялікая ў немцаў павага да мундзіраў, дык ён і заяўляецца да іх у лясной форме. Непаголены, пылу на ім у палец, прадстаўляецца — з такога-та лясгаса, хоча сустрэцца і пагаварыць з калектывам. Калі б гэта былі нашы рабацягі, дык не доўга ён дурыў бы ім галаву, вылецеў бы з іхняга вагончыка потырч, а немцы — яны ж у гасцях, дый народ дысцыплінаваны: у мундзіры, значыць, трэба паслухаць. Што ён будзе гаварыць, прыкладна ўсе ведаюць: прафілактычная гутарка — каб асцярожна абыходзіліся ў лесе з агнём. Сабраліся перад галоўным вагончыкам, на прыступках іхні начальнік, Гаркуша і перакладчык. І пачынаецца тэатр абсурду. Усе ўважліва слухаюць, але чым далей гаворыць Гаркуша, тым меней яго разумеюць немцы. Першы не стрываў начальнік. Праз перакладчыка ён спытаў у Гаркушы, з якога ён лясгаса. Аказалася, што да Заліп'я, з якога ён прыехаў, яшчэ добрых дзве сотні кіламетраў, гэта нават ужо другая рэспубліка. Немцы здзіўлена пераглянуліся: няўжо проціпажарную прапаганду работнікі тамашняга лясгаса пачынаюць на такой далёкай адлегласці ад свайго лесу?.. А неўзабаве ўсім здалося, што Гаркуша ўвогуле нясе ахінею: гаворыць не пра пажар, а пра тое, што нафтаправоду, аказваецца, не хапае аднаго нейкага калена. Тлумач яшчэ не паспеў перакласці, але слова "калена" немцы, мабыць, ведалі, — іхні начальнік уважліва паглядзеў на Гаркушавы, а тады і на свае калені. А што рабіць немцам далей — смяяцца ці плакаць? Бо калі начальнік папрасіў удакладніць, пра якое калена гаворыць Гаркуша, ён растлумачыў і паказаў жэстам, што калена — гэта калі нафтаправод крута заломвае ўбок.

Чаму нафтаправод павінен быў адцурацца сваёй праектнай трасы, гэтага немцы пакуль што не разумелі.

Канечне, начальніку трэба было навесці па тэлефоне даведкі, ці не збег хто з бліжэйшага дурдома, але калі ты ў гасцях, дык мусіш слухаць, можа, і не такую лухту. А Гаркуша развіваў сваю думку: траса нафтаправода патрабуе ўдакладнення, і акурат у раёне Заліп'янскага лесу. Гэта непарадак, што нафтаправод праходзіць па суцэльным лясным масіве, таму ён, Гаркуша, прапаноўвае больш рацыянальнае рашэнне: на падыходзе да Заліп'янскага лесу траса паварочвае крута ўправа, а тады зноў бярэ кірунак на захад, але цяпер яна праляжа па проціпажарным разрыве, а часткова і

ўвогуле па забалочанай лагчыне. Такім чынам можна будзе зберагчы шмат гектараў дубовага лесу, а нямецкія сябры ведаюць, што лес — гэта лёгкія планеты. Ну а потым нафтаправод загінае ўлева і шчасліва вяртаецца на сваю праектную трасу.

Напэўна, немцы парагаталі б, ды і толькі, калі б пад канец Гаркуша не паведаміў, што яны не могуць не прыняць ягонага варыянта, таму што траса нафтаправода пракладваецца па Заліп'янскім лясным масіве акурат так, як ён гаворыць, гэта яму дакладна вядома, бо ён сам афармляў усю дакументацыю і яна прынята вышэйшымі інстанцыямі. А каб у немцаў не засталося ў гэтым ніякіх сумненняў, Гаркуша дастаў з палявой сумкі празрыстую кальку і паказаў ім чарцёж новага і нібыта зацверджанага недзе варыянта трасы.

Вось тут ужо немцам стала не да смеху!.. Захваляваліся немцы і правільна зрабілі, бо Гаркуша такі не жартаваў і не трызніў, хоць і было вельмі на тое падобна.

Ты зразумеў цяпер, якая гэта была афера? Ён жа не хлусіў немцам, якія дакументы пайшлі наверх — такія, якія сам ён аформіў! Падсунуў мне чарцёж трасы, ацэначныя ведамасці, а я падмахнуў іх — і ў лясгас. А ні мне, ні там, у лясгасе, нікому і ў галаву не стукнула параўнаць ягоны чарцёж з праектнай лініяй трасы. А цяпер глядзі, што атрымалася. Напалову ён ужо дасягнуў сваёй мэты: дакументацыя аформлена і пададзена наверх, але гэтага мала, бо калі немцы, нічога не ведаючы, уперліся б трасаю ў некрануты Заліп'янскі лес, гэта вылезла б аферысту бокам, таму і трэба было нанесці немцам візіт, пераканаць іх, каб яны і ў натуры зрабілі так, як у яго на чарцяжы, — загнулі нафтаправод каленам. Ты скажаш — святая прастата! Дык і я ж пра тое. Часам чуеш: розум народа, розум народа. Вось ён, ягоны розум! Не, я таксама высокай думкі аб сваім народзе, але ўсё роўна — ім трэба кіраваць, бо нездарма ж не пра ўвесь народ сказана — "розум, гонар і сумленне". Але гэта між іншым. Паслухай, якім аказаўся ён дэмагогам, як нахабна ён пераконваў немцаў!..

Прыгадаем, сказаў ім Гаркуша, такі гістарычны факт. У мінулым стагоддзі паміж Пецярбургам і Масквой пракладвалі першую ў Расіі чыгунку. І звярніце ўвагу: усюды яна прамая, як струна, і толькі ў адным месцы адхілілася ўбок. А чаму так? А вось чаму. Лінію дарогі правёў на карце пад лінейку рускі цар Мікалай Першы, дык вось у тым месцы, дзе ён прыціскаў лінейку пальцам, аловак, абводзячы яго, і зрабіў зігзаг — гэта і было вынесена ў натуру. Бо такі быў час. Цар лічыўся Божым памазанікам, і ягонай вышэйшай волі, нават калі гэта быў і неўсвядомлены зігзаг ягонага алоўка, не магла працістаяць ніякая разумная мэтазгоднасць. А наш век іншы. Мы жывём у такі шчаслівы час, што можам

найбольш рацыянальна пракладваць чыгункі і нафтаправоды, бо ў нашых інтарэсах усё як след абмазгаваць і ўзважыць. Так і ў гэтым выпадку: нельга трасу нафтаправода пускаць па рэліктавай дуброве, і ён, Гаркуша, спадзяецца, што нямецкія сябры яго падтрымаюць і нафтаправод пройдзе па існуючым проціпажарным разрыве.

У кожнай краіне ёсць свае ідыёты, але Гаркушава прамова была пераканаўчай у тым сэнсе, што немцы ў сябе на радзіме шануюць і берагуць прыроду, а значыць, і ў гасцях яны павінны паводзіць сябе адпаведна. Але настолькі несуадносныя былі гэтыя маштабы — трансеўрапейскі нафтаправод і Заліп'янскі лес, што нават немцы, перш чым экспромтам пераглядаць праект і рабіць "калена", дый не адно, глыбока задумаліся. А тады і захваляваліся: а што ж там і праўда ўперадзе на трасе, у іх жа тэрміны, графікі! У краінах Садружнасці ўзводзяцца прамысловыя гіганты, пуск іх прымеркаваны да здачы нафтаправода, а тут перад імі сцяной нечакана паўстане Заліп'янскі лес!.. Вось тады і пачалося!.. Са штаба будоўлі, аднекуль з-пад Курска, ляціць па трасе верталёт, ага, во дзе ён, той лясгас, што чыніць перашкоды міжнароднай будоўлі, параўналі немцы свой праект з Гаркушавым чарцяжом і за галаву схапіліся: траса і праўда выкінула "калена"!.. Адразу званкі ў Маскву, у Берлін, у Мінск — дыверсія, і няйначай палітычная, і вось ужо ўсе разам на тэлефоне — Касыгін, Вілі Штоф, наш Машэраў — скандал міжнароднага маштабу!..

Словам, прагрымелі. Але ты можаш сабе ўявіць, што было б, калі б немцы проста адмахнуліся, маўляў, пажартаваў, ляснік, і кіруй дадому, калі б яны не раскрылі ягонай д'ябальскай задумы? Самога яго, можа, і не пасадзілі б, ненармальных не судзяць, а мне ты насіў бы ў турму перадачы, бо яна мне была гарантаваная..."

Такая была Гаркушава афера, пасля якой маці і напісала дачцэ: прагоняць бацьку з работы! Не прагналі — заступіўся Першы сакратар ЦК, маўляў, на тое ён і ляснік, каб бараніць свой лес (хто чытаў "Явар з калінаю", той помніць гэты эпізод), але ж праз бацькаву авантуру не вярнулася ў Заліп'е дачка, а можа, лепш было б, каб яна вярнулася?.. Хаця хто гэта ведае — лепш было б ці горш, аднак жа — не вярнулася, засталася са сваім ужо злым Мохам, і час, мабыць, даслухаць яе, чым усё-ткі скончылася іхняе жыццё "на раёне".

"...Так, засталася. — У яе голасе не столькі крыўды ці скаргі, колькі выкліку — іранічнага, нават саркастычнага, каму толькі ён

адрасаваны? Ну як жа, яна ж прыйшла судзіць — мяне і яшчэ некага, а за што? Ніхто з нас ланцугом яе не прыкоўваў да Моха! — Засталася, бо штосьці д'ябальскае яшчэ трымала мяне ля гэтага чалавека. Яго не было два дні, ужо хацела заявіць у міліцыю, ды на трэці дзень, пасля абеду, прыплёўся — п'яны як зямля. Мутны няцямны позірк, але не — штосьці яшчэ цяміць, бо спрабуе вінавата ўсміхнуцца: "Даруй, старушка, хацеў, каб у цябе ўсё было, як у лепшых дамах Парыжа..." Упаў на ложак, і першы раз я разувала яго п'янага — убачыла б гэта мая маці!.. Разуваю і слухаю яго трызненне. Пасля, як мінула шмат гадоў, яно для мяне пачало набываць сэнс, бо гэта было ўсё тое ж: ён, мастак, слухаецца аднаго Бога, дабро круглае, а зло вострае — як гэтага не бачаць людзі! Пракінуўся і абрывак ці не той размовы, якая была ў яго з маім бацькам: "Адамавіч, ваша дачка не толькі ваш клопат". А ўрэшце я пачула і вось гэтае (шчаўчок пальцамі!) — з "Маленькага Прынца": "Мы адказваем за тых, каго прыручылі". Канечне, гэта я ўжо цяпер ведаю — з "Маленькага Прынца", а тады я, вясковая цемната, можа, нават і не чула ніколі такога імя — Экзюперы, таму і гэтае "прыручылі" магло выклікаць у маім уяўленні толькі адно: ён прыручыў мяне, як дзядзька Васіль сваю сучачку, а цяпер не прыдумае, як ад мяне збавіцца, паспрабаваў, ды не атрымалася, таму з вялікага гора ён і напіўся... Збавіцца ад мяне ён мог, але, мабыць, не кінуў ён у мяне яшчэ тым каменем, каб я ад яго адчапілася...

Так мы і вярнуліся разам у Гомель — адразу пасля Кастрычніка, бо акурат да свята Мох і павінен быў скончыць сваю мазаіку. Прыехалі і пасяліліся ў той "цудоўнай баковачцы", якую яшчэ вясною паабяцаў нам Жора Лепень".

## 8. Апошні шанц

А далей — працяг гарадской Гаркушавай "памоўкі".

"Ну дык вось, такая, бач, у майго зяця планіда — ніколі мая дачка не будзе з ім шчаслівая, таму, як запісаў ты нас, дарагі цесць, так давай і памазгуем цяпер разам, як нам па-добраму ў розныя бакі разбегчыся. Планіда, бач, у яго! Паспытаў салодкага жанатага жыцця, а яно салодкае толькі спачатку, а тады і карміць трэба жонку, і паіць, а пасля з ёю ды яшчэ і з дзіцём недзе і жыць трэба!.. Але пакуль што не адкруціўся: гугнявы Жора паслаў яго некуды на раён, дык з ім на ўсё лета паехала і жонка — паспрабаваў бы ён

яе не ўзяць!.. Паехала, а сабе чакаеш, як вол абуха: а што, як вечарам з лесу вернешся, а ў хаце дачка — даруй, бацька, нажылася замужам, нацешылася. Ды не, і ўлетку не прыехала, а вярнуліся з раёна ў Гомель — там са сваім мастаком і зазімавала. Зрэдку прывязе Валіку гасцінца — цукерак ці пячэння, ну а мы ёй у сумку сала ды яек, і зноў яна ў Грабянцы на аўтобус, а на гаворку скупая, адчуваю, не хоча, каб мы распытвалі, як і дзе яна там жыве са сваім трутнем. Але аднаго разу сама абмовілася: жывуць з ім у той баковачцы, у якую пры мне памеўся іх пусціць гугнявы Жора, але большы начальнік супраць, каб яны яе займалі, і загадаў шукаць кватэру; зімою, кажа, не буду выганяць, а ўлетку каб выбраліся. Дык вясною еду ў лес, а ён жа зялёны ўжо з краю ў край, і вострым болем працінае мяне зязюльчына "ку-ку": у кожнай птушкі ёсць сваё гняздо, а няма толькі ў зязюлі. Зязюля мая дачка, зязюля! Вымеце з баковачкі начальнік, а ці ж кінецца яе боўдзіла шукаць кватэру? Ён толькі таго і чакае, каб справадзіць жонку да бацькі з маткаю... Сціснецца нешта ў грудзях, хачу ўдыхнуць, а не магу: нідзе няма і маёй дачцэ месца — апроч як у Заліп'і!..

Канечне, у жонкі маёй быў на прыкмеце мясцовы хлопец, узяў бы дачку і з дзіцём, хай бы кідала свайго вахлака, словам, запасны варыянт быў, але што гэта за варыянт!.. Ну так, некалі стары Мікалайка казаў: "У лесе можна жыць", але ж то было адразу пасля вайны, а потым не стала і ў лесе жыцця — спачатку ад старога, а пазней і ад гэтага, маладога Айчанаша. Гадоў дваццаць не было жыцця. Ды забраў нарэшце Бог старога Айчанаша; даўно збіраўся на свой партыйны хлеб малады — таксама некуды забралі, дык хай бы зноў вярнулася ў лес вольнае жыццё, але як пабываў ты ўжо ў тым каменным доме ў Гомелі, дык якая тут воля: едзеш на мапедзе, а табе так і здаецца, што ты як той заяц, якога з вышыні коршак пільнуе. І зусім свет нямілы, як падумаеш: самога тут аблажылі з маладых гадоў, Зоя, жонка, звекавала гарбатай бабаю, а каб праз дваццаць гадоў тое ж паўтарылася і з дачкою?! Толькі цераз мой труп! Бо ведаюць жа людзі нейкія спосабы, што іхнім дзецям і кватэры ў Гомелі даюць, а тады яны ім і машыны купляюць, гэта толькі сабе з лесу не вытыкаешся, дык нічога нідзе не разведаў і не вынюхаў...

Так я і падвёў сам сябе да думкі, што трэба шукаць нейкі "спосаб". Але доўга я шукаў бы яго і наўрад ці знайшоў бы, калі б не памаглі мае леснікі. Сабралася ледзь не ўся мая гвардыя, а па маім твары, мабыць, няцяжка было ўгадаць, пра што я ўвесь час думаю — пра сваю непрыкаяную дачку, дык нехта і спытаў — як яна там, у сваім Гомелі? Так і завязалася гаворка.

Але спачатку — што гэта быў за збор. Ну, ты ў курсе: у леснікоў а д в о д ы — пад асвятленне там, пад прачысткі і гэтак далей —

такі ж прыпар, як у калгасе сенакос ці жніво. Таму не ведаю, як дзе, а ў нас яшчэ з Мажэйкавых часоў галоўныя адводы рабілі талакою. Навалімся на адзін абход: хто з бусоллю, хто з мернай стужкаю, тыя цярэбяць лінію, а гэтыя слупок закопваюць... Кіпіць работа, а галоўнае, вечарам не абыдзецца без чаркі і можна ўволю нагаманіцца ля вогнішча. Дык вось уяві сабе, што адзін летні дзень і адшчыравалі мае леснікі, а разам з імі і я. Хлопцы вясёленькія, бо толькі павячэралі ў Стахейкі, а тут, у канцы гарода, пад лесам, гамоніць вогнішча, дык самы раз і самім пагаманіць пра жыццё-быццё, а ўсім жа за пяцьдзесят, ва ўсіх дарослыя дзеці, таму найперш пра іх і гаворка — хто дзе жыве, дзе робіць, колькі зарабляе. Так нехта і ўлучыў момант, каб спытаць у мяне пра дачку — як абжылася яна ў Гомелі. А іншым таксама цікава, дык усе і змоўклі — пазіраюць на мяне, чакаюць, што я скажу. Маіх леснікоў ты ведаеш: апрача Стахейкі — Мазгоў, Ляцяга, Туравец, хто там яшчэ — Голуб, Стома... Яны чакаюць, а я не прыдумаю, што ім адказаць, дык мяне і выручае Стахейка: "Бачу, Адамавіч, царскіх харомаў ёй яшчэ не далі". Я, мабыць, кіўнуў, тады Мазгоў, ну той, у каторага левай рукі няма, стужку адной праваю цягае, так, ён, — усміхнуўся дый кажа: "Дадуць, дагоняць дый яшчэ раз дадуць. Маёй дачцэ далі, не наскачацца". А Ляцяга — помніш, не гаворыць, а балбоча, як цецярук: бу-бу-бу, дык ён і цяпер: "А хіба не даюць? Майму сыну далі, два пакоі, з балконам!" — "Хе, далі, — рагатнуў Стома, — дагаджаў начальству, дык дзіва што!.. А так... дадуць, калі цябе ўжо ўперад нагамі выносіць трэба". — "Няпраўда, і маладым даюць", — стаяў на сваім Ляцяга. А тады ўжо і Туравец — помніш, у Пясчанай Рудні жыве — абвёў усіх сваім хітрым, як у ліса, позіркам дый павучае: "Не слухай ты нікога, Адамавіч. Даюць, не даюць. Калі ты хочаш, каб тваёй дачцэ нешта перапала, не пашкадуй хабару. Без хабару — дохлае дзела". — "То ўсе хабар неслі! — падскочыў Ляцяга. — Смалы ім, а не хабару. Можа, сам ты і падмазваў, а мой сын атрымаў чэсна!" А Туравец — паблажліва: "Я ж не кажу, што ўсім даюць толькі за хабар. Некаторым і дарма, але ж трэба ведаць каму". — "Калі ты ведаеш, дык скажы — каму? — гэта ўжо абазваўся і маўчун Голуб, не ўтрываў, бо, я ведаў, ягоная дачка жыла недзе ў інтэрнаце. — Можа, такім, як твой сын? Дык за якія заслугі?" — "А што ты думаеш, — з гонарам адказаў Туравец, — такім, як мой сын, кватэры даюць у першую чаргу, бо яны іх нагамі зарабляюць!"

Ты чуеш, пісацель, як ён мяне пацешыў, мой Туравец? Быў бы я трохі маладзейшы, зарабіў бы дачцэ кватэру, бо перагнаў бы любога футбаліста, хоць бы і ягонага сына. Некалі аб'ездчык Гаршуноў два кіламетры гнаўся з пугаю, а каб я сам не спыніўся, дудкі б ён мяне дагнаў! А яшчэ і летась — помніш калгаснага бугая?

Гэта вы з Айчанашам сіганулі за канаву, а мы з каморнікам папабегалі на гэтым баку — бугай быў ого які порсткі!.. Але гэта так, між іншым. А калі сур'ёзна... Словам, Туравец ажно зазлаваў — тлумачыць Голубу, каму яшчэ даюць без хабару кватэру: "...Начальству, перадавікам розным! Толькі ж яны ліпавыя, тыя перадавікі, трое робяць, а на аднаго выводзяць. А яшчэ тым, хто напіша ў рэдакцыю. Паскардзіцца, тады ўсе і забегаюць. Або ў каго трайняты народзяцца — тых у новую кватэру вязуць з раддома. Але чаго вы да мяне прычапіліся? Адстаньце! А ты, Адамавіч, нікога не слухай: хабар, толькі хабар!" І зноў Ляцяга: "Ты б яшчэ навучыў, як яго некаму ўсунуць. Не забывай, саджаюць і таго, хто кладзе на лапу". Ну, тут ужо Туравец проста пайшоў у наступ: "А што ты думаеш, і навучу! Можа, усе такія цёмныя, як ты? Трэба газеты чытаць; як гэта робіцца — фельетон быў, усё там апісана. Працей простага. Хто не ведае, той прэ, як танк, да самога начальніка. Ну добра, чхаў ты на розных сакратарак, падначальнікаў, але ж самы высокі начальнік напіша табе на паперцы — ідзі да таго, на каго ты начхаў. Дык ён будзе табе дагаджаць? Няма ў яго кватэры, што, ён з калена яе табе выламіць? А калі ты ведаеш, што ў іх тут да чаго, дык ты акурат да яго, да падначальніка, а лепш за ўсё да начальнікавай сакратаркі, такой, знаеш, фіфачкі, падлабунішся, яна табе ўсё чын чынаром і абцяпае. Вядома ж, не задарма. Бо што ў гэтай справе галоўнае? Галоўнае, каб тваё прозвішча трапіла ў кватэрны спіс. А хто яго складае? Той жа падначальнік і тая ж сакратарка. А далей — нясе яна кватэрныя паперы на подпіс самому начальніку, а спаднічка ў яе кароценькая, дык ён адной рукой яе вышэй калена пагладжвае, а другой чырк-чырк — і падпісаў. І ўсё — лічы, ордэр на кватэру ў цябе ў кішэні!.. Вось такая навука. Так што, Адамавіч, калі хочаш, каб твая дачка справіла ўлазіны, не пашкадуй з тысячу рублёў. Ну і, вядома ж, калі даваць хабар, дык рабіць гэта трэба культурна, каб і камар носа не падтачыў, каб ты як быццам і не даваў, а яна быццам і не брала. Ну напрыклад. Сядзіш ты ў яе перад сталом, а ты ж напісаў нейкую заяву, дык ты яе з гэтай сваёй сумкі і дастаеш, але ў цябе і яшчэ ёсць паперы, вось ты і выклаў іх на стол — шукаеш патрэбную. Адну вяртаеш у сумку, другую аддаеш ёй, сакратарцы, а яшчэ адну быццам і не заўважыў — забыўся на стале. Ну — дайшло? Ты не даваў ёй хабару, ты проста забыў у яе на стале нешта ўкладзенае ў паперу. А яна таксама нічога ад цябе — разумееш, ад цябе — нічога не брала, бо яна агледзелася вунь калі — у яе ўжо сто чалавек перабыло! Дык яна твае грошыкі і паклала ў шуфляду, а раптам хто вернецца ды спытае? Але ж яна ў такіх справах сабаку з'ела і добра помніць — грошы твае, дык, канечне ж, цябе яна першага і ўключыць у кватэрны спіс. Вось так, Адамавіч, гэта робіцца".

Такі Туравец — уцёр нам, невукам, нос. Трохі пасмяяліся, а ўжо добра змерклася, леснікі мае збіраюцца на вышкі — начаваць будуць у Стахейкі, і мне трэба ў Заліп'е. І вось вязе мяне мой мапед дадому, а ён жа ў мяне сам ўжо ўсе дарожкі помніць, галава мая вольная, і як быццам усё добра, бо работа ў хлопцаў ідзе спорна, падганяць не трэба, дык я і думаю ўжо пра нешта зусім іншае — заўтра з'езджу на гадавальнік, адскочу ў Калінава, там, казалі, у магазін прывезлі падковы, цяпер гэта праблема, і раптам... як з-пад куста, выскоквае ў памяці Тураўцова: "Хабар, Адамавіч, толькі хабар". Цьфу ты, чорт, адчапіся, гэта я, Гаркуша, буду некаму даваць хабар!.. Цісну на газ, як быццам хачу ўцячы ад гэткага насланння, але дзе ж ты ўцячэш, калі яно ў табе самім: "Хабар, толькі хабар!"

І вось тут, пісацель, я хачу ў цябе спытаць: ці даваў ты каму-небудзь хабар? Не даваў? А табе давалі? Таксама не? Ну дык вось і са мною такая ж гісторыя: і сам не даваў і мне не давалі. Да гэтага выпадку. Ну, не без таго, канечне... Таму што... як табе сказаць... Ляснічы гэта ўсё-ткі начальнік, і калі ты нават выконваеш абавязкі ляснічага, людзі цябе ўсё роўна паважаюць, толькі будзь і ты з імі чалавекам. Колісь, кажуць, ляснічы і зусім панам быў, яшчэ не так даўно, да вайны, везлі яму і дзічыну, і свойскія кумпякі, я гэтага ўжо не помню, але ўяві сабе, што сёння хтосьці ў карчах гоніць самагонку, а ты едзеш міма, дык, напэўна ж, пляшку ён табе ў сумку ўтопча. Але які гэта хабар? Гэта проста чалавечая павага, і калі нават газетнае заткала вытыркаецца з сумкі, я не таюся — усе мы не святыя. Так і цяпер — жыве з намі ўнук, і бывае, нехта з леснікоў, той жа Стахейка, прывязе слоік свежага мёду — зноў жа гасцінец малому, а ніякі не хабар... А тут — хабар!.. І хто павінен яго даваць?.. Калі б я быў ну зусім ужо простым чалавекам, напрыклад, леснікам, дык гэта яшчэ зразумела, а я ж пасля Айчанаша зноў выконваю абавязкі ляснічага — павінен сваім леснікам паказваць прыклад, каб не парушалі законаў, і раптам — хабар?.. А з другога боку, як падумаеш: ну вось жыве яна недзе, мая дачка, у той цёмнай бакавушцы, а той начальнік возьме ды і выкіне на вуліцу, што з ёю там будзе, калі яна нават не прапісаная, у тым Гомелі? Бяздомная зязюля!.. Як уяўлю сабе: там, у горадзе, куды ні зірнеш, тысячы, мільёны вокнаў, дык няўжо не знайшлося б там аднаго акенца і маёй дачцэ? А знайшлося б, дык, можа, у яе і з джэнтльменам жыццё наладзілася б, глядзіш, і Валіка забралі б. А інакш, думаю, не давядзі Гасподзь, такая прыгожая дзеўка, і не ў аднаго гугнявага Жоры на яе вочы недзе загараюцца, і не ён, дык той жа начальнік не ўпусціць свайго, пойдзе па руках, сап'ецца — там яны ўсе цяпер п'юць і кураць — ратуй, бацька, дачку, пакуль не

позна!.. А як ратаваць?.. З'ездзіў да Мажэйкі, і вялікі начальнік, ды не кватэрны. "Хабар, Адамавіч, толькі хабар!"

Вось так я і здаўся: а што, калі і праўда, думаю, плюнуць на сваё начальніцтва і на сваю свядомасць, ніхто нідзе на гэта не зважае, усе грабуць пад сябе, а я што, вораг сам сабе, роднай дачцэ вораг?..

Вось да чаго я дакаціўся, таму і спытаў у цябе — ці даваў ты каму хабар. Бо гэта ж, браце, трэба шмат паперажываць, перш чым рашыцца. Дый трэба ого як памазгаваць — як яго ўсунуць і каму, каб і самому не папасціся, хаця як падумаеш, дык не чуваць нешта, каб некага пасадзілі ў турму за тое, што даваў хабару. Словам, яшчэ я вагаўся, але ж "хабар, толькі хабар" — гэтыя Тураўцовы словы не выходзілі ў мяне з галавы, і ўжо нават, каб толькі ад іх адчапіцца, трэба было адважвацца. Усё, прымаю рашэнне — пікі к бою, шашкі вон!..

Рашэнне-то я прыняў, а як правесці аперацыю? Доўга нічога талковага не мог прыдумаць, бо я ж не дурны, каб выкладваць на стол нейкія паперы, ты будзеш іх выкладваць, а яна, тая сакратарка возьме ды і пакліча міліцыянера. Не, трэба так прыдумаць, каб толькі крутнуўся ў кабінеце — хабар у яе, а ты ўжо за дзвярамі.

Так у мяне і выспеў хітры план.

План-то план, але ж давядзецца не адзін раз наведацца ў Гомель, а на мне вунь які лес — я сам і ляснічы і памочнік. Паехаў у лясгас, кажу, так і так, хачу ўзяць чарговы адпачынак, пасаджу на сваё месца тэхніка, але і сам я надоўга не адлучуся, буду глядзець, каб не наламаў хлопец дроў, тлумачу, а дырэктар звер зверам, ён добра помніў, як я ў сваім лесе хацеў падправіць летась трасу нафтаправода, папала яму, ледзьве на крэсле ўседзеў, дык цяпер ён зіркае спадылба і як не гыркне па-сабачы. Не дае законнага адпачынку. А ў мяне ад бясконцых думак пра дачку ўжо шарыкі за ролікі пазаскоквалі, дык я і прашу: "Адпусціце, мне вельмі трэба ў Гомель, там у мяне дачка-зязюля, таму і трэба ў адным месцы даць хабару". Не цямлю, што кажу. Але дзіва дзіўнае: дырэктар неяк спалохана асеў за сталом, а тады ці не дрыжачай рукою бярэ самапіску і на маёй заяве крэсліць наўскось: "Адпусціць". А яшчэ і буркнуў: "У бухгалтэрыю!" Казалі, быў нячысты на руку, а я, не падумаўшы, і ляпнуў пра хабар. Дык і добра, што ляпнуў, — мабыць, ён падумаў, што я нешта ўнюхаў пра ягоныя грашкі, інакш не адпусціў бы.

Вось цяпер можна ехаць у Гомель. А як, з чым ехаць — у гэтым увесь фокус, дык вось і слухай, што я прыдумаў.

Ты помніш, я табе казаў — Стахейка прывёз майму ўнуку слоік свежага мёду? Дык за мёд я і ўхапіўся. Вось якая хітрасць. Наліваю мёд, а ён жа свежы, залацісты, наліваю мёд, але не ў слоік, а

ў бітончык. А потым... Не, гэты варыянт бракую, мёд не павінен быць надта свежым, трэба, каб ён трохі загус. Чаму? А вось слухай. Зверху на мёд я кладу ў цэлафанавым мяшэчку грошы, і калі мёд свежы, ён патануў бы, а гэта нядобра, трэба, каб грошы заставаліся наверсе — каб адразу кінуліся каму трэба ў вочы. Зачыняю бітончык накрыўкай, потым яго ў дамашнюю торбачку — з ёю па хлеб у Грабянцы ходзім, і так у адзін цудоўны дзень я і прыязджаю ў Гомель.

Але чакай, я трохі забег наперад, бо з мёдам я прыехаў ужо другі раз, а першы — рабіў рэкагнасцыроўку. Трэба было даведацца, дзе той выканком, што дае кватэры, а ўжо ў ім і прыгледзець сакратарку, якой можна было б даверыцца. Уваход у выканком не забаронены, а па калідоры хадзі хоць цэлы дзень, ніхто ў цябе не спытае, хто ты і адкуль, бо ўлада ў нас народная, дык я і хаджу, прыглядаюся да адных дзвярэй, да другіх. Вялікае начальства мне не трэба, толькі б зазірнуць адным вокам у прыёмную. І вось не паспеў я прыадчыніць дзверы, а яна, сакратарка, мне і кідае — заходзьце, ды такім голасам, што мне здалося — заходзьце, мы даўно вас чакаем... Праўду казаў Туравец — нафарбаваная далей няма куды, але не маладзенькая, а такая, знаеш, гадоў пад сорак бабенцыя — не, думаю, тут мне нічога не абломіцца, дужа строгая... Папытаў на прыпынку, дзе другі выканком, прыязджаю, зноў паблукаў у калідоры, а тады зірк у шчылінку — ну так, на твары ў гэтай, другой сакратаркі нешта людскае, дык я і плячо прасунуў у дзверы, але не, і да гэтай не падступіцца — зірнула на мяне, як на жуліка. Праўда, я трохі і быў падобны на фраера, бо не пайду ж я на такую рызыкоўную аперацыю ў лясной форме, — адзеў я шэры, у клетачку пінжачок, застаўся ён у нас ад дзеда Мікалайкі, праўда, яго месцамі пасекла моль, але для такога выпадку ён акурат прыдаўся. Але я не ўлічыў: Мікалайка быў некалі як быццам не наш, не савецкі, стары Айчанаш яго толькі і абзываў што кулаком ды контраю, таму, мабыць, ягоны пінжачок і мне надаваў такога ж чужаватага выгляду. Словам, я для іх падазроная асоба, для ўсіх гэтых пільных сакратарак, і толькі ў апошнім, ужо ў чацвёртым выканкоме нарэшце-такі я бачу — мая, мая жанчынка! Таму што і гадамі яна, можа, нават трохі старэйшая за мяне, і з выгляду простая, усё роўна як вясковая. Доўгая спадніца, вязаная кофта — спераду на гузіках, а крыссё абцягнутае, абвіслае — мабыць, унукі на прыполе таўкуцца — вельмі простая жанчына. Можа, некалі маладою была ў партызанах, дык яе потым і пасадзілі ў гэтую прыёмную... Заўважаю, яна тут галоўная, бо другая — машыністка, маладзейшая, падмаляваная і, відаць, аторва, бо зірнула на мяне, а вочы ў яе быццам п'янаватыя — зрэнкі пад верхнія павекі падкочваюцца... Зачыніў дзверы і на дыбачках, каб не спудзіць удачу,

пакіраваў да выхаду. Гэта тое, што трэба, — падумаў я, — сюды я і заяўлюся з бітончыкам".

Дык вось тым жа фраерам, у Мікалайкавым пінжачку, я і прыехаў другі раз у Гомель.

Эх, пісацель, што я перажыў! Ты думаеш, вылез з аўтобуса і адразу ў выканком? Не, браце, перад самым выканкомам быў сквер, а ў скверы лаўка, дык я сеў і сам сабе думаю: "Гаркуша, ці ў сваім ты розуме, сорак пяць гадоў пражыў, і ніводнай на табе плямкі, хіба што смаловая, але смаловую можна адмыць, а запляміш ганьбай сумленне, чым адмыеш?" Ну дык і ўсё, думаю, пасяджу трохі і паеду да дачкі, пагляджу, як яна там раскашуецца ў сваёй бакавушцы, а мёд будзе ёй гасцінцам.

Дзе шукаць дачку, я прыкладна ведаў. Знайшоў і вуліцу, і тую мастацкую залу, увайшоў, а на сценах — карціны, большыя і меншыя, на адных усякія людзі, а на другіх проста лес ці возера. І раптам — дзіва: гляджу, а тут, у зале, і мая дачка, толькі не на карціне, а жывая, сядзіць у глыбокім мяккім крэсле, мабыць, выйшла са сваёй баковачкі, каб культурна палюбавацца на ўсе гэтыя карціны. Сэрца мае зайшлося ад замілавання: якая ж яна ў мяне прыгожая!.. Але я забыў, што сам я ў кароткім Мікалайкавым пінжачку, дома я ніколі яго не надзяваў, дык і не пазнае мяне дачка, а тады як падхопіцца: "Тата, адкуль ты? І чаму ты... гэткі?" А я кажу: "Ды ўжо які ёсць, рашыў цябе праведаць, гасцінца лесавога прывёз". А яна яшчэ больш разгубілася, не ведае, што са мною рабіць, бо трэба ж бацьку некуды весці, паказваць сваё жытло. Хвалюецца, бо яшчэ, можа, і не клеіцца ў яе жыццё з мастаком, а можа, зусім расклеілася? Дык я ёй і кажу: "Не тушуйся, дачка, я твой бацька, і не трэба ад мяне таіцца, пакажы, дзе тут вашы апартаменты". Яна ўсміхнулася, ды так, што твар пакрывіўся, як ад плачу. Вядзе яна мяне да дзвярэй, што ў кутку, спачатку я іх нават не заўважыў, адчыняе іх і прапускае мяне ўперад.

Ну дзе ж тут не ўзрадуецца бацькава сэрца: вось яны, зяцевы апартаменты, — каменная камора! І прыцемак, як у каморы, бо два невялікія акенцы пад самай столлю. А ў камору ж выкідваюць розныя бэбахі, дык уключыла дачка святло, а яны і тут: перакошаны (мабыць, расклеіўся) пісьмовы стол — на ім нейкая чорная трыножка, ага — пліткa такая, бо яны не пішуць на гэтым стале, а вараць; а гэта ў іх крэсла — яго недзе выхапілі з агню, бо адна нага абгарэлая; нікеляваны ложак — без тых шышачак, што на спінках, — нехта пазбіваў. Але ж гэта і кладоўка, бо тут і стос кардону, і нейкая скрынка, драўляная, а во з гэтага яны, аказваецца, робяць сваім карцінам рамы — чуў, багетам завецца, з аднаго боку ў яго залацістая ўзорыстая аздоба. Азірнуўся, а дачка мая прысланілася да вушака, і на твары ў яе не то крыўда, не то пагарда: глядзі, бацька,

глядзі!.. А тады што ж мне рабіць? Не галасіць жа! Наадварот, трэба яе падвесяліць, абнадзеіць, таму бадзёрым голасам я і падымаю ёй настрой: "Ну, дачка, дык у вас тут і няблага! А калі і не зусім, дык не векаваць жа вам тут. Можа ж, намалюе што-небудзь людскае твой мастак, дык улезеце і ў лепшае. Улезеце, гэта кажу табе я, твой бацька!"

Селі мы з ёю, я — на крэсла, а яна — на ложак, і я спытаў: "Ну, а ўсё-такі — не паразумнеў твой Мох? Нічога такога не намаляваў — каб і грошы і каб пахвалілі?.." На вачах у яе навярнуліся слёзы. "Намаляваў, ды зусім не тое. Загадалі яму намаляваць членаў палітбюро — каб за ноч былі гатовыя, бо раніцай іх трэба было недзе вешаць. Сярод тых членаў быў адзін, у каторага на фатаграфіі трохі пакрыўлены рот, а Мох не падправіў, а ўзяў дый намаляваў так, як на картачцы. Павесілі, а тут наляцеў, як віхор... тата, ты яшчэ не ведаеш, дык і не хвалюйся дужа, цяпер тут на ўсіх наганяе жах Айчанаш, Віталь Фёдаравіч, з раёна нядаўна перавялі, чула, ён нейкі тут сакратар — па ідэалогіі, дык вось ён і наляцеў — вы, кажа, так наўмысна намалявалі члена палітбюро, каб людзі смяяліся — з криваротага. Не ведаю, чым усё скончыцца, бо мастакі цяпер, як сыдуцца ў гэтай зале, шэптам перамаўляюцца — вялікага грому чакаюць. Вось што ён намаляваў. Самога яго ў выцвярэзнік забралі, а мяне... — у дачкі задрыжэлі губы, — выселяць мяне адсюль, тата".

Айчанаш!.. І ў страшным сне не сасніў бы, што і тут, у Гомелі, ён будзе знушчацца — калі ўжо не з мяне, дык з зяця, а гэта ж — і з маёй дачкі! Д'ябал, знайшоў і тут! Хаця і зяць таксама добрая цаца — гэта каб член палітбюро ды быў крываротым? Дурань, няўжо цябе не вучылі ў інстытуце, як можна маляваць, а як нельга, а калі не ўмееш, дык і не бярыся! Ануча, а не хлопец, толькі і здатны, што напіцца, але ж і дачку любіць, сволач, і яна яго таксама. Што ж рабіць?.. А што рабіць — дзейнічаць трэба!.. Бо займелі б уласны кут, не дрыжэлі б так, як сам усё жыццё дрыжэў, бо калі ты не ў сваёй хаце, дык ён і грозіцца табе — і з лесу выкіну, і з лясніцкага дому, — жылі б у сваім — дулю яны тут, у Гомелі, яму паказалі б!..

Дачка кажа: "Тата, сагрэю чаю, дык у мяне перакусіш". А я ёй: "О не, дачка, няма калі, я ж не толькі да цябе, ■ і па важнай справе, цяпер я з ёю мігам упраўлюся, бо пабачыў, як ты жывеш, — няблага, людзі жывуць і горш, вярнуся дадому — і сам за цябе спакойны буду, і маці парадую. Прыязджай у госці, а можа, і з Мохам пад'ехалі б, а мне пара, бо надта трэба тут у адно месца". Развітваюся, яна праводзіць мяне да дзвярэй, але не да тых, што ў залу, тыя засталіся збоку, — дачка выпускае мяне на вуліцу — праз другія дзверы. Яшчэ раз развітваюся, а яна мне ўслед: "Тата, ты ж

нейкага гасцінца прывёз!" А я ёй: "Другім разам, дачка, другім разам, надта спяшаюся, мне тут у адно месца трэба".

Ага ж, цяпер я пакіну ёй бітончык з мёдам! А яшчэ, можа, і тыя грошы, што ў бітончыку? Не, дачка, нікуды не дзенешся: хабар, толькі хабар, трэба вызваляць цябе з тваёй цямніцы.

Іду па тым скверы, дзе сядзеў нядаўна на лавачцы, ногі падгінаюцца — хочацца зноў сесці, так баюся ісці туды, але не сеў, наадварот — сам сабе загадаў: "Гаркуша, уперад!" Перасек шырокі асфальт і смела ўзышоў на высокі ганак. Увайшоў у калідор. Надпіс на дзвярах: "Прыёмная". Адчыняю дзверы — за сталом тая самая, "вясковая". Трохі набычыў галаву, каб яна не надта разгледзела мой твар, вітаюся і тлумачу: "Во дзе я знайшоў вас! Гэта ж еду ў Гомель, а ваша сястра і просіць — перадай, кажа, там маёй сястрыцы гасцінца. А ці ж мне цяжка? Дык во, калі ласка, прымайце, а мне трэба бегчы, бо там, у адным месцы, скора на абед зачыняцца". Паставіў бітончык на край стала — і да дзвярэй! А "вясковая" апамяталася ды наўздагон, не, не бяжыць, а толькі гукае: "Мужчына, вы памыляецеся, няма ў мяне ў вёсцы сястры, у мяне брат!" А я ёй ужо з-за дзвярэй: "Ну дык лічыце, што брат перадаў, брат!" Дзвярамі ляпнуў — і ходу! Чую ззаду: "Мужчына, вярніцеся!" Гэта ўжо не "вясковая", а тая маладая аторва, яна, думаю, увяжацца, дык і дагоніць, але дудкі — я ўжо выскачыў на вуліцу, ды не пабег у сквер, а шусь адразу за вугал — толькі яны мяне і бачылі!

Ехаў дадому — уяўляў, як знялі яны з бітончыка накрыўку, як вынялі цэлафанавы мяшэчак, як разгарнулі яго — грошы!.. І мая цыдулка. Вось яны ўжо яе чытаюць: "Дарагія жанчынкі! Каб вы толькі ведалі, як маім дзецям, дачцэ і зяцю, трэба кватэра! Памажыце, век буду за вас Богу маліцца. Дый у даўгу не застануся. Прыміце пакуль што задатак — паўтысячы, а прыеду наступны раз, аб усім дамовімся, колькі трэба, столькі і дадам. Хрыстом-Богам малю, злітуйцеся!"

Дома жонка: дзе быў, куды ездзіў, ды яшчэ ў дзедавым пінжачку, агародамі ў двор крадзешся!.. Дух перавядзе — і зноў: "Божа, мала табе тваіх леташніх немцаў, дык і сёлета некуды панесла цябе, не пратурылі, пакінулі ў канторы, дык затаіўся б, як мыш пад венікам, а то зловяць недзе, ды ніхто не заступіцца, дык мала таго, што дачка зязюля, яшчэ і самога з казённага жытла выметуць, вось тады ўсе разам і пакукуем".

Ведала жонка, чым прыстрашыць: "Зловяць недзе!" Я і так пабойваўся, а цяпер і зусім галаву ўцяў — вось-вось, здаецца, нехта за каршэнь возьме. А яшчэ і прысніўся мне сон. Як быццам паклікалі тыя дзве жанчыны міліцыю, і вось ужо ўсе разам яны знімаюць з майго бітончыка вечка, лічаць грошы, чытаюць маю запіс-

ку... Гляджу, а гэта не міліцыянты, а мае знаёмыя Праважатыя, тыя, што перахапілі мяне колісь, як выйшаў я ад Мажэйкі. Адзін з іх кажа: "Ага, папаўся, галубок!" Дзіўна, адкуль у іх мая картачка, усе разам разглядаюць яе, а потым зноў чую: "Бітончык мы забярэм, на ім павінны быць адбіткі ягоных пальцаў". Мяне ў пот кінула, я ж помніў пра свой палец на зяцевай карціне, тады злавілі, дык і зноў — папаўся!..

Прачнуўся — не адлягло ад сэрца. Вядома, сон, але ж і праўда — могуць злавіць. А тут яшчэ і жонка зноў ідзе ў наступ: "Адумайся, чалавек! Лепей бы над вухам у дачкі пагуў, маўляў, знойдзецца табе пара, ёсць жа ў Грабянцах у цябе хлопец, інстытут канчае, не ўгледзіш, як у Заліп'е ляснічым прышлюць. — А потым і яшчэ: — Досыць ужо гойсаць па свеце, усе людзі надзелы пакасілі і на вышкі сена пакідалі, а ты, як і летась, бадылле збіваць будзеш".

Праўду кажа — карове на зіму трэба было б нешта ўкасіць, але больш яна даймае мяне сваім хлопцам, дык я сам сабе і падумаў, а ці не прыгледзецца да яго пільней — наконт таго, якім быў бы ён зяцем? Я ўжо казаў, хлопец гэты праходзіў ужо ў нас практыку, разоў колькі пабываў са мной на адводах, на гадавальніку; сваімі павучаннямі я надта яму не надакучаў, яшчэ падумае, што набіваюся яму ў цясці. Не, у мяне ёсць гонар! З маёй дачкою нікому не трэба набівацца, калі б не сышоўся ў яе свет клінам на мастаку, ад жаніхоў не было б адбою, толькі адшывай аднаго за адным. Ну але ж, як Айчанаш з'ехаў, дык я і прыкінуў: размяркуюць хлопца ў Заліп'е, і будзе ён тут ляснічым, а тады, можа, і праўда ён нашай дачцэ наканаваны?

Праўда ці не праўда, а трэба, думаю, лёгкі зандаж правесці. А тут якраз і сам ён заходзіць да мяне ў кантору. Ну, вітаемся, запрашаю садзіцца і раптам заўважаю, што пазірае ён на мяне з такім, знаеш, местачковым ганарком! І не трэба было мне ўжо яго чапаць, але, пацягнула за язык, дык я і пажартаваў: "Бач, які ты ўжо мужчына, то быў высокі ды гонкі, а цяпер і ў плячах раздаўся. Мне б гэткага зяця". У яго на вуснах такая ўсмешачка, як быццам ён мяне шкадуе. Ну канечне ж, бо што я чую: "Даруйце, Іван Адамавіч, але гэты варыянт адпадае. Зайшоў так... развітацца. Бо вялікая рызыка. Яшчэ з адным дзіцём я ўзяў бы, але... адкуль я ведаю — можа, у яе ўжо і другое ў праекце. Словам, Іван Адамавіч, я не такі прасцяк, як вы думаеце".

Мне стала шкада гэтага няшчаснага хлопца. Гэтак ён кахаў маю дачку! Сам колісь кахаў, дык хадзіў як п'яны, а ён такі разважлівы, цвярозы. Пакараў хлопца Бог, дык я і не паказаў яму на дзверы, адно паківаў галавою: "Правільна зрабіў, што зайшоў развітацца, бо такі ні мне, ні маёй дачцэ ты не патрэбны".

Усё — еду ў Гомель і даводжу аперацыю да канца! І няма чаго баяцца, кожная дробязь у мяне прадугледжана. Абыду сквер, дзе сядзеў з бітончыкам на лавачцы, і адразу ўбачу, прыняла тая, "вясковая" жанчына мой план ці не. Калі прыняла, яна роўна а дванаццатай гадзіне павінна сядзець на лавачцы ў скверы з газетаю ў руках. Чаму з газетаю? А хвароба яго ведае, проста я так напісаў ёй у сваёй паперцы. А галоўнае — сквер праглядваецца навылёт, і я здалёку ўбачу, прыйшла яна ці не, і калі якая пастка, таксама заўважу.

Ну вось, ты кажаш, навошта газета. Слухай. Прыязджаю я ў панядзелак у Гомель, вось ён, мой сквер, асцярожна абышоў яго і бачу — прыйшла!.. Так, прыйшла, але... не тая, не "вясковая", а яе памочніца, маладая аторва — гэта, канечне, сюрпрыз! Аднак жа з газетаю! Калі б без газеты, дык яна магла б і проста выйсці ды пасядзець, а так яна, напэўна ж, чакае мяне — усё ідзе па плану!.. Паважна падышоў, прысеў на край лаўкі. А яна: "Ой, гэта вы?" Зрабіла выгляд, што спалохалася. Пільна да мяне прыглядаецца — можа, запамінае твар? Але якая ветлівая: "Даруйце, я хацела ў вас спытаць, ці здалёку вы прыязджаеце?" "Ага ж, — думаю, — так я табе і выдам, адкуль прыязджаю". А сам прашу: "Жанчынка, вы лепей скажыце, згодныя вы ці не? Бо навошта вам ведаць, адкуль я?" А яна кажа: "Вы, мабыць, не так мяне зразумелі, я толькі хацела даведацца, колькі каштуе ваш білет". "Ну так, — думаю, — скажы ёй, а яны адразу і вылічаць, адкуль ехаў". А яна супакойвае мяне: "Ну ды хай сабе, пасля вы ўсё зразумееце. А пакуль... — Тут яна як зірнула на мяне сваімі быццам п'янаватымі вачамі, я ж казаў, яе зрэнкі трохі падкочваліся пад верхнія павекі, як зірнула, ну, думаю, усё, гэта мая пагібель, а яна трохі нахілілася да мяне і таямнічым, такім, знаеш, грудным голасам кажа: "Вось вам ваш бітончык (гляджу, а бітончык як быццам і не мой, падменены), вось ваш бітончык, і якое вам будзе заданне: паўтарыце! Вы мяне зразумелі? Паўтарыце! Чакаем вас з вашым бітончыкам тут у наступны панядзелак".

Калі яна ўстала і пайшла, штосьці мяне ў ёй насцярожыла. Ага, вось што: казаў Туравец, у такой сакратаркі павінна быць кароткая спаднічка, а ў гэтай яна доўгая, як у цыганкі. Але ж — глупства, падумаў я, калі яна хабар любіць, дык пры чым тут спадніца? Вунь як паводзіць клубамі — раз'ела на хабарах!.. Спецыялісты яны тут — першы клас! "Паўтарыце!" — і адным словам усё сказана. Клюнулі! Пацярпі трохі, дачка, перасялю я цябе з тваёй каменнай каморы! Пашанцавала бацьку, хоць раз ды пашанцавала! Цяпер толькі напазычаць грошай, бо і так ужо на першы заход не хапіла, а тут яшчэ пяцьсот. Але — хоць тысячу, усё жыццё гатоў аддаваць даўгі, толькі каб у кватэрны спіс улезці!..

Што было далей, паспрабуй угадаць сам, пісацель. Хаця — ніколі не ўгадаеш. Скажу так: не даваў ніколі хабару, дык і не давай, бо калі ты просты чалавек, табе і тут няма шанцу. А гэта быў мой апошні шанц, далей я ўжо не ведаў, як памагчы дачцэ ў яе горы... Словам, прыязджаю праз тыдзень, а на лаўцы ў скверы сядзіць старэйшая — “вясковая”. І мой бітончык з ёю. Сядзіць яна вельмі спакойная, зусім не насцярожаная, хоць хабар гэта ўсё-такі не жартачкі. Яна толькі чамусьці сумная. Апусціўся побач, а яна і кажа: “Даруй, мужчынка, мабыць нядобра мы з табою абышліся. Але гэта не я, гэта памочніца ў мяне такая, паспытала мёду і аж застагнала: “Век такога не каштавала!” Ты ж, можа, ведаеш, цяпер пчолам цукар даюць, і мёд тады не мёд — салодкі, а мёдам і не пахне. Дык яна, бессаромная, і кажа: за тое, што ён пра нас так думае, нібыта мы за хабар кватэры даём, мы яго і правучым: хай ён прывязе нам яшчэ адзін бітончык. Ото яна і прыйшла да цябе сюды. А цяпер што ж, давай разлічымся: вось твае пяцьсот рублёў, вось табе за мёд, а вось за білеты. І вяртаю твой бітончык. А яшчэ скажу: каб магла, без хабару паспрыяла б. Ды каб ты ведаў, колькі яшчэ людзей у цеснаце гняцецца — і старых, і калек, і такіх, як твая дачка, маладзенькіх. Калі толькі людзі па-людску жыць пачнуць, нагледзелася я ў сваім выканкоме, наслухалася — і скаргаў, і слёз, сама іншы раз не стрываю — заплачу”.

Яна яшчэ трохі пасядзела са мной, паўздыхала, ды ўрэшце развіталася і пайшла. А я застаўся. У тым скверы, на той лаўцы — навек. Бо нікуды ўжо не збіраўся ні ісці, ні ехаць — годзе, нахадзіўся і наездзіўся, а што я выхадзіў, чаго дамогся? Няма мне на гэтай зямлі талану. Але хай бы толькі мне, а то ж ні дачцэ, ні зяцю.

## 9. Чэрці ў будзёнаўках

Яна закурыла трэці раз.

Перад тым як пстрыкнуць запальнічкаю, яна прыплюшчыла вочы, і на вуснах у яе выразна пазначылася штосьці кпліва-іранічнае — здалося, яна злёгку пасміхаецца ў думках з самой сябе, аказалася ж — і з мяне таксама.

“Маю маці ў сваім рамане вы называеце “цвэйгаўскай” жанчынаю. Я — не “цвэйгаўская”, бо не спавядаюся перад вамі, як маці, але ж, памятаеце, у Цвэйга — “Дваццаць чатыры гадзіны з жыцця жанчыны”, дык вось і я хачу расказаць вам пра адзін дзень са свайго жыцця — пра той дзень, калі, напэўна, і вырашыўся, аж да гэтага часу, увесь мой далейшы лёс.

Не ведаю толькі, з чаго пачаць. Словам, Жора Лепень пусціў нас у сваю кладоўку, дык мы з Мохам і пасяліліся ў той цёмнай каморцы побач з мастацкай залаю. Ад Жоры нам дасталася такая-сякая мэбля, а Мох прывёз з нейкай сваёй бярлогі нашы падушкі і коўдру. Трыумфуй, бацька: заваяваў горад, калі не дзеля жонкі, маёй маці, дык дзеля дачкі. Зрэшты, калі б не падушкі, дык хутчэй за ўсё ён забраў бы мяне назад, у Заліп'е, а вяртацца з падушкамі — палічыў за ганьбу.

Так мы і перазімавалі, так мы ўжо і летам жывём з Мохам у гэтай баковачцы. Кажу — з ім, але ўжо з тыдзень я жыла адна, бо Моха забралі ў выцвярэзнік і не адпусцілі — пасадзілі на пятнаццаць сутак.

Вы заўважылі, як спакойна я пра гэта гавару, якім гэта было ўжо для мяне звычайным — яго забралі ў выцвярэзнік?..

Ну дык вось, прачнулася я ў сваёй каморцы — пачынаецца той самы, адзін дзень майго жыцця, пра які я хачу расказаць. Набрала ў чайнік вады, паставіла на плітку, зноў прылегла на ложак, заплюшчыла вочы і слухаю, як чайнік заводзіць сваю жалобную музыку. Спачатку ціха, ■ потым мацней і мацней, як быццам здалёку, даносіцца тонкі глухаваты свіст: ф-ю-у-у, ф-ю-у-у, вельмі падобна на тое, як зімою ў Заліп'і завывала за акном завея. Чайнік усё больш распальвае сябе, яго аднастайная мелодыя набірае сілу, робіцца жудкаватай. Нарэшце чай закіпеў — трэба ўставаць з ложка. Трэба адзецца, прычасацца, бо неўзабаве ў дзверы пастукае Жора. Ды каб жа перш пастукаў, а то спачатку адамкне, а тады не паспееш азірнуцца на ягоны стук, а ён ужо адчыняе. Бо ён тут гаспадар, яму трэба то нешта прывезці ў гэтую кладоўку, то нешта забраць, таму, калі ён пускаў нас сюды, адзін ключ пакінуў сабе. Найчасцей Жора паяўляецца ранкам, а восьмай гадзіне, і з намі ён не цырымоніцца: аднаго разу ўвайшоў, а мы з Мохам яшчэ спалі. Цяпер жа, калі Мох раскашуецца недзе на казённых нарах, у мяне зябка пацепваюцца плечы — ад думкі: зараз увойдзе Жора, і мы будзем адны ў гэтай каморцы. Хоць, здаецца, са мной ён не вольнічае дый з сябе не сказаць, каб ужо быў нейкі брыдкі. Адно што коратка падстрыжаны, не разумее, што ад гэтага надта выдаецца гарбаты, завостраны з бакоў нос; а вусны ў яго, як у капрызлівай дзяўчынкі, банцікам — прагненькія вусны; такімі прагненькімі бываюць і Жоравы позіркі, якія часам на сабе адчуваю. Дык не брыдкі, але нудзіць ад ягонага голасу. Бацька кажа, падвывае сам сабе, як ваўчок.

Вось ён, лёгкі на ўспамін. Абяцаюць спёку, дык ён у белай тэнісцы, шырокі ў плячах, торс клінам — атлет! Звычайна ён пускае паперадзе сябе няўдалы жарт, а потым кідае на мяне свой прагненькі позірк, ды цяпер ён нечым заклапочаны, усхваляваны,

зірнуў — як быццам я перад ім вінаватая. Я стаяла перад сталом — трошкі ўссеўшы на яго, у белай кофце, цёмнай спадніцы, прычасаная — Мох пра маю прычоску казаў, што яна ап'яняльная, скрыжавала на грудзях рукі, чакаю, што будзе казаць Жора. А ён падышоў бліжэй, спыніўся, таксама скрыжаваў рукі на грудзях — здалося, злёгку перадражніў мяне, і спытаў з дакорам у голасе: "Ну што, Анастасія Іванаўна, дагуляліся мы з вамі, даскакаліся? — Я няцямна пазірала на яго, а ён цешыўся з маёй няцямнасці — здзекліва ўсміхаўся. — Вось такі ён, ваш геній!.. Вы яшчэ не ведаеце, які ён там, у выцвярэзніку, нумар выкінуў? Скора даведаецеся. Сёння мастакі будуць абмяркоўваць, паперу з выцвярэзніка прыслалі, ды такую, што цяпер я яму не пазайздрошчу. А папраўдзе, дык і вам, Анастасія Іванаўна. — Жора панурыў галаву, задумаўся, павярнуўся, павольна рушыў да дзвярэй, вярнуўся назад, зноў павярнуўся. Хадзіў і сваім нудным завываннем выварочваў мне душу: — Не, гэта ўжо не проста п'яны выбрык, гэта поўная яго дэградацыя як чалавека і грамадзяніна. Падабралі яго за ракой, калі б тут, у цэнтры, дык у выцвярэзніку яго ўжо ведаюць — пастаянны кліент, а там яны па ягоных кішэнях цап-лап, дакументаў ніякіх, дык яны і пытаюць — хто такі? А ён, дарма што лыка не вяжа, дзёрзка абвяшчае: "Я — свабодны мастак!" А яму капітан і кажа: "Які ты свабодны, скора мы табе прадэманструем". І гукае ў суседні пакой: "Іваноў, халодны душ наладзілі?" — "Наладзілі!" — адказвае Іваноў. "Добра, — кажа капітан і зноў да свайго кліента: — А калі ты яшчэ і мастак, дык вось табе чысты аркуш, намалюеш мой партрэт, тады я паверу, што не хлусіш". Падае яму шарыкавую ручку, і ваш геній малюе капітана міліцыі. Але як малюе! Замест носа — свіны лыч, на лобе рожкі, але падабенства выключнае — капітан! Я неяк казаў вам, партрэтыст ён ад Бога, і капітан дзівіцца, варушыць жаўлакамі, гэта ўжо мне так расказвалі, варушыць капітан жаўлакамі, а потым зноў гукае: "Іваноў, ідзі сюды! Сядай на маё месца, хай ён намалюе і цябе". Зноў малюе ваш карыфей, і, канечне ж, у Іванова таксама свіны лычык і рожкі. Але хай бы ён толькі намаляваў іх чарцямі, за яго яшчэ можна было б заступіцца, бо вядома: калі ў п'янага белая гарачка, яму здаюцца чэрці — галюцынацыя, а тут, мала таго, што міліцыя — рагатыя чэрці, яны ў яго яшчэ і ў будзёнаўках! Слухайце, што яму стукнула ў галаву? Чаму ў будзёнаўках? І пасля гэтага ён хоча, каб яго прынялі ў Саюз мастакоў, каб яму далі кватэру? Чэрці ў будзёнаўках! Ну вядома, найперш хворая фантазія, але тут не проста белая гарачка — гэта пахне палітыкай! Вы думаеце, яны сюды нам напісалі? У партыйныя органы! А там цяпер новы сакратар па ідэалогіі, гэты ваш Айчанаш, лютуе — ратуйся хто можа, на журналістаў жаху нагнаў, а цяпер і да нас дабярэцца. Такія справы, Анастасія Іванаўна. Сёння

ён будзе ў нас, ваш зямляк, і толькі вы можаце ўсіх уратаваць, асабліва свайго генія. Таму я да вас і прыйшоў, лічыце, што такое вам ад нас усіх ганаровае даручэнне: трэба, каб вы адцягнулі ягоную ўвагу на сябе, вы мяне разумееце?"

Не, я яго не разумела. Ведала, што Айчанаш тут, у горадзе, і, дапусцім, заявіцца ён да нас, а пры чым тут я? Як гэта — адцягнуць на сябе ягоную ўвагу?..

Аднаго разу тут, у Гомелі, мы ўжо бачыліся з Айчанашам. Захварэла наглядчыца — тая, што сядзіць у зале, яе паклалі ў бальніцу, дык замест яе пасадзілі мяне. Мне гэта вельмі спадабалася, бо хто з мужчын ні зойдзе, крадком пазірае на мяне, і такіх аматараў мастацтва з кожным днём ішло на выстаўку ўсё больш. Жора казаў: народ валам валіць, бо тут самая прыгожая ў горадзе жанчына. А ў той дзень з раніцы прыехала чалавек пяць мастакоў на чале з самым галоўным. Цяпер я ведаю: такая была ў яго пасада — сакратар абласных мастакоў, а тады я называла яго сама сабе — галоўны мастак. Быў ён каржакаваты і падстрыгаўся пад вожыка. Мне ён сказаў, каб нікуды не адлучалася, вось я і сяджу ў сваім мяккім крэсле, а мастакі як не на дыбачках, можа, соты раз падыходзілі то да адной карціны, то да другой, прыглядаюцца, адступаюць назад і доўга глядзяць на карціну зводдаль. Нечым яны былі напалоханыя. І раптам кінуліся некага сустракаць — пад'ехала машына. Ледзь праціснуліся ў дзверы, бо адчынялася адна палавіна, тады той, што бег апошні, скеміў — шчоўкнулі ўверсе і ўнізе зашчапкі, адчынілася і другая створка. Праз шырока расчыненыя дзверы ён і ўвайшоў у залу, хто ж, як не Віталь Фёдаравіч — як быццам той, заліп'янскі, але і зусім іншы.

Спачатку я нават яго не пазнала, нядаўняга бацькавага начальніка. Там, у Заліп'і, быў ён з выгляду зухаваты, трохі нават хуліганісты: кіцель наросхрыст, рукі ў кішэнях — гэта калі стаяў ля канторы, а на матацыкле насіўся — не адна курыца галавой налажыла. А тут ён быў у строгім сінім касцюме, пры гальштуку, і дзіва было б, каб ён засунуў рукі ў кішэні. Не, тут рукі ў яго за спіною, а ступае важна, падбародак выстаўлены ўперад — вось ён ужо спыніўся перад самай большай карцінай, доўга на яе глядзіць, а галоўны мастак напаўголасу, тактоўна нешта яму тлумачыць. Бровы ў Віталя Фёдаравіча ссунутыя, позірк арліны — ён пераводзіць яго на другую карціну, падыходзіць — і зноў тлумачыць галоўны мастак. Яны абышлі ўсю залу, і толькі тады Айчанаш заўважыў мяне. Я ведала, што жанчына не павінна ўставаць перад мужчынам, нават перад начальнікам, сядзела і чакала, што ён скажа, бо я ўжо адчувала на сабе ягоны позірк. Ды ўрэшце і сама падняла на яго вочы. Ён стаяў напроці мяне і загадкава ўсміхаўся. "Вось дзе

ты, піянерка, — сказаў ён нарэшце. — Далучылася да высокага мастацтва. Ну што ж, жадаю поспеху”.

Толькі адна я разумела, чаму ён назваў мяне піянеркай. Калі я вучылася ў чацвёртым класе, да нас у школу прыехала дэлегацыя з Карпат. Тамашнія піянеры знайшлі тое месца, дзе загінула мая цётка Насця, — тая, што сышла ў вайну з Каўпаком. Цяпер там была яе магіла, піянеры даглядалі яе, і вось яны прыехалі ў Грабянцы — у школу, дзе да вайны вучылася адважная партызанка. Вёў рэй на сустрэчы дырэктар школы, а з раёна прыехаў Віталь Фёдаравіч, гэта было яшчэ да таго, як выгналі яго з райкома і прыслалі ў Заліп’е ляснічым. Цяпер я думаю, што якраз Віталь Фёдаравіч і падвучыў дырэктара, каб і я выступіла на сустрэчы з расказам пра сваю цётку-партызанку, а дырэктар ужо навучыў мяне, што я павінна была казаць. І я выступіла. Я расказала: мая цётка Насця жыла на стражы, а яе дзед быў колішні кулак, і калі прыйшлі немцы, ён наняўся да іх у паліцыю, тады цётка неўзлюбіла яго, бо сама яна была камсамолкаю, і пайшла з Каўпаком у Карпаты. А яшчэ дзед схаваў у лесе проса, не хацеў аддаваць яго Каўпаку, а цётка паказала, дзе схованка, і партызаны тое проса забралі. І я ганаруся сваёй цёткай, сказала я пад канец, а дзеда Мікалайку ніхто не любіць, і я яго не люблю таксама... Скончыла і зачырванелася ад гонару, бо я ж бачыла: мацней за ўсіх білі ў ладкі дырэктар і Віталь Фёдаравіч. Дык вось цяпер ён і нагадаў мне тое даўняе — назваў мяне піянеркай. Хаця там, у Заліп’і, калі я падрасла, называў мяне не інакш як прыгажуняю, праўда, пры гэтым нейкая непрыязь чулася ў ягоным голасе, пазней я даведалася — праз бацьку, праз маці. Але тут, у зале, калі я сядзела перад ім у мяккім крэсле, Айчанаш прыгажуняй мяне не назваў і нават не зірнуў на мяне так, як пазіраюць на прыгожых жанчын мужчыны. Таму цяпер я і не разумела Жору: як я магу ўратаваць ад Айчанаша і Моха, і “ўсіх нас”?

...На стале ў мяне грошы — пяць рублёў трыццаць капеек. Іх я адлічыла яшчэ заўчора — на аўтобус дадому. Жора заўважыў грошы: “Што, фінансы пяюць рамансы? Нічога, заўтра атрымаю — за сябе і за вашага генія, падкіну, не ў кутузку ж мне іх яму несці”. Заўтра ён мне “падкіне”, але ж я сёння ўжо сабралася ехаць дадому, вельмі хочацца пабачыць Валіка. Другі дзень у мяне галадоўка, на апошнія капейкі купіла пачак пячэння, ім і жыву, нават чай п’ю без цукру, нічога — зберагу талію. Прасіць грошай у Жоры — язык не павернецца, хутчэй бы ён знік з маіх вачэй, абрыдла бачыць яго і чуць ягонае завыванне, а яшчэ мне час і ў залу, яе трэба адчыняць роўна а дзевятай, а ён і адзін, і другі раз паўтарае адно і тое ж: “Ну дык майце на ўвазе, Анастасія Іванаўна, Айчанаша вы павінны ўзяць на сябе. Маё вам шанаванне”.

Нарэшце ён пакінуў мяне адну. Дзякуй Богу, бо ў мяне ўжо закружылася ў галаве, так хацелася есці — два дні надгаладзь.

Мабыць, вам дзіўна: няўжо ў горадзе, сярод людзей жывучы, не было ў каго пазычыць хоць якую дзесятку? Не ў Жоры, дык у некага іншага. Так, не мела я блізкіх знаёмых, не паспела завесці, хоць ужо неўзабаве год будзе, як я тут, у Гомелі.

Яшчэ як прыехалі мы з Мохам з раёна, было адно застолле. Там збольшага адкрылася мне, якія бываюць мастакі. Гэтыя, за сталом, былі заслужаныя, іх карціны вазілі нават у Маскву, яны былі правільныя мастакі, а тыя, якіх яны згадвалі, з якіх лагодна пасмейваліся, былі няправільныя, іх карціны і ў нашай зале нельга паказваць. У тых, няправільных мастакоў былі розныя прыхамаці: адзін маляваў старызну — дзядоў у лапцях ды баб у андараках, другі — голых русалак, яны плавалі між водарасцяў і збольшага прыкрывалі імі свой сорам, сам мастак казаў, што гэта ў яго такі фальклор, але на самой справе гэта была распуста і непрыстойнасць. Смяяліся і з дзівака, што маляваў толькі зялёнай ды чырвонай фарбамі, гэтыя колеры не змешваюцца, з іх нельга атрымаць трэцяга колеру, дык ён намерыўся давесці, што гэта не так, і ўжо дзесяць год малюе адны памідоры ды балгарскі перац — у тую пару, калі яны спеюць і зялёны колер паступова пераходзіць у чырвоны. Пацяшаліся і яшчэ з аднаго, даўнейшага мастака, у таго козы лёталі над горадам, казалі — яўрэйскія штучкі-дручкі. Яны пацяшаліся, а ім падтакваў і Жора. І толькі Мох, як толькі яны засмяюцца, камянеў побач са мною — я гэта адчувала локцем. Як добра выпілі, дык і зусім сталі пляткарыць пра нешта толькі ім вядомае: хто машыну купіў, хто развёўся, хто зноў сышоўся, а я слухала і, як тая чысценькая белая сурвэтка, убірала ў сябе і тое бруднае, што міжволі чула. Была я тут белай варонаю, як і Мох, жанчыны пазіралі на мяне з раўнівай пагардаю, былі яны старэйшыя за мяне, бо іх правільныя мастакі таксама былі сівыя ці лысыя, на сваіх жонак — нуль увагі, толькі адну мяне і забаўлялі, дык з кім з гэтых жанчын я пасябравала б? Так што не было ў мяне сяброўкі, хоць ужо бадай што год і пражыла я ў Гомелі, і не было мне ў каго пазычыць грошай...

Паспытала дзеўка салодкага гарадскога жыцця, вось як цяпер — другія суткі надгаладзь, але каб сказалі, вяртайся ў Заліп'е — і не падумала б! Не магла ўжо вярнуцца да самой сябе — просценькай заліп'янскай дзеўчынёхі, бо мала-памалу ў сваёй зале я і праўда адчула сябе самай прыгожай у цэлым горадзе жанчынаю: мужчыны не так да карцін дападаюць, як слупянеюць перада мною. А выйду на вуліцу... У вас напісана: калісь мая маці марыла, як пройдзе яна па гарадскім асфальце, як павядзе скоса сваім "месячным" позіркам, — мужчыны падаюць як падкошаныя. Але не пашанца-

вала маці, дык узяла рэванш дачка. Бо іншы раз ідуць двое ці трое, падпітыя, самаўпэўненыя, вось-вось зачэпяць — не рукамі, дык языком, тады я і праўда во так павяду на іх вачамі, куды і падзенецца іх геройства — рахманыя дэбілы!.. Адчула сябе ў сваёй стыхіі, дык ці магла я вярнуцца ўжо ў Заліп'е?..

Мне б толькі модных шмотак, а то ж усё просценькае, дый колькі таго ўсяго! Во гэтая цёмна-сіняя спаднічка з белай кофтаю ды яшчэ два плацці, а што больш маглі мне справіць бацька з маткаю? Добра хоць гэта, а яшчэ і плашч купілі, і асенняе паліто. Такі багаты гардэроб у самай прыгожай жанчыны!.. А на нагах... Сяджу ў зале, чытаю часопіс "Огонёк" — дарэчы, так я пачала пашыраць сваю вясковую эрудыцыю, — чытаю і не магу даць веры: у Сафі Ларэн — трыста пар туфлікаў!.. Падумаеш, сусветная прыгажуня — рот да вушэй, а ногі — як запалкі, але ж якія на тых нагах туфлікі!.. Ах, каб і на мае ножкі ды што-небудзь мадэрновае, італьянскае! А то ж, падумаць толькі, вось яны, тыя самыя гістарычныя лодачкі! Мяне яшчэ на свеце не было, як памерла настаўніца, што падарыла іх маці. Дачакаліся сваёй пары, але якое ж гэта ўсё-такі ўбогае рэтра, як параўнаеш іх з сучаснымі замежнымі туфлікамі! Добра, што хоць мужчыны гэтага не заўважаюць, адны жанчыны, ажно з'едліва ўсміхнецца каторая, маўляў, задаешся сваёй прыгажосцю, а зірні на свае дапатопныя лакіркі!.. Адмыкаю залу, апускаюся ў мяккае крэсла, ногі трохі падціскаю, каб надта не выстаўляць свае лодачкі, затое — адкідваюся плячамі на мяккую спінку, спаднічка і кофтачка на мне ў абцяжку, а што — клёва, як сказала б мая сённяшняя дачка. Неўзабаве я зноў пачую камплімент: "Самая цудоўная карціна ў гэтай зале — вы". Учора так мне сказаў самы заслужаны мастак, Акадэмік — так яго не то жартам, не то ўсур'ёз усе завуць, ён вельмі стары, і ў яго, мабыць, голы чэрап, бо заўсёды ён у сваім трохі ссунутым набок берэце — не знімае яго нават на сходах. Ён схіліў перада мною галаву, а я падняла на яго быццам здзіўленыя вочы — убачыла рэдкія сівыя бровы, жаўтлявы, у дробных маршчынах твар. Ад Акадэміка патыхае ўжо зямелькай, а ён, стары лавелас, яшчэ бач як фліртуе: "Ах, як бы хацеў я вас напісаць, якое хараство, якая раскоша! На жаль, раманс Рошчына з кінафільма "Розны лёс" акурат будзе тут дарэчы: "Нам с тобой встреч не праздновать", і ўсё ж я адважваюся запрасіць вас да сябе ў майстэрню, гэта недалёка, праз адзін квартал, паверце, мне ёсць што вам паказаць, а яшчэ з вышыні свайго ўзросту я хацеў бы вам быць у нечым і карысным".

Так, гэта было ўчора, перад самым абедам. Я зачыніла залу, і ён павёў мяне да сябе ў госці. Калі б запрасіў хто з маладзейшых, я і не падумала б пайсці, а калі з гэткім галантным нямоглым кавалерам — ніхто пра мяне не падумае блага. А чаму я ўсё-такі да яго

пайшла? Мне было сорамна перад самой сабою, але голад не цётка, словам, я падумала, а раптам ён мяне пачастуе чым-небудзь, я ж госця, жанчына. Мне хацелася есці, з учарашняга крошкі ў роце не было, толькі ў абед я збіралася купіць пачак пячэння, раздзяліць яго на чатыры часткі, каб пратрымацца яшчэ два дні, да Заліп'я. А калі б ён мяне пачаставаў, той жа пачак я магла б раздзяліць не на чатыры, а на тры часткі.

Калі б я ведала, на якія іду пакуты! Душна было і на вуліцы, а майстэрня ў старога на пятым паверсе, пад самым дахам, дык у ёй і зусім не было чым дыхнуць. Сам кавалер дыхаў похапкам, а я духату яшчэ, можа, і стрывала б, ды чаго не магла трываць — гэтага невыноснага паху! Ад яго кружылася галава, і нейкі жаночы партрэт на сцяне расплываўся, дваіўся, множыўся... Кажаце, што гэта быў за пах? Там у яго стаяла тумбачка, а на ёй — сподак, а на сподку ад ягонай, можа, учарашняй трапезы засталася скурка ад "маскоўскай" каўбасы, а я ж галодная, дык мяне і павяло, як п'яную, добра, што ён паказаў мне на мяккае, такое, як і ў маёй зале, крэсла — яно мяне і ўратавала. Чула, як праз сон: некалі ён кахаў адну прыгожую жанчыну, а яна яму здрадзіла, але ён не мог яе забыць, дык усё жыццё ён і малюе яе такою, якою помніць, таму да гэтага часу ён і не жанаты. Штосьці з гэтай драмы да мяне дайшло, і, як ні цёмна было ўваччу, прыгледзелася пільней і зразумела, што не дваіўся і не траіўся ў маіх вачах жаночы партрэт, проста ён быў не адзін, было многа партрэтаў адной і той жа жанчыны — то выраз вачэй трохі іншы, то паварот галавы... Але ж гэты пах!.. Ён ужо і праўда невыносны, завошта мне такое пакаранне, пакуль, думаю, не страціла прытомнасці, яшчэ сышла б як-небудзь уніз. Але ён гаворыць і гаворыць — пра тую сваю жанчыну, пра каханне, пра вернасць і здраду. Гэта тое самае, што ён абяцаў мне сказаць? Так, тое самае, але ж годзе, годзе! Хаця — пра што гэта ён, пра каго? Няўжо пра Моха? Так, пра яго: "Ён у вас надзвычай таленавіты мастак, а вы рэдкай прыгажосці жанчына. Але на жаль, на жаль... Прашу вас, не зрабіце неабдуманага кроку, яму неабходныя ваша разуменне і падтрымка..." Не магу больш, не магу!.. "Даруйце, — сказала я, — у вас проста цудоўна, я ўдзячная вам за гасціннасць, але я на рабоце, і мне трэба ісці". Адчула, ён крыху разгубіўся, хоць зусім не ўяўляю, сядзіць ён недзе побач ці, можа, стаіць, перад вачамі туман, толькі чую ягоны голас: "Так, так... Спадзяюся, я не быў з вамі бестактоўны?.. Абяцайце, гэта не апошні ваш да мяне візіт. Дайце мне вашу руку, я памагу вам падняцца".

...Сяджу ў мяккім крэсле і слухаю ўсё тое ж: "Вы самая цудоўная карціна". Мне канечне ж, прыемна, але трохі ўжо і моташна. Збіраюцца мастакі, звычайна яны спрачаюцца, як і што трэба маляваць, іншы раз ледзь не хапаюць адзін аднаго загрудкі, але сён-

ня яны прыціхлыя, як у ваду апушчаныя, дык няўжо і праўда нахопіцца Айчанаш? Казаў Жора, усіх чакае вялікая прачуханка, але... пры чым тут я? Зноў успомніла Жоравы словы: "Калі хто і ўратуе нас ад Айчанаша, дык толькі вы, Анастасія Іванаўна".

Заўсёды мастакі збіраліся ў кабінеце, што побач з залаю, але там цесна, і прымаць сакратара па ідэалогіі яны вырашылі ў самой зале — паставілі ў тры рады крэслы, а для прэзідыума — стол, той самы, на якім звычайна ляжала кніга водгукаў, а ў ёй больш запісаў было не пра карціны, а пра тое, якая я прыгожая. Размаўлялі напаўголасу, а калі Айчанаш пад'ехаў, усе замітусіліся, хто кінуўся сустракаць, хто сеў на крэсла, але як толькі Айчанаш паказаўся ў дзвярах, усе падскочылі як па камандзе. Мне нельга было заставацца ў зале, і я выйшла ў сваю баковачку. Зачыніла дзверы, але з першага разу яны шчытна не прысталі, дык я іх так і пакінула: калі мне давядзецца бараніць іх ад Айчанаша, павінна ж я ведаць, якога ён там на іх нагоніць страху.

Праз шчылінку я ўсё добра чула і бачыла, а найперш Айчанаша, бо ўсе яны сядзелі задам да мяне, а ён, заклаўшы рукі за спіну, снаваў туды-сюды па-за тым сталом, за якім сядзеў прэзідыум. Выступіў адзін мастак, узяў слова другі, за ім трэці. Успомніць дакладна, што яны гаварылі, я цяпер не змагу, але клопат у іх быў адзін: як правільна трэба маляваць савецкага чалавека, як шанаваць гонар мастака, на якога народ ускладае такія вялікія надзеі. Але не ўсе шануюць свой гонар, асабліва маладыя, што прыязджаюць з інстытута, а нядаўняя п'яная выхадка мастака Мохарава — гэта не што іншае, як нахабны выпад супраць савецкай улады.

Айчанаш снаваў за спіною ў прэзідыума, маладжавы, акуратна прычасаны, не тое што ў Заліп'і — вечна валасы ў яго былі раз-бэрсаныя, і, дальбог, цяпер ён мне падабаўся — не як мужчына, хаця — як мужчына таксама, але найперш таму, што якія ні вялікія людзі мастакі, а ён тут галоўны і яго ўсе баяцца. Па ягоным твары відаць было: усё, што гавораць мастакі, яго не задавальняе. А ўва мне гэта было нейкае незнаёмае мне пачуццё: здагадвалася, якія грозныя хмары збіраюцца над Мохавай галавою, яму пагражала нешта страшнае, але хто, як не ён, гнаў мяне ад сябе, таму, напэўна, летась я ўбегла б да іх у залу з крыкам: "Не чапайце Моха, ён лепшы за вас у сто разоў!", а цяпер слухала, як яны ўсяляк бэсцяць яго, і — стаяла за дзвярамі.

Калі скончыў чарговы прамоўца, Айчанаш крута павярнуўся да мастакоў і сказаў сурова: "Досыць! Мне гэта надакучыла. Калі вы думаеце, што сакратару па ідэалогіі можна пудрыць мазгі, дык вы глыбока памыляецеся! Да чаго вы звялі гаворку? Па-вашаму, гэта бяскрыўднае хуліганства, ну так, трошкі антысавецкае. А калі зірнуць у корань? Што такое чэрці ў будзёнаўках? Чаму акурат у

будзёнаўках? Чаму не ў пілотках, не ў шапках-аблавушках? Вы задумваліся над гэтым? Не? Дык чаго тады вартае ўсё гэтае ваша мастацтва? — Айчанаш абвёў грозным позіркам развешаныя па сценах карціны. — Чэрці ў будзёнаўках — гэта адмаўленне нашай рэвалюцыі з самага яе пачатку, бо хто ж не ведае, калі паявілася ў нас будзёнаўка! І вы думаеце, гэтая антысавецкая вылазка выпадковая? Маю гонар быць знаёмым з вашым шаржыстам. Вы, мабыць, чулі, яшчэ нядаўна я працаваў там, у глыбінцы, і я ведаю, з чыіх рук прыняў ён антысавецкую эстафету. Яшчэ мой бацька змагаўся з гэтым кодлам. Быў такі мацёры кулак, здраднік Радзімы, Мікалайка — так яго там звалі, савецкая ўлада была яму бяльмом на воку, дык вось яго зацятая варожасць і перайшла да ягонага зяця, Гаркуша — такое ў яго прозвішча, а гэты сваю прапаганду вёў ціхенька, джаліў, як з-пад калоды: "Усё ідзе на пагібель". Але ціхім ён быў да пары да часу. Вы чулі пра дыверсію на міжнародным нафтаправодзе? Правільна, не чулі, бо дыверсія не адбылася — упільнавалі. А хто дыверсію рыхтаваў? Ён, Гаркуша!.. Прагледзелі б — яшчэ і цяпер вадзіў бы ён за нос немцаў, яшчэ і сёння іх нафтаправод загінаў бы ў дуброве свае калены, якія намаляваў яму на чарцяжы гэты авантурыст і антысаветчык. А цяпер вы спытаеце: а пры чым тут наш... гэты, каторы маляваў чарцей? А пры тым, што цяпер ужо ён зяць дыверсанта Гаркушы, і, такім чынам, гэта звенні аднаго антысавецкага ланцуга: Мікалайка — Гаркуша — ваш пасквілянт".

Заплюшчу вочы, паслухаю, ці не здаецца мне ўсё гэта, а потым зірну зноў у шчылінку — не, усё наяве. Хай бы ён ганіў толькі дзеда. Яго я добра помніла, мне было дванаццаць гадоў, калі ён памёр, не было ў мяне з ім вялікай дружбы, бо ён усё-такі мой прадзед, а не дзед, а пасля, як расказала я на той школьнай сустрэчы — і запісаўся ў паліцыю, і шкадаваў партызанам проса — зусім неўзлюбіла дзеда. Дык і цяпер, калі Айчанаш гаварыў, які ён быў нядобры, я не магла з ім не пагадзіцца, бо нарадзіўся дзед яшчэ да рэвалюцыі, таму і не прымаў усяго савецкага, але, ці гэткімі былі бацька з Мохам?.. Не гэткімі?.. Аднак жа... не хлусіў Айчанаш і пра бацьку, і пра Моха. Бо гэта ж праўда, што бацька часта кажа: "Усё ідзе на пагібель", і праўда, што Мох намаляваў чарцей у будзёнаўках...

Айчанаш то спыняўся — паварочваўся да мастакоў, то зноў, не гледзячы на іх, снаваў упоперак залы — рукі за спіною, падбародак выстаўлены ўперад, і не сказаць, каб гэта мне падабалася, але, дальбог, я была трохі ўжо і заварожаная ягонай гордай паставай і складнай гаворкаю. Мастакі ўважліва слухалі яго, і калі ён сказаў: "...гэта звенні аднаго... ланцуга: Мікалайка — Гаркуша — ваш пасквілянт", адны здзівіліся — павыцягвалі шыі, а другія паўнурвалі

галовы. Айчанаш між тым працягваў: “Так, гэта звенні аднаго ланцуга, бо адкуль бы гэта ўзялося ў вашага антысаветчыка — “чэрці ў будзёнаўках”? Гэтая белагвардзейшчына — ад Мікалайкі, ад Гаркушы. Але я бачу, вам мала белагвардзейшчыны, дык вы і папоўшчыну тут развялі? Вы, можа, не ведаеце, што ён размалёўвае па раёнах цэрквы?” — “Віталь Фёдаравіч, — галоўны мастак прыклаў руку да сэрца, — Віталь Фёдаравіч, слова камуніста — мы пра гэта не ведалі”. — “Тут кругавая парука, — шмат цішэй, быццам толькі самому сабе, сказаў Айчанаш. І — да галоўнага мастака: — Сваё слова пакуль што пакіньце пры сабе, бо яшчэ трэба будзе разабрацца, якія вы тут камуністы”.

Зводдаль бачыла, як набракаў у галоўнага мастака твар, вочы яго зрабіліся няцямнымі, але ягоная Галгофа яшчэ не скончылася, бо Айчанаш не ўсё яшчэ сказаў: “Прашу мяне ўважліва выслухаць. Калі са мною, перад маім прызначэннем сюды, гутарыў Першы сакратар ЦК, ён папярэдзіў: “Другога Быкава ў нашай рэспубліцы не павінна быць”. На гэта я яму адказаў: “Даю вам гарантыю, што ў мяне не толькі Быкавым, а і Карпюком не запахне. Досыць таго, што ў Гродне іх двое”. Вось такая адбылася ў нас размова. А цяпер выходзіць, што запахла, засмярдзела? А тады як, па-вашаму, я павінен рэагаваць на ўсё тое, што ў вас адбываецца? Вы — рассаднік антыкамунізму, тут у вас гадавальнік новых Быкавых — пасквілянтаў, карыкатурыстаў, у якіх толькі адна фарба — дзёгаць! Скажаце, не так? Цяпер я разумею: недарма Быкаў таксама спачатку быў мастаком, скульптарам”.

Не ведаю, шкадавала я Моха ці не. Мабыць, шкадавала, бо мне раптам захацелася, каб за яго нехта заступіўся. Зірнула, а мой учарашні кавалер, стары ў бярэце, прыгнуўся за спінамі маладзейшых, быццам учора і не казаў пра Моха, які ён таленавіты. Але ж калі Мох — як той Быкаў, дык як за яго заступішся? Я добра ведала, што Быкаў здраднік, прадаўся амерыканцам, пра гэта нам у школе дырэктар расказваў, дый чула не раз па радыё, дык хто ж будзе бараніць здрадніка? Які паганы свет, якімі нядобрымі бываюць нават самыя блізкія людзі! Ну навошта яму было маляваць чарцей у будзёнаўках?

Зачыніла шчытней дзверы — мяне ўжо не цікавіла, што будзе там далей. Легла на ложак, заплюшчыла вочы. Колькі я так праляжала, не ведаю, ды раптам здалося — нехта ломіцца ў дзверы. Не, толькі пастукаўся і спрабуе адчыніць. Як жа я не замкнула? Падхапілася, збольшага ўзбіла падушку, папраўіла валасы. Стала спіною да стала — быццам заняла абарону, так я заўсёды сустракала Жору. “Заходзьце”. Так, ён — Айчанаш. Але не адзін, з галоўным мастаком. Спыніліся ў дзвярах, Айчанаш грэбліва акінуў позіркам маё жытло. Падышлі бліжэй, я пазіраю на Айчанаша, як

Ленін на буржуазію, — непрыязна, спадылба, а ён на мяне — паблажліва, з насмешкаю. “Вось так вас і вучыць жыццё, — сказаў Айчанаш, — адну, а цяпер другую. Смалу-жывіцу ў лесе бачыла? Дык вось паўзла-паўзла сімпатычная кузурка — і ўліпла. Што, можа, не праўда?” Праўда, бо гэта ён пра маці і пра мяне. Галоўны мастак робіць выгляд, што таксама разумее, пра што гаворка, ліслівай усмешкай падтаквае Айчанашу. А ён пытае: “Ну, што будзем рабіць з тваім шаржыстам? І што пасля будзеш рабіць ты?” Я заўважыла, як у яго ў вачах прамільгнула тая пажадлівасць, з якою глядзяць на мяне ўсе мужчыны. Захацелася сказаць нешта дзёрзкае, але не паспела — ён згледзеў на стале мае пяць рублёў з капейкамі і здагадаўся — сабралася на аўтобус, бо спытаў: “Дома даўно была?” Я адказала, але не дзёрзка, як збіралася, а прымірэнча: “Даўно. І еду сёння”. — “Сёння? Тады нам па дарозе. Я таксама. — Ён з хвіліну падумаў. — Збірайся, паедзем разам”. — “Мне яшчэ трэба дадзяжурыць, — сказала я. — Тры гадзіны”. — “Нічога, нічога, — схамянуўся галоўны мастак, — гэта мы ўладзім. — І да Айчанаша: — Віталь Фёдаравіч, няма праблем, яна паедзе з вамі”.

Калі вы падумалі пра Айчанаша нешта благое, дык вы памыляецеся. А ў мяне ўжо сілы не было, каб думаць пра нешта. Не, падумала-такі: дадому, хутчэй дадому!.. Выйшлі, я замкнула дзверы. Галоўны мастак правёў нас да машыны. Шафёр дацягнуўся рукою са свайго месца да задніх дзверцаў і штурхнуў іх ад сябе, я адчыніла іх і апынулася на заднім сядзенні. Айчанаш сеў перада мною, побач з шафёрам. І мы паехалі. Але куды? Зусім у другі бок. Ад цэнтральнай плошчы спусціліся да піянерскага сквера, машына спынілася, і Айчанаш сказаў: “Пятровіч, падкінь гэтую прыгажуню да Грабянцоў, яна мая зямлячка. Але ў Заліп’е не заварочвай, толькі да Грабянцоў, па лесе прабяжыць — маладая. Шчаслівай дарогі!” Ён вылез з машыны і моцна ляпнуў дзверцамі. А я выразна пачула: шчаслівай дарогі ён пажадаў найперш мне і ляпнуў сярдзіта дзверцамі таксама праз мяне.

## 10. Гары яно гарам!

Нават цвярозы, Гаркуша ў сваіх заліп’янскіх байках не здаваўся мне вельмі праўдзівым, а за маім гасцінным сталом ён і зусім не выклікаў у мяне даверу: гарэлка развязвае язык, і чалавечая фантазія тады не ведае межаў. І толькі цяпер, калі многае з таго, што пачуў я ад Гаркушы ў першай палове ягонай застольнай “памоўкі”, не адмёў “мой генерал”, а яшчэ і пацвердзіла Гаркушава

дачка-зязюля, я з большым даверам успрымаю і тое неверагоднае, пра што расказаў мой заліп'янскі госць далей, ужо на добрым падпітку.

"...Колькі я сядзеў на той лаўцы, не ведаю, мабыць, гадзіны з дзве. І раптам... Ты не зможаш сабе ўявіць, каго мне ў гэты сквер паслаў Бог, — Лёшку Гамона! Ён і раскатурхаў мяне, а то сядзеў як нежывы, засталося толькі легчы на лаўку і скласці рукі.

Зусім нядаўна падвёў мяне зяць да здагадкі, што яны з Лёшкам у хаўрусе. Лёшка павінен быў прыехаць да мяне па зяцева палатно, ну дык і хай бы тыцнуўся, дома ў мяне яго чакаў добры пачастунак — шрот на рабчыка напалам з буйной соллю. Але ж я ўжо сказаў: цяпер я быў амаль што нежывы, таму не было сілы нават зазлаваць на Лёшку, і я не ўспомніў нават, што збіраўся смальнуць яму той соллю ў мяккае месца. А што было даўней, тое добра помніў: як напалохаў я Лёшку ў ягонай краме і як пасля гэтага мы з ім памірыліся. Сустрэнемся — Лёшка пагыгыкае, я таксама пасмяюся, словам, мір і дружба. Але ж ты не забывай, што было гэта гадоў пятнаццаць таму назад, і даўно Лёшка збег са сваёй крамы: як прыехала першая рэвізія, толькі яго і бачылі! Зноў недзе лётаў ён па белым свеце і, казалі, разы два ці тры пабываў і за кратамі, доўга не бачылі яго ў Грабянцах, і толькі зусім нядаўна стаў наведвацца ён да сястры. Трэба табе ўявіць, які з сябе быў цяпер Лёшка. Не маладзён ужо, бо ён жа амаль што мой равеснік, значыць — пад пяцьдзесят, а ты помніш, я казаў неяк, чуб у Лёшкі стаяў дыбка і быў трохі звернуты набок — як дым над комінам, дык вось цяпер і зусім ужо Лёшкаў чуб быў, як дым, — пасівеў Лёшка Гамон, пасівеў!.. Калі чалавек старэе, бывае, што і маршчын не шмат, але твар як пакамечаны — такі ён быў цяпер у Лёшкі, а ўсміхнецца — пакажа ўстаўлены жалезны зуб. Ну а яшчэ — як Лёшка быў адзеты. Скураная куртка, белая кашуля, вузенькі, як шнурок, гальштук — вялікім інтэлігентам зрабіўся Лёшка, ды яшчэ і з партфелем; але ніхто ў Грабянцах не ведаў, дзе ягоная работа і адкуль ён знянацку час ад часу выскоквае. Ну вось, цяпер, калі я ўсё гэта пра Лёшку табе расказаў, ты можаш сабе ўявіць і тую нашу сустрэчу ў скверы.

Здалося — прывід, адкуль яму тут узяцца, Лёшку Гамону? Але не, жывы Лешка — па плячы ляпнуў, тармосіць: "Гаркуша, ты што тут робіш?" А я: "Ды так, нахадзіўся па горадзе, прысеў адпачыць". А Лёшка: "А чаму такі панылы? Ты ж вунь які арол, а тут... што гэта ў цябе за бітончык? Ух ты, мёдам пахне!.." Так, гэта быў Лёшка, і не хацелася мне пачынаць гаворку, вельмі розныя мы людзі, у яго пра дзяцей галава не баліць, насеяў па свеце, а каб гадаваць ды потым яшчэ і з дарослымі важдацца... Хацеў паслаць яго: "ідзі

сваёй дарогай, Лёшка", але быў ён надта ўніклівы, ён мне спачуваў, таму я толькі махнуў рукою: "А, не кажы. Дачку прыязджаў адведаць. Жыве тут... у катуху. Абяцалі кватэру, ну, зяцю, а значыць, і ёй, але ждалі, ждалі дый жданкі паелі". А Лёшка: "Чакай, хто гэта ён у цябе, твой зяць? Мастак, Шышкін?" — "Чаму Шышкін?" — пытаю. А Лёшка: "Быў такі мастак. Лес маляваў. І мядзведзяў. Сасна завісла, а па ёй яны і лазяць, мядзведзіца з дзецьмі". Я падумаў: быў бы мой зяць, як Шышкін, маляваў бы мядзведзяў, дык і гора не знаў бы, а за ім жывучы — і мая дачка, а то ж малюе крываротага члена — галоўкай малы ўдарыўся. Лёшка між тым усур'ёз зацікавіўся маім зяцем, бо зноў пытае: "Ну і што малюе цяпер твой Шышкін?" Я хацеў ужо сказаць яму — адчапіся, ды не паспеў, бо Лёшка раптам кажа: "Слухай, чаго мы з табою тут сядзім? Столькі гадоў не бачыліся, хадзем да мяне, чарку возьмем, пагамонім, успомнім былое..."

Не хацелася мне ўспамінаць з Лёшкам былое, дый насцярожваў ён мяне: дабра ад такіх, як ён, чакаць не прыходзіцца. Але ж чалавек заве ў госці, і нешта прыязнае чуецца ў ягоным голасе, дык я і пайшоў з Лёшкам, ідзём, а ён мне і тлумачыць: "Разумееш, Гаркуша, з маладосці засталіся тут у мяне такія-сякія знаёмствы, ну як табе сказаць, на любоўнай глебе, дык і выгадаў: прыедзеш у камандзіроўку, не ў адной, дык у другой можна прыгрэцца. Праўда, некаторыя замужам, але ж за кім — не мужыкі, а адно смецце, цыкнеш — толькі яго і бачыў. Словам, праедзем тры прыпынкі, там трохі пройдзем — і мы ў Зіны. Я ўжо ў яе з тыдзень".

Так мы з Лёшкам і апынуліся ў тым раёне, дзе жыла ягоная Зіна. У хрушчоўскім доме. Не помню добра: здаецца, узышлі мы з ім на трэці, а можа, і на чацвёрты паверх, і Лёшка ўпэўнена, як гаспадар, націснуў на кнопку званка. Пачулася, як зазвінела ў пярэдняй, але дзверы не спяшаліся адчыняцца. Цяпер я ведаю: у гарадскіх дзвярах ёсць "вочка", дык, мабыць, нехта з пярэдняй праз тое "вочка" і разглядаў нас з Лёшкам. "Ну давай адчыняй там, не марудзь, — падагнаў нездаволена Лёшка, — гэта я!"

Таго, што адбылося далей, Лёшка не чакаў, а я і пагатоў. Дзверы — насцеж, і нейкі мужчына ў майцы, на галаву ніжэйшы за Лёшку, але ніштаваты ў плячах, з усяго размаху як звездануў пад ніжнюю Лёшкаву сківіцу — калі б не я, загрукацеў бы Лёшка ўніз па каменных сходах і, можа, адкінуў бы капыты, а так ён абрынуўся на мяне ўсім цяжарам, але я толькі саступіў на адну прыступку, на нагах жа ўтрымаўся, а потым і сам Лёшка неяк злаўчыўся ўхапіцца рукою за парэнчу. Напэўна, гэта быў усё-такі не чацвёрты, а трэці паверх, бо надта хутка мы скаціліся ўніз і вылецелі з пад'езда. Спыніліся, Лёшка збольшага абмацаў ніжнюю сківіцу, пахітаў двума пальцамі жалезны зуб, сплюнуў крывёю. Але няўдача не

надта яго засмуціла: правёў тыльным бокам далоні па губах, махнуў рукою, маўляў, дробязь, і мы рушылі, а куды, мабыць, Лёшка добра ведаў, бо крок у яго быў рашучы, упэўнены. Ужо не вуліца, а нейкі хрушчоўскі лабірынт, і, здавалася, Лёшка забыў, на якую непрыемнасць толькі што напароўся, ды не, не забыў, бо раптам не то патлумачыў мне, не то паскардзіўся: "Сволач! Цэлы тыдзень паіў і карміў, ды хоць бы адну жонку, а то ж і дзяцей, а ён мне гэтак аддзячыў!.."

Прайшлі яшчэ трохі, і Лёшка сказаў: "Не хвалюйся, Гаркуша, усё ў нас будзе а'кей. На Зінцы свет клінам не сышоўся, ёсць у мяне яшчэ і Алка". Маё сэрца нядобра ёкнула, і я спытаў: "Ці не тая гэта Алка, пра якую, помніш, ты сказаў, што яна ніколі не будзе замужам? Дык, можа, мы да яе не пойдзем? Яна і так мяне калісь напалохала: хай, кажа, палезе каторы — як дам паміж ног выспятка!" А Лёшка смяецца: "Не бойся, яна ўжо даўно аб'езджаная. Каб сказаць, што замужам, дык не, але ж ты, мабыць, чуў: няма такой крэпасці, якой бы не ўзялі бальшавікі, дык вось уяві сабе, што тваe бальшавікі г...о ў параўнанні з Лёшкам. Здалася на літасць пераможцы; што, яна дурная, каб Лёшку ды між ног выспятка? За тое, што ў Лёшкі між ног, аберуч ухапілася, бо гэта, аказваецца, ёй ого як прыдалося! Не даходзіць? Дык вось я табе патлумачу. Ты помніш, дзе жылі яны з Зінкаю? Так, на кватэры. Пасля Зінка знайшла сабе гэтую... сволач (Лёшка зноў двума пальцамі пахітаў жалезны зуб), а Алка засталася ў дзеўках. Зінцы як сямейнай далі гэтую хрушчоўку, а Алка перайшла ў інтэрнат, з якога яе толькі ўперад нагамі вынеслі б, бо незамужнім, адзінокім кватэр не даюць, гэта жалезна — няма куды ўвапхнуць і сямейных. Іншая справа — маці-адзіночка. Дык вось тут я Алцы акурат і спатрэбіўся. Прыязджаю, а яна ж заўсёды была злая, ну, старыя дзеўкі, ты ведаеш, яны ўсе — як асеннія мухі, злыя, а тут яна са мною як шаўковая, лісліва горнецца, какетнічае, ты можаш сабе ўявіць, непрыступная Алка — какетнічае! Ставіць пляшку, ды не абычаго — армянскага каньяку, ну а закусь, канечне, салодкая, з той яе фабрыкі — шакалад, торцікі. Хочаш ведаць, што адбылося з Алкаю? А тое, што на фабрыцы ёй сказалі: так, ты ўдарніца камуністычнай працы, і калі б у цябе было дзіця, табе першай далі б ад фабрыкі кватэру, а так — закон не дазваляе... Словам, ты разумееш, ёсць у Алкі цяпер і дзіця, і кватэра... Аднапакаёўка, вядома, але во так прыеду — ёсць дзе прыткнуцца. У Зінкі было б лепш, там два пакоі, затое Алка — залатая баба. І дачка, у пятым класе, — выдатніца, зараз сам убачыш".

І зноў мы ўзышлі, мабыць, на трэці паверх, і зноў пазваніў Лёшка, праўда, не так смела, як у Зінкі. Нават адступіў трохі ад дзвярэй, дарма што Алка незамужняя. Але тут ён мог бы не асцерагац-

ца: здалося, Алка даўно стаяла пад дзвярамі і чакала Лёшку. Ух, як нецярпліва яны расчыніліся, яе дзверы! Поўны Алчын твар, некалі, як я помніў, пагардлівы, надзьмуты, цяпер заззяў ясным сонейкам — гэта яна ўбачыла Лёшку; шчаслівы енк вырваўся з яе грудзей, і яна, быццам яшчэ не верачы сваім вачам, спачатку адступіла трохі назад, а потым і кінулася Лёшку на шыю! Лёшка падхапіў яе і ўнёс перад сабою ў пярэднюю. Следам увайшоў і я, але быў тут зусім лішні; Алка цалавала Лёшку, прыпадала галавою да ягоных грудзей і зноў цалавала і прыгаворвала: "Цэлы год, цэлы год... Сораму няма ў цябе... Зірні, як дачка вырасла... — Гукнула ў пакой: — Дачушка, выйдзі глянь, хто прыехаў, бацька твой родны!.. Цэлы год, цэлы год..." — "Ну годзе сырасць разводзіць, — строга сказаў Лёшка, бо яна ўжо і слязу пусціла. — Я не адзін, са мной во гэты чалавек, Гаркуша, помніш, ты яго чаем паіла?" Алка мелькам зірнула на мяне і ніколечкі не пазнала. А з пакоя выйшла дачка, Алчын партрэт, бялявая, пухнатая, прытулілася плячом да вушака і не зусім прыязна пазірала на Лёшку. "Ну, усё, канчай, — ніяк Лёшка не мог адкаснуцца ад Алкі, — канчай, а гэтыя цялячыя пяшчоты пакінь на потым. І гасцінцы пасля. А пакуль сабяры нам чаго-небудзь на кухні, мне трэба з чалавекам пасядзець, самі пабудзьце ў пакоі, а лепей сыдзіце куды-небудзь. У нас важная справа".

Я не разумеў, якая тут у мяне справа, дый наогул пашкадаваў, што звязаўся з Лёшкам. Патаптаўся, сказаў: "Можа, я пайду, тут у вас сваё, сямейнае..." — "Ну, ну, ну! — рашуча запярэчыў Лёшка. — Сямейнае будзе потым, а пакуль давай сюды! За мною!" Алка, дагаджаючы Лёшку, завіхалася на кухні — мігам сабрала, што было пад рукою, на стол — каўбаса, галандскі ці які там яшчэ сыр, яе крадзены шакалад; хуценька выйшла і асцярожна прычыніла за сабою дзверы.

Мы селі за стол, Лёшка паставіў на табурэтку свой пузаты партфель, адчыніў яго, і што я ўбачыў. Нешта з адзення — мабыць, акуратна складзеныя і стойма прыціснутыя адна да адной кашулі, а між імі — старчма ўтопленыя пляшачкі, было іх штук пяць, пляскатыя, і ўсе закручаныя залацістымі каўпачкамі. Адну Лёшка вымае і ставіць на стол. "Віскі, — сказаў Лёшка, — амерыканскае пітво. Пасядзім, пагамонім, сябры ўсё-такі". "Сябры, — падумаў я, — не мець бы такіх ворагаў, як ты мой сябра". А Лёшка павагаў пляшачку на далоні і сказаў: "Боскае пітво. Нашы віны ды каньякі далёка ад яго качаліся. Вытрымка дзесяць гадоў. Зараз пакаштуеш". Раптам Лёшка неяк надта зацікаўлена зірнуў на мяне і спытаў: "Дык кажаш, у зяця з дачкою ні кала ні двара? — Пачакаў, я не адказваю, але яму і так ясна. — Дурны твой зяць. Каб быў разумнейшы, меў бы ўжо дзесяць кватэр". "Чаму яго цікавіць мой зяць? —

падумаў я і спахапіўся: — Дзіва што цікавіць, яны ж даўно знюхаліся". Канечне, гэта была толькі мая здагадка, што яны з зяцем у нейкай шпіёнскай змове, бо нічога пэўнага пра гэта мне мой зяць не сказаў, але зараз я мог падлавіць Лёшку. Дык я і спытаў: "Слухай, Лёшка, адкуль ты ведаеш майго зяця?" А Лёшка здзіўлена талопіць вочы: "А хто табе сказаў, што я яго ведаю? Сто гадоў не ведаў і ведаць не жадаю. Давай, каўтані людскага пітва, досыць нам піць розную атруту".

Чокнуліся, выпілі, Лёшка ўсмешліва пазірае на мяне, чакае, што я скажу. А мне няма чаго казаць, бо гэта ж нейкае пойла, а не пітво, сівухай б'е ў нос і яшчэ нейкай брыдою. "Не рассмакаваў, — кажа Лёшка, — нічога, у нас яшчэ ўсё наперадзе. — І зноў яму рупіць мой зяць. — Дурны ён у цябе і не лечыцца. На ягоным месцы, з яго талентам я меў бы не тое што кватэру, а вілу ў Каліфорніі, ездзіў бы на "мерсэдэсе", а мая жонка ў малацэ купалася б. Ты мне не верыш? Канечне, ты ж думаеш, я той самы Лёшка, на якога так грэбліва вы ўсе пазіралі, маўляў, турма па ім плача. А турма, браце ты мой, у нашай дзяржаве не самае горшае месца... Давай яшчэ па адной".

Выпілі, і віскі мне падалося не такім брыдкім, як першы раз. "Дык вось турма, — сказаў Лёшка. Трохі падумаў і не надта весела паўтарыў: — Турма... — І паціху замармытаў нейкі матыў, мабыць, турэмны, — так, бо я ўжо разбіраю і словы:

Ты зашухерила нашу всю малину —
И теперь за это получай.

Не, не, — схамянуўся Лёшка. — Не тое. Во гэта. Паслухай.

Будь проклята ты, Колыма,
Что названа чудной планетой.
Сойдешь поневоле с ума,
Возврата оттуда уж нету".

Здаецца, я ціха свіснуў: дык вунь дзе ён пабываў — аж на самой Калыме!.. Лёшка ўгадаў мае думкі, згодна кіўнуў галавою: "Так, браце, давялося хапіць ліха. Але, можа, у гэтым і маё шчасце, ты не ўяўляеш сабе, з якімі людзьмі звёў мяне там лёс. Адзін толькі Салжаніцын чаго варты".

Хоць я і двойчы ўзяў ужо ягонага віскі, мяне яно не разабрала, і Лёшку бачыў я навылёт — хлус. Так я яму і сказаў: "Брэшаш ты, Лёшка, думаеш, я не чуў, хто такі Салжаніцын? Вушы ім пратрубілі, Салжаніцын сядзеў за палітыку, а за што і дзе сядзеў ты — не пляці, Лёшка, абы-чаго, я не такі прасцяк, як табе здаецца". А Лёшка ўздыхнуў дый кажа: "Так я і ведаў — не паверыш. Тады глядзі. — Лёшка закасаў рукаў кашулі. — Во гэты нумар бачыш? — Ну так, бачыў я на руцэ ў Лёшкі наколаты нумар, цяпер я яго не помню дый запамінаць не збіраўся, але слухай, што далей кажа Лёшка: — Дык

гэта мой лагерны нумар, а ў Салжаніцына — на адзінку меншы. І спалі мы з Аляксандрам Ісаевічам на адных нарах. А цяпер — за што мяне пасадзілі. За палітыку, Гаркуша, за палітыку. Смешна, канечне, але паслухаў бы ты там, у лагеры, за што людзей саджаюць! Дык вось, хочаш вер, хочаш не, асудзілі мяне за распаўсюджванне чаго б ты думаў — паражэнчых настрояў, ёсць такі артыкул у Крымінальным кодэксе. Ты, можа, помніш, была ў мяне такая прымаўка: жыві, весяліся, бо наляціць які-небудзь Трумэн, скіне атамную цацку — і ўсяму гамон! Хто б мог падумаць, што гэты мой жарт — такая вялікая палітыка! А вось прышылі ж мне яе! Дакладней, прышыла адна прыгожая лярва. Пазнаёміўся з ёю, патроху пад'язджаю да галоўнага, а ёй і хочацца і колецца, ну я і пажартаваў — чаго ты калоцішся над сваёй цнотаю, усё роўна прыляціць Трумэн... ну і гэтак далей. А яна, аказваецца, з органаў!.. Ну, вядома, суд, дзесяць год без права перапіскі — і загрукацеў я на Калыму. А там і сустрэўся з Аляксандрам Ісаевічам. Ды не толькі з ім, бо сабраўся там цвет савецкай інтэлігенцыі".

Я ўжо сказаў: спачатку я не верыў ніводнаму Лёшкаваму слову. І нумару ягонаму не паверыў. Як быццам нельга даведацца, які нумар быў у Салжаніцына, а потым узяць і накалоць сабе на руцэ на адзінку больш. Але ж Лёшкаў расказ быў такі шчыры, што проста хапаў мяне за душу, і я сам не заўважыў, як патроху пачаў верыць Лёшку, з яго вачэй на мяне пазіраў нечалавечы сум і боль, і калі выпілі па трэцяй чарцы, мне ўжо было шкада Лёшку — такія зведаў пакуты! Я верыў яму ўсё больш і больш, і вось я ўжо сам падпёр далоняю шчаку і падпяваю Лёшку:

Я знаю, меня ты не ждешь
И писем моих не читаешь.
Встречать ты меня не придешь,
А если придешь, не узнаешь.

"Дык вось, — працягваў Лёшка, — Аляксандр Ісаевіч вельмі набожны чалавек, праваслаўны хрысціянін. Ад яго я пераняў малітву "Ойча наш", і з гэтага пачалася мая глыбокая вера ў Бога. А яшчэ быў там у нас адзін прафесар, па мастацтву, таксама спаў на нашых нарах, дык ты можаш сабе ўявіць, колькі цікавага ён расказаў, якія статуі і фрэскі дайшлі да нас ад Старажытнай Грэцыі і Старажытнага Рыма, хто такі Рафаэль ці Мікеланджэла, а што найбольш ён ведаў — якія былі даўней у нас іконы, хто іх маляваў, словам, па гэтай часці быў ён вялікі спецыяліст. Дык праз гэтага прафесара я яшчэ больш далучыўся да рэлігіі, і калі нас рэабілітавалі, я паехаў да яго ў Ленінград, каб разам з ім служыць Божай справе, а якой — зараз ты сам зразумееш. Уяві сабе, колькі ў нас старых бабулек і дзядкоў, што вераць у Бога, а моляцца перад іконамі, на якіх ужо не відаць Божага ліку, так даўно іх малявалі. Іко-

на жыве сто, сто пяцьдзесят гадоў, а потым цямнее, і таму вось што мы там, у Ленінградзе, робім. Нашы мастакі малююць новыя іконы, а такія, як я, Божыя служкі развозяць іх па самых далёкіх кутках. Заяўляюся я да стогадовай бабулькі і кажу: вось табе, бабулька, новая іконка, а ты мне аддай сваю даўнюю. Бабулька гатова на цябе, як на Бога, маліцца, а значыць, і табе самому вялікае задавальненне: зрабіў на гэтай зямлі добрую справу. Вось гэтым, Гаркуша, я цяпер і займаюся, і скажу табе, гэта вялікае шчасце — адчуваць, што ты служыш Богу. Аднак справа гэта небяспечная. У нас атэізм, ты чуў: рэлігія — опіум для народа, і, зразумела, калі б мяне злавілі на маім занятку, мяне зноў пагналі б па этапе, але дудкі яны мяне зловяць, хоць і адчуваю — даўно ўжо за мною сочаць.

Не зразумеў я Лёшку. Я зразумеў бы, калі б ён сказаў, што за новыя іконы бабулькі яму даюць нейкія грошы, а калі не, дык з чаго ён жыве, ды яшчэ такім фраерам, з поўным партфелем гэтага віскі? Неблагое пітво — так мне цяпер здавалася".

Гаркуша не разумеў Лёшку, а я пачынаў разумець і Лёшку, і нешта большае. Я ўспомніў, як "мой генерал" гаварыў мне: "Калі вы думаеце, што версія "Гаркуша — Мажэйкава дачка" лопнула, як мыльная бурбалка, дык вы маеце рацыю толькі напалову. Так, транзітам карціны Гаркуша не займаўся, але што датычыць Мажэйкавай дачкі, дык акурат праз яе мы і выйдзем на таго чалавека, што даставіў "Жанчыну з радзімкамі" ў Ленінград. Уявіце сабе, што Мажэйка прывёз сваю дачку ў Заліп'е, і вось яны вяртаюцца назад, выязджаюць на шашу, і тут, ля Грабянцоў, галасуе адзін даўні Мажэйкаў знаёмы. Вам застаецца толькі ўгадаць, хто падсеў да Мажэйкі ў машыну..."

Дык вось хто падсеў да Мажэйкі — Лёшка Гамон! У машыне ён пазнаёміўся з Мажэйкавай дачкой, яна ведала тутэйшае мастацкае асяроддзе, так Лёшка, які да гэтага займаўся "Божай справаю" — гастраляваў у пошуках даўніх ікон, далучыўся і да мастацкага бізнесу. Гэта ўжо ведаў я, але не ведаў яшчэ Гаркуша. Таму ён вельмі здзівіўся, калі з ікон Лёшка зноў перакінуўся на ягонага зяця.

"Не разумеў я Лёшку, не разумеў ягоных ікон і не разумеў, чаму зноў ён у мяне пытае: "Ну дык што ён там у цябе піша, твой зяць, вартае нешта ці так сабе? Хаця — чакай ад яго вартага. Эх, была ў яго раскошная дзяваха, тут, дзе грудзі ды ўнізе так мадэрнова наквэцана, шкада, вылавілі, сволачы, а то я магу ўявіць сабе, які гэта

быў бы фурор!.. А цяпер... Што стала з чалавекам? Убіўся ў нейкія кругі ды эліпсы — і за іх яму дадуць кватэру? Дзівак! А яшчэ, кажуць, нейкія карыкатуры малюе. Але ж гэта бяззубая хохма — д'яблы ў будзёнаўках! Камарыны ўкус. "Не так трэба змагацца з сістэмай", — сказаў бы Аляксандр Ісаевіч".

Прагаварыўся Лёшка! Выпіў і прагаварыўся. Ведаў ён і майго зяця, і ягоную карціну. Адно што ці зусім ягоную? У тым жа і фокус, што нават зяць не ўяўляе сабе, якою стала яго карціна пасля таго,як пахадзіў па ёй мой квач, пра гэта ведаем толькі я ды той маёр, што дапытваў мяне ў каменным будынку. А цяпер, аказваецца, ведае і Лёшка?.. Значыць... Гэта быў ён!.. Падляцела легкавушка, бяжыць мой зяць, а вочы, як у злодзея, дзіва што — ён жа са злодзеем знюхаўся, ды не са злодзеем, а са здраднікам, шпіёнам!.. Ён, Лёшка Гамон, прылятаў па зяцеву карціну, ён і адвёз яе ў Ленінград... Гляджу на Лёшку і думаю: які ж ты гад, пашкадаваў я колісь цябе ў тваёй краме, смальнуў з двух ствалоў угору, а трэба было, каб сам ты сплыў крывёю пад сваім прылаўкам! Колькі я ад цябе паймеў зла, але хай бы толькі я, а то ж цяпер ужо і мой зяць, і мая дачка!..

Але дзіўна: у думках кляну Лёшку, і, здавалася б, усё ўва мне павінна кіпець ад гневу, а яно не кіпіць, бо нейкі Лёшка спагадны да мяне, як быццам сам адчувае перада мною віну і шчыра хоча яе загладзіць, хоча мне зрабіць нешта добрае, бо навошта б ён так настойліва і вёў мяне да сваёй Алкі? І я ўсё больш мякчэю ад Лёшкавай лагоды і шчырасці, ад ягонага віскі, бо і праўда неблагое пітво, словам, сяджу і слухаю. А Лёшка пытае: "Ці чуў ты, Гаркуша, што-небудзь пра "бульдозерную выстаўку"?" Ну, тут, браце, я яго і здзівіў! Мне ж зяць ужо расказваў, што гэта была за выстаўка, дык я і кажу: "Ну а хто пра яе не чуў. Толькі ж ты не думай, што там бульдозеры паказвалі. Карціны! А бульдозерам там усё руйнавалі, аднаму мастаку ледзьве ногі не адрэзала". У Лёшкі вочы на лоб палезлі: "Ого! А ты не такі цёмны, якім прыкідваўся! Ну добра, добра. Калі ты такі разумны, дык як ты мяркуеш, дзе цяпер тыя мастакі, дзе іхнія карціны?.. Правільна, Гаркуша, усе яны цяпер там, на Захадзе, і карціны іхнія там нарасхват, а гэта шалёныя грошы, таму і ў кожнага палац, найноўшы лімузін, пашана, сусветная слава!.. А цяпер, Гаркуша, я хачу ў цябе спытаць: а чым горшы за тых геніяў твой зяць, хіба ён не змог бы намаляваць тое самае? Змог бы, калі б захацеў. Ды ён і маляваў. Але — здрэйфіў. Не мужчына ён у цябе — трус! Знайшоў выйсце — у пляшцы! То хоць нейкія свае арбіты маляваў, а цяпер бамжуе з такімі, як сам, апушчанымі. Гэта за калючым дротам, калі ўжо чалавек ні каліва сябе не паважае, калі ўсе з яго здзекуюцца, ужо і за чалавека не лічаць, такіх называюць апушчанымі, дык гэта і ёсць твой зяць! А прачну-

лася б у ім чалавечая годнасць, ён бы такое намаляваў! Была ж у яго "Жанчына з радзімкамі"! Яшчэ б нешта ў гэтым родзе — і ўсё было б у тваёй дачкі: і кватэра, і машына... Матай на вус, Гаркуша... Слухай, у цябе часам не завалялася што-небудзь з таго ранейшага, што ён маляваў у тваім лесе?.."

Лёшка чакае, што я адкажу, а я нахіліўся над сталом дый сам сабе думаю: "Якая сволач, здраднікаў вярбуе. Гаркуша ў яго набіты дурань, прывёў, каб я другі раз падлажыў зяцю свінню: ён нешта намаляваў, а я, ужо не па сваёй дурасці, а свядома буду распараджацца, яму на згубу, ягоным маляваннем. Не, Лёшка, хоць ты і жулік, а мяне не абдурыш". Раблю выгляд, што не раскусіў ягонага хітрага падыходу, прытварыўся прасцячком дый пытаю: "Кватэры і машыны даюць там, а зяць мой тут. Гэта каб ён туды неяк трапіў, але хто ж яго пусціць". Зірнуў на Лёшку, а ён цяжка ўздыхнуў дый кажа: "Памыліўся я, Гаркуша, усё-ткі цёмны ты чалавек. Ведама, лес. Ну што ж, раскажу табе яшчэ адну гісторыю, і калі зноў да цябе нічога не дойдзе, тады ўжо гэта безнадзейна. "Хто яго туды пусціць!" А хто пускаў тых, каторыя пад бульдозер клаліся? Твая праўда, іх не выпускалі. Іх вымяталі, як непатрэбнае смецце! Так што самому і клапаціцца не трэба, за цябе органы паклапоцяцца: дваццаць чатыры гадзіны на зборы, на самалёт — і праз гадзіну ты ўжо там. І білета не трэба купляць. Але гэта ўвогуле, а вось канкрэтны выпадак. Табе такое прозвішча што-небудзь гаворыць — Шамякін?" А я адказваю: "Дзіва што! Толькі ж гледзячы, пра якога ты Шамякіна. Калі пра Івана, дык гэта галоўны беларускі пісьменнік, а калі пра мастака, дык гэта Мішка Шамякін, а хто ж яшчэ". Цяпер ужо Лёшка талопіць на мяне вочы не так здзіўлена, як, можа, пакрыўджана. Ён жа не ведае, што пра Мішку Шамякіна мне таксама расказаў зяць, і глядзі ты, як ён зараўнаваў: "Мішка Шамякін! Мішка! Як быццам ён табе таварыш ці друг! Ён мой друг — разумееш? Талент, я табе скажу, ад Бога, але і з ім не цырымоніліся, нават на самалёт не саджалі, падвялі да дзяржаўнай мяжы, а ў яго з сабою нічагуткі — ні чамадана, ні торбачкі, аднаго маленькага сабачку во так да грудзей прыціскае, дык людзі з органаў як далі яму выспятка — натрэніраваныя, чэрці, агледзеўся Мішка, а ён ужо на другім баку мяжы — там, на Захадзе. Вось так, Гаркуша, а ты кажаш, хто твайго зяця выпусціць! Абы захацеў. Але паслухай яшчэ пра Шамякіна. Бывала, пазычаў тры рублі на пахмелку, так, у мяне, а жыў у нейкай нары пад Эрмітажам, а цяпер гэта самы вядомы ў свеце мастак, у яго грошай!.. Ты чуў пра такога хулігана: заходзіць ён у тамашні магазін, выбірае гальштук, чапляе на шыю і, быццам так і трэба, кіруе да выхаду. Што тут пачалося: крык, гвалт — злодзей, украў гальштук! А Мішка здзіўлена азірнуўся дый пытае: "Гэта вы пра мяне? Гэта я ў вас нешта ўкраў?"

Дастае з кішэні пачак даляраў ды во так веерам як сыпне іх па ўсім магазіне! Вось вам за ваш гальштук!.. Ну а кватэры ў яго — па ўсім свеце: у Нью-Ёрку, у Лондане, у Парыжы... І ўсё гэта, Гаркуша, мог бы мець твой заяц — каб быў разумнейшы ды смялейшы".

Ну, Лёшка, ты ўсё сказаў? Цяпер мне зразумела, з якой мэтай пачынаў ты сваю доўгую гаворку і да чаго ўрэшце падвёў. Цябе цікавіць, ці не намаляваў заяц яшчэ якую-небудзь жанчыну, каб і яе туды ж — у Ленінград? Хочаш атрымаць недзе вялікія грошы, хочаш быць фраерам і піць гэтае віскі? Заявіўся, а заяц у выцвярэзніку, якая няўдача, але ёсць Гаркуша, дык ты яго спакушаеш? Але чым? Тым, што і майго зайца выметуць, як тых "бульдазерыстаў"? І ён там у кожным горадзе будзе мець кватэру, а значыць, і мая дачка таксама, бо, напэўна ж, выметуць і яе? Не, Лёшка, паслухаў я цябе, і досыць. Не ведаю, хто ты мне цяпер, добры прыяцель ці злы мой дух, але не возьмеш ты мяне голымі рукамі. Вось зараз устану і пайду — бывай, Лёшка, не бачыць табе заецавай карціны як сваіх вушэй.

Хочаш вер, хочаш не, але не ўстаў я і не пайшоў, а чаму — ты, можа, будзеш смяяцца.Чым ён, сволач, мяне ўзяў, чым купіў — тым маленькім сабачкам! Помніш, як Шамякін, ну не гэты, не наш, а той, Мішка, трымаў яго на грудзях, таго сабачку, толькі мордачка з-пад пальто і выглядвала. Што са мною зрабілася, не разумею: нейкая жаласць агарнула мяне, і я ўявіў сябе — ды не, не з сабачкам, бо сабакі ў мяне ніколі не было, а са сваім катком Барсікам, як быццам гэта мне, як таму Шамякіну, зараз дадуць пад зад выспятка, і мы з Барсікам апынемся па другі бок мяжы, за кардонам. Прыціскаю да грудзей Барсіка, і так мне хораша, так мне ўсцешна, што не кінуў я свайго катка ў Заліп'і, бо ў кожнай хаце ёсць свой кот і хто б узяў яшчэ і другога — адзічэў бы мой Барсік!.. Вось такое глупства найшло на мяне, ну, ведама ж, п'яны, дык і расчуліўся, а потым глупства яшчэ большае, бо што я пытаю ў Лёшкі. "Слухай, — кажу, — ну, дапусцім, яго, няважна, каго, выметуць, як ты кажаш, туды, на Захад, і я так зразумеў, што жонку сваю ён можа ўзяць з сабою, але ж у яго, можа, ёсць і старыя бацькі, а ў ягонай жонкі таксама! Як быць з імі?" А Лёшка адказвае: "Абы толькі ён захацеў, можа захапіць з сабою і сваё, і жончына кодла да пятага калена, няма праблем, так што пра гэта не думай".

Угадаў Лёшка, пра што я думаю. І мэты сваёй дамогся. Не адразу, але... Барсік не выходзіў у мяне з галавы, яго трэба было ратаваць, і я сказаў: "Ёсць у яго яшчэ адна карціна. Гады тры ўжо ў спальні пад ложкам качаецца. Ён, мабыць, ужо і забыўся на яе". — "Вось гэта мужчынская размова, — пахваліў Лёшка, — за гэта можна і выпіць. Во так. Малайчына. Ну а цяпер давай прыкінем, дзе нам з

табой сустрэцца, каб я адным вокам на яе зірнуў. У Заліп'і паказвацца я не хацеў бы, а ў тваёй хаце тым больш. Давай знаеш дзе? Каля моста на лузе. Не ля самай шашы, а далей, за вольхамі. На прыродзе — гэта цудоўна. Словам, так: роўна праз тыдзень, гэтак жа ў панядзелак, на лузе, напроці моста. Ты прыносіш што там у яго геніяльнае, але так, каб... Разумееш?.. А то, браце, за мной сочаць, я ж табе казаў, рэлігія — опіум для народа, а ў мяне гэты Божы занятак. Ну, і яшчэ. Пацікаўся там, у Калінаве, на Паўлавым хутары, можа, у каго старая іконка, дык я прыцемкам як-небудзь зазірнуў бы з новаю".

Толькі калі развітаўся з Лёшкам і спусціўся з трэцяга паверха, раптам успомніў: ах, чорт, гэта ж я хацеў спытаць — калі ў яго такі Божы занятак, што сваім бабулькам ён дорыць новыя іконы, дык навошта яму старыя? Хай бы ён пакідаў іх бабулькам...

Ехаў дадому, і, мабыць, людзі ў аўтобусе думалі, што я сплю. А я толькі заплюшчыў вочы, каб адкаснуцца ад усяго, што бачыш і чуеш, — так я хацеў разабрацца, што адбылося са мною ў Лёшкі. Чаму я ўявіў, што прыціскаю да грудзей Барсіка, мнеададуць высыпатка і я пералячу з Барсікам за дзяржаўную мяжу?..

Я ўсё ж расплюшчыў вочы. Збоку, далёка над сінім лесам, плылі белыя, як вата, воблакі, што гэтак плылі і да нас, і пасля нас будуць плысці, — зноў нейкае глупства палезла мне ў галаву. Я падумаў, што ўсюды яны прыблудныя, гэтыя белыя, з яркім цукровым ззяннем па краях, кучавыя воблакі. Гэта толькі так здаецца, што яны твае, родныя, — не, яны прыплылі здалёк: недзе над акіянам ці, можа, над нейкім афрыканскім балотам, што кішыць кракадзіламі ды рознымі бегемотамі, падымалася гарачая пара, збівалася, скучвалася, а вецер пагнаў яе над зямлёю, і вось яны ўжо не то плывуць, не то спыніліся нерухома над тваім лесам, гэтыя пышна ўзбітыя, да рэзі ўваччу ярка-белыя воблакі. А над тваім палескім балотам таксама падымаецца густая, цёплая пара, і вецер пагоніць яе ў нейкі іншы край, і недзе далёка нехта будзе думаць, што гэта яго родныя аблокі. Не, гэта памылка, бо іншы раз нават людзі не застаюцца навек на сваёй зямлі, а воблакі вандруюць па ўсім свеце, бо ўвесь белы свет — іхні, а самі яны нічые — усіхныя.

Во, браце, да чаго я дадумаўся! І ты ж, мабыць, разумееш маю хітрасць? Гэта я здалёку — ажно вунь адкуль, з Афрыкі! — пачынаў падводзіць сябе да той думкі, што і я з катком Барсікам на грудзях мог бы апынуцца бог ведае дзе. Маўляў, воблакі вандруюць па ўсім свеце, а чалавеку з катком нельга?.. Але досыць пра катка... Быў я ўжо зусім цвярозы, таму адразу і запярэчыў сам сабе: Божа мой, якая па́ра, які туман падымецца над нашым балотам? Няма нашага балота, яго даўно асушылі, не тое што вужа, а ўюна не пакінулі на развод, яно сто разоў ужо гарэла і цяпер гарыць

недзе, бо тарфяногa смуроду поўны аўтобус — як быццам і не сухі год, а ўсё роўна... Як некалі мой сусед Дзяніс казаў: "Гарыць зямля і неба!" Вярнуўся з вайны, да выгану яго падкінула нейкая палутарка, а тут мы, падшыванцы, абляпілі дзядзьку, шыбуем сярэдзінай вуліцы, дык нехта з нас і спытаў: "Што, дзядзька горача было на фронце?" А Дзяніс, як шабляю, рукою сякануў ды на ўсю вуліцу як гукне: "Гар-р-р-ыць зямля і неба!". Але ж то была вайна, а цяпер яе няма, страшнай вайны, дык чаму ж і цяпер — гарыць зямля, як быццам мы на ёй самі сабе ворагі?

Няма чым дыхнуць, так наперла ў аўтобус тарфяногa смуроду. І забалела сэрца: зноў недзе даймае жонку яе тарфяное ўдушша. Вось каго трэба найперш ратаваць, а не Барсіка. Даў шчасце жонцы! Дваццаць год ужо, як у зямлі Вера Макараўна, мабыць, і костачкі сатлелі, а едзеш паўз могілкі, хочацца стаць на калені і папрасіць прабачэння: казала — загубіш Зоіна жыццё, і як у ваду глядзела. Але ж калі ўжо не жонцы, дык хоць бы дачцэ паслаў Бог шчасце. Бо яна і ў Гомелі ўжо, і паганае ўдушша, дзякуй Богу, не перадалося ёй ад маці, але ўсё роўна — не ўдушша, дык і там дастаў Айчанаш, яшчэ, можа, горшы за любое ўдушша.

Куды ад іх схавацца, куды ўцячы ад гэтых ліхіх Айчанашаў?

Колькі помню сябе ў Заліп'і, яшчэ той, стары Айчанаш не даваў жыцця. Спачатку Мікалайку, а потым і мне з жонкаю. Ды Мікалайку добра, ён ад Айчанаша ўратаваўся — на тым свеце, памёр у шэсцьдзесят чацвёртым годзе, яшчэ пры Хрушчове. Гады за тры да смерці перабраўся да старэйшай дачкі ў Калінава, бо зблажэў дый не стала ў лесе той свабоды, пра якую казаў: "У лесе можна жыць". Кажуць, Хрушчоў быў дэмакрат, з турмаў людзей павыпускаў, але што яму стукнула ў галаву — кукуруза яму і лес засланіла! Паразганяў запаведнікі, а ляснік на вочы яму не пападайся, аж нагамі затупае — іх яшчэ не звялі дашчэнту? Дык за Хрушчовым і настала ў Грабянцах Айчанашава пара: то леснікам ён толькі гразіўся — пачакайце, савецкая ўлада яшчэ навучыць вас любіць свабоду, а цяпер дзверы ў лясніцтва ён адчыняў нагою. Нарэшце-такі ён падыме калгас — як тую худобу, што кожнае вясны падвешвалі на вяроўках. Падыме, бо лясніцкія сенакосы цяпер ягоныя, давядзе лясніцтву план па сену, а яшчэ леснікі і галінак на корм нарыхтуюць, колькі ён загадае. Да кожнага лапіка ў лесе дапала нарэшце савецкая ўлада — так і не стала ў лесе свабоды старому Мікалайку, бо Айчанаш, як самую ненавісную гніду, найперш прышчаміў яго. Не стала свабоды ў лесе — і не стала ў ім Мікалайкі. І цяпер я ўсё часцей сам сабе думаю: ну што гэта за такая д'ябальская апантанасць была ў таго, старога Айчанаша? Захварэў на нервы — так шчыраваў, небарака, калгас падымаючы. А яшчэ, можа, і сніліся яму тыя няшчасныя ўдовы, якіх адну за адною гнаў у турму — за

ношку саломы, за падабраны каласок. Схуднеў, скура гладка, па адных касцях, абпінала бледны твар — ото як напятая на барабане сабачая скура. Кашчэй Бяссмертны — так пад канец звалі ўсе Айчанаша. Вось я і думаю, калі Айчанаш так люта ненавідзеў Мікалайку, дык ці было ў гэтай ягонай апантанасці хоць каліва нейкай разумнасці, людскасці? Можа, і праўда ён быў шкоднік і вораг, мой цесць Мікалайка?

Канечне, ён быў не анёл, і не за ўсё яго можна пагладзіць па галоўцы. Хоць бы за тое проса, якім засяваў ён ляды. Пасля на тых лядах я пасадзіў лес, а ты ж помніш, у мяне быў верш пра каранёвую губку — яна заводзіцца там, дзе былі раней пасевы, дык і праўда на Мікалайкавых лядах яна дзе-нідзе ў мяне і пракінулася. Але ж не пра лес дбаў стары Айчанаш, калі зжываў са свету Мікалайку, — пра каранёвую губку ён і не чуў нават; Айчанаш выкараняў у Мікалайку ягоную кулацкую прагу *сеяць* — хоць проса, хоць жыта; Мікалайка быў шкоднік таму, што ён нешта сеяў у лесе, *нібыта на сваім* загоне. І вось я разважаю: ну так, лес, таму ён і лес, што гэта не поле, але чаму ж Мікалайка мусіў уцячы з Пясчанай Рудні, каб нешта сеяць у лесе? Далі б яму зямлі ў полі, хай бы ён сеяў на ёй што хацеў, далі б яму той свабоды, якой ён так прагнуў, дык не ж, і ў Пясчанай Рудні мы табе, кулаку, не дадзім разгуляцца, а калі табе і ў лесе зарупіць пасеяць нешта, дык мы цябе і тут прыціснем! Што ж гэта за ўлада такая, ёй трэба, каб чалавеку было не лепш, а горш, а калі ты не хочаш, каб табе было горш, калі ты шукаеш сабе нечага лепшага, таго, да чаго ў цябе душа ляжыць, — тады ты шкоднік, тады ты вораг!..

Так, яны былі ворагі, Айчанаш і Мікалайка, але праўда і тое, што мяне Мікалайка не любіў таксама, гэтак жа, як і ў мяне да яго не было вялікай сімпатыі. На старога я пазіраў звысоку: мяне генерал Корж прыслаў сюды, каб я служыў гэтаму лесу, а хто ён, гэты хцівы, а часам і нахабны дзядок? І толькі цяпер, калі даўно няма на свеце Мікалайкі, я зразумеў, кім быў ён у лесе ці, можа, кім хацеў быць і кім быў і ёсць у лесе я.

Мікалайка хацеў быць гаспадаром — дзеля сябе, дзеля сваіх унучак, хаця яны і не апраўдалі ні ягоных клопатаў, ні надзей. Адна па сваёй камсамольскай шчырасці сышла з Каўпаком, а другую ён сам аддаў замуж за мяне, думаў, што і я перайму ягоную жыццёвую навуку, а я таксама падвёў яго — не стаў такім, як ён, гаспадаром. Помню адзін выпадак. Селі мы на вазок, я з жонкаю і малая дачушка, і паехалі на стражу — да цешчы, да старога. Трэба было памагчы ім канём — прывезці з лесу сена. Дык і перавезлі, і ўскінулі на вышкі, але калі яшчэ ўязджалі ў двор, трохі зачапіліся за хату, і колькі там яго ўскублося, таго сена, невялічкі жмут, але як зіркнуў на нас з Зояй спадылба Мікалайка! Бо гэта ж мы ішлі за

возам і не дагледзелі, а ён падабраў няшчасны жмут і ўпікнуў злас-ліва: "З вамі ніколі не разбагацееш!" Дык вось чаго я не разумеў да апошняга часу: я не быў у лесе гаспадаром, я толькі служыў свайму лесу, і я нават не пра тое, што нічога ў яго не выслужыў, не разбагацеў, я ж разумею, калі я пасадзіў дрэва, дык не для сябе, а для свайго ўнука, — я пра тое, што яшчэ невядома, каму я служыў і служу — свайму лесу ці таму, хто ім і мною распараджаецца. Такая розніца паміж мною і Мікалайкам: ён нікога не прызнаваў над сабою, ён быў сам сабе гаспадар, калі не ў лесе, дык у сваёй душы, а я і ў лесе, і ў душы — служка, вось хто я... Бо калі я пас-прабаваў зрабіць у лесе па-свойму — пусціў трасу па чыстым раз-рыве, якога віску нарабілі — ажно ў Мінску, у самой Маскве та-машнія айчанашы! Як гэта ён асмеліўся, гаспадары Заліп'янскага лесу яны, а ў ім распараджаецца нейкі Гаркуша! Айчанашам я слу-жу, а не лесу, айчанашы гаспадарацъ у ім, як у сваім двары.

Прыгнаў стары Айчанаш у лес школьнікаў — церабіце бярозкі, будзе корм худобе! А якія то былі бярозкі. Хлопцы з навуковага інстытута правяралі на практыцы нейкую тэорыю, дык і пасадзілі мы ім культуры: два рады сасны, адзін — бярозы, ездзяць кожны год, нешта капаюць, глядзяць, як карэньчыкі перапляліся. Дык гэ-тыя бярозкі ён і абцерабіў — начыста! Ну, тэорыя — бог з ёю, гэта ўсё глупства — розныя тэорыі, але што ж ты робіш, гад сельса-вецкі, гэта ж злачынства — вучыць дзяцей, як нішчыць бярозкі! А ён, худы, страшны, ашчэрыўся ды як гыркне: "Лес належыць уся-му народу, а яму сёння трэба вялікае малако, а не твае бярозкі! Не чытаў пастановы? Дык глядзі, а то я табе яшчэ гаршчочкі пры-помню!.."

Пытаеш, што за гаршчочкі? Тады і лясніцтвам, і бальніцам, і ўсім даводзілі план па кукурузе. Прывозілі ў тарфяных гаршчоч-ках на поле, а ты павінен пасадзіць яе ў лункі, а пасля і дагляд-зець-прапалоць там і ўсё іншае. І вось ломіцца Айчанаш у дзверы — гоніць у поле старога і малога. Так ён застаў у хаце і маю Зою — ага, жонка самога ляснічага сабатуе дзяржаўнае за-данне? І ледзь не з мацюкамі — Мікалайкава ўнучка, кулацкае ад-роддзе! Жонка — на калені: "Малое дзіця, няма на каго пакінуць, а яшчэ і ад торфу ў мяне ўдушша, з кок-сагызу пачалося!.." Ах, як жа ён адвёў душу, як ён паздзекаваўся з яе панскай прыхамаці!

А яшчэ пацешыўся перад смерцю Айчанаш, як гарэла Міка-лайкава стража. Пасля Мікалайкі яна яшчэ гадоў колькі нам па-служыла: у склепе зімавалі жалуды, а на печы леснікі сушылі шышкі. А для мяне нават не гэта было галоўнае. А тое, чым яна была ў маёй душы. Бо толькі ўбачыш яе здалёк, з гэтага боку, ад Заліп'я, так і згадаеш, як ехаў некалі да Зоі ў сваты, — шкада мне было і Мікалайкі, і нечага такога, што ніколі ўжо ў гэтую хату і ў

Заліпя'нскі лес не вернецца... А тут гэты пажарны самалёт: гарыць стража! Што рабіць? Пажарная помпа ёсць, ды каб яшчэ машына, бо каня толькі на галавешкі прыгоніш. Званю ў праўленне, а старшыня ў трубку: "А якая розніца, згніе яна там ці згарыць, усё роўна нежылая". Я — ў сельсавет, бо калгас і лясніцтва невялікія родзічы, а сельсавету што поле, што лес — яго зямля, ды Айчанаш пра машыну і слухаць не стаў: "Што? Гарыць Мікалайкава кубло? Туды яму і дарога!"

Але не ўседзеў-такі, прыехаў, калі ўжо стража дагарала. Ну як жа не ўбачыў бы ён на свае вочы, як ад кулацкага котлішча застаўся адзін попел, усё жыццё ён чакаў гэтага моманту — цяпер не страшна і памерці, сваю справу на гэтым свеце ён давёў да канца. Такую нялюдскую радасць бачыў я на Айчанашавым твары — васковым, як у нябожчыка.

Зімою Айчанаш памёр, а неўзабаве ў Заліп'е заявіўся ягоны сын, мой новы ляснічы. Не было ўжо Мікалайкі, дык гэты ўзяўся за мяне — выхоўваць у тым жа духу. Шэсць гадоў выхоўваў, і, здавалася, ну, усё, нарэшце збавіўся ад гэтай Божай кары, бо палезтакі зноў ён угору па сваёй партыйнай лесвіцы, але ж не, калі ўжо ты ў нечым грэшны (а ў чым я грэшны?), дык за твае грахі Бог пакарае тваіх дзяцей і ўнукаў, вось ён і карае: у Заліп'і гэты ваўкадаў ледзьве мне горла не перагрыз, а ў Гомелі накінуўся на іх — на зяця з дачкою.

Вярнуўся я першы раз з Гомеля, ну як адвёз туды свой бітончык, а ўслед і дачка — Валіку шакаладку прывезла. Бачу, нешта яе гняце, дык я спытаў, а яна і абмовілася: Айчанаш там у іх цяпер шышка па ідэалогіі, начальнік над мастакамі, дык наляцеў, як коршак, толькі пер'е з тых мастакоў ляцела. А больш за ўсіх папала яе Моху — за тое, што намаляваў нейкіх чарцей у будзёнаўках. Дурань! Да чаго дамаляваўся. Але ж і праўда: і тут Айчанаш, і там — і нідзе ад іх, як ад чарцей, не ўратуешся!

З такой невясёлаю думкаю пад'язджаў я да Грабянцоў: "Як ад іх збавіцца, ад гэтых Айчанашаў?" Ды ўрэшце сам сабе і адказаў: "А так, як раіць Лёшка Гамон: сабрацца ды ўсім кодлам і рушыць. Можа, толькі без Барсіка. Не, і Барсіка не кіну..."

Ішоў з Грабянцоў у Заліп'е і думаў пра тое ж.

Добра быць яўрэем: куды захацеў, туды і паехаў. Цябе, калі ты нарадзіўся на гэтай зямлі, ніхто нікуды не выпусціць, а яўрэяў пускаюць, таму што ў Ізраілі ў іх другая радзіма ці, можа, першая, едуць, а тады і перацягваюць услед сваіх родзічаў. Быў такі выпадак — у Пясчанай Рудні. Рабіў там адзін прыезджы механікам і раптам ні з таго ні з сяго кажа: а вы ведаеце, што я не беларус, а яўрэй? Ну, усе смяюцца: не падобны на яўрэя дый у пашпарце — беларус. А ён бярэ за свой кошт адпачынак і то ў Гомель, то ў Мінск,

то ў Мінск, то ў Маскву, перавярнуў недзе дагары дзесяць архіваў — і знайшоў! Знайшоў тое, што шукаў. Аказваецца, нейкая яговая прапрабабка і праўда была яўрэйка. Але так пакахала рускага, што перайшла ў праваслаўную веру, інакш рускі не ўзяў бы яе ў жонкі, дык гэты яе нашчадак і знайшоў у архівах запіс, што яна хрысцілася ў праваслаўнай царкве яўрэйкаю. Ну, а далей... Яўрэі шануюць сваю кроў, і як толькі ён давёў ім, што нейкая кропля крыві ў яго яўрэйская, яны і прысылаюць яму выклік з Ізраіля. І вось кажуць, яўрэі хітрыя. Ніякія яны не хітрыя, такія ж дурні, як і мы, беларусы. Бо якая там у яго яўрэйская кроў? Была адна кропля, але ж пайшоў у лес, а там камар яго ўкусіў і тую кроплю выпіў. Можа, яны там, у Ізраілі, спахапіліся, ды позна. Бо нядоўга ён там нібыта сярод сваіх родзічаў і аціраўся. Чуем, а ён ужо тут недзе, за блізкім бугром, ці не ў Аўстрыі. І чаго ён толькі ні напрысылаў і родзічам, і знаёмым, а яны да яго туды поездам, а адтуль пруць на легкавушках — вось што значыць, калі ты не беларус, а яўрэй, нават і ліпавы. Дык я перад самым Заліп'ем і падумаў: быў бы ў маім хоць пятым калене які-небудзь заняпалы яўрэй, толькі б мяне Айчанаш тут і бачыў!..

Во, браце, да чаго давялі мяне Айчанашы. Калі б не яны, якое цудоўнае было б жыццё, якое было б прыволле!

Назаўтра зазірнуў у кантору, а там ніякіх чэпэ, дык я і гуляю далей, бо ў мяне ж адпачынак. Ну не, дома я не гуляю, жонка даўно ўжо гнала мяне касіць сена — закінуў гаспадарку, а, зразумела, маю мужчынскую работу ніхто за мяне не зробіць. Словам, накляпаў я пад вечар касу, а на золку спускаюся з ёю к мосту — там, пад Высокай Грываю, мой надзел.

І вось скажы ты мне, пісацель, што гэта за такая праява: я мог бы, не даходзячы да моста, павярнуць направа і пайсці на свой сенакос лесам, а гэта чысцюткі бор, а яшчэ і густы арляк падступае да самай дарогі, самы любімы мой лес, дык не ж, цягне да моста! Там, на спуску з грэблі і ў канаве, страшэнна ўзялася крапіва — палец не ўсунуць, над ёю распусціў цэлы дэсант сваіх парасончыкаў разгалісты дуднік, а па ім яшчэ і віецца хмель — не знайшоў нічога вышэйшага, каб памкнуцца ўгору, і вось адзін раз у год мне абавязкова трэба ўлезці ў гэтую жудкую гусцеж, трэба апячы крапівою рукі і твар — як быццам нейкі дакор чую ў сабе: кожны лапік лесу табе дораг і люб, а гэтым грэбуеш?.. Спушчуся з грэблі, пратачуся, прашыюся, і тады ў мяне спакайней на душы: усё мне дорага ў маім лесе, і крапіва таксама...

Ну, а далей гэта, вядома ж, вялікая насалода: памахаць на сваім надзеле вострай касою! З аднаго боку надзела — жоўтая пясчаная тэраска паўз бор, з другога — кучаравая лозка паўз ручаёк, дык вось я і кажу — любата, прыволле! Не ў тым сэнсе, што шы-

рыня, прастора, не, проста тут адчуваеш сябе вольным душою: здаецца, толькі раз у год і пачуеш, як светла мармыча ў густой лазе ручаёк, бачыш, як пырхае, выбіраючы, на якую травінку прысесці, жвавы ранні матылёк, як, яшчэ высока над тэраскаю, паярчэла ад першых сонечных промняў мядзяная кара соснаў. А як пахне ля ручайка пары́ла! Скінеш кашулю, у адной майцы мянташыш першы раз касу, а свежы павеў абдае цябе лёгкай прахалодаю — хвалюе, бадзёрыць! Махнеш адзін раз, другі — і павяла цябе каса за сабою, павяла! Падаючы, трава губляе буйную расу, потым раса робіцца бяднейшай, і вось ужо драбнюткія пырскі вясёлкаю ўспыхваюць у сонечных промнях, што слізганулі недзе над Высокай Грываю і танютка дзынкнулі аб тваю касу... Раса далоў, і мы дамоў... Ды не, перш сядзеш на цёплую ўжо тэраску — хоць раз у год натаміўся, як сапраўдны гаспадар; праўда, стомы пакуль што не чуеш, яна толькі заўтра дасць аб сабе знаць ламотаю ва ўсім целе — начальнік, адвык ад мужчынскай работы.

Заўтра яна будзе бадай што жаночая: з жонкаю і ўнукам прыйдзем варочаць пракосы. Ідылія — так гэта называецца. Сонца павярнула з паўдня, ля ручайка прыпарвае, трава падсыхае, лісцікі зверху скручваюцца, і таму пракосы кучаравыя, шараватыя — самы раз варочаць. Жонка займае адзін пракос, я другі, пераверненш граблямі, а спадыспаду трава аж мокрая, чарнавата-зялёная. Яшчэ мацней прыпарыць, і яшчэ мацней запахне парыла. Тут і малому Валіку пацеха: парыла купкамі паўз лазу, дык ён усё роўна як падкрадзецца да такой купкі, палачкай лясь па сцяблe, а сам — назад, бо з пышнага суквецця адскочыць, адляціць жоўта-зялёнае вобладчка — ад гэтага пылку малы і ўцякае... Узыдзем па жоўтым адхончыке на тэраску, сядзем на сухое, цёплае шыгалле. Далей, пад полагам лесу, суцэльны зараснік арляку, а тут, пад крайняй сасною, чысты лапік — на ім, калі прыходзім варочаць ці грэбці сена, заўсёды абедаем. Так і цяпер разаслала Зоя палатняны ручнік, дастала з торбы дзве пляшкі — з малаком, ну, канечне, хлеб, сала, але што мне тут самае прыемнае — бярэш і лупіш вараныя яйкі — унуку, жонцы, сабе. Ідылія!..

Паабедаеш, прыхінешся спіною да сасны, заплюшчыш вочы, а жонка галаву табе на плячо пакладзе — ідылія, большай не бывае. Але каб не гэтая зязюля: кукуе недзе, і я сэрцам чую, пра што, пра каго думае мая жонка — пра нашу гарадскую дачку. Летась пад гэтай сасною жонка сказала: "Бач, як бывае. Калісь Вера Макараўна вешчавала мне: "Кукавала зязюля ў зялёным лесе, гадавала матуля дачушку Алесю", маўляў, Алеся гэта ты, і суджана табе паляцець над роднай старонкаю, як той Алесі ў вершы. Але не я паляцела, а ўжо мая, наша дачка. Паляцела, ды, мабыць, на сваё і на наша гора". Так летась бедавала жонка, дык і цяпер я ўжо зда-

гадваюся, што яе вярэдзіць — тое самае: хай бы дачка вярнулася ў Заліп'е, знайшоўся б ёй і тут добры чалавек, і была б у іх такая ж ідылія, як у нас пад гэтай сасною.

Можа, я і пагадзіўся б з жонкаю, калі б не заўважаў: не тая ўжо наша дачка; і не салодка ёй у Гомелі, а ў Заліп'е яна ўжо не вернецца. Так і будзе гібець са сваім вахлаком у той цёмнай каморцы. Апартаменты яму дасць Айчанаш! За што? За чарцей у будзёнаўках?.. Апартаменты, яны вунь дзе, дык хай бы і яго туды турнулі. Але ж гэта толькі мае трызненне; Лёшка Гамон пад'юджвае, а я, дурань, развесіў вушы.

Не, Лёшка, не баязлівец мой зяць, а, напэўна, такі ж, як я, арляк. Вось ён, цыбаты герой, туліцца да пляча — пачуў роднага. Лісцем, бы крыллем, памахае, ад зямлі ж яму не адарвацца і ў неба не ўзляцець — трымае карэнне. Выбачай, Лёшка, можа, і прыйду я да моста, але толькі таму, што паабяцаў. Можа, нават захаплю зяцева маляванне, валяецца пад ложкам, дык цікава, што ты пра яго скажаш... А што будзе далей з нашай гарадской дачкою, аднаму Богу ведама.

У панядзелак выкаціў я качаргою з-пад ложка зяцева палатно, абмёў венікам, бо яно ўжо абрасло пыльным клоччам, раскруціў — перш чым паказаць яго Лёшку, захацелася палюбавацца самому. Адразу пазнаў, з якога месца зяць "пісаў" — з Высокай Грывы, не раз я бачыў яго там з ягонай трыножкай. І на карціне я ўгадваў свой лес, толькі цікава ён быў намаляваны: нейкія кругі, кругі — напэўна, круглыя купы дрэў, бо калі б асобныя дрэвы, дык іх мала — палічыць можна. А далей бачу Грабянцы, бо вунь старыя ліпы за клубам, толькі самога клуба няма, а на ягоным месцы намаляваная царква з пазалочаным купалам і крыжам. Такая ягоная фантазія. Увесь далягляд захінуты бураватай імглою, а яшчэ цямнейшая, брудна-шэрая палоса прайшла ўпоперак праз усё палатно і акурат па царкве — быццам і яе закрэсліла. Усё я на гэтым зяцевым палатне зразумеў: вецер падхопіць тарфяны пыл, і тады ягоны доўгі шэры язык ад Грабянцоў дацягваецца аж да Сасноўкі.

Жонка з унукам былі на гародзе, але і чужых людзей нельга дражніць, таму я ўвапхнуў зяцева палатно ў мех, а калі я ў адпачынку, дык з мехам я маю права ісці куды захачу — нешта боўтаецца ў ім, а што — гэта мая справа. Так я хуценька і нырнуў у дуброўку, а на выхадзе з яе павярнуў налева і пашыбаваў на Грабянцы, да моста.

Падыходжу, зірнуў на гадзіннік — дванаццаць, а Лёшкі няма. Ды не, гукае з-пад алешыны: "Сюды, Гаркуша! Сядай. За мной, браце, сочаць — бачыў, верталёт праляцеў? — але, здаецца, адарваўся, таму не будзем высоўвацца. З раніцы ў роце крошкі не было, дык спярша давай перакусім. Ну і па кроплі возьмем". Лёшка

дастаў з партфеля такую ж пляскатую, як і мінулы раз, пляшачку — амерыканскае віскі, дзве гранёныя чаркі, каўбасу — завецца "маскоўская", а потым, о, сволач Лёшка, бярэ таксама пляскатую бляшаначку, а пры ёй маленькі ключык, круціць, акуратна адкрывае бляшаначку, а ў ёй залацістыя рыбкі ў алеі, парэзаў хлеб — што праўда, то праўда, няблага вось так пачаставацца на ўлонні прыроды. Лёшка скручвае з пляшкі каўпачок, налівае поўныя чаркі, а гэта грамаў па сто, бо чаркі высокія, а ўверсе дык і досыць шырокія. Чокнуліся, выпілі. Усё-такі пітво неблагое, падумаў я, нашай гарэлцы да яго далёка. Так я і сказаў Лёшку — пахваліў ягонае віскі. Лёшка згодна кіўнуў галавою, наліў другі раз і сказаў: "Твая праўда, Гаркуша, віскі — гэта рэч. Таму што Захад, культура. Пяцьсот гадоў, як вырабляюць віскі, спачатку ў Англіі, а цяпер і за акіянам. А як вырабляюць. Па-першае, з ячменю. Але не ў гэтым галоўны сакрэт. А ў тым, што ячмень сушаць, замочваюць, прарошчваюць, зноў сушаць, але не ў якіх-небудзь, а ў адмысловых печах. Паляць іх торфам, разумееш? Толькі торфам, бо трэба, каб ячмень увабраў у сябе пах тарфянога дыму, насыціўся ім, вось з гэтага ячменю і запарваюць потым брагу. З брагі гоняць спірт, разліваюць у дубовыя бочкі і чакаюць, пакуль ён аслабне да сарака сямі градусаў. Вытрымка восем год. Вось гэта і ёсць віскі. За нашы поспехі, Гаркуша!"

"...Ну, а цяпер давай паглядзім, што ты прынёс", — сказаў Лёшка. Я выняў з меха палатно, Лёшка разгарнуў яго, адвёў ад сябе на даўжыню прамых рук, і я заўважыў, як Лёшкавы бровы папаўзлі ўгору. "Ану патрымай ты", — сказаў Лёшка. Ён адкінуўся тулавам назад, з хвіліну разглядаў зяцева маляванне. "Так, так, — сказаў Лёшка, — дык гэта ж той самы почырк і той прыём: нешта чыстае, праўдзівае крэсліцца брудным, ілжывым. Гаркуша, ты нават не ўяўляеш сабе, што ты прынёс. Лічы, што твой зяць мільянер". — "Брэшаш ты, Лёшка, — не паверыў я, — гэта ў мяне пад ложкам мільён качаўся?" Кажу так, а ў самога дух заняло: а што, думаю, як і праўда мільён? Не проста ж ён языком меле. А Лёшка яшчэ больш распальвае мяне: "Ты на кані, Гаркуша.Цяпер нам толькі правярнуць аперацыю".

Каб не віскі, нізашто я не паддаўся б Лёшку. А то ж закруцілася ў галаве ўсё, што перадумаў апошнім часам. "Божа мой, — думаю, — тут з цябе здзекуецца Айчанаш, тут у твайго зяця ні кала ні двара, а там у яго будзе цэлы мільён! А гэта ж і ў дачкі! Ён-то пацюхця, ні на што не здатны, але які ж я буду цесць, як не паспрыяю не так яму, як роднай дачцэ. Ды я і сам ні дня тут не застануся, гары яно ўсё тут гарам, што, я горшы за яўрэя? Ну так, мяне ніхто не пусціць, але я і пытацца не буду, праўду кажа Лёшка: насаліць ім, насаліць, а тады яны самі, як таго Мішку Шамякіна,

выспяткам падфутболяць. Дык я ж ім насалю! А тады хай падфутбольваюць. Толькі б Лёшка, гад, не ашукаў".

Узяў Лёшку за штрыфель, аж скуранка ягоная затрашчала, дый кажу: "Лёшка, калі ты і праўда ў Бога верыш і Богу служыш, дык перахрысціся, што не хлусіш пра мільён і пра ўсё гэта — пра Мішку Шамякіна, пра ягонага сабачку", — "Вось табе крыж, Гаркуша, — божыцца Лёшка. — Пераправім гэты вялікі твор на той бераг, і скора ты сам пераканаешся, што Лёшка не хлусіць. Скора, Гаркуша, скора..."

Сказаў ён гэтае "скора", а ў мяне даўняя звычка: як пачую — "скора", адразу прыпеўка з языка саскоквае. Дык я і цяпер спачатку ўрасцяжачку так і пачынаю: "Скора, скора..." А Лёшка як быццам гэтага і чакаў — падхапіў, ды не тое, што я пачынаў, тады я змоўк, даў Лёшку скончыць:

Скора к бабам я прыеду,
Палюблю іх ночак пяць.
А яшчэ праз дзевяць месяцаў
Калыскі зарыпяць.

У такт Лёшку я выкручваў нешта мудрае нагамі, усё роўна як прытанцоўваў, седзячы, а потым і зусім падхапіўся ды як замалаціў па злямчанай траве падэшвамі! Лёшка.ты, Лёшка, тваю прыпеўку кожны падшыванец ведае, а вось гэта чуў?

Скора, скора запяе
На бярозе пташка.
Скора з дзевак баб наробім,
Гэта нам няцяжка.

Ох, і заела Лёшку! Падхапіўся і таксама ў скокі. Забыўся нават, што яго высочваюць. Хоць і на траве, але хвацкая чачотка. "Ты малаток, Гаркуша!" — хваліць мяне Лёшка, хаця чаму малаток, незразумела. І зноў яго прыпеўка:

Скора я прыйду к вам, бабы,
Ды не збіце з ног, нахабы!
Станавіцеся ў чаргу,
Бо ўсіх адразу не магу.

Так і скажы, Лёшка, што слабак! Тады будзем ратавацца. Яшчэ мацней затупацеў нагамі ды як урэзаў:

Скора, скора, скора, скора
Мы не будзем ведаць гора.
Праспяваем сто прыпевак,
Як збяжым ад баб і дзевак.

Здаўся Лёшка. Пот з ілба выцер, аддыхацца ж ніяк не можа, а на мяне пазірае, як на героя: "Ну і малайчына ты, Гаркуша, такую страшную кару ім прыдумаў! Збяжым! Ох, і палезуць на сцяну

бабы! Збяжым!" А я дарма што мужчына, а не баба, не ўтрываў — уткнуўся тварам Лёшку ў грудзі: "Збяжым, Лёшка, збяжым!.. А тут... гары яно ўсё гарам!.."

## 11. Кукавала зязюля...

Калі я давёў запіс Гаркушавай "памоўкі" да гэтага лугавога канцэрта, я сказаў сабе: "Стоп, трэба сустрэцца з генералам". Я помніў, як пад час апошняй нашай сустрэчы ён намякаў на нейкае сваё адкрыццё, паводле якога органам належала пільнаваць перш за ўсё Гаркушу, а не ягонага зяця, мастака-дысідэнта, бо для дзяржавы смяротная небяспека тоіцца не ў нейкай там творчай інтэлігенцыі, а ў простым народзе. У гэтай складанай праблеме "дзяржава — народ — інтэлігенцыя" я быў дылетантам, таму мне не лішне было пачуць, можа, нешта глыбейшае аб ёй ад спецыяліста, прафесіянала. Але тэорыя тэорыяй, а на сустрэчу з генералам мяне вёў найперш "практычны" інтарэс: Гаркушаў аповяд насцярожваў мяне сваёй глабальнасцю і патрабаваў, як кажуць у такіх выпадках журналісты, пацвярджэння з незалежных крыніц. А яшчэ ў мяне выклікала падазрэнне тое, што занадта вольна паводзіў сябе як у Гомелі, так і паблізу Заліп'я мацёры жулік Лёшка Гамон, а разам з ім і Гаркуша: такое ўражанне, што органы зусім выпусцілі іх з-пад увагі.

І я сустрэўся з генералам. На той жа самай лаўцы ля Камсамолькага возера. Апускаю дэталі — як павіталіся, як завязалася гаворка, адразу пра тое, якія вычарпальныя адказы атрымаў я ад яго на свае пытанні.

"Безумоўна, — сказаў генерал, — ролю інтэлігенцыі ў дзяржаве нельга адмаўляць, бо гэта той пускавы рухавік, які прыводзіць у рух народныя масы. Масы — чуеце? Значыць, у канчатковым выніку ўсё залежыць ад гэтых мас, інакш кажучы ад простага народа. Гэта бясспрэчная ісціна. Таму маё адкрыццё не ў тым, што я паўтараю даўно вядомую аксіёму, не, я іду далей, я пераканаўча паказваю, якая гэта складаная з'ява — просты народ, я выяўляю як бы дзве іпастасі аднаго і таго ж народа: першая — гэта п р о с т ы  н а р о д,  я к і  г а в о р ы ц ь, і другая — т о й  ж а  с а м ы  н а р о д,  я к і  м а ў ч ы ц ь. Для таго, каб умела такім народам кіраваць, не даць нікому, той жа інтэлігенцыі або якой-небудзь радыёстанцыі "Свабода", збіць яго з панталыку, трэба перш за ўсё ведаць не тое, што гэты народ гаворыць, а тое, пра што ён маўчыць. Вось гэта і ёсць асноўнае ў маім вучэнні.

Калі палітыкі будуць ведаць, *пра што маўчыць народ*, яны заўсёды змогуць засцерагчы яго ад непажаданага шкоднага ўплыву, бо ўвесь час будуць яго апярэджваць: ваша інтэлігенцыя яшчэ не паспела падняць лямант — табе, народ, кепска, а вы ўжо яму паабяцалі, што заўтра будзе лепш. І народ гарою ўстане за вас! Вось гэтага не разумела наша былое партыйнае і ўсякае іншае кіраўніцтва. Яму ў Палацах спорту сагнаныя з заводаў тысячы скандзіравалі "ўра!" і "няхай жыве!", а яна, тая бяздарная наша эліта, ззяла ад задавальнення, думала, што гэта і ёсць сапраўдны народ у ягоным поўным выяўленні. А калі б яны прыслухаліся да маіх парад — так, так, да маіх парад, пра гэта я вам яшчэ раскажу, бо са сваёй тэорыяй я дапаў да самога Першага сакратара ЦК, — дык вось, калі б яны, нашы былыя правадыры, пачулі тое, аб чым маўчыць гэты ж народ, і хоць трохі ўгадалі, што народу трэба, ды паабяцалі б яму не далёкі недасягальны камунізм, ад якога народу было ўжо моташна, і не харчовую праграму, якую немагчыма было выканаць, а нешта не такое ілюзорнае, магу вам гарантаваць, што жылі б мы і сёння ў сваёй вялікай краіне — СССР і кіравала б намі ленінская партыя — КПСС. На жаль, адказныя таварышы мяне не зразумелі, хоць некаторыя былі на паўдарозе да такога ж адкрыцця, але таму яно і адкрыццё, што не ўсім даецца.

Вы ведаеце Віталя Фёдаравіча Айчанаша? Ведаеце — па Заліп'і. За сем месяцаў ён зрабіў галавакружную кар'еру, у яго была магутная пратэкцыя, словам, ён ужо не хто-небудзь, а сакратар па ідэалогіі, дык, натуральна, і я не мог яго не ведаць — ён быў, можна сказаць, маім начальнікам. Як вядома, пасля Берыі органы строга падпарадкоўваліся партыі, таму са сваімі праблемамі я ішоў да Айчанаша, бо таксама займаўся ідэалогіяй — мастацтвам, культурай. Словам, супрацоўнічалі. Дык вось, скажу я вам, нават такі тэарэтычна падкаваны баец партыі, як Айчанаш, не дайшоў да канца ў сваёй здагадцы. А здагадка ў яго была. Памятаеце, у Заліп'і ён вам сказаў пра Гаркушу: "Пасядзіць раніцай на нарадзе і едзе ў лес, а пра што ён там думае, аднаму Богу ведама". Вось бачыце, што цікавіла Айчанаша — пра што думае ў лесе Гаркуша, інакш кажучы, пра што ён маўчыць. А тут я прыйшоў да свайго партыйнага шэфа, а ён кулаком па стале: "Хто табе даў права выпускаць з дурдома гэтага дзёгцямаза Мохарава — каб ён маляваў чарцей у будзёнаўках?" Дзёгцямаз — гэта значыць, ён ачарняе нашу рэчаіснасць. Правільна. Але я яму кажу: "Віталь Фёдаравіч, не надавайце такога вялікага значэння розным мастакам ды паэтам. Вядома, яны могуць пасеяць шкоднае семя, але галоўнае — на якую глебу яно ўпадзе, таму трэба, каб яго не прыняла глеба, а глеба — гэта просты народ, і пільнаваць трэба не Мохарава, а ягонага цесця, добра вядомага вам Гаркушу". Ну, тут я яму тлумачу: палітыкі

могуць і празяваць свой народ, але органы не маюць права прапусціць той момант, калі маўчанне народа пачне выліваца ў шкодныя, антыдзяржаўныя праявы, калі народ з а в а р у ш ы ц ц а . А як гэта можа быць, паказваю Айчанашу на прыкладзе Гаркушы. Ад пратэсту маўклівага ён усё больш пераходзіць да актыўных дзеянняў — мала таго, што ледзьве не ўчыніў дыверсію на трасе міжнароднага нафтаправода, дык цяпер ён нахабна шкодзіць і ў ідэалагічнай сферы. Вось вам, кажу, яркі прыклад, хто больш небяспечны — Мохараў ці Гаркуша: першы ўсяго толькі намаляваў свой шэдэўр — груба кажучы, голую бабу, ну так, парнаграфія, але савецкая ўлада ад гэтага не загіне, а сам ён урэшце спіўся і апусціўся на дно; затое другі так падмаляваў зяцеву карціну, што яна адразу набыла выбуховы антысавецкі сэнс, а галоўнае — гэты не сап'еццa, наадварот, ён толькі ўбіраецца ў самую сілу! Вось з каго нельга зводзіць вачэй — з Гаркушы! Ну, і далей ужо як бы дакладваю Айчанашу: апошнім часам паводзіны Гаркушы сведчаць аб тым, што ён канчаткова стаў на шлях антыдзяржаўнай дзейнасці — звязаўся з адпетым рэцыдывістам, і нам застаецца толькі правесці аперацыю, каб захапіць абодвух з неабвержнымі доказамі іх злачынства.

Так я сказаў Айчанашу, але вы разумееце, што гэта адказ і на ваша пытанне: а ці не выпусцілі мы з-пад увагі Гаркушу? Не выпусцілі, органы не спяць у шапку. А каб яшчэ больш пераканаць вас у гэтым, скажу, што рэцыдывіст, да якога далучыўся Гаркуша, выступаў у нас пад клічкай Святы, таму што спецыялізаваўся на пошуку і падманным набыцці старажытных ікон. І цяпер самы час згадаць каго, спадар пісьменнік? Так, вядомую ўжо вам Мажэйкаву дачку, акурат яна, студэнтка факультэта мастацтвазнаўства ў Ленінградзе, і была ў злачынным хаўрусе са Святым. Праз яе Святы пашырыў сваю кваліфікацыю — пачаў скупляць на перыферыі карціны з антысавецкім душком, а яна збывала здабычу так званым замежным турыстам, бо ўсе яны, канечне ж, былі шпіёны... Да гонару нашых мастакоў, абсалютная большасць з іх не падпала пад уплыў гнілога заходняга мадэрнізму, таму Святы не надта ў нас і пажывіўся. Праўда, як сказаць — не надта. "Жанчына з радзімкамі" па сваім шкодным ідэалагічным рэйтынгу была пастаўлена ў адзін шэраг з "Архіпелагам ГУЛАГам" Салжаніцына, але, па-першае, наша шчасце ў тым, што яе аўтара "знайшлі" недзе ў Бурацiі, па-другое, як я ўжо сказаў, нічога іншага, такога ж ідэйна шкоднага, Святы ў нас болей не змог вынюхаць. І толькі цяпер, калі ён зноў гастраляваў у вобласці, па яго падазроных кантактах з Гаркушам можна было меркаваць, што наспявае іхняя новая афера, і, мабыць, з карцінаю Гаркушавага зяця. Таму, можаце быць упэўненыя, нашы людзі сачылі за кожным іх крокам.

Мне застаецца сказаць вам яшчэ вось што. Калі я далажыў Айчанашу пра ўсё, што вы цяпер пачулі, мяне вельмі здзівіла, як сустрэў ён маё паведамленне. Нешта яго насцярожыла, устрывожыла. Мне здавалася, што я разумею Айчанаша: нядаўна ён быў у Заліп'і Гаркушавым ляснічым, і калі яго былы падначалены будзе злоўлены на ідэалагічнай дыверсіі, гэта скампраметуе і яго, Айчанаша. Бо нехта спытае: калі ты не змог выхаваць у савецкім духу аднаго, як ты можаш цяпер выхоўваць многіх?.. Айчанаш доўга маўчаў, барабаніў па стале пальцамі, і было відаць, што на душу яму легла нешта прыкрае. І нейкі ён быў мінорны, сентыментальны — такога Айчанаша я яшчэ не ведаў. Так, не ведаў, бо і ў ягоным голасе я пачуў нейкія зусім не партыйныя ноткі. Апошняе, што ён сказаў, мяне азадачыла: "Аперацыю правесці філігранна, а галоўнае — лакальна, у межах аднаго раёна. Каб ніякага шуму — разумееце? Ніякай агалоскі і — ніякіх рэпрэсій у адносінах да гэтага заліп'янскага ідыёта. Толькі самае строгае ўнушэнне!" Зноў я падумаў: "Баіцца, каб непажаданы Гаркушаў цень не ўпаў і на яго". Але ж, спадар пісьменнік, на тое і быў я чэкістам, што адразу новая версія нарадзілася ўва мне, і яна здалася мне больш верагоднай: Айчанашава боязь не толькі, калі можна так сказаць, службовая; сакратару па ідэалогіі і проста ў асабістым жыцці магла б пашкодзіць новая Гаркушава афера. Што я хачу сказаць? Пакуль толькі адно: мне не здалося выпадковым, што Айчанаш пасадзіў Гаркушаву дачку ў сваю службовую "Волгу" і загадаў шафёру, каб ён адвёз яе ў Заліп'е. Шаршэ ля фам, спадар пісьменнік!"

Чытач бачыць, што да "майго генерала" я звяртаюся ў тых выпадках, калі патрабуецца ягонае тлумачэнне асобных загадкавых момантаў у Гаркушавай "памоўцы". Але апошнія генералавы словы не столькі тлумачаць, колькі інтрыгуюць: хочацца хутчэй даведацца, а што ж там адбылося далей з Гаркушавай дачкою? Адвёз Айчанашаў шафёр у Заліп'е? Ну і што тут такога? Хаця ўсё можа быць. У нашых органаў вока пільнае, а іхняе чуццё іх не падманвае — у гэтым мы самі ўжо маглі пераканацца... Але ж чытач не забыў: перада мною, па другі бок стала, сядзіць мая цудоўная лэдзі, дык і паслухаем, што яна сама пра сябе далей раскажа.

"Усё бацька ды бацька: ён і ў горад мяне вязе, а там і кватэру мы з ім шукаем, а цяпер, дома пабыўшы, ад'язджаю, дык бацька — сумку на мапед і вядзе мяне на аўтобус. А гэты раз бацькі не было дома: узяў адпачынак, ды хай бы хоць трохі дух перавёў, а то ж падхопіцца і некуды едзе — баюся, кажа маці, каб усім нам бяды

недзе не выездзіў, бо ўсхадзіўся, як ніколі. Няма бацькі, і на аўтобус мяне праводзяць маці з Валікам. Маці трымціць, каб не спазніцца, дык і выйшлі мы зарана. Скончыўся лес, перад намі, памятаеце, той шырокі жоўты пясок, за ім шаша і аўтобусны прыпынак, тут маці і кажа: "Давай пасядзім, доню, пад гэтай крайняй хвойкаю, аўтобус, мабыць, яшчэ не скора, бо няма людзей на прыпынку". Селі мы ў цянёк, нам люба, а Валіку яшчэ большая ўцеха: столькі жоўценькага пяску! Зверху сыпкі, але далонькамі малы дакапаўся і да сырога — лепіць свае буданкі ды хаткі. А маці мая і пачынае гаворку.

"Паедзеш, доню, а каб ты ведала, як мы тут з бацькам па табе ўбіваемся — што ўдзень, што ўночы. Але ж бацька адно, а я другое. Бацька ў галаву ўзяў: жонка ў яго — гарбатая баба на гадавальніку, дык няўжо ён гэтак Богам пракляты, што і ягонай дачцэ хоць назад, у гэтае Заліп'е, вяртайся? Бо няма ёй у Гомелі ні кутка людскага, ні чалавека, які б яе глядзеў так, як яна таго вартая. А я яму на гэта кажу: "Такой бяды, што я ў цябе гарбатая баба. А ў горадзе — не гарбатыя? Вунь Любка, мая аднакласніца, з'ехала некалі ў Гомель, дык, ты думаеш, надта яна фарсіць там? Швейкай на фабрыцы дваццаць гадоў спіну гне над машынкаю ды яшчэ і вочы слепіць. У лесе хоць, як нідзе нічога не гарыць ды бура тарфяная не ўсхопіцца, паветра во якое чыстае, а там хоць гарыць, хоць не гарыць, усё роўна ад машын дым іхні ды смурод. Гэта я, доню, бацьку твайму кажу. А ў цябе даўно хацела спытаць, ды ніяк не асмельвалася: можа ж, аціх у табе твой неразумны шал, можа ж, зведала ты ўжо і салодкага, і горкага, дык сказала б ты, мая доню, ну ці такі ўжо ён і любы табе, твой чалавек? Хоць ён і вучоны, і карціны малюе, але ж нейкі ён сурочаны. Мая ты дачушка, сказала б, ці чуеш ты ў сабе, што ён тваё наканаванне? Бо калі не чуеш, дык і ніякі не грэх, калі б ты і кінула яго. Вярнулася б дамоў, да Валіка, бо ты ж зірні, ён ад цябе адвык, яму баба за цябе раднейшая".

Угадала маці, як прыкра было ў мяне на душы: еду, а куды і да каго, хто мяне там, у Гомелі, чакае? Але я ўжо і блізка не падпускала думкі, каб вярнуцца ў Заліп'е. Глядзела на маці — яна яшчэ прыгожая і маладая, але сядзіць на зямлі, як вясковая баба, — выпраставўшы перад сабою ногі. Нават не верыцца, што калісьці яна некуды ці да нечага імкнулася, ехала паступаць у інстытут, марыла пра гарадское жыццё... Не суджана яно ёй было. Тут, у Заліп'і, яе шчасце. Сама змірылася і хацела б, каб яно і ў мяне было такое ж...

Але што гэта? Адступае маці ад свайго намеру вярнуць аблудную дачку — стамілася ўгаворваць. "Глядзі сама, доча, калі ты ўжо сэрцам да яго прыкіпела, дык, можа, ён яшчэ і стане чалавекам.

Ты ж помніш, было так у Грабянцах: настаўніца, маладзенькая, выскачыла за шохвера, а ён, як напіўся на вяселлі, так і поўзаў гадоў пяць на карачках. Нагаравалася, бедная, а не кінула, дык і выгадала — прасвяцілі яго ў больніцы, а ў яго язва, з таго часу не п'е і жонку ледзь не на руках носіць. Дык, можа, і твая такая планіда — пап'е, пап'е, а потым і ў рот не возьме. Калі ўжо не паслухалася ты мяне, дык пацярпі яшчэ трохі, тая маладзічка пяць гадоў цярпела. Не, я не ўгаворваю, каб ты жыла з ім, кінула б — я локцем перахрысцілася б, але ж калі не кідаецца ды яшчэ і жыць няма дзе, дык што я табе, доню, параю. Ты ведаеш, бацька твой у Гомель ды ў Гомель, але, каб хто свой распараджаўся там кватэрамі. Адзін Мажэйка там наш, і начальнік, ды такі, што толькі лесу на хату ў яго сіле выпісаць. А тады хто ж нам паможа? Бацьку я гэтага не скажу, а ты паслухай — хто: Віталь Фёдаравіч, Айчанаш. Чаму не скажу бацьку, ты ведаеш: варагавалі яны. Бо вельмі твой бацька разумны: ляснічы скажа адно, а ён яму насуперак. Але ж ты не толькі бацькава дачка, а і мая таксама, а я з ляснічым не сварылася. Дый цябе ж ён, помніш, падвозіў са школы на матацыкле? Вось я табе і раю: схадзіла б ты, доню, да Віталя Фёдаравіча, ён жа там не абы-які начальнік, а партыйны, а ў такіх усё ў руках, дык і кватэры. Чуе маё сэрца — ён паможа, толькі не прагаварыся бацьку, хай ён не ведае, што я табе параіла... Аўтобус... Хапай Валіка, а я сумку..."

Шчамлюся ў аўтобус, а ў вушах матчыны словы: "Падвозіў цябе на матацыкле". Гэта яшчэ не ўсё, мамачка, ён і на сваёй чорнай "Волзе" падвёз мяне ад самага Гомеля да Грабянцоў. Але каб ведала ты, як выслужыўся перад Айчанашам твой зяць — і крываротым членам палітбюро, і дружбаю з папом, і чарцямі ў будзёнаўках! Заяўлюся, а ён не стане са мною размаўляць, бо не толькі за сябе я буду прасіць, а і за твайго сурочанага зяця. Разумею, чаму нічога я не павінна казаць бацьку, ведаю тваю патаемную надзею, чаму Айчанаш мне паможа, я ж чула вашу размову каля хаткі — твой ён быў калісь хлопец, твой, сама ты яму пра гэта сказала, але ж у дадатак да таго, што ён твой, я павінна яшчэ і ў ногі яму пакланіцца?.. Казаў Акадэмік, які таленавіты Мох, Айчанаш падноска ягонага не варты, а мы будзем прасіць у яго міласціны?.. Не пайду я да Айчанаша, ён твой, мамачка, а не мой...

Дык куды я еду, да каго — да Моха? У Гомель — так, а да яго... Чакаць, калі ён стане чалавекам? Няўжо зноў панясу перадачу? Але ж сорамна. Першы раз забралі — насіла. Сказаў Лепень: "Твой геній там, ля сквера". Прыйшла, а іх там чалавек пяць, з лапатамі. Самазвал ссыпле ім чорнага асфальту, яны кідаюць яго ў ямкі, а каток уціскае. Прынесла каўбасы, хлеба, мінералкі. Падышла скверам, убачыў за агароджаю, брыдзе з лапатаю. Агароджа па грудзі,

дык ён глядзіць мне ў вочы, а сам кажа: "Ехала б ты, старушка, у Заліп'е. Ты маладая і прыгожая, і ў цябе ўсё яшчэ наперадзе".

Сорамна, брыдка. Не пайду і не панясу. Яшчэ каб сам прывалокся ў каморку, накарміла б, бо ёсць чым — цешча перадала. А то ж, можа, і выпусцілі ўжо, а не забрыдзе, бо апошнім часам і начаваць застаецца ў Жоравай майстэрні, нап'ецца і спіць. А п'яны ўжо невыносны — нервова тузаецца, без дай прычыны лаецца, абражае. Божа, няўжо ж такое маё "наканаванне"? Настаўніца чакала пяць гадоў? Не буду я і пяці дзён ужо чакаць, брыдкі ўжо ён, дый праўду кажа Лепень: не ўмее маляваць, як іншыя, таму і злуе на ўвесь белы свет, таму і спіўся... Схаджу, пабачуся апошні раз і скажу яму ўсё, што пра яго думаю. З мяне досыць!..

Прыехала — так, ён недзе ў Лепеня ў майстэрні. І я паехала. Заракалася не ехаць, а ўсё роўна паехала. Угадала: ён быў п'яны, толькі не спаў, а сядзеў — адкінуў галаву на спінку канапы, утупіў нерухомыя вочы ў столь. Увайшла — ён нават не зварухнуўся, і спачатку мне здалося, што ён мёртвы. Спалохалася, а потым стала яго шкада, падышла, абняла яго за галаву, нахіліла да сябе і тварам уткнулася яму ў валасы. "Мох ты мой любы, — сказала, ледзь не плачучы, — галава твая парасяткам пахне, цябе там не мылі..." Адводжу далонямі твар, хачу пацалаваць, але што гэта з ім? Усё ягонае цела раптам прутчэе, ён груба адштурхоўвае мяне ад канапы, і я не пазнаю ягонага твару, бо ніколі не бачыла такім перакошаным, звераватым. "Прэч! — выдыхнуў ён злосна. — Кладзіся пад іх, катайся на іхніх "Волгах"!.."

Лепей бы ён плюнуў мне ў твар! Я ўся, як рысь перад скачком, напружынілася, растапырыла пальцы, гатовая ўчапіцца ў горла і душыць! Але на каго я хацела кінуцца, каго душыць? Хто быў тут яшчэ, апрача Моха? Яго я адно шкадавала, даўно здагадвалася, што ён хворы... "Катайся на іхніх "Волгах"!.." Айчанаш!.. Маці, а цяпер і Мох падштурхоўвалі мяне да яго, і гэта яму я павінна была ўчапіцца ў горла!.. Ляпнула з усіх сіл дзвярамі — збягаю, скочваюся ўніз па сходах!..

Супакоіцца! Прыйсці дадому, як след супакоіцца, а потым... Ух, што будзе потым!..

Гэта ў мяне ад бацькі: імгненна ў галаве нараджаецца смелы, фантастычны план. Цяпер я разумею: то была страшэнна наіўная авантура, а тады... я прыняла цвёрдае рашэнне і ўсю ноч праспала моцным і спакойным сном. А раніцай надзела белую кофтачку, сінюю спадніцу, абула свае легендарныя лодачкі і паехала... да Айчанаша.

Вы памятаеце Светку, маю непрыгожую сяброўку? Страшненькая, а такога пагляднага боўдзілу адхапіла, а яшчэ і рахманага — прыедуць у Заліп'е, дык яны з маткаю ледзьве ў плуг не запрагуць

яго на гародзе. А то выпала мне ехаць са Светкаю ў горад на аўтобусе. Уся нафарбаваная, сабою задаволеная, а пра мяне, канечне ж, ведае, што Мох — мастак, сама калісь вяла мяне да яго ў Савіну хату, а цяпер бачыць — ні машыны ў мяне з ім, ні кватэры, дык яна і хоча паказаць, якая яна неабыякавая сяброўка. "Ну што, у чужым кутку тулішся? Бедненькая, як я табе спачуваю... Хаця... — Яна акінула мяне, мабыць, не спачувальным, а зайздросным позіркам і дадала: — На тваім месцы я ўся ў футры ды ў золаце хадзіла б. І не адну мела б кватэру..." Тады, помню, я толькі сумна сваёй сяброўцы ўсміхнулася, а цяпер з той даўняй яе падказкі, мабыць, і нарадзіўся мой дзёрзкі план.

Калі сказаць коратка, дзеля Моха, ну і дзеля сябе, вядома я пускала ў ход свае жаночыя чары. Не, я не буду прыніжацца, я нічога не буду прасіць у Айчанаша, як раіла мне маці, я помніла, як пажадліва Айчанаш зірнуў на мяне ў маёй каморцы, дык і не прасіць я ў яго буду, а патрабаваць: калі я і праўда самая прыгожая ў горадзе жанчына, ён зробіць для мяне ўсё, што я пажадаю.

Вы памятаеце кіно "Подзвіг разведчыка"? Памятаеце, як наш Кадачнікаў, ну, не Кадачнікаў, а той разведчык, якога ён іграе, ідзе ў кабінет да нямецкага гаўляйтэра? Такім упэўненым крокам, з такою адвагаю на твары ішла я да Айчанаша. Смела адчыніла дзверы і апынулася ў прыёмнай. Сакратарка была маладая і прыгожая, але, вядома ж, не роўня мне, і я заўважыла, як раўніва яна на мяне зірнула. Прыўстала за сталом, маўляў, да сакратара нельга, але я на яе — нуль увагі, яшчэ смялей, чым першыя, адчыняю і другія дзверы — у кабінет, і толькі цяпер у галаве мільгае думка — а раптам ён не адзін? Не, апрача яго, у прасторным кабінеце нікога. Сядзіць за пісьмовым сталом і нешта чытае, у тым жа цёмна-сінім касцюме, у якім прыязджаў да мастакоў, строгі, непадступны. Ад яго пісьмовага стала пачынаўся другі, доўгі стол, з двух бакоў пад яго было падсунута безліч крэслаў, шмат іх стаяла і ўздоўж сцяны, па другі бок гэтага доўгага стала.

Айчанаш убачыў мяне і не то расчаравана, не то ўзрадавана сказаў: "А, піянерка... Родная душа... Ну, салют, салют!.." Ён прыўзняў руку і гэтым як бы жартоўным прывітаннем ледзьве не разбурыў з самага пачатку мой план: не жартаваць я ішла да яго, а на сур'ёзную гаворку. "Чаму "родная душа"? — падумала я. — "Піянерка" — гэта зразумела: калісь вітала ў школе карпацкіх гасцей, расказвала ім пра цётку Насцю — якою яна была партызанкаю, а "родная душа"... "Адагнала пабочныя думкі, вярнула сабе ранейшую рашучасць, але... куды б так сесці, каб было найбольш выйгрышна?.. Айчанаш устае за сталом і рукою паказвае на крэсла, што ў кутку паміж пісьмовым і гэтым, доўгім сталом, значыць, я буду сядзець перад ім па другі бок стала, а гэта мне не падыходзіць.

Раблю дурнаваты выгляд, быццам не цямлю, на якое крэсла ён запрашае, абгінаю з гэтага канца, ад дзвярэй, доўгі стол. Айчанаш мяне "зразумеў" — выйшаў з-за свайго стала: "Ну што ж, можна і так". Думаў, мабыць, што я высуну з-пад доўгага стала крэсла і сяду, тады і ён сеў бы з другога боку напроці. Ён ужо ўзяўся за спінку крэсла, але для мяне гэта было б самае горшае — апынуцца па другі бок доўгага і — шырокага — стала, мне трэба было сесці так, каб ён бачыў мяне ўсю, бачыў мае прыгожыя ногі, мае аголеныя калені — я павінна сесці на крэсла, што ля сцяны... Саджуся і эфектна закідваю адну ножку на другую...

І смех і грэх, якая ж адчайная і прымітыўная была гэтая мая з ім гульня!.. Я была ўпэўнена, што ён не застанецца на другім баку доўгага стала, так і ёсць — ён паволі абыходзіць яго, набліжаецца, высоўвае з-пад доўгага стала крэсла, паварочвае яго, садзіцца перада мною. Заўважаю, якая гэта яму пакута — не зірнуць на мае ногі, на грудзі, бароніць сябе ад гэтай спакусы жартам, усмешкаю: "Ну, расказвай, піянерка, з чым прыйшла". Трохі падалася грудзьмі ўперад і, гіпнатызуючы яго позіркам ракавой жанчыны, павольна расшпільваю на кофтачцы верхні гузік: "Кватэру! Нам з Мохам кватэру, а яму і... малявальню! Ён — таленавіты! Мне сам Акадэмік казаў: калі б яму далі волю, ён такое намаляваў бы, што вам і не снілася, бо яму гэта Богам дадзена, а вы ўсе паганыя, ганіце яго, топчаце!.. Кватэру! Спачатку кватэру, а потым..." — і расшпільваю на кофтачцы другі гузік...

Па тым, як мяняецца ягоны твар, заўважаю: ён шкадуе мяне, ён мне спачувае. І сама спахапілася: штосьці не так сказала. "Малявальня"! Чаму яно ўскочыла ў галаву, гэтае бацькава слова?.. Так і ёсць, дражніць: "Малявальня"! Вёска, цёмны лес! У мастакоў — майстэрні! Гэта па-першае... А па-другое... Чаму спачатку кватэра, малявальня, а пасля нейкае тваё "потым"? А можа, памяняем месцамі — спачатку тое, што "потым"? Хацела ашукаць — так? Якая хітрая! — І раптам зусім нечакана ён спытаў: — У цябе што, зялёныя вочы? Мне здавалася — шэрыя, як у маці. — І зноў: — Артыстка! З якога ідыёцкага фільма гэтая пошлая твая сцэна?.. Зашпіліся!.. І — прыкрый свае бледныя ногі!.." Я агрызнулася: "Няпраўда, яны ў мяне не бледныя!" Ён адкінуўся на крэсле, зірнуў на мяне грэбліва: "Верш такі ёсць. Верш з аднаго радка: "О, прикрой свои бледные ноги". Малявальня!.. Як табе не сорамна! Гадамі я твой бацька, у мяне дачка ўсяго на год за цябе маладзейшая. Ну так, я не святоша, і дзеўка ты, ну жанчына... сама знаеш сабе цану... Хаця, як сказаць..."

Зашпіліла кофтачку, прыкрыла далонямі калені, нагнула галаву — згарала перад ім ад сораму. Ды ён нарэшце ўстаў, абышоў доўгі стол і пачаў хадзіць паўз яго туды-сюды, заклаўшы за спіну рукі.

“Не ведаеце вы сабе цаны, — загаварыў ён раздражнёна, амаль злосна. — Маці твая не ведала, і ты не ведаеш. Жыццё чалавеку даецца адзін раз, і трэба як след ім распарадзіцца, асабліва жанчыне і асабліва калі яна прыгожая. Чалавек, якому яна аддае сваё жыццё, павінен адпавядаць ёй не так сваёй знешнасцю, як нечым важнейшым, прыгожая жанчына павінна любіць перадавога чалавека, героя свайго часу — успомні жонак дзекабрыстаў. Яны маглі другі раз выйсці замуж за багацеяў, бо самі былі арыстакраткі, маглі да канца дзён сваіх купацца ў раскошы, а яны пайшлі за сваімі героямі ў Сібір, заўчасна там паўміралі, затое, як і самі дзекабрысты, назаўсёды засталіся ў гісторыі. Вось што значыць для прыгожай жанчыны правільна распарадзіцца сваім лёсам! Ну а твая маці? Каму яна ўручыла свой лёс? Твайму бацьку! Герой нашага часу, нічога не скажаш! Разумею, цяпер гэта ўжо праблема: не сышліся б яны, не было б на свеце і цябе. Але ж калі ты матчына дачка, дык магла б хоць ты не паўтараць памылку сваёй маці! Дык не, ты і маці пераплюнула — звязалася з гэтым... Не магу табе ўсяго адкрыць, але скажу: вялікія непрыемнасці будуць у нас з гэтым дзегцяром, а яшчэ большыя — з тваім бацькам. І я не ведаю, ці ўдасца мне гэты раз яго ўратаваць. Не яго, вядома; дзеля яго я і пальцам не паварушыў бы, шкада тваёй маці. Таму і для цябе... Словам, і для цябе зраблю ўсё, што змагу... Разумееш?.. Што змагу... Дзеля цябе, дзеля тваёй маці... Але і ты памажы сама сабе. Угавары свайго дзёгцямаза — хай ён намалюе што-небудзь хоць трохі наша, савецкае. Прымем у Саюз мастакоў, дадзім і кватэру, і... малявальню. А то што гэта было б: ён нам чарцей у будзёнаўках, крываротых членаў палітбюро, а мы яму кватэру?.. Угавары!.. Я разумею, варожы ідэалагічны ўплыў, але ж ты ягоная начная зязюля — перакукуй!”

“Госпадзі, — падумала я, — навошта мне ўсё гэта? Я буду ўгаворваць яго, сурочанага! Ды яшчэ ўночы! Досыць таго, што ўначы ён адкрываў на мне касмічныя формы ды лініі — вар’ят! І з-за гэтага вар’ята я ішла на такую ганьбу — расшпільвала кофтачку, а ён жа, Айчанаш, і праўда мне ў бацькі даводзіцца. Прэч адсюль, заўтра ж пайду шукаць работу, дадуць месца ў інтэрнаце, не я першая такая”.

Айчанаш абышоў доўгі стол, зноў сеў перада мною на крэсла і сказаў: “Не вешай носа, дзеля тваёй маці я зраблю ўсё. Дый мы з табою — родныя душы. Скажы, што не так: ты — піянерка, я — камуніст. Ну, не піянерка, гэта я жартую, але помню, як ты ў піянерскім гальштуку выступала перад гасцямі з Карпатаў, дзеду Мікалайку ад цябе ох і дасталося! А я падумаў: не Мікалайкава семя, а ўжо наша, савецкае. Ну дык і будзем так трымаць. А цяпер дай мне твой пашпарт: па-мойму, ты яшчэ не прапісаная. Пачы-

наць трэба з гэтага, а то адразу з кватэры... Чакаю заўтра. А пакуль... ідзі, ты мне надакучыла!"

Я не выйшла — куляй вылецела з кабінета, а потым і з прыёмнай і які зласліва-помслівы позірк Айчанашавай сакратаркі адчула спіною!.. Дабегла да прыпынку, ускочыла ў тралейбус. Перавяла дух, але думкамі была яшчэ там, у кабінеце ў Айчанаша. "Дзеля маці... Можа, і дзеля яе. Але нейкі ён быў не зусім шчыры. Прыкінуўся бацькам, але я заўважала, як не-не ды і гляне ён на мяне зусім не па-бацькоўску. А што, калі памагчы ён памеўся не дзеля маці, а... дзеля сябе? Тады навошта ж ён абяцае паспрыяць і Моху — калі ён намалюе нешта савецкае? Калі дзеля сябе, дык... Мох лішні? Трэці лішні... Божа, пра што я думаю?.."

Праехала свой прыпынак, сышла абы-дзе, доўга брыла па горадзе наўгад, а потым агледзелася і тады ўжо села на аўтобус і прыехала ў сваю каморку. Мабыць, мяне чакала добрая прачуханка ад Жоры, бо я не адчыніла з раніцы мастацкай залы. Было толькі пасля абеду, і яе можна было б яшчэ адчыніць, але не зала цяпер была мне ў галаве. Апаноўвалі тыя самыя думкі — пра Моха, пра Айчанаша. Трохі адступяць і нахлынуць зноў...

Што рабіць?.. Ісці да Моха, прасіць, каб намаляваў тое, што спадабалася б Айчанашу? Але не будзе ён дагаджаць Айчанашу, як не паслухаўся ён летась і таго маладога бацюшкі, дый потым... Ісці да яго пасля таго, як ён на мяне вызверыўся? Што, у мяне ні кроплі няма жаночага гонару?.. Наканаванне!.. Добра табе, мамачка, так казаць, калі тваё наканаванне — мой бацька. Як падрасла — заўважыла: не надта любіш ты майго бацьку, ні разу не зірнула на яго закаханымі вачамі, толькі шкадуеш яго ды ўшчуваеш, але бацька хоць не так над зямлёю лунае, як ягоны зяць. Нечым яны падобныя, бацька і Мох, абодва як не на гэтым свеце жывуць, але Мох усё-ткі больш, дый пра бацьку не скажаш — "сурочаны", а пра Моха — акурат. І такое мае наканаванне? За якія мае грахі? Жыццё кароткае, а маладосць у жанчыны яшчэ карацейшая, мне ўжо і так пяць гадоў ніхто не верне, азірнуцца не паспела, а ўжо за дваццаць. Так што дзякуй, мамачка, за параду, схаджу да Айчанаша і цяпер пачну новае жыццё, бо калі ён мяне прапіша, я і дня не застануся ў гэтай каморцы, знайду работу і перабяруся у інтэрнат.

Надышоў вечар, настала ноч. "Не, да Моха я ўсё-такі заўтра схаджу, — падумала я, засынаючы, — схаджу апошні раз".

Раніцай сабралася снедаць — у дзвярах зашаргацеў ключ: Жора, зараз пачне ўшчуваць за ўчарашні прагул. Ратуй мяне, Божа, ад ягонага нуднага завывання, даў жа ты гэтаму нават не апошняму, як паглядзець на яго, мужчыну такі замагільны голас. Яшчэ з парога Жора пнецца жартаваць, маўляў, яечню спрэгла, шкада, што не захапіў пляшкі; чакаю, што ён скажа яшчэ, а ён скрыжаваў на

грудзях рукі — зараз пачне завываць; так, пачаў, але дзіўна, сёння ён да мяне не на "вы" звяртаецца, а на "ты" — гэта нешта ў ім новае: "Чаму ты ўчора не адчыніла залу? Ты што ж думаеш, законы не для цябе пісаныя? Нядобра, Анастасія Іванаўна, нядобра. Але не гэта галоўнае, што я хацеў табе сказаць". Жора змоўк, і я здагадалася: нездарма ён перайшоў на "ты", зараз ён скажа тое, што я даўно чакала ад яго пачуць, бо яго даўно выдавалі ягоныя прагненькія вусны. І ўсё ж не, такога я не чакала!

"Ну што будзем рабіць, Анастасія Іванаўна? Лічы, асірацелі мы, засталіся ўдваіх. У твайго генія апошняя ступень дэградацыі, і хутчэй за ўсё ён загрыміць у ЛПП. І гэта для яго будзе лепшы варыянт, бо калі пачнецца белая гарачка, ты ведаеш, куды такіх забіраюць — у дурдом. Дык вось я і кажу — засталіся ўдваіх. Але гэта сказана недакладна, і я прашу спакойна ўспрыняць тое, што я зараз табе паведамлю. Справа ў тым, што цяпер ты не Мохава жонка, цяпер ты належыш мне. Чаму ты так на мяне глядзіш? У гісторыі так ужо аднойчы было, гэта мне сказаў сам Мох. У тысяча восемсот другім годзе жонка князя Далгарукага княгіня Вяземская перайшла ва ўласнасць гетмана Разумоўскага. Як гэта адбылося? Вельмі проста: Далгарукі прайграў сваю жонку ў карты. Дык вось уяві сабе, Анастасія Іванаўна, што твой геній прайграў цябе мне. Калі ласка, не глядзі на мяне такімі вачамі, гэты факт з найгоршага боку характарызуе не мяне, а твайго карыфея. Што ж да мяне, дык, Анастасія Іванаўна, я не такі, як твой Мох, цынік, я даўно да цябе неабыякавы і скажу шчыра: тое, што ты Мохава жонка — прыкрае непаразуменне, гэта абсурд, ну ці ж табе, самай прыгожай у горадзе жанчыне, быць жонкаю гэтага бомжа? Не падумай, што я прапаноўваю табе нешта вульгарнае, накшталт нейкай часовай сувязі, у мяне наконт цябе самыя сур'ёзныя намеры. Я развядуся са сваёй жонкаю, яна ўжо надакучыла мне, як горкая рэдзька, а ў нас з табою была б поўная гармонія, і хадзіла б ты ва ўсім імпартовым... Чаго ты глядзіш на мяне так, што я такога дзіўнага табе сказаў? Можа, не верыш, што твой алкаш прайграў цябе ў карты? А што б ён рабіў, калі яму гарэлка даражэйшая за жонку? Хацеў выйграць на паўлітру, а прайграў цябе".

"Якія вы ўсе сволачы, — сказала я, ледзь стрымаўшы сябе, каб не пляснуць гэтаму нелюдзю па мордзе, — і ты, і ўся ваша хеўра. Сволачы вы ўсе і падонкі, і ваш Мох такі ж падонак!"

"Ну, ты не скажы, запярэчыў Жора. — Твой Мох, можа, і падонак, а са мной трэба яшчэ разабрацца. Як ты можаш пра мяне так казаць, калі і твой Мох, і ты сама вось ужо больш за год на маім утрыманні? Ты, любка мая, забываеш, што твайго Моха няма ні ў якім штаце, што зака́заў яму ніхто не дае, заказы бяру я, і твайму Моху, а заадно і табе, я не даю памерці з голаду. Але, можа, ты

думаеш, твой Мох надта выкладваецца, мне памагаючы? Не так памочнік, як партач; што, ён не мог таму члену палітбюро падправіць рот? Так што, галубка, не плюй у калодзеж. Я ўжо не кажу, што і гэтую бакоўку аддаў вам пад жыллё я, а гэта незаконна, ты нідзе не прапісаная..."

Моцы маёй не было ўжо, каб злаваць, таму слабым голасам адказала: "Якая ж ты погань. Ты сваёй жонцы ногі павінен цалаваць за тое, што, жывучы з табою, ад аднаго твайго завывання яна не павесілася на люстры, а я не такая цярплівая, таму прашу, пакінь мяне, згінь з маіх вачэй, а я не сёння-заўтра выберуся адсюль, а потым і за ўсё з табою разлічуся".

Колькі бацька дзеля дачкі паклаў свайго старання, а больш памагла маці: нараіла схадзіць да Айчанаша, і цяпер не надта гэты нягоднік мяне запалохаў — непрапісаная! Прапісаная! Пасля абеду пайду да Айчанаша па пашпарт.

"А, гэта ты, піянерка, — Айчанаш зірнуў на мяне так, як быццам не вельмі быў мне рады. — Ну, праходзь, праходзь... Смялей, сюды, яшчэ бліжэй". Я падышла, села на тое крэсла, што ў кутку паміж пісьмовым і прыстаўным доўгім сталом. Айчанаш падняў на мяне вочы, і я ўбачыла ў іх ці то нейкую просьбу, ці то нясмелую надзею — нешта падобнае. Да гэтага часу помню той няўпэўнены ягоны позірк. На стале, па правую руку ад Айчанаша, ляжаў мой пашпарт, і я падумала з трывогаю, а можа, ён не змог мяне прапісаць, бо чаму ён так вінавата глядзіць мне ў вочы? Але не, ён урэшце падсунуў мой пашпарт на край стала і сказаў: "Дзеля тваёй маці... Пачакай, не спяшайся... — Ён дастаў з бакавой кішэні пляскаты медны ключ і паклаў яго на пашпарт. — Бяры. Пашпарт і ключ. Адрас прачытаеш на штампе. Лічы, што гэта твой адрас, твая кватэра, і ў любы час ты можаш..." Ён не скончыў, бо зазваніў тэлефон, ён падняў трубку, а мне кіўнуў на развітанне галавою.

Я паклала ў сумачку пашпарт і... ключ. Яшчэ трохі пастаяла, не цямячы, што адбылося, але Айчанаш зноў, настойлівей, кіўнуў мне галавою, і тады я выйшла. Не ведаю, як там у космасе адчуваюць людзі бязважкасць, а мне здалося — не дакранаюся нагамі долу, і ўся я была ахоплена трывожным і радасным прадчуваннем. Так, я яшчэ не ведала, а толькі прадчувала, што я ўжо не беспрытульная зязюля, хоць я і не збіралася шукаць тую кватэру, ключ ад якой ляжаў у маёй сумачцы. І не спяшалася я ў Жораву каморку. Цяпер для мяне было галоўнае — з гарадской прапіскай возьмуць на працу. Я купіла газету, купіла марожанага, села ў скверы на лаўку — злізвала патрошкі марожанае і чытала аб'явы, дзе прымаюць такіх, як я, — без прафесіі. Выбрала кандытарскую фабрыку. Даела марожанае і пайшла ў кіно.

Ехала дадому прыцемкам. Дадому? У Жораву каморку! “Можа, толькі сёння ды заўтра ў ёй і пераначую”, — падумала ўсцешна. Як сама сказала б цяпер, я была вялікай аптымісткай. Бо падышла да дзвярэй, хачу патрапіць ключом у шчылінку, а ён не трапляе, не лезе! Падумала, не той ключ; можа, той, што даў Айчанаш? Ды не, Айчанашаў медны, а мой жалезны, вось ён, але ж — не ўстаўляецца! Божа, які нягоднік — памяняў замок! Вылюдак, мярзотнік!..

Прайшла ўздоўж будынка, ля парадных дзвярэй зняможана апусцілася на прыступку. Сяджу і не ведаю, што рабіць і куды ісці. Хаця — чаму гэта я не ведаю? Падышла бліжэй да ліхтара, дастаю з сумачкі пашпарт, шукаю ў ім той штамп, дзе адрас. Гэта зусім блізка: выйсці на праспект, падняцца на плошчу, а там трохі спусціцца ад тэатра... Нумар дома, кватэры... А што ў ёй, у той кватэры? Хто ў ёй? Як быццам і здагадваюся, але адганяю здагадку і не ведаю, хочацца мне ісці туды ці не. Але паціху брыду ўжо ў бок праспекта.

...Падымаюся на трэці паверх. На лесвічнай пляцоўцы гарыць яркая лямпачка. Дастаю з сумачкі медны ключ і ўстаўляю ў шчылінку. У галаве праносіцца: “Кукавала зязюля ў зялёным лесе”. Штурхаю дзверы і ступаю ў пярэднюю. Так я і ведала: з пакоя выходзіць Віталь Фёдаравіч. Я страшэнна стамілася, мая галава сама хіліцца яму на грудзі, ён абдымае мяне за плечы, а потым чую, ягоныя рукі ў мяне пад пахамі, за спіною, і гэта ўжо зусім не бацькоўскія абдымкі, ён прыціскае мае грудзі да сваіх грудзей, я хачу вырвацца, адштурхнуцца, кінуцца назад, за дзверы, але чую ў сябе над вухам: “Дзеля маці... Дурніца, дзеля маці, яна будзе за цябе рада”. І я больш не вырываюся з яго небацькоўскіх абдымкаў, ужо як быццам нават і жаданых.

Адкукавала зязюля.

## 12. Пікі к бою, шашкі вон!

Я помню, слухаў Гаркушу, і мне здавалася, што ягонай “памоўцы” не будзе канца. Цяпер жа, калі ўсё тое, як быццам і праўдзівае, але ж і неверагоднае, што расказаў мне калісь Гаркуша, я стараюся як мага дакладней перанесці на паперу, магу суцешыць чытача — канец Гаркушавай “памоўкі” блізкі, яму засталося зведаць яшчэ некалькі даволі рызыкоўных прыгод, гэта непазбежна, калі чалавек звязаўся з такім знакамітым рэцыдывістам, як Лёшка Гамон, — нездарма Гаркушава жонка, Зоя Пятроўна, называла яго д’яблам у чалавечым абліччы. Такім чынам, апошні сюжэт Гаркушавай “памоўкі”.

"Ты ўжо ведаеш, як моцна пасябравалі мы з Лёшкам, ну там, ля рэчкі на лузе. Хаця не, усяго ты не ведаеш. Я ж не казаў табе яшчэ... Слухай, як гэта называецца, калі мы з табою во так локці счэпім, а ў руках у нас чаркі — ніколі я так не піў, Лёшка называў гэта неяк..." — "Гэта называецца піць на брудэршафт, на дружбу, значыць", — падказаў я Гаркушу. "Вось іменна, — падхапіў ён, — на брудэршафт, так і сказаў Лёшка. Дык перад тым як разысціся, мы і выпілі з ім... як ты кажаш?.. так, на брудэршафт, на вечную дружбу. Наступны раз сустрэцца дамовіліся на тым жа месцы — каб распрацаваць дэталёвы план аперацыі, як зяцева палатно пераправіць куды трэба. Я спытаў у Лёшкі, а куды, але ён засмяяўся: не, браце, канспірацыя, пакуль што будзем называць гэта так — куды трэба. Праўда, збольшага я ўжо ведаў: "куды трэба" — гэта Ленінград. Ну, а ехаць з палатном мы павінны былі ўдвух з Лёшкам, каб была поўная гарантыя, што яно будзе дастаўлена па прызначэнні. Далей я толькі зразумеў, што калі па дарозе зловяць Лёшку, а яго могуць злавіць, бо за ім жа сочаць, тады палатно дастаўлю "куды трэба" я... А калі і на чым мы паедзем, у чым павязём палатно, усё гэта мы павінны былі яшчэ абмеркаваць, калі роўна праз тыдзень сыдземся тут, на лузе.

Ну, а пакуль — разышліся. Лёшка падаўся ў Грабянцы, там у яго сястра, а я ўскінуў на плячо мех з палатном і пабрыў у Заліп'е. П'яны, вядома, бо Лёшкава віскі ўсё ж разабрала, дарма што не надта моцнае — сорак сем градусаў. І пакуль не пацверазеў, Лёшка заставаўся маім лепшым другам. А як жа, гэта ж ён падказаў ратунак — найперш майму лапавухаму зяцю. У яго ў Швейцарыі будзе рахунак у банку, а тут ён і сам у дзіравых штанах, і жонку ягоную бацька адзень ды абуй, але гэта ратунак і ўсім нам — і мне, і Зоі ад яе ўдушша, і Валіку, і нават Барсіку, яго таксама тут не кіну. Прэч адсюль, бо г-а-р-р-ы-ць зямля і неба!..

Ты сам бачыш, так разважаць мог толькі п'яны чалавек. І назаўтра я, вядома ж, адумаўся ці, можа, лепей сказаць, пачаў адумвацца. Каго паслухаў — Лёшку Гамона! Прайдзісвета, жуліка! А што старыя іконы мяняе бабкам на новыя, тут нешта нячыстае, не можа быць, каб не меў ён з гэтага нейкай выгады. Словам, дачакаўся б мяне Лёшка ў наступны панядзелак, павадзіў бы за нос прасцяка! Але ты не можаш сабе ўявіць, хто на гэтым тыдні завітаў да мяне ў Заліп'е. Ніколі не здагадаешся. Гэта быў мой даўні знаёмы, і спачатку ён маскіраваўся, выдаваў сябе за іншага, думаў, што праз дваццаць год я яго не пазнаю. Вось праз яго я і мусіў пайсці ўрэшце да Лёшкі.

А што адбылося. Я ў адпачынку, але час ад часу ў кантору заглядваю, і вось гаманю я ў сваім кабінеце з тэхнікам, хлопцам, што

мяне падмяняў, а ў гэты момант пад акно жух — чорная "Волга". Спынілася, з яе вылазіць наш участковы Шульга, а з ім яшчэ нехта ў цывільным. Участковы мардаты, з тоўстай палявой сумкай, дык побач з ім гэты цывільны зусім ніякі, бо і ніжэйшы за Шульгу, і твар у яго някідкі, шараваты, і вусікі такія ж шараватыя, а скураная чорная папка ў яго тонкая, можа, дзве-тры паперыны ў ёй, — такі інтэлігент. Але што мяне адразу насцярожыла — ягоная клятчастая кепка. Немалады ўжо мужчына, такі, як я, а кепка, як у піжона, дальбог, не ягоная. Ды я так падумаў і адразу ж забыў. Бо Шульга ўжо ўваліўся ў кабінет, а ўслед за ім нішкам увайшоў і цывільны. Так, пра кепку я забыў, але цяпер мне здалося, што гэтага цывільнага я ўжо недзе бачыў. Але ж вітаемся, і Шульга кажа, ты, маўляў, выгульваешся, а ў тваім лесе, у Глухім лагу, браканьеры лася ўгрохалі, дык вось мы і вядзём следства, бо во гэта (паказвае вачамі на цывільнага) акурат і ёсць следчы з раённай пракуратуры, а прыехалі мы да цябе, каб ты падказаў, як нам трапіць на след злачынцаў. Слухаю Шульгу, а сам думаю: дзе я ўжо бачыў гэтага следчага? І вось хоць вер, хоць не вер, западозрыў я нешта няшчырае, здалося, яны прымаюць мяне за такога, знаеш, лапушка, які ўсяму, што яму ні скажуць, адразу і паверыць. Следчы з раённай пракуратуры? Нешта не помню, каб яму надта забітыя ласі рупілі, хлусіце, хлопцы, ды знайце меру! А што Гаркуша ведае, як злавіць браканьераў, тут вы як у ваду глядзелі.

Гэтаму мяне навучыў калісь стары Мікалайка. Народная мудрасць. Праўда, самому мне ніколі не даводзілася праверыць яе на практыцы, бо тут ёсць адна нязручнасць: трэба, каб той скрытны браканьер апынуўся ў якой-небудзь талацэ ці проста на нейкім людскім зборы. Дык я тут жа прыкінуў дый кажу сваім гасцям: "Бачылі, на краме ў Грабянцах вісіць аб'ява — заўтра агульны калгасны сход. Калі вас туды пусцяць, вазьміце з сабою і мяне, сядзем ціхенька ззаду і будзем назіраць. А калі сход скончыцца, я вам скажу, хто забіў сахатага". Гляджу на Шульгу, на цывільнага, нешта ім не падабаецца, так і ёсць, не ў галаве ім лось, ехалі, каб вынюхаць нешта іншае. Ды пачалі гаворку — і папаліся. Бо цяпер што яны скажуць — перадумалі лавіць браканьераў? Не, хлопцы, хацелі, каб я вам памог, дык я і памагу — выведу на чыстую ваду злыдняў, бо гэта тое, што і мне трэба, адзін я ў лесе не воін, а калі такая морда, участковы, ды следчы раённай пракуратуры... Яны пераглянуліся, цывільны ледзь заўважна кіўнуў галавою, маўляў, згаджаемся — Шульга аж закрактаў ад прыкрасці.

Station Назаўтра, пад вечар, забірае мяне іхняя "Волга" і вязе ў Грабянцы. У клубе вось-вось пачнецца сход, а гэта ж не тайны нейкі збор, дык гляджу, а яны ўжо сядзяць на заднім радзе, Шульга і цывільны, адно месца мне трымаюць. Вось, думаю, і цудоўна.

Павітаўся, сеў і слухаю, пра што на сходзе гаворка. Пра жніво, пра раздзельны спосаб уборкі, пра дысцыпліну, пра эканомію гаручага. Шульга побач нервуецца, непакоіць яго, што, пакуль ён тут час марнуе, злачынцам раздолле недзе. Не ўцярпеў, пытае: "Ну, хто лася забіў? Яшчэ не ўнюхаў?" А я яму шэптам: "Не цяпер. Вось як сход скончыцца, выйдзем, там і скажу". Шульга прамычэў нешта, расшпіліў каўнер, яму горача: "Піўца б, Гаркуша, га?" Нарэшце сход скончыўся. Усе ўсталі, Шульга рагатнуў, маўляў, ну і жартаўнік ты, Гаркуша. Краем вока заўважаю, што недаверліва пазірае на мяне і следчы, але чакайце, думаю, зараз будзе самае цікавае, толькі трэба ўважліва назіраць. Але ж гэты Шульга! Прасоўваюся за ім па вузкім праходзе ўздоўж сцяны, а каб убачыць штонебудзь уперадзе, трэба ці не падскочыць, бо высокі, халера, і плечы ўшыркі з метр. Ды тое-сёе змеціў. Шульгу даймала смага, дык нарэшце ён і параўняўся з бачком, гэта ўжо недалёка ад дзвярэй, нахіляецца, павярнуў кран, вада цурчыць у карэц, а ён на ланцужку, і Шульга мусіў ладнага прысесці ў каленях. Выходзім з клуба, Шульга злы, як сабака: "Якога хрэна ты нас за нос водзіш, кажы, хто твае браканьеры!" А я адказваю: "Не спяшайся, гэта толькі пачатак. Браканьераў трое. А хто яны, я скажу вам заўтра. Пад'язджайце а дванаццатай гадзіне, і я прывяду вас у хату да аднаго і другога, а наконт трэцяга глядзіце самі". Заўважаю, як прыдзірліва пазірае на мяне следчы, яму я не падабаюся; можа, думае, што я з іх здзекуюся, але відаць, што ён мне верыць больш, чым Шульга. "Прапанова прымаецца, — кажа следчы, — заўтра дык заўтра. Так і дамовімся — а дванаццатай гадзіне".

Так, я рызыкаваў, бо скажу яшчэ раз: Мікалайкаву тэорыю я не правяраў на практыцы, але мяне разабраў азарт, і дзейнічаў я смела, можа, нават адчайна. Назаўтра зноў прылятае па мяне "Волга", вязе ў Грабянцы, а яны, Шульга і следчы, чакаюць мяне ля сельсавета. Кажу ім: "Сядайце", камандую шафёру, куды ехаць. З галоўнай вуліцы павярнулі да Ліпы, у кароткі завулак. Стоп! Вось тут, кажу, мы і вылезем, бо адзін з браканьераў — Пятро Хамянок, вось ягоная хата. За мной! — "Ты што, — узбунтаваўся Шульга, — лепшы калгасны шафёр — браканьер? Ты ведаеш, што будзе табе за паклёп? Дый хто табе даў права ўрывацца ў чужое жыллё? Яно недатыкальнае!" Канечне, калі б я ведаў законы так, як Шульга, дык, можа, і не ламаўся б у чужую хату так нахабна. А то ж пастукаўся, ды так моцна, што ў перапалоханай гаспадыні, мабыць, аднялo мову — толькі ротам паветра хапае! А я іду напралом: "Сустракай гасцей, гаспадыня! Пакуль чалавека твайго няма, дык пачастуй нас, бо паўлітра — во яна, а закусіць няма чым... Заходзьце, заходзьце! — гэта я ўжо да Шульгі і следчага, бо нешта яны топчуцца ў сенцах, ніяк парог не пераступяць. І зноў да гаспадыні: —

Паўлітра — во яна (а я такі і праўда захапіў з дому пляшку і цяпер прыстукнуў донцам аб стол), ну а што там у вас у печы, напэўна, тое, што і ў Восіпа Супруна? Смялей, смялей, гаспадынька, даставай чыгунок!.. Ах, як смачна пахне! Упрэла. З цыбулькай. — Я ступіў да печы і нахіліў засланку верхам да сябе. — Так, як і ў Восіпа. Праўду ягоная баба казала, падскоч да Хамянка, не горш пачастуе... Сядайце, хлопцы, за стол, — гэта я зноў да Шульгі і следчага, — вы ж бачыце, як радая нам гаспадыня!"

Зірнуў на гаспадыню — яе вочы і моляць, і праклінаюць. "Які ж ты ірад, — вымавіла нарэшце, — душыў цябе Айчанаш, ды не дадушыў. Наце, жарыце!"

Пакуль яна даставала з печы мяса, ля двара спыніўся самазвал — прыехаў на абед гаспадар, Пятро Хамянок. Для яго было вялікай нечаканасцю, што ў хаце столькі гасцей. Яму таксама адняло мову, калі ён убачыў, як жонка выварочвае ў талерку ласяціну. І нават тое, што на стале ў нас стаяла пляшка, не надало яму бадзёрага настрою. Бо яшчэ і жонка як не галосіць: "Гад паўзучы, во ён хто ў цябе, твой Восіп! Цябе, дурнога, падвучыў дый на цябе першага паказаў пальцам! Такія ў цябе хаўруснікі, толькі б тваю гарэлку жлукціць! Мый рукі ды сядай, можа, як-небудзь яшчэ ўгаворыш, людзі ж яны, а не звяры лесавыя!.."

Не, гаспадар не збіраўся мыць рукі, са сціснутымі кулакамі ён грозна рушыў да стала: "Гэта я іх буду ўгаворваць? Каго, во гэтую морду? — З усёй кампаніі ён вылучаў аднаго з нас — Шульгу. — Ах ты, сука лягавая, паршывы мент, хіба не сам ты нас і падбіў — абараню, калі што якое! А хіба не табе мы сцягна не пашкадавалі? Інтэлігент задрыпаны, бясхвостай курыцы і той няма ў двары! У мяне ў хляве вепрука ногі не трымаюць, дык пляваў я на гэтую дыхляціну, цэлы дзень прэе, а ўсё роўна адно сабакам выкінуць!" — "Гэта правакацыя! — грукнуў кулаком па стале Шульга. — Я пратэстую! Гэта ўсё ён, караед заліп'янскі! Чаго ён са сваім паршывым ласём да нас прычапіўся?!" Ну, гэта ўжо, думаю, нахабства. Як быццам не ён да мяне прыехаў у кантору, а я да яго. Ды нарэшце азваўся і следчы: "Спакойна, таварыш капітан. Я думаю, з гаспадарамі вы тут разберацеся самі, а нам з Іванам Адамавічам трэба адлучыцца. Прашу вас, Іван Адамавіч".

Вядома, следчы раённай пракуратуры большы начальнік, чым участковы, але я ўжо разумеў, што гэты цывільны больш чым следчы. І ў мяне ўвесь час круцілася ў галаве: дзе я яго бачыў? Мы выйшлі, селі ў машыну і выехалі на шашу. Так, толькі выехалі, бо адразу ж і спыніліся. Вылезлі, перабрылі пясок за шашою, увайшлі ў кучаравы сасоннік. У ім каля заліп'янскай дарогі леснікі нядаўна змайстравалі прыгожую альтанку, да яе і прывёў мяне гэты нібыта следчы. Селі пад гонтавым дашкам, і тут ён у мяне пытае: "Ну, а

ўсё-такі, як вы ўгадалі, хто забіў лася? Я ўвесь час быў з вамі ў клубе, а нічога не заўважыў". А я яму і адказваю: "Усё вельмі проста. Вы памятаеце, у клубе стаяў бачок з вадою. Бруду на ім у палец, і карэц на ланцужку, таму не кожны кінецца з яго піць. Але той, каго даймае смага, каму прыпячэ, — не пагідзіцца! А паліць смага таго, хто нажарэцца дармовай ласяціны, — гэта мне калісь казаў стары Мікалайка. Дык вось у клубе пасля сходу гэтыя трое якраз і збівалі з ног іншых, каб хутчэй дапасці да бачка з вадою, — Супрун, Хамянок і ўчастковы Шульга. Вось і ўвесь сакрэт".

Тлумачу, а сам заўважаю, як непрыязна пазірае на мяне следчы, а калі я змоўк, ён і кажа: "Так, вы сапраўдны..." І вось тут ён называе... ёсць такі сышчык — па тэлевізары паказвалі... англійскі сышчык..." — "Шэрлак Холмс", — падказаў я Гаркушу. "Правільна, Шэрлак Холмс. Так ён і кажа: "Вы сапраўдны Шэрлак Холмс. — І, не зводзячы з мяне акурат варожага позірку, дадае: — Сур'ёзны вы працаўнік, Гаркуша. Ехаў, думаў толькі зірнуць на вас цяперашняга, каб на месцы прыкінуць, што з вамі далей рабіць, а вы ўкруцілі нас у гэтую ласіную гісторыю — дужа вы цікавы тып, Гаркуша. І небяспечны тып. Таму я і рашыў, што не лішне мне будзе з вамі сур'ёзна пагутарыць. Яшчэ раз, бо некалі адзін наш таварыш у гэтым лесе з вамі ўжо гутарыў, аднак належных вывадаў для сябе вы не зрабілі".

Вось тут я яго і пазнаў! "Адзін наш таварыш"! Ты сам і гутарыў!.. Зараз мы праверым. Ён мяне ўшчувае, а я кепку ягоную з галавы хоп — Чубок!.. Гэтак я ў твар яму і гукнуў: "Чубок!" А ён: "Што — чубок? Які чубок?" А я яму: "А такі. Памятаеце, прыехалі вы да мяне з маімі вершамі, а як вас зваць, не сказалі, дык я так вас і празваў — Чубок, бо тады спераду ў вас была такая файная чупрынка, цяпер во яна — касмылёк... Чакайце, а гэта што ў вас? Вусы? Дык чаму яны ў вас не сівыя?" Кажу так, а сам пальцамі во тут збоку за ягоны вус хоп ды як тузану! А ён мяне за руку: "Ты што робіш, сволач!" Але позна, напалову ягоныя вусы я ўжо аддзёр — наклееныя!.. Ну, тады ён ужо да канца іх аддзірае, а сваім злым позіркам проста нішчыць мяне на корані.

Але заўважаю: патроху позірк ягоны мякчэе, вочы цяплеюць, ён нават спрабуе ўсміхнуцца. Яшчэ з хвіліну памаўчаў, а потым уздыхнуў дый кажа: "Ну што ж, можа, так і лепш, прадоўжым нашу даўнюю размову. Як жа так, Гаркуша, атрымалася, што вы не паслухаліся маёй парады? Я ж вам казаў: пылам развейцеся, расой рассыпцеся па гэтым лесе. Па-добраму, можна сказаць, па-сяброўску прасіў ды, здаецца, і строга папярэдзіў. Вы што ж думаеце, гэта так проста — пусціць па лесе жывога чалавека дый цэліць яму паўз вуха? Я ж мог незнарок і забіць вас! А за гэта нават і тады, пры Берыі, па галоўцы не пагладзілі б. Ды калі б і выкруціўся,

маўляў, мусіў прымяніць зброю, бо затрыманы хацеў уцячы, усё роўна мяне мучыла б сумленне. Але дзеля вашай карысці я пайшоў на гэта, цэлую абойму выпусціў вам наўздагон, і мне здавалася, мая прафілактыка на вас падзейнічала. Аднак жа не! Іншы раз мне здаецца, што гэта нейкі недарэчны сон, вы ж падумайце самі, Гаркуша, ну хто вы такі: звычайны ляснік, ну не ляснік, а памочнік ляснічага, але колькі непапраўнай шкоды прынеслі вы нашай дзяржаве! Да вайны многа было рэпрэсіравана леснікоў, і мне здавалася, беспадстаўна, а цяпер на вас пагляджу, дык і праўда — усе вы патэнцыяльныя дыверсанты. Узяць толькі адну вашу авантуру з нафтаправодам! Але добра, гэта ўжо справа мінулая — і нафтаправод, і "Жанчына з радзімкамі", я згодзен даравацЬ вам усе вашы мінулыя грахі, але я хачу самым сур'ёзным чынам папярэдзіць вас наконт таго, што задумалі вы цяпер. Бо вы ж задумалі — так? Ад нас, Гаркуша, нічога не ўтоіцца, ваш хаўрус з Лёшкам Гамонам у нас як на далоні, гэта дзяржаўны злачынца, і мы сочым за кожным ягоным крокам, а значыць, і за вашым. Таму не думайце нас перахітрыць, бо гэта для вас можа вельмі кепска скончыцца, у мяне таксама, Іван Адамавіч, ёсць характар, і калі вы не ўтаймуецеся, мне гэта ўрэшце надакучыць, і тады я скручу вас у бараноў рог, цвёрда вам абяцаю".

Ён не павінен быў так казаць: "Скручу ў бараноў рог". Бо калі ён толькі ўшчуваў, ягоныя словы пранялі-такі мяне, і я падумаў: "Канечне ж, Лёшка Гамон жулік, нікуды я з ім не паеду і зяцева палатно нікуды не павязу, нават калі б за яго недзе ўсіх нас азалацілі. Ну так, г-а-р-р-ы-ць зямля і неба, во, зноў вецер з таго боку, ад Сасноўкі, і зноў у жонкі ўдушша, але калі разважыць цвяроза, вунь колькі іх усюды, хворых — у каго сэрца, у каго ціск, у каго яшчэ якая-небудзь халера. Дачка не мае ў горадзе кватэры? А хіба яна адна там беспрытульная? П'е зяць? А ў каго ён цяпер непітушчы? І п'юць, і жонак б'юць. Дык узяў бы Лёшка ды ўсіх, каму долі не даў на гэтай зямлі Бог, і падбіў на ўцёкі. Не, усім горка, дык хай будзе нясоладка і мне".

Так я разважаў, пакуль Чубок быў са мной лагодны, але як толькі ён сказаў: "Скручу ў бараноў рог", я ледзьве не схапіў яго за грудкі: "Ты скруціш мяне ў бараноў рог? Мяне, Гаркушу? Ды перш я цябе самога!.." Замаўчаў, бо заўважыў — рука ў яго пад крысом пінжака, а там, пад пахай, у яго пісталет, гэта я помніў з колішняй нашай сустрэчы. Ды не, пісталетам не пагражае, не той час, але яго непрыязны позірк не абяцае мне нічога добрага. "Гэта што — выклік? Хто каго?" А я адказваю: "А хоць бы і так!" Тады ён: "Ну што ж, выклік прымаецца, але крыўдуйце потым на сябе, я вас папярэдзіў".

Так ён і пакінуў мяне аднаго ў альтанцы — рушыў напрамкі да машыны. Гэта была ягоная памылка — ён адпусціў мяне дадому.

Трэба было арыштаваць, бо ішоў у Заліп'е, а мяне ўсё больш разбіраў азарт — хутчэй бы схапіцца! Бо хто каму кінуў выклік, хто першы сказаў, што сагне ў бараноў рог? Ён! Ну дык і пабачым, хто каго сагне!.. Дачакаюся панядзелка, а там... Не злавілі б толькі Лёшку. Успомніў пляскатыя Лёшкавы пляшачкі, віскі — гэта пітво.

Пікі к бою, шашкі вон! — з такім настроем ішоў я ў панядзелак на сустрэчу з Лёшкам.

На віскі гэты раз Лёшка адвёў зусім мала часу, хуценька выпілі па чарцы і пачалі распрацоўваць план аперацыі. "Значыць так, — сказаў Лёшка, — іхняя мэта — злавіць мяне з палатном у Піцеры, калі я буду перадаваць яго там каму трэба. Мяне яны ведаюць як аблупленага, але ім патрэбен увесь ланцужок, таму яны будуць весці мяне да самага таго месца, дзе адно звяно злучыцца з другім. Зыходзячы з гэтага, вызначаем нашу тактыку. Мяне яны, безумоўна, зловяць, але ўяўляю іх панылыя морды: з ног да галавы абмацалі, а палатна нямашака! А дзе яно, як ты думаеш? А палатно ў цябе, Гаркуша, і з ім ты прыедзеш па адрасу, які я табе скажу, а ты запомніш. А цяпер — як гэта ўсё ў нас будзе. У мяне ёсць два футаралы, у якіх носяць скручаныя чарцяжы. А што ёсць у цябе, ты сам ведаеш, — чарцёжная папера. Што мы робім. Скручваем палатно, толькі не ўдоўж, як яно скручана цяпер, а ўпоперак, абгортваем яго чарцёжнай паперай і топчам у футарал. Робім так, каб хто і зазірнуў, толькі паперу і ўбачыў. Адным словам, маскіруем палатно. А ў другі футарал топчам такі ж скрутак, але з адной чарцёжнай паперы. А далей — хто мы з табою, Гаркуша? Так, мы з табою геадэзісты, бо акурат яны возяць свае чарцяжы ў такіх футаралах. Але ў геадэзістаў павінна быць і што? Якая-небудзь трынога — у цябе тэадаліта няма часам?" — "Тэадалітаў у лясніцтве не бывае, — кажу Лёшку, — але трынога ёсць, яшчэ ў сорак дзевятым годзе п'яныя таксатары разбілі тэадаліт, дык кінулі і трыногу". — "Добра, — кажа Лёшка, — прыхопім яшчэ мерную стужку, і тады мы геадэзісты на ўсе сто. Зразумела, тут яны будуць нас праводзіць, іхняя машына і цяпер дзяжурыць ужо каля Грабянцоў, але мы і не будзем тут ад іх таіцца. Гэтак жа, як і на станцыі, там таксама будуць іхнія людзі, хай бачаць. Галоўнае адбудзецца на Віцебскім вакзале ў Піцеры; што́ нас там чакае, я раскажу табе ў вагоне. А пакуль твая задача: захапіць у канторы чарцёжнай паперы, ды як найболей, вынесці трыногу і мерную стужку. А як сцямнее, сыдземся ля канторы ў дуброўцы, ты прыносіш палатно, а я футаралы".

Можа, ён і цудоўны быў, Лёшкаў план, але вазьму я трыногу — пад паху ці на плячо, шыбую з ёю ў Грабянцы, а мяне ж тут кожны сабака ведае, дык абавязкова спытае, а куды ты з ёю, Гаркуша?.. Але падумаў я так, падумаў дый махнуў рукою: "А, мне ўжо ўсё

роўна. Калі адважыўся, што, можа, пасля і на “варанку” забяруць, дык чаго там яшчэ баяцца?

Добры быў Лёшкаў план, але ж, браце ты мой, назаўтра да той аперацыі, якую мы з ім распрацавалі, прыплялося такое нешта дурное, што і цяпер згадаю — не ведаю, смяяцца мне ці плакаць. Ты помніш таго няшчаснага хлопца з Грабянцоў — Моля?.. Валеру Моля?.. Дык вось ён і ўмяшаўся ў нашу аперацыю. А калі дакладней сказаць, не ён умяшаўся, а яго ўмяшалі”.

Так, я помніў Моля. Задоўга да таго, як распачаў я запіс гэтай гарадской Гаркушавай “памоўкі”, я нават напісаў апавяданне, якое так і называлася — “Моль”. Няшчасны чалавек, і я сам сабе думаў: у Бога ўсяго многа і ўсё ў Яго мае на гэтым свеце нейкае прызначэнне, а навошта Яму яшчэ і гэты дзівак Моль? Аказваецца, усё ў Яго наперад прадугледжана, бо вунь якую незаменную ролю адыграў Моль у гэтай гісторыі, галоўнымі героямі якой былі, бясспрэчна, Гаркуша і Лёшка Гамон. Але перш чытачу трэба ведаць, пра каго, пра якога Моля гаворка, таму хай Гаркуша трохі адпачне, а за той час я і пазнаёмлю чытача з Молем — проста прывяду тут сваё, можа, каму і вядомае ўжо апавяданне.

Было гэта ў канцы жніўня. Гаркуша злавіў мяне на прасецы. Кіўнуў галавою — павітаўся, саскочыў з мапеда і моўчкі пакаціў яго далей, а я, быццам і было так умоўлена, пайшоў следам, разумеючы, што ён, мабыць, прыкінуў, дзе зручней нам будзе сесці. Прасека прывяла на край пясчанай выспы: злева, у лагчыне, сапраўдны “цёмны” лес, забіты ўнізе густым ліпавым падлескам, лапушыстым і жаўтаватым ад прасекі арэшнікам, а справа, на выспе, рэдкія, неахайныя з выгляду, невысокія, хоць і староватыя хвоі: лускаватая кара, калматае, бязладна раскінутае ў бакі голле. Між дрэў жоўтыя пясчаныя плешыны мазаічна перамяшаліся з сівымі лапікамі лішайніку; сям-там пракінуўся шорсткі, з закругленым угору веццем, падобны на перакаці-поле верасок. У такім хвойніку прыемна бывае сесці на цёплы сухі жвір, не дзіва, што Гаркуша і выбраў гэтае месца, каб расказаць мне тут яшчэ адну цікавую сваю гісторыю.

Але гэты раз у яго выйшла асечка. Сесці-то мы селі, але не паспеў ён і абазвацца, як проста перад намі ў густым цёмным падлеску пачуўся моцны шум; прызнацца, я трохі здрэйфіў, падумаў, звер, але не, гэта быў не звер, а чалавек — ён is вываліўся нарэшце з гушчару і, як нічога перад сабою не бачачы, спыніўся і ўздыхнуў з палёгкай.

Я пазнаў гэтага чалавека. Першы раз, праўда, зводдаль, я ўбачыў яго з месяц назад. Неяк выйшаў я перад Доўгай лагчынаю на дарогу, а па ёй акурат ехаў Гаркуша. Мабыць, у ім абазвалася нейкая ветлівасць, якая ў дачыненні да мяне была больш чым дзіўнай, але ён затармазіў, злез з мапеда і, коцячы яго адной рукою, пайшоў са мною побач. Спусціліся пясчаным адхончыкам на луг, перасякаем яго ўпоперак, і раптам я бачу, як на кладку з таго, процілеглага лесу кіруе высокі мужчына і, няйнакш, з абчасаным бярвенцам на плячы, але вось ён перайшоў кладку і бярэ ад яе наўскось па лузе — вельмі дзіўны кірунак, бо ў тым баку няма ніякага жытла, толькі лес, дык куды ён нясе сваё бярвенца — з лесу ды ў лес? Хіба там, куды ён ідзе, не знайшлося б такога ж? Але было ўсё-такі падобна, што на плячы ў яго кароткае, метры два, бярвенца. Яно блішчэла на сонцы — так блішчыць вільготны камбій, калі з жывога дрэва толькі што знялі кару. А калі не бярвенца?.. Яшчэ можна было падумаць, што нёс ён трыногу тэадаліта, можа, абкручаную цэлафанавай плёнкай — яна гэтак жа ярка блішчыць на сонцы. Але тады зноў пытанне: навошта абкручваць тэадаліт плёнкай, калі на небе ні хмурынкі? А галоўнае, калі гэта быў геадэзіст, дык чаму адзін, звычайна іх не менш як трое, дый не чуў я, каб нешта паблізу рабілі геадэзісты. Між тым чалавек з загадкавай ношаю на плячы да ўсяго, відаць, і пазбягаў сустрэчы з намі: нават не зірнуў у наш бок — паспяшаўся ад сцежкі, па якой мы з Гаркушам набліжаліся да кладкі.

Раптам да мяне дайшло, што Гаркушу зусім не хвалюе тое, што надта зацікавіла мяне, і гэта яшчэ больш разварушыла маю цікавасць. "Хто гэта?" — спытаў я і пільна зірнуў на Гаркушу. Ён злёгку паморшчыўся: "А, махні рукой... — Аднак, адчуўшы, што мяне яго адказ не задаволіў, дадаў неахвотна: — Моль, так яго празвалі. Але не бяры ў галаву — ці мала дзівакоў на свеце, а гэты і сярод іх дзівак..."

Дык вось у чалавеку, які шумна валіўся перад намі з гушчару, я і пазнаў таго Моля. А перш, можа, кінулася ў вочы тое доўгае і белае, што нёс ён на плячы, бо раней чым сам ён ступіў з цёмнага падлеску, яно ўжо адным канцом вытыркнулася на святло. Сваю ношу ён і праўда абкруціў цэлафанавай плёнкаю — там, на лузе, я не памыліўся, але што ўсё-такі гэта было?.. Не тэадаліт. Нейкі цупкі скрутак: ён прагінаўся і спружыніў, калі Моль асцярожна знімаў яго з пляча.

Я падумаў: нейкі мясцовы інтэлігент, бо на ім быў цёмны, у белую палоску, даволі яшчэ свежы касцюм, і тым болей мяне здзівіла, што — нават яшчэ і пры гальштуку — гэтак собіла небараку ўбіцца ў самую што ні на ёсць непралазную гушчэчу. Між тым чыстай насоўкаю ён выцер потны лоб, і цяпер я мог зблізку

разгледзець быццам недалеплены нейкі твар: аляпаваты нос, тоўстая верхняя губа, такі ж неэканомны, трохі нават перакошаны падбародак. Бракавала Молю і зграбнай паставы, хоць і было яму гадоў трыццаць, не больш.

Нарэшце ён заўважыў нас (мы сядзелі метраў за сем ад прасекі), яго верхняя губа, напяўшыся, прыкметна патанчэла, твар расплыўся ў шчырай прыязнай усмешцы, і я адразу ўбачыў, які ён бясхітрасны і свойскі хлопец.

“А, гэта вы... — Молеў твар заззяў радасцю. — Ну, вітаю вас, вітаю. Прывал?.. А што, не грэх і перадыхнуць. Я таксама пакуру тут. — Ён заклапочана зірнуў на сонца і, супакойваючы сябе, вяла павёў рукою. — Яшчэ паспею, тут ужо недалёка”.

“Сядай пакуры, — літасціва дазволіў Гаркуша. — А я пагляджу, як ты курыш. Каб нагар на пясок атрасаў, а то я вас ведаю: устаў і пайшоў, галаву задраўшы, а ўслед ужо мох тлее...”

У строгім Гаркушавым голасе чуліся раўнівыя ноткі: толькі наважыўся расказаць яшчэ адзін эпізод, у якім галоўным героем, канечне ж, быў бы сам, а тут новы неспадзяваны герой з’явіўся на сцэне, і цяпер частку маёй увагі, калі не ўсю яе, забярэ гэты Моль. Яшчэ Гаркушу, мабыць, раздражняла, што хоць і прыязна пазіраў на яго хлопец, але ж і вельмі незалежна.

“А ў цябе прагрэс, — з’едліва зазначыў Гаркуша. — Раней хоць дарог не цураўся, дый пад’язджаў на машыне часам, а цяпер напрамак па сонцы ўзяў і папёр напрасткі. Што, хіба не так?”

З хвіліну абодва маўчалі. Моль ціха сам сабе пасміхаўся, а Гаркуша, няйначай, збіраўся з думкамі, каб сказаць яшчэ нешта такое, што як след праняло б гэтага дзівака.

“Не разумею я цябе, — нарэшце ўздыхнуў Гаркуша. — Хіба старшыня табе “газіка” не даў бы?.. А калі і не на “газіку”... Ты ж куды, на Паўлаў хутар? Дык туды ж аўтобус з шашы зварочвае, сто крокаў ад прыпынку, і твой хутар...”

Ніколі не думаў, што знойдзецца чалавек, які на іранічнаскептычнага звыш усялякай меры Гаркушу будзе пазіраць з яшчэ большай іроніяй — спачувальна і паблажліва, ды яшчэ і з адценнем дзіцячага здзіўлення на твары. Але акурат так пазіраў на Гаркушу шырока расплюшчанымі вачамі Моль: былі, аказваецца, на свеце такія рэчы, якіх не разумеў нават сам Гаркуша.

Так Моль яму і сказаў:

“Цікавы ты чалавек, Адамавіч. “На “газіку”, на аўтобусе...” Як быццам сам не ведаеш: моль, яна ўсюды. Хоць бы ў тым аўтобусе: едзеш, хто гамоніць, хто ў акно лбом упёрся, а ты раптам зірк: пырхае, куляецца матылёк палавенькі, і пылок ад яго — моль!.. Нехта дастаў з шафы нешта ваўнянае, надзеў, дык яна і сядзела да пары да часу, зашыўшыся, а як пачало на выбоінах падкідваць, яна

і вылецела. А то, бывае, і проста розныя транты вязуць — кажух там ці хусту, а іх іншы раз толькі паварушы!.. Вось табе і аўтобус. Не, парай каму-небудзь іншаму, толькі не мне. Я ўжо як-небудзь пешкі".

"Глупства, пане-дабрадзею, — рашуча не пагадзіўся Гаркуша. — Адно, ён у цябе абкручаны плёнкаю, моль яе, дзякуй Богу, яшчэ не жарэ, а другое... Калі ўжо на тое пайшло, дык хачу я даць табе карысную параду. Чым во так насіцца, як з пісанай торбаю, дык памяняў бы ты яго на штучны, кажуць ёсць такія штучныя, што не адрозніш ад праўдашняга. Памяняў бы і жыў бы спакойна, як усе людзі. А то во — прыспічыла, і прэш на Паўлаў хутар. Там хто ў цябе, цётка? От узрадуецца! Але хай бы хоць з месяц паляжаў ён там, а то ж не міне і тыдня, як... Ну чаго ты пасміхаешся? Можа, не праўду кажу?"

"Адстаў ты ад жыцця, Адамавіч. — Моль тонкім струменем выпускае з рота дым, а фізіяномія ў яго дабрадушна-бясстрасная: яго зусім не дзівіць Гаркушава адсталасць, ён проста канстатуе гэты сумны факт. — Газет не чытаеш і тэлевізара не глядзіш, а то б ведаў: не тая цяпер моль".

"Як гэта не тая? Моль, яна і ёсць моль".

"А я табе кажу: не тая цяпер моль. Ва ўсім свеце не тая. А найперш у Японіі".

"У Японіі? — Твар у Гаркушы зрабіўся глыбакадумна здзіўленым. — Чаму ў Японіі? Чаму не ў Амерыцы?"

"Хе, а таму што Японія і Амерыцы нос уцерла ў гэтай справе. Цяпер і ў Амерыцы тое ж, але пачалося ў Японіі".

"Цікава, што ж там пачалося, вельмі цікава..."

"А вось тое і пачалося. Паявілася сінтэтыка: футра, дываны. А там жа капіталізм, дык і шалёная рэклама: купляйце нашу сінтэтыку, яе не точыць моль! У выніку ўсё натуральнае, ваўнянае абыходзяць за кіламетр. І тады што, ты думаеш, робіць тая фірма, што выпускала ўсё ваўнянае?"

"Што ж яна робіць?"

"А тое і робіць, што не здаецца. Стварае лабараторыю, наймае самых відных генетыкаў і селекцыянераў, а яны выводзяць такую моль, што нішчыць акурат хімію — штучныя дываны, футра. Перамога!.. Вы кажаце, вашу сінтэтыку не точыць моль? Няпраўда, вось ваш штучны дыван — свіціцца, як рэшата!.. Перамога, бо калі, скажам, і ваўняны, і сінтэтычны дыван баіцца молі, дык хто ж будзе купляць хімію?.. Вось так, Адамавіч".

"Так-то яно так, — не здаецца Гаркуша, — але ж гэта ў Японіі, далекавата, а мы з табою тут, дома".

"Ну ты, Адамавіч, і даеш! — Моль энергічна ткнуў у пясок недакуркам. — Далёка Японія! Дзе ж яна далёка? Сеў на нейкага

“ІЛа”, паўсутак — і ты ў Маскве. Ды не адзін, з табою такіх гаўрыкаў вунь колькі. І ўсе з чамаданамі. А ў чамаданах што? Транты ўсякія, там яны танныя. Вядома, усё крамнае, але хіба ў крамах ці на тых жа складах не бывае молі? Колькі хочаш: адна воўну жарэ, другая хімію. І вось прыляцелі ў Маскву — трыста чалавек, за чамаданы і хто куды — хто ў Мінск, хто ў Гомель. А разам з імі і японская моль. Усякая. Сутак не прайшло, а яна ўжо тут. Разумееш? Тут. Вось табе і далёкая Японія. Але я не ўсё табе яшчэ сказаў. Сітуацыя выйшла з-пад кантролю: новая моль знюхалася са старой, і сам сабою вывеўся такі гібрыд, якому адзін хрэн што нішчыць — хоць воўну, хоць сінтэтыку, а то нават і ўсякае зрэб’е. Дык вось, можа, чуў: стаяў у Пясчанай Рудні няспраўны “газік”, прыйшлі хлопцы рамантаваць, узадралі сядзенне — была мешкавіна, а цяпер адзін пыл: моль, ды такая ўжо, што і сталёвыя спружыны папераядала. А ты мне кажаш, вазьмі ў старшыні “газік”. Не, браце, не вазьму”.

“Зразумела... — Гаркуша зноў сумна паківаў галавою. — Таму ты і дарог цураешся. Больш напрамкі”.

“Дзіва што! — падхапіў Моль. — На дарогах яе болей, чым дзе. Я лепей во так пракладу курс, сям-там, можа, і балота прыхаплю, не без таго, затое ўпэўнены, што ніякая трасца да мяне не прычэпіцца”.

“А на Паўлавым хутары? Хіба там молі няма? Сам жа кажаш, яна ўсюды”.

“Ды ўсюды, але... Колькі там ужо таго хутара. Дзве хаты. Ніхто туды ўжо і носа не паказвае. Неперспектыўнае селішча”.

“А неперспектыўнае, дык і моль паразляталася? Гэтак яна чуе свой канец?”

“Ну і жартаўнік ты, Адамавіч. — Моль смяецца, як чалавек, што разумее і цэніць гумар. — З табой не засумуеш... Але добра, хлопцы. Шчаслівā заставацца, бо мне яшчэ да вечара і ў Грабянцы трэба вярнуцца”.

Ён узваліў на плячо закручаны ў цэлафанавую плёнку дыван (цяпер я ведаў, што гэта быў у яго дыван, а не што іншае) і, трымаючыся воддаль, падазрона пазіраючы ў наш бок, асцярожна абагнуў нас, і я пачуў, як ён рушыў шпарчэй — за спіною ў мяне сціхлі ягоныя крокі.

“Што з ім? — спытаў я ў Гаркушы. — Гэта самае?” Я пакруціў пальцам ля скроні.

“Так, — пацвердзіў Гаркуша, — цешча збяёдала. Вучыўся ў акадэміі на ветэрынара, там і ажаніўся. Прывёз жонку, а тут, як на тое ліха, у маткі згарэла хата. Ну, сама яна да дачкі, а куды дзецца сыну? Прыйшлося жыць у людзей, чакаць калгаснага катэджа. Дык вось жывуць яны на кватэры, а тут чорт і прынёс цешчу. Ды яшчэ

і з дыванам — у падарунак маладым. Ну а цешча гэта ж такое стварэнне, што ад яе і так жыцця няма, а калі яна яшчэ і дарагі дыван прывезла, дык і зусім не ведае, да чаго прычапіцца — і тое ў зяця не так, і другое. Ды каб толькі ў зяця, а то ж і ў гаспадыні: у яе і шчыліны ў падлозе, і сцены абы-як патынкаваныя, і крэйда бярэцца. А тут яшчэ і самае страшнае — як зіхнула цешча: "Валера, дык гэта ж моль! Прапашчы мой дыван, куды я яго прывезла!" Ды як кінулася лавіць таго матылька!.. А Валера стаіць, збялеў, як сцяна, так на яго знянацку цешча падзейнічала, нібы гіпноз які — моль!..

З гэтага і пачалося. Раз моль, развражае хлопец, дык і дыван нельга вешаць, займее кватэру, там і павесіць. І вось здаюць той катэдж, атрымаў Валера ключы, яшчэ ўлазін не рабілі, а толькі прыйшлі з жонкаю паглядзець, і тут зноў яго кінула ў жар — моль! У пустой кватэры яшчэ гуляе рэха, а яна ўжо пырхае, не церпіцца ёй, калі гаспадары прывязуць спажыву. Хто яго ведае, можа, там і не моль была, а які іншы матылёк, заляцеў — яшчэ вокны былі незашклёныя, а калі і моль, дык не дачакалася яна Валеравага дывана, бо ў новую кватэру ён так яго і не ўнёс. Але куды ж яго падзець? Усюды моль. Вось ён і цягае яго ўжо трэці год, не ведае, як уратаваць. А навошта яго ратаваць, калі сам чалавек, лічы, прапашчы".

Цяпер, калі чытач ведае, хто ён такі, гэты прапашчы Моль, скажу яшчэ раз: часам такія небаракі здаюцца нам на гэтай зямлі як бы лішнімі, нікому не патрэбнымі. Аказваецца, не. Усе мы, жывучы на свеце, кожны дзень штосьці плануем, але ў нашы планы ўносіць канчатковыя карэктывы тая Найвышэйшая Воля, якая ўрэшце такім чынам і кіруе намі. Тое ж і ў гэтым выпадку. Палкоўнік Чубок планаваў бясшумную, у межах аднаго раёна (так яму загадаў Айчанаш), аперацыю па захопу мацёрага рэцыдывіста Святога (Лёшкі Гамона) і ягонага саўдзельніка Гаркушы. У той жа час у Лёшкі і ў Гаркушы быў свой, злачынны, план, у якім яны зыходзілі з таго, што "браць" іх будуць не на месцы, а ў Ленінградзе. Але ў той і другі план акурат і ўмяшалася Найвышэйшая Воля, і якраз для гэтага ёй спатрэбіўся — з цешчыным дыванам на плячы — няшчасны Моль... А што і як урэшце адбылося, пра гэта расказвае далей сам Гаркуша.

"Што я зрабіў назаўтра? Употай ад жонкі залез у кубелец, адкроіў ладны шмат сала, пасля — на гарод, намацаў пад націнаю гурка-другога, усё гэта разам з хлебам утаптаў у палявую сумку, і вось яна ўжо вісіць у мяне збоку. У трыногі таксама рэмень, і яна ў мяне за спіною, а мерную стужку я ўздзеў на плячо. Жонка па-

зірае жаласна, бо схлусіў не маргнуўшы вокам, але яна здагадваецца, не ў лясгас я вязу лясніцкае прычындалле.

Вуліцай не пайшоў, столькі ўсяго начапляў, што мог каго напалохаць; адразу ўлез у дуброўку, а потым аб яе край пацёрся да глухой дарожкі, ад яе — напрамкі лесам, якіх метраў сто — і вунь ужо ў альтанцы мяне чакае Лёшка. З ім і ягоны партфель, але нашых футаралаў я нешта не бачу, і гэта мяне здзівіла. Павіталіся, і Лёшка інфармуе: "Хлопцы ўжо тут, з машынаю, дзяжураць. Сяржант і трое радавых. Крыўдзяць яны мяне, усё-ткі я варты лейтэнанта, а мо і вышэй. Але гэта нам і трэба. Дзівакі: маглі б неяк цішкомназіраць, а то я на шашу, а яны вочы талопяць — во ён, іхні жулік. — Лёшка зірнуў на гадзіннік. — Нам пара. Пойдзем не дарогаю, а на мысок, убачым аўтобус — і бягом на прыпынак".

Зноў той кляты мысок! Успомніў, як калісь, адсюль, дзе цяпер альтанка, на той жа мысок мы павярнулі з Лідкаю, з "шаршэ ля фам", нядобрае я тады замысліў — як ашукаць Лідку, увапхнуць у аўтобус і назаўсёды ад яе адчапіцца. А цяпер? Ох, як брыдка і цяпер!.. Але дзе Лёшкавы футаралы?.. Так, яны ў яго тут, у лесе, Лёшка нахіляецца над збуцвелым лоўжыкам і тлумачыць: "Учора схаваў. Бяры свой, а гэта мой, а цяпер — на зыходную пазіцыю".

Вось тут я прашу увагі. Калі мы апынуліся на самым мыску, у нас на вачах адбылося нешта страшэнна неспадзяванае і дурное — я ўжо табе пра гэта казаў. Але на тое Лёшка і жулік, што трапляў у розныя пераплёты, дык і тут ён імгненна ўсё ўхапіў і скамандаваў: "Стоп, Гаркуша!"

Гэта нейкі жах! Злева, метраў за сто ад нас, на шашы, дзяжурыць міліцэйская "Волга", і вось уяві сабе — з лесу акурат на яе і выходзіць Валера Моль, вядома ж, з цешчыным дываном на плячы. Убачыў машыну, спыніўся як укопаны, а хлопцы, мабыць, сказалі — падыдзіце, грамадзянін; чакаюць, Моль не варухнецца, тады яны паціху і рушылі яму насустрач. І раптам гэтыя грозныя воклічы: "Стой! Назад! Ні з месца!", а разам і адчайны Молеў енк: "Ратуйце!" Моль наўцёкі, міліцыя за ім, дагналі, валакуць да машыны. "Ратуйце!" — Моль адбіваецца галавою, нагамі, бо з рук не выпускае дывана, ды ўжо міліцыя топча, запіхвае яго з дываном у машыну!.. У гэты момант паказаўся аўтобус. "Гаркуша, — камандуе Лёшка, — футарал — вось так, уздоўж цела, ды не, на другі бок, правільна, стоп, не спяшайся, падыдзе бліжэй — тады... Гаркуша, увага... бягом марш!"

Ну які там марш-кідок, зусім кароценькі. Цяпер галоўнае — ушчаміцца ў дзверы, бо я з усіх бакоў абвешаны, а яшчэ і ў руках футарал, ды Лёшка штурхае мяне ў спіну, а потым прыціскаецца грудзьмі і сам — ну ўсё, мы ў аўтобусе!..

Утрэсліся, дык ззаду знайшліся і два вольныя месцы. Трыногу і мерную стужку кідаю пад ногі, усаджваюся, а Лёшка не садзіцца, пахіліўся тулавам да акна, разумею, што яго цікавіць — міліцэйская машына. А яна ж-ж-ы-х! — абагнала нас, дык адным вокам схапіў і я: ужо і ўнутры дужыя хлопцы ніяк не ўтаймуюць Моля, бо і той, што спераду побач з шафёрам, памагае тым двум, што ззаду.

Загаманіў аўтобус. Усім шкада было Моля, асабліва гаравала адна жанчына з Грабянцоў: "Казаў фельчар, каб падлячылі нябогу, дык, можа, і наладзілася б ягоная галоўка, бо людзі вунь і жытла свайго так не пільнуюць, бывае, што і хата згарыць, але абы сам уратаваўся, а то ж немаведама якое шчасце — дыван крамны. Вунь Сідар Цыганкоў напіўся ды на злосць жонцы і пасек на шматкі, ну дык і што? Памірыліся і зноў мілуюцца. А гэта ж усё роўна як Божая кара, каторы год цягае па лесе, хай бы яго і праўда моль патачыла, можа, перастаў бы ўбівацца, а то ж ёсць чалавек, і няма чалавека. Дык во гэта, мабыць, яго дактары і падсцераглі, казаў фельчар — у больніцу яго трэба".

"У больніцу яго трэба", — аддалося ў маіх думках. А Лёшка ціха пытае: "Ты ўсёк што-небудзь, Гаркуша?" А я адказваю: "Дзіва што. Лячыць яго трэба". А Лёшка: "Нічога ты не ўсёк. У іх памянялася ўстаноўка, яны вырашылі не выпускаць палатно з раёна". — "А пры чым тут Моль?" — пытаю. Лёшка зазлаваў: "Не будзь ідыётам, Гаркуша. Трое радавых і сяржант, ім сказалі — пільнуйце, бо нехта будзе садзіцца з карцінаю. Канечне, калі б яны ведалі, што ёсць у Грабянцах звіхнуты Моль, або каб разам з імі быў участковы Шульга, яны толькі папляваліся б, а так — супадзенне, якое бывае адзін раз у стагоддзе: пільнуюць, а тут з лесу і выходзіць гэтая бандыцкая морда з карцінаю на плячы. Кажаш, дыван? Але, па-першае, дыван таксама карціна, вельмі яны ў гэтым разбіраюцца, а па-другое, потым яны раскумекаюць, а пакуль толькі збольшага надарвалі плёну, а пад ёй... Гаркуша, пад ёй — палатно! Тое, што хлопцам і трэба, ім жа сказалі, злачынца будзе з палатном, вось яны яго і схапілі. Дзіва што, хоць бы выйшаў з лесу па дарозе, а то ж цураўся дарогі — яўная крамола!.. Радуйся, гэта нам вялікая палёгка: яго яны паперлі ў Гомель, а па рацыі перадалі — усё ў парадку, таму і на станцыі нас яны ўжо сустракаць не будуць. Цяпер галоўная небяспека ў Піцеры, а магчыма, яшчэ і ў поездзе. Такія нашы справы, Гаркуша".

"Такія нашы справы", — перадражніў я ў думках Лёшку. — Каб ты жыў так, як яны нашы".

На станцыі Лёшка пачуў, мабыць, перамену ў маім настроі, і калі я сказаў: "Ідзі купляй білеты, а я пасяджу ля вакзала на лаўцы", запярэчыў: "Э не, пойдзем разам". Мабыць, успомніў, як не-

калі хацеў звезці ў свет маю жонку, але акурат адсюль, са станцыі, яна і дала ад яго дзёру.

Білеты Лёшка ўзяў у купэйны вагон, ніколі ў такім я не ездзіў, колісь вазілі ў Маскву на выстаўку, дык начальнікі ехалі ў купэйным, а мы, радавыя, у плацкартным. А тут купэ, ды яшчэ і раскоша, бо ў ім толькі мы ўдвух; не паспелі сесці, як Лёшка злётаў да правадніцы: "Ну, Гаркуша, болей яна нам нікога не падсадзіць, будзем ехаць, як белыя людзі. Так што не вешай носа, калі-небудзь ты яшчэ памянеш Лёшку, як пісаў Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка, нязлым ціхім словам. І твой зяць з дачкою памянуць". А я Лёшку падтакваю: "І мая жонка памяне, і мой унук, і кот Барсік". Лешка аж рот разявіў: "А пры чым тут кот Барсік?" А я яму: "Як пры чым? Сам жа казаў, у твайго Шамякіна быў сабачка, з ім яго і вытурылі, а я вазьму з сабою катка Барсіка, хай таксама райскага жыцця паспытае". Лёшку мае словы не спадабаліся: "Так, Ґаркуша, настрой у цябе няважны, трэба табе яго падняць".

Лёшка дастаў з партфеля пляскатую пляшачку, а я вымаю з сумкі сала, агуркі, хлеб. Настрой у мяне і праўда паганы, бо ў памяці ўсплывае ўсё тое ж: "Лячыць яго трэба". Каго лячыць, Моля? Гэта мяне трэба лячыць. Моль хоць пацягае-пацягае па лесе свой дыван, ды некаму і кабанчыка злягчае, ветэрынар жа, дык завуць людзі, а я ўжо два тыдні як назусім адцураўся свайго лесу.

Лёшка разлівае віскі, звысоку, з такой, знаеш, задаволенай усмешкай пазірае на мяне і гаворыць: "Будзем, Гаркуша, падымаць табе настрой. А то гэта, браце, непарадак. Канечне, мы рызыкуем, але хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага, ну, гэта прымаўка, а яшчэ помніш такую песню: "Пры знаёмым табуне конь гуляў на волі", дык няўжо і табе не хочацца пагуляць на свабодзе?" А я яму кажу: "Я не конь, я асёл, але не такі дурны, як ты думаеш. За такую справу, на якую ты мяне падбіў, і ў Сібір загрукацець можна". — "Можна, — згаджаецца Лёшка. — Мы з Аляксандрам Ісаевічам там пабывалі, а ты чым лепшы за нас? Давай вып'ем, а то Сібір, Сібір. За тваё здароўе і за нашу ўдачу!.. — Выпілі, і Лёшка агітуе далей: — Слухай, Гаркуша, ну ты ж сам усё жыццё ныеш: то табе шчасця няма, то долі, дый наогул усё ідзе на пагібель!.. Няма шчасця, Гаркуша, ведаю. Бо ў маладосці здаецца: вось яно — хоп, і шчасце ў тваіх руках, аж не, паляцела жар-птушка, а ў руках у цябе толькі пер'інка з яе хваста. Пер'інка засталася — гэта праўда. Бо не кажу ж я, што галодны ты жыў ці босы, гэтак жа як і твая жонка, але нават калі ты заедзеш мне зараз у морду, я ўсё роўна табе скажу: не таго, якое ты ёй даў, шчасця яна ў цябе вартая, і калі б яна, дурная, як уцякала колісь са мною, не рванула назад... Ну, добра, гэта было даўно, але ж цяпер, цяпер!.. Трэба, Гаркуша, выпраўляць свае памылкі. Свайго жыцця ты ўжо не перайначыш, жончынага,

мабыць, таксама, хаця як сказаць, яна яшчэ ў цябе у-у-х, яе прыадзець, дык недзе там насатыя французы яшчэ ого як будуць раздзяваць вачамі, ціха, ціха, не шумі, я ж кажу — вачамі, але найперш павінен ты падбаць, Гаркуша, пра сваю дачку — у яе ўсё жыццё яшчэ наперадзе! А ты пра яе не дбаеш, ты, як калісь і твая дурная жонка, хочаш збегчы ад мяне з паўдарогі. Ну, збяжыш ты, а твой заяц, таленавіты мастак, як быў жабраком, так і будзе жабраваць, а з ім і твая дачка-прыгажуня! Таму, Гаркуша, годзе! Трэба, каб увесь свет даведаўся пра твайго зайца, і гэтае палатно, якое мы з табою аззём, зробіць яго вялікім і славутым. Вып'ем за ўдачу, Гаркуша а я табе яе гарантую, бо мною ўсё прадугледжана".

Праўду кажа, сволач, — пра жонку, пра дачку, проста ў мой боль пальцам тыцнуў. А яшчэ я ўспомніў Чубка: пылам развейся, расой рассыпся па лесе — зноў мяне апанавала лютая нязгода. Ага, ты мяне палохаеш: Лёшка — злачынец, а мне пляваць, я і сам ведаю, што ён жулік і прайдзісвет, але калі ты мне пагражаеш скруціць у бараноў рог, дык перш мяне злавіць трэба — паганяйся за мною!

"Усё ў мяне прадугледжана, — кажа Лёшка. — Яны, ёлупні, дзесьці ўжо расшалопалі, якую разяву злавілі, на самалёт — і сустрэнуць нас ужо на вакзале ў Піцеры. Не радавыя разявакі, а вопытныя, бо ў іх такія ёсць — аператыўнікі. Інтэлігенты, але мы і гэтых у лапці абуем. І слухай, як мы зробім. Я чапляю на сябе ўсю тваю "геадэзію", выходзім з вагона, і я выступаю ўперад. А ты назіркам услед, між намі метраў дваццаць. Мяне яны, канечне, пазнаюць, і я адразу раскалюся, маўляў, у футарале тое, што вас цікавіць. А далей могуць быць два варыянты: або яны накінуцца на мяне і адразу павалакуць на аэрадром, тады табе шлях адкрыты, або, памятаючы, як пагарэлі з Молем, тут жа зробяць мне адпаведны шмон — ці не фуфло, палезуць у футарал, дык і ў гэтым выпадку ты маршыруеш міма, рызыкі ніякай, пакуль ім цюкне, што зноў засталіся ў дурнях, ты ўжо ў горадзе, называеш таксісту адрас, а яго я табе скажу заўтра".

Такі план прыдумаў Лёшка, і мне ён спадабаўся, таму што сам ён сыходзіў з дыстанцыі, а перамога над Чубком даставалася найперш мне. У думках я падзякаваў Лёшку і за гэты хітры план, і за ягонае віскі.

Бо гэта і праўда — пітво! Яшчэ на лузе Лёшка расказваў, як яго недзе гатуюць, але там усё так мудра, што я не запомніў, таму і цяпер пытаю: "Як ты казаў — ячмень акурваюць у нейкай печы?" А Лёшка ківае галавою: "Паляць печ торфам і ягоным дымам акурваюць прарошчаны ячмень. Потым гоняць спірт, вытрымліваюць яго восем год, за гэты час спірт у дубовых бочках слабее, але затое набывае смак, ты сам чуеш які. Вось гэта і ёсць віскі... — Лёш-

ка перакуліў парожнюю пляшку, выліў сабе на язык апошнія кроплі, далікатна пасмакаваў і сказаў прачула: — Зайздрошчу я табе, Гаркуша, скора ты будзеш у гэтым пітве купацца, — разам з усім сваім кодлам, скора...” Сказаў і, як часам бывае пасля гэткага “скора” і са мною, лёгенька, адным мыском, прытупнуў раз, другі, а потым і заспяваў, але ж у вагоне, дык не на ўвесь голас:

Скора, скора, скора, скора
Мы не будзем ведаць гора.

А я гэтак жа напаўголасу падхапіў:

Праспяваем сто прыпевак,
Як збяжым ад баб і дзевак.

Лёшкавы вочы пацвельваюцца з мяне, а яшчэ і вусны ў яго трошкі растуленыя, бачу сіні жалезны зуб — такая ўсмешачка, акурат драпежная, ну дык і ў мяне сваё наўме, смела гляджу проста ў вочы Лёшку, а сам думаю: “Смейся, радуйся, абы я Чубка паклаў на лапаткі — з тваёй дапамогай”. “Пікі к бою, шашкі вон!” — здалося, толькі падумаў так, ды не, мабыць, і прамовіў, бо Лёшка задаволена смяецца: “Ну ўсё, Гаркуша, кладземся спаць, а то, бач, як яно цябе разабрала, маё віскі”.

Гэта праўда — віскі мяне разабрала. І не ведаю, на якой волі, як той конь, цяпер гуляў бы я недзе, калі б не Лёшкава віскі. А то ж паслалі мы пасцелі, першы раз у жыцці так культурна я клаўся спаць у вагоне, хаця не, не першы, у Маскву ж на выстаўку вазілі, лёг, і вагон адразу закалыхаў мяне, як малога. І, напэўна, спаў я моцна і доўга, бо ўжо, мабыць, пад раніцу адчуў: мне не тое што блага, а неяк праціўна, я ці то задыхаюся, ці то захлынаюся нейкай брыдою. Нарэшце спрасоння пачынаю нешта згадваць — віскі, гэта адрыгаецца ўчарашняе Лёшкава віскі! Пагана ў роце, і гарэлым балотам б’е са шлунка ў нос, а гэты нясмачны цёплы пах міжволі хапаеш, удыхаеш назад — якая ж гэта, аказваецца, страшэнная гадасць! Сеў, у галаве і на душы моташна, а яна зноў і зноў, гэтая нянаская адрыжка! Бывала, дома вып’еш самагонкі, ну, іншы раз і адрыгнецца, але ж чым — пражаным каласком, хлебнай скарынкаю! А гэта ж такое паскудства, хоць, здаецца, колькі мы там яго і выпілі, пляшка на двух, ды калі ўжо дрэнь, дык багата і не трэба. “Вось так, — падумаў я, — не пакаштаваў бы гэтай заморскай дрэні, дык і не ведаў бы, якое гэта ўсё-такі людскае пітво, наша самагонка...” Канечне, яна таксама бывае розная, але ў маім лесе кепскай не гоняць. Так я кажу, пісацель, ці не?”

Гаркуша! Не ўтрываў-такі! Я ўжо думаў: ягоная гарадская “памоўка” падыходзіць к канцу, а ён ні разу, як бывала ў Заліп”і, не

пакпіў з “пісацеля”. Дык вось жа — прыжмурыў адно вока, чакае, чым я адкажу на ягоную здзеклівую падколку. Ну добра, зразумеў твой намёк, Гаркуша, досыць пасміхацца. А што было, тое было, я ж не пярэчу.

Недзе там, у пачатку “памоўкі”, сам Гаркуша сказаў, што летась у яго ў Заліп’і мы з ім ні разу не выпілі. Але мушу яго паправіць: аднойчы самагонкі з ягонага лесу я ўсё-такі пакаштаваў. І пачаставаў мяне ён, Гаркуша. Скажу так: пачаставаў з гонарам за самагонку, якую гоняць у ягоным лесе. У дадатак да таго, што Гаркуша быў перакана80ным практыкам, у гэтым выпадку ён выступаў яшчэ і вялікім патрыётам, але калі ёсць такі вядомы выраз “квасны патрыятызм”, дык ён тут зусім недарэчы, бо Гаркуша ганарыўся ўсё-такі не квасам, а першаком пад сто градусаў. І гэта была мая неасцярожнасць: я паспрабаваў прысвоіць сабе гэтую славу і гонар Гаркушавага лесу.

Вясною, як толькі пасяліўся я ў Гаркушы, д’ябал падштурхнуў мяне пахваліцца: “А хочаце, Іван Адамавіч, нагою не ступлю ў ваш лес, а дакладна скажу, дзе ў ім гоняць самагонку”. — “Так і скажаш”, — не паверыў Гаркуша. А мяне разбірае: “Заўтра раніцай усё ў вас будзе як на далоні”. Хай бы ён настояў — а ты не раніцай, а зараз, — толькі пасмяяўся б, а так яшчэ вечар, а ўвесь Гаркушаў лес у мяне на аэраздымках, і ёсць час уважліва іх прагледзець.

Вядома, гарэлку гоняць там, дзе ёсць вада, а далей — народная хітрасць: яшчэ і там, дзе найменш лясных дарог, лепш за ўсё, калі іх няма зусім, а гэта — астравы, а самае прыдатнае месца — доўгі востраў, які глыбока ўдаецца ў гразкі алёс, і павінен быць той вузкі брод, дзе можна перабрацца на востраў калёсамі, бо і туды, і назад трэба вазіць брагу. Возяць яе, канечне ж, ноччу, а раніцай паўз брод пастух прагоніць тавар, і ад следу колаў не застанецца і знаку, самаму разумнаму міліцыянеру і ў голаў не стукне лезці ў балота... Такая была мая шматгадовая практыка, і раніцай я стаў заломваць перад Гаркушам пальцы — лічыць, колькі ў ягоным лесе “заводаў” і ў якіх яны месцах. І раптам я заўважаю, гэткая мая вушласць не падабаецца Гаркушу, бо звычайна прыжмур вачэй у яго насмешліва-паблажлівы, цёплы, а тут ён непрыязна-раўнівы, насцярожаны. “Ну і ведай”, — нарэшце сказаў ён пакрыўджана і нават злосна, і потым я бачыў, як з тым жа, пакрыўджаным, тварам ён выкаціў з двара мапед і гэткі ж, бадай што ўгневаны, імпэтна асядлаў яго за брамкаю.

Збольшага я здагадваўся: Гаркуша ў сваім лесе не пацерпіць над сабою нічыёй перавагі, таму так хваравіта і ўспрыняў ён маю бесцырымоннасць, — маўляў, нешта ведаю ў тваім лесе не горш за

цябе самога. Але што не павінен быў я чапаць у Гаркушавым лесе акурат ягонае с а м а г о н к і, да гэтага я не здолеў даўмецца. А шкада, бо калі б даўмеўся вясною, абышоў бы я за кіламетр Гаркушаву самагонку ўвосень, і са мною не здарылася б таго прыкрага чэпэ, якое надта пацешыла Гаркушу.

Так, гэта была ўжо восень. Толькі на чорных вольхах у гразкіх лагчынах-западзінах лісце яшчэ цёмна-зялёнае, лапушыстае, аднойчы раніцай яго прыхопіць мярцвяна-белым інеем першы замаразак, але ўсё роўна зялёнае, крамянае яно і ўсцеле наздраваты падмёрзлы дол. А на сухіх грудах яшчэ не сярдзіты, не сцюдзёны, але ўжо і не дужа ласкавы вецер не на жарт матлашыць кажушна-карычневае шапаткое лісце кучомістых, як і ўлетку, дубоў: асенні вецер не здагадваецца, што на дубах-зімняках яно, акалелае, скручанае, яшчэ доўга будзе кучаравіцца і шамацець, не падатнае нават лютым зімовым завеям. Але ўжо не лапочуць так апантана, як улетку, асіны, іх ярка-чырвонае дробнае лісце гарачымі жарынкамі сыплецца пад раптоўным парывам ветру на сухую попельную траву; гэтак жа і на бярозах іх парадзелы жаўтлявы ўбор увачавідкі бяднее, растае на вачах на фоне сіверькага, журботна прымглёнага неба. Але што найбольш кранае мяне ў лесе гэтай парою — тая пяшчотная, шчымліва-светлая жаўціна, якую вышэй за ўсе дрэвы ўзносяць на сваім магутным раскідзістым голлі векавыя волаты ясені: па сваёй бездакорнай чысціні гэты колер можна параўнаць толькі з пранізлівай сінявою высокага майскага небасхілу. Вядома, што ясеневы лес часта расце на астравах сярод чорных альсоў. Так было і тут. Я перабрыў вузкі перашыек грузкага балота, і ў душу маю дзівоснай музыкай палілася празрыстая і як быццам нячутная жаўціна, — я апынуўся на востраве, дзе раслі адны ясені, і гэта быў д о ў г і востраў, па якім у сваім узнёсла-паэтычным настроі я мог бы ісці бясконца. І я ішоў — з палявой сумкай на баку, з журналам таксацыі і алоўкам напагатове, аднак, ахінуты і зачараваны гэтай бязважкаю жаўцінай, я забыўся не тое што на журнал таксацыі, а і на сябе самога. Ды ўрэшце я спыніўся, бо, здаецца, пачуў уперадзе стук сякеры. Убачыў журнал таксацыі і аловак у сваіх руках і ўбачыў, што... пад нагамі ў мяне даволі-такі наезджаная дарога, нездарма так лёгка мне ішлося ад броду. А куды я прыйшоў, можна было ўжо здагадацца, бо запахла дымком і брагаю. Доўгі востраў збягаў да балота сухім і чыстым адхончыкам, там, на нізкай лавачцы, сядзелі, спіною да мяне, двое мужчын: адзін каржакаваты — у чорнай ватоўцы, другі высокі — у карычневай балоневай куртцы. Яны, канечне ж, гналі гарэлку, бо сядзелі перад самагонным апаратам. Не буду падрабязна яго апісваць, каб у каго-небудзь не з'явілася спакусы паўтарыць канструкцыю. А ад якой спакусы не ўбярогся я — захацелася пажартаваць. Дык я і пажар-

таваў. Апісаў у журнале таксацыі гэты ясеневы лес, а потым і думаю: пацешу-тка я зімою хлопцаў, прачытаю ім на камеральных работах, чым гэты выдзел адметны. Так я і запісаў: "У паўднёвай частцы выдзелу — дзеючы самагонны апарат, ёмістасць — 10 вёдраў, даўжыня змеевіка — 2 метры, прадукцыйнасць..."

Гэта быў кепскі мой жарт. Яшчэ не прыкінуў, якая тут можа быць прадукцыйнасць, як за спіною ў мяне пачуўся здзіўлена-ўкрадлівы мужчынскі голас: "А што гэта вы тут пішаце?" Я спуджана крутнуўся: перада мною — мужчына сярэдніх гадоў, вясковы дзядзька, бо твар у яго таго жытнёвага колеру, па якім відаць — калгаснік. Ён, лагодна ўсміхаючыся, прапусціў міма вушэй мае словы, што я таксатар — хаджу і апісваю Заліп'янскі лес. "Гэй, хлопцы!" — гукнуў калгаснік. На ягоны голас павярнуліся, а потым і ўскочылі як па камандзе тыя двое, ля апарата. Праз хвіліну ўжо ўсе трое акружалі мяне, і, чым болей я тлумачыў, хто я такі, тым больш недавер у іх выклікаў. "Таксатар, кажаш? — спытаў высокі, у балоневай куртцы. — Прыдумай што-небудзь мудрэйшае. Палезе табе таксатар за брод! Сам дзесяць гадоў назад хадзіў з таксатарам, дык во там ля броду запісалі што трэба, і дзялоў столькі". Але падазроней і пільней за ўсіх да мяне прыглядаўся каржакаваты, у ватоўцы. Дый сам я пазіраў з асцярогаю найбольш на яго — надта ён прыцягваў, уражваў. Ватоўка — на голым целе, наросхрыст, грудзі і жывот спрэс сінія ад наколак: голая жанчына, драпежная птушка, пакручастая змяя... Я здагадаўся, што перада мною славуты рэцыдывіст Аскерка з Донек. Я чуў, што ён далёкі нашчадак княжацкага роду; нехта з Аскеркаў у часы Вялікага княства Літоўскага быў ці не ваяводам у Мазыры, а недзе тут, зусім паблізу, яшчэ не так даўно, да рэвалюцыі, разводзіў племянных кароў памешчык Аскерка — ягоным пазашлюбным сынам і быў дзед гэтага рэцыдывіста. Памешчык быў неблагім селекцыянерам, аднак мне прыйшло на думку, што і вывядзенне новага чалавека праз выхаванне яго на будаўніцтве Беламорканала, у лагерах і калоніях прынесла не горшы плён, бо тыя ненавісныя для простых людзей арыстакратычныя аблічча, якія і сёння можна бачыць на партрэтах прадстаўнікоў былога пануючага класа, у паслярэвалюцыйны час паступова перараджаліся і з кожным новым пакаленнем набывалі ўсё больш характэрныя для новага чалавека рысы. Такою была і фізіяномія рэцыдывіста Аскеркі: пакрыўленыя, быццам пажаваныя ім самім вусны, правалены, мабыць, перабіты кастэтам нос, тупы і мутны, але поўны класавай пільнасці і падазронасці да ўсялякага роду лазутчыкаў і шпіёнаў позірк. "Таксатар? — спытаў хрыпатым голасам Аскерка. — А калі зробім шмон? Здымай сумку! — Ці то я зняў, ці то ён сарваў яе з мяне, але

ў сумцы Аскерка нічога падазронага не знайшоў і грэбліва шпурнуў яе ўбок. — А што пішаш?" Мутнымі вачамі паказаў на журнал таксацыі, і тады я паспрабаваў сам пайсці ў наступ: "Што трэба, тое і пішу, такая мая работа, а вы хто такія, каб дапытваць?" Адводжу журнал таксацыі ўбок, бо Аскерка пацягнуўся да яго рукою, але не ён, дык дзядзька-калгаснік, што стаяў у мяне за спіною, цапнуў журнал. "Чытай!" — загадаў Аскерка. Канец, падумаў я, калі пачуў, што запісана ў маім журнале пра апарат: ёмістасць, даўжыня змеевіка... Аскерка як быццам не паверыў пачутаму, сам зазірнуў у журнал, трохі падумаў і сказаў: "А што, так яно, мабыць, і ёсць: два метры, калі выпрастаць. — І перавёў на мяне трохі паяснелы ад з'едлівага захаплення позірк. — Во сука, трэніраваны! — У яго руцэ адкуль толькі ўзяліся — як быццам ён злавіў іх у паветры — наборныя, з рознакаляровага цэлулоіду тронкі вялікага фінскага нажа, у той жа міг перад маім тварам з іх выскачыла блішчастае лязо і вострым кончыкам упёрлася мне ў шыю, пад яблычак. — Фуфло! Пераадзеты мент! Ты каму лапшу на вушы вешаеш? Лес перапісваеш, дубкі, бярозкі? Дык вось я прыдумаў: дзве бярозы нагнём, за ногі прывяжам і адпусцім..."

Ён мяне сам і выручыў, гэты зэк: нагадаў, што ў мяне ёсць ногі, якія, аказваецца, не толькі таксатара кормяць, а могуць і ўратаваць. Ботам урэзаў Аскерку пад жывот, адштурхнуў убок і збіў з ног калгасніка, чую: "Трымай, бо зліняе, сука!", але я ўжо задаў такога драла, што наўрад ці развіў я большую хуткасць і тады, як з ляснічым Айчанашам уцякаў ля Пясчанай Рудні ад калгаснага бугая.

Але ж мая сумка, мой аэраздымак! Яны ў парушальнікаў дзяржаўнай манаполіі, і я не ведаў, як цяпер да іх падступіцца. Гаркушу з тыдзень нічога не казаў, ды ўжо быў сабраўся, а ён і сам вечарам зазірнуў да мяне ў залу — ну, дзякуй Богу, прынёс маю сумку! Паклаў на канапу і, усміхаючыся аднымі вачамі, сказаў: "Хадзем". Я не зразумеў, куды ён мяне запрашае. "Хадзем, хадзем!" Ён ужо заграбаў рукою ля дзвярэй — зваў за сабою. Прывёў на кухню, а там на стале ў яго ўжо стаяла пляшка самагонкі. Наліў па сто грамаў у шклянкі і сказаў: "Гэта табе хлопцы перадалі. Даруй, трохі яны цябе папалохалі". Ці спадабалася мне самагонка — гэта не так важна, галоўнае, якое задавальненне з'явілася на твары ў Гаркушы, — здавалася, ён пакаштаваў райскага напою.

Вось такім, сапраўдным, а не квасным патрыётам быў Гаркуша: ён ганарыўся самагонкай, якую гналі ў ягоным лесе. Да гэтага ён і падвёў мяне ў сваёй "памоўцы": яны з Лёшкам вязуць у Піцер геніяльнае зяцева палатно, а ноччу ў купэ і разыгралася з Гаркушам гэтая шэкспіраўская драма.

"...Ляжу і думаю: каб хто ў морду надаваў, сказаў бы дзякуй. Бо прамяняць самагонку на гэтае рудое пойла — на віскі? Рудое — як вада ў балоце, там, дзе мох-сфагнум. "Ячмень акурваюць тарфяным дымам"! Знайшлі сякеру пад лавай. У нас і акурваць не трэба, у нас хоць ячмень, хоць жыта акурваюцца яшчэ ў полі, бо не ў адным, дык у другім баку гарыць торф. А вытрымка — аж восем год! Канечне, калі б наша гарэлка пастаяла столькі ж... Але хто ж у нас будзе чакаць восем год?.. Сорак сем градусаў — якая дакладнасць! У нашага першаку ў два разы болей, а каб яму яшчэ і такую прыгожую пляшачку! Але абыдземся, газетай заткнём — і хай яны тут галавою наложаць, айчанашы розныя ды чубкі, а не наложаць, дык усё роўна — каб пагнаўся я за гэтай заморскай брыдою, каб я адсюль некуды з'ехаў, уцёк? Хай едуць яўрэі — яны вольныя птушкі, бо ў іх ёсць другая радзіма, а ў мяне яна адна, і я не птушка, я арляк — усяго толькі папараць, падобная на птушку. Некалі прысягаў генералу Каржу — не здраджу свайму лесу, а тут не тое што лесу, а і полю, і лугу здрадзіў, бо ўсёй зямлі сваёй адцураўся!.. Досыць, Гаркуша!..

Ну так, баліць сэрца: дачка — беспрытульная зязюля. Але што зробіш, калі ён у яе такі... мастак, растуды яго так! Хаця які ён мастак. Каб быў мастак, маляваў бы, як усе людзі... Пасля вайны прыжаніўся ў вёсцы прыблудны хлопец, дык то быў мастак! Прынясе ўдава картачку забітага чалавека, а ён на клетачкі яе расрэсліць, а тады і перамалёўвае на каляную паперу. Што картачка, што партрэт — не адрозніш. А гэты... Ну не, гэты таксама ўмее, нездарма ж вучыўся пяць гадоў, але дзе не трэба паказваць сваё ўмельства, там ён яго пакажа — крываротага намаляваў акурат, а як малюе што іншае, дык там у яго... круглае дабро. Сурочаны!.. Не будзе з яго толку, і піць ён не кіне. Але рана ці позна спадзе ў дачкі пялёнка з вачэй, а маладая, прыгожая, а яшчэ ж і дзіця ёй не замінае, бо Валіка мы ўжо не аддадзім, дык і знойдзе яна ўрэшце годнага чалавека, няўжо мы так угнявілі Бога, што ён нам ні разу не паспрыяе?

Спі, Лёшка, дасыпай. Мыляй спрасоння вуснамі, смакуй сваю ўдачу. Усё ты спланаваў, але не ўлічыў аднаго: Гаркуша не такі прадажнік, як ты думаеш. А перад кім я вінаваты, дык перад Молем, бо з-за мяне яго загрэблі з ягоным дыванам, а яму гэта страшней за смерць, бо панічна баіцца молі, а яна ж, як паслухаць яго, можа, звіла сваё кубло і пад сядзеннем той машыны, у якую яго ўвапхнулі, і, вядома ж, накінецца, прагная, на ягоны дыван! Дык хай ён мне даруе, няшчасны Моль, а я загладжу перад ім сваю віну: выходжу на перон і здаюся першаму міліцыянеру!.. Спі, Лёшка!..

Колы пад вагонам то мякка сакаталі, як быццам па змазаных каціліся рэйках, то раптам здасца — вагон спыніўся і апантана топчацца, грукочa на адным месцы. Нехта прабег па калідоры ў адзін бок, у другі, а тады бы касцяны стук у дзверы — Лёшка падляцеў усім целам над паліцаю: "Хто? Што?" Падхапіўся, матлянуўся да акна, да дзвярэй — пастка! Ды нарэшце сеў, вочы ў яго робяцца ўсё больш цямнымі, і ён ужо сіліцца мне ўсміхнуцца: "Фу ты, халера. Нервовая ў нас работка. Прачынайся, трэба заняцца нашым знешнім выглядам".

Я падумаў, Лёшка будзе галіцца, а ён пакорпаўся ў партфелі, і што гэта — ці не збіраецца ён прыклейваць сабе штучную бародку? Заўважыў маё здзіўленне: "А ты як думаў? Мяне яны ўсё роўна зловяць, бо як бы ні мяняў я сваё аблічча, выдае рост, а ты ў іхняй зрокавай памяці яшчэ як след не адклаўся. Ясна, тваё фота ў іх ёсць, але яны, тыя хлопцы, што будуць сустракаць нас на пероне, цябе не пазнаюць, цябе не пазнала б і родная жонка, бо вось што зараз мы зробім. Прыклеім бародку, яна табе вельмі будзе пасаваць. Так, так, сядзі ціха, ну, цудоўна, дальбог, пасуе. А яшчэ і надзенем цёмныя акуляры. Гаркуша, ты прыроджаны канспіратар — зірні ў люстра. А цяпер слухай. Яны, безумоўна, мяне затрымаюць, возьмуць пад рукі і скажуць: "Грамадзянін, спакойна, пройдзем з намі". Ну, я, канечне, трохі пабунтую: "Што такое? Якое вы маеце права!" і гэтак далей. А ты і прашмыгнеш міма... Запомні адрас: Залінейная вуліца, сёмы тупік, восем. Дзесяць хвілін на таксі, а там цябе ўжо чакаюць. Малайчына, ты ўсё хапаеш на ляту, бяры палатно, а тваю "геадэзію" вазьму я. Пад'язджаем. Ну, з Богам, Гаркуша. Як і дамовіліся, за мною ты назіркам".

Цікава, калі чалавек прыкідваецца тваім лепшым сябрам, глядзіць бессаромна табе ў вочы і цябе ж абувае ў лапці. І я, дальбог, пашкадаваў Лёшку, хацеў сказаць: ратуйся, бо я зараз буду здавацца, не трэба табе ахвяраваць сабою, бо адно, калі б мяне з маім палатном не злавілі і я прывёз яго куды трэба, а другое — схопяць цябе, а я падыду і сам таксама аддамся ім у рукі. Ды Лёшка начапіў ужо на сябе трыногу, уздзеў на плячо мерную стужку, у адной руцэ ў яго партфель, у другой футарал; больш нагою, чым рукой, адчыняе дзверы, і мы выходзім з купэ, а потым і з вагона. "Пікі к бою, шашкі вон!" — маімі ж словамі падбадзёрвае мяне Лёшка. Пацвельваецца. А я сам сабе думаю: "Смейся, Лёшка. Пабачым, хто будзе смяяцца апошні".

У людской рацэ не так лёгка ўсачыць за Лёшкам дый угнацца, я ўсё больш адстаю, і раптам — дзе ён? — не відаць Лёшкі! Прыспешваю крок, а ён во дзе, у Лёшкі развязаўся шнурок, нагінаецца, а сам локцем падае мне знак, маўляў, праходзь, праходзь, Гарку-

ша!.. А і праўда, што ўжо мне Лёшка! Якая мне цяпер розніца, спераду ён у мяне ці ззаду, я ж іду здавацца!..

Вось яны, мае даўнія Праважатыя. Некалі яны мне здаліся братамі-блізнятамі, а цяпер бачу: абодва русыя, але адзін святлейшы, а другі цямнейшы. Твары ў хлопцаў панылыя, насустрач ім труху-юць апошнія пасажыры, бо я такі трохі счакаў, пакуль схлынуць людзі, а ні Лёшкі, ні мяне, ягонага хаўрусніка, не відаць. Не відаць Гаркушы, бо ім і не ў галаве, што я з бародкай і ў чорных акулярах. А што ў мяне футарал, дык такі несла і дзяўчына з рукзаком, ішла нават цэлая партыя, можа, геолагаў, а можа, геадэзістаў з такімі ж футараламі — вярталіся з палявых работ. Небаракі лейтэнанцікі — трэба, думаю, іх выручаць. Падышоў дый кажу: "Хлопцы, калі вы пільнуеце мяне, дык гэта я і ёсць, я вам здаюся". Той, каторы святлейшы, засердаваў: "Грамадзянін, праходзьце, не перашкаджайце". А я кажу: "Я — Гаркуша, а вы з Гомеля, ад Чубка, я вас пазнаў". Тады той, каторы цямнейшы: "Ад якога Чубка? Грамадзянін..." А потым як зіхне, бо гэта я ўзяў ды бараду сваю раз — і адклеіў! Тады і другі: "А-а-а-х!" — і таксама разявіў рот. А я кажу: "Хлопцы, я сам здаюся па добрай волі. — Знімаю чорныя акуляры і тут жа адным вокам заўважаю, як, трохі косячы на нас позіркам, з трыногай і мернай стужкаю міма прасігаў Лёшка. Ага, думаю, хоць раз ды і я цябе перахітрыў, вязі маю чарцёжную паперу "куды трэба". А Праважатым тлумачу: — Лёшка Гамон уцёк, дык і клопат такі, ён у нас быў для падману, а палатно ў мяне, во ў гэтым футарале, я павінен з'явіцца па адрасу: Залінейная, сёмы тупік, восем". — "К чорту сёмы тупік! — вылаяўся цямнейшы. — На аэрадром!" Ён моцна, як абцугамі, ухапіў вышэй локця маю руку, а святлейшы вырваў у мяне футарал і гэтак жа ёмка схапіў мяне з другога боку; я толькі паспяваў перабіраць нагамі, так імчалі мы па пероне, а потым яны падхапілі мяне пад пахі, і я ўжо не збягаў уніз, а ляцеў, як анёл, над каменнымі сходамі. Крычу: "Хлопцы, пачакайце, вунь мая мерная стужка ля сметніцы, сволач Лёшка кінуў!", але яны і слухаць не жадаюць.

Вось так, пісацель, не глядзі на мяне звысоку, я, браце, і на самалёце лётаў. Узляцелі пад Ленінградам, а селі ў Гомелі, а тут, на аэрадроме, нас ужо чакала машына. Далей я трохі прапушчу — як везлі мяне ў горад, як вялі па доўгім калідоры, бо самае цікавае пачалося, як ты думаеш, дзе? Правільна, у кабінеце ў Чубка, даўно ж бачыліся. Мой Праважаты, той, каторы святлейшы, дакладвае: "Таварыш палкоўнік, аб'ект здаўся сам, карціна ў гэтым футарале". І трошкі прыпадымае збоку ў сябе футарал.

Я і пазнаваў, і быццам не пазнаваў Чубка. Не таму, што ён сядзеў за сталом у вайсковай форме, з трыма вялікімі зоркамі на пагонах, — проста гэта быў нейкі іншы чалавек. Той, якога я ведаў,

быў мой злы дух, а гэты пазіраў на мяне так прыязна і дружалюбна, што мне зрабілася няёмка: які ён добры са мною і колькі ўсякага паскудства меў ён ад мяне. "А, Іван Адамавіч, — узрадаваўся Чубок, — ну, праходзьце, праходзьце. — Паказаў рукою на крэсла, а лейтэнанту кажа: — Вы таксама прысядзьце, трохі пагутарым з Іванам Адамавічам, а потым... — І зноў да мяне: — Сядайце, Іван Адамавіч, я вельмі рад за вас. Гэта вельмі добра, што вы самі адумаліся, я верыў, што ўрэшце прачнецца ваша грамадзянскае сумленне. І я не памыліўся".

На стале ў яго ляжаў пачак цыгарэт, а на ім запальнічка. Чубок па гладкай, як лёд, стальніцы падсунуў пачак бліжэй да мяне, але я сказаў, што не куру, калісь, як быў малады, курыў, а потым кінуў. "І правільна зрабілі, — пахваліў Чубок, — я таксама хацеў бы кінуць, ды не хапае сілы волі. А вы малайчына: адну шкодную звычку ў сабе перамаглі, а цяпер вось і другую. Так я кажу, Іван Адамавіч? Бо і дзяржаве шкодзілі, і сваёй сям'і". — "Нікому я не шкодзіў, — сказаў я. — Проста хацеў памагчы зяцю, ну і дачцэ. Бо зяць мой не горшы за іншых, а яго задзяўбалі, дурнем зрабілі — ні кватэры не даюць, ні работы — жыцця яму не даюць, а я не чужы чалавек, дык хто ж як не я пра іх паклапоціцца?" А Чубок пазірае на мяне — быццам хоча сказаць: "Ну і хітрэц ты, Гаркуша". Ды ён амаль так і гаворыць: "Ну годзе, Іван Адамавіч, годзе. Мы ўсё ведаем, служба такая. З зяцем у вас поўны парадак, дай Бог кожнаму такога зяця, хоць бы і мне, напрыклад, бо ў мяне таксама дачка".

Нічога не разумею. Тыдзень назад бачыўся з дачкою: сама ў тым жа катуху, а зяць дык ужо і ў прочках. Што ж у іх магло так хутка перамяніцца, каб ажно Чубок пазайздросціў? Бяры, палкоўнік, майго зяця, аддаю задарма, хай і твая дачка за бяздомным жабраком пакрасуецца... А, вунь яно што — пацвельваецца: "Перадавайце, Іван Адамавіч, зяцю прывітанне. А тое, што вы адумаліся, будзе яму лепшым падарункам... Дарэчы, ці не час нам паймець насалоду — палюбавацца вашай карцінаю? Страшна падумаць: людзі на тым баку планеты мелі б такое шчасце, а мы, каму па праву гэты цуд належыць, пазбавіліся б такой магчымасці. Лейтэнант, пакажыце нам карціну, якую збярог для нашага народа Іван Адамавіч".

Ён прыкурыў ад запальнічкі, глыбока зацягнуўся — ці не з той асалодаю, якую зведваў, яшчэ не ўбачыўшы самога палатна, бо лейтэнант толькі яшчэ пачаў выцягваць з футарала чарцёжную паперу. Адзін белы, як снег, аркуш, другі, трэці... Сэрца маё пачула нешта нядобрае, зірнуў на Чубка — твар у яго падаўжэў і зрабіўся шэрым, здалося — гэтак яго засціць цыгарэтны дым, але не — проста Чубок не зводзіў вачэй з футарала. Лейтэнант усё хутчэй і хут-

чэй выцягваў з яго аркуш за аркушам, а потым і зусім ліхаманкава зазірнуў у футарал — там нічога болей не было!.. "Лёшка Гамон! Сволач! Падмяніў футарал! Абжуліў!!!"

Белы як сцяна лейтэнант стаяў перад палкоўнікам па стойцы "смірна". Чубок доўга не зводзіў з яго жаллівага позірку — шкадаваў хлопца, як роднага сына. А потым сказаў — яму і, мабыць, таму, цямнейшаму, якога не было ў кабінеце: "Не быць вам, хлопцы, капітанамі. Спачатку прывалаклі нейкага ідыёта з цешчыным дыванам, а цяпер і гэты цырк з футаралам?.. — І пераводзіць непрыязны позірк на мяне. — Ну а вы, Іван Адамавіч? Я ўжо думаў, вы са сваёй антысавецкай дзейнасцю пакончылі, шчыра парадаваўся за вас, а вы, аказваецца, толькі ўвайшлі ў смак!.. Небяспечны вы для дзяржавы чалавек". А я гатовы ўкленчыць, гатовы зямлю перад ім есці, ды няма дзе ўхапіць. "Даю вам чэснае слова, я невінаваты, мяне самога абдурыў Лёшка Гамон, падмяніў футарал — ноччу ў вагоне!" Але мне ён не даў веры: "Уступілі ў злачынную змову, Іван Адамавіч. І калі б не ваш зяць, для вас гэта вельмі кепска скончылася б. А так... што ж... — Ён грэбліва зірнуў на лейтэнанта. — Выпішыце яму пропуск. — А са мною — не, я нічога не разумею! — са мною ён ветліва развітаўся: — Да пабачэння, Іван Адамавіч, больш пытанняў у мяне да вас няма".

Доўгіх дваццаць гадоў успрымаў я гарадскую Гаркушаву "памоўку" як чарговую ягоную фантазію, дык і цяпер сумняваўся: а ці не выдумаў Гаркуша і гэтую сваю ленінградскую авантуру?.. І я зноў прыйшоў да Камсамольскага возера — да свайго "кансультанта", адстаўнога генерала.

"Усё так і было, — сказаў генерал. — Нейкія знешнія, дробныя дэталі можна было б удакладняць, але ж галоўнае — вы павінны пранікнуць у глыбінную сутнасць вашага героя, што ў свой час зрабіў ваш пакорны слуга. На Гаркушы я правёў эксперымент, але, на жаль, мае высновы не зацікавілі надзеленага вялікай уладаю чалавека. Адсюль усе нашы сённяшнія драмы і трагедыі. Але ж... "Пранік у глыбінную сутнасць нейкага дзівакаватага лесніка", — вы можаце так падумаць, і гэта будзе ваша вялікая памылка. Бо тады можна сказаць і так: нейкага калгасніка, нейкага заводскага рабацягі, а ўрэшце — нейкага народа, ні больш ні менш. Вось гэтага і не зразумеў той вялікі чалавек, якому я хацеў давесці абсалютна правільныя, як паказала далейшае жыццё, высновы майго эксперыменту: каб папярэдзіць непажаданыя грамадскія катаклізмы, найперш трэба ведаць, аб чым маўчыць народ. Вы скажаце: "А чаму сёння я павінен слухаць твае ўспаміны пра тое, якая была ў цябе калісь тэорыя, калі ўсё ўжо загрымела ў тартара-

ры?" Тады нагадаю: я пазваніў вам, і памятаеце, што я сказаў? Я сказаў: хачу рэабілітаваць сябе ў вачах вашых чытачоў. Цяпер тлумачу: вашы чытачы запомнілі мяне як таго Чубка, які цэліў Гаркушу паўз вуха, а я хачу, каб яны ведалі не толькі грэх маёй маладосці, а і тое, як дваццаць год назад я папярэджваў самога Першага сакратара ЦК, што можа здарыцца вялікая непапраўная бяда, вось гэтая, сведкамі якой мы з'яўляемся сёння. Таму зрабіце ўжо мне такую ласку — выслухайце!..

А пачну я з таго, што... Так, я не стаў высвятляць у Гаркушы, была ў іх са Святым такая злачынная дамова, каб ён, Гаркуша, адцягнуў на сябе нашу ўвагу, ці Святы і праўда падмяніў употай ад Гаркушы футарал, — мяне гэта ўжо мала цікавіла. Чаму? Таму што гэтую справу трэба было як мага хутчэй замяць. Адно, нельга было дапусціць, каб Гаркуша ўсплыў як сааўтар "Жанчыны з радзімкамі": яе аўтара даўно ўжо знайшлі ў Бурацціі, пакаралі і далажылі ў Маскву, а значыць, нехта і ў Маскве дакладваў самому старшыні Камітэта, уводзіў яго ў зман, і калі б я, займаючыся Гаркушам, неасцярожна выкрыў гэтую туфту, для мяне ўсё магло б скончыцца траурным маршам і салютам баявых сяброў над свежай магілаю. А другое, вы памятаеце, які загад атрымаў я ад Айчанаша: аперацыю не выпускаць за межы раёна — каб усё было ціха. Каб было ціха!.. Ужо тады ў мяне ўзнікла падазрэнне: шаршэ ля фам! А цяпер я ўжо ведаў пэўна: гэтая ля фам — Гаркушава дачка, да яе, жонкі мастака Мохарава, Айчанаш з нядаўняга часу праяўляў павышаную мужчынскую цікавасць. Было ясна, Гаркуша — будучы Айчанашаў цесць, і таму тым болей справу трэба было замінаць: цесць сакратара па ідэалогіі — ідэалагічны дыверсант!.. Цяпер вы разумееце, чаму я так лёгка адпусціў Гаркушу: у дэтэктыўным плане ён перастаў для мяне існаваць. Але я ўжо казаў: Гаркуша заўсёды цікавіў мяне ў палітычным і філасофскім плане. Гаркуша, асабліва ў гэтай ягонай камбінацыі з зяцем-мастаком, даў мне багаты матэрыял для тых высноў, якімі я і павінен быў падзяліцца з Першым сакратаром ЦК. Мне заставалася толькі трапіць да яго на прыём.

Я ўзяў адпачынак і прыехаў у Мінск; тут, у Чыжоўцы, жыве мой брат, таму я мог дазволіць сабе такую раскошу — чакаць, калі ён нарэшце мяне прыме, наш Першы. Канечне, да мяне прынюхваліся, хто я, і што, і чаму мне трэба абавязкова да самога Першага, але ж я чалавек з органаў — не могуць жа яны гэтага не разумець! Словам, адчыніліся перада мною высокія дзверы. Уваходжу ў кабінет, а на тое ён і Першы сакратар ЦК, што ў яго тут хоць гуляй у футбол: недзе далёка-далёка ён устае з-за стала, а ты ідзеш хвілін пяць, ну не пяць, гэта я перабольшваю, але прыдумана хітра: ён цярпліва стаіць і чакае, доўга чакае — такое псіхалагічнае на

цябе ўздзеянне, маўляў, бачыш, які жаданы ты ў гэтым кабінеце. Трымаю бадай што страявы крок, толькі на мяккім дыване ён нячутны, збоку ў мяне доўгі, бясконцы стол, пад яго падсунуты незлічоныя крэслы, але адлегласць да Першага сакратара ЦК усё меншая, і чым бліжэй я да яго падыходжу, тым пільней і ўважлівей ён сваімі бацькоўскімі вачамі да мяне прыглядаецца. Першы намнога вышэйшы за мяне, таму, падаючы мне руку, ён яшчэ і трохі нахіляецца — акурат кланяецца. Яму, канечне, далажылі, што я іду да яго з нейкай таямніцаю, таму і ён, быццам асцерагаючыся, што нас нехта пачуе, паказвае рукою на канец доўгага стала і ціхім змоўніцкім голасам запрашае: "Калі ласка, сюды". Заходзіць ад сцяны і садзіцца, мабыць, на трэцяе крэсла, а мне зноў паказвае, каб я сеў насупраць, з другога боку.

Вядома, я заўважаў, што яго таямнічасць прытворная, гэта была ягоная гульня, іронія: ну як жа, ён — усімі прызнаны мудры кіраўнік, а тут нейкі палкоўнік дзяржбяспекі прыйшоў з карыснай парадаю, як яшчэ лепш ён мог бы кіраваць сваім народам. Але ён быў для мяне такім вялікім аўтарытэтам, што ягоная няшчырасць здалася мне спачатку найвышэйшай шчырасцю. Таму і сам я горача і шчыра пачаў выкладваць яму сваю тэорыю, а ён усё выразней прыжмурваў вочы, і я падумаў, што гэтак сваёй перакананаўчай гаворкаю я завалодваю ягонай увагаю. Ды не, мабыць, не надта ён услухоўваўся ў мой даверлівы маналог, бо раптам спытаў: "Як, як вы сказалі? Трэба ведаць, пра што маўчыць народ? Гэта і праўда нешта новае. Але чаму ён павінен маўчаць? У нас жа свабода слова!" Адчуваю, мяне трохі кінула ў пот. "Усё гэта так, — кажу, — у нас дэмакратыя і свабода слова, але ж сказаць можна тое, што не пярэчыць нашым ідэям, а супраць жа ніхто нічога не скажа!" — "Ажно так? — здзівіўся Першы. — Вы кепска думаеце пра свой народ. Па-вашаму, ён трымае за пазухай камень? Ну і супраць каго — супраць свайго, самага справядлівага ў свеце дзяржаўнага ладу?.. У нашага народа няма падстаў выступаць супраць сябе самога, узводзіць паклёп на свае ўласныя заваёвы, таму, карыстаючыся вашай тэрміналогіяй, скажу: вось пра гэта ён і маўчыць. Зразумела, у сям'і не без выродка, але нашым беларускім народам можна ганарыцца: адзін паршывы дысідэнт на дзесяць мільёнаў — нейкі Кукабака, ну яшчэ Быкаў ды Карпюк". — "Усё так, — я зноў як быццам і не пярэчу яму, але ж і гну сваю лінію. — Але ўсё-такі галоўная небяспека нашаму дзяржаўнаму ладу зыходзіць ад народа, а не ад інтэлігенцыі. Канечне, калі Быкаў напіша свой чарговы пасквіль, яму трэба даваць адпор; калі Карпюк бэсціць з нейкай трыбуны нашых кіраўнікоў і гэта разыходзіцца па ўсёй рэспубліцы, яго таксама трэба паставіць на месца; калі ў дзяржаўным універсітэце студэнты звілі нацыяналістычнае куб-

ло, іх трэба рашуча раскідаць па абласных інстытутах — у нас у Гомелі адзін такі давучваецца. Але ўсё ж інтэлігенцыя, за выключэннем, можа, Быкава, хутка загараецца, але яшчэ хутчэй астывае, таму на вашым месцы я ўсё-такі больш увагі ўдзяляў бы народу. Паверце, гэта так: часта ён гаворыць не тое, што ў яго наўме, таму ў нашай рабоце найперш трэба ўлічваць, пра што маўчыць просты народ, бо ягонае маўчанне, калі не зрабіць прафілактычных захадаў, можа выбухнуць з каласальнай сілай". — "Што вы кажаце? — не паверыў Першы. — Мне здавалася, што такія апакаліптычныя жахі магло б намаляваць толькі нечае хворае ўяўленне, але пра ваша я так не скажу, таму хацелася б пачуць, на якім рэальным матэрыяле грунтуецца ваш змрочны прагноз?" Ён сам падвёў мяне да гэтага — каб я выклаў яму свой "рэальны матэрыял". "Прывяду такі прыклад, — сказаў я, — вы, мабыць, памятаеце таго лесніка, якім вы займаліся ці не двойчы. Ягонае прозвішча Гаркуша. Дык вось уявіце сабе: хадзіў чалавек па лесе і маўчаў. А пра што маўчаў, вы не здагадваецеся?" — "Даруйце, — сказаў Першы, — я і праўда не здагадваюся, пра што маўчаў ваш Гаркуша. Больш таго, мне незразумела, як можна ведаць, п р а ш т о м а ў ч ы ц ь н а р о д. Вы хто — Месінг? Вы можаце на адлегласці чытаць людскія думкі? Тады раскажыце, пра што ён усё-такі маўчыць, наш з вамі народ?" Тут ужо я дазволіў сабе іранічна ўсміхнуцца. Я сказаў: "Разумееце, калі ўважліва слухаць, то можна пачуць, як час ад часу народ п р а г а в о р в а е ц ц а. А гэта і ёсць тое, пра што ён маўчыць. Зноў-такі тлумачу на прыкладзе Гаркушы. Часцей ён маўчаў і толькі зрэдку прамаўляў сваю крылатую фразу: "Усё ідзе на пагібель". Вось пра гэта ён і маўчаў: савецкая ўлада прывяла краіну да катастрофы. А што было ўслед за гэтым маўчаннем? А тое, што Гаркуша пачаў дзейнічаць: напорыста, дзёрзка, агрэсіўна! Успомніце ягоную дыверсію на нафтаправодзе, вы ж самі канфлікт уладжвалі — з Касыгіным, з Вілі Штофам. А якую абструкцыю ён учыніў вам на балоце, памятаеце? І меліярацыя, аказваецца, наша пагібель. Але гэта не ўсё. У ім абудзіўся яшчэ і талент мастака-антысаветчыка — калі б не наша чэкісцкая пільнасць, яго абстрактная пэцканіна была б выстаўлена ў самім Нью-Ёрку!" — "Няўжо? — Прыжмураныя вочы Першага ўсміхаюцца, ды неяк ужо сумнавата. — Дык гэта ж наш нацыянальны герой!.. Гаркуша... Памятаю такога. Ну, ну, што там далей?" І я працягваю: "А нахабна ён пачаў дзейнічаць таму, што, як вы думаеце, які дэвіз ён узяў цяпер на ўзбраенне?" — "Ну, ну, які ж?" Нарэшце-такі я зачапіў Першага, як кажуць, за жывое. Дык я і выдаў яму гэты Гаркушаў дэвіз: "Пікі к бою, шашкі вон!" Ад здзіўлення Першы ледзь не свіснуў — ужо і вусны акругліў, ды спахапіўся, бо

несалідна, усё-такі Першы сакратар ЦК. А я і яшчэ раз яму проста ў твар: "Пікі к бою, шашкі вон!"

Ад таго ўсмешлівага, нават гарэзлівага здзіўлення, якім ён мяне паддражніваў, не засталося на твары ў яго і следу. Жорсткі позірк, акамянелая складка вуснаў — і я падумаў: раз ён зрабіўся такім сур'ёзным, значыць, нешта з маёй тэорыі да яго дайшло. Бо да таго ж ён і спытаў: "Ну, і што вы прапаноўваеце?" Да такога пытання я быў гатовы і выклаў свае меркаванні. "Трэба, — сказаў я, — каб органы дзяржаўнай бяспекі рэгулярна дакладвалі вам, пра што маўчыць народ. Вам дакладваюць, хто пра што гаворыць, але гэта і так вядома. Трэба даць органам большыя правы, каб можна было дапытаць не толькі таго, хто адкрыта выступае супраць нас, але і таго, хто маўчыць. Тады мы будзем трымаць пад надзейным кантролем увесь народ, будзем ведаць, што ў яго наўме, і не станем чакаць, пакуль увесь народ скажа: "Пікі к бою, шашкі вон!"

Мне здалося, што Першы нават кіўнуў у знак згоды галавою. Але ад яго павеяла холадам, калі ён сказаў: "Павінен вам катэгарычна запярэчыць: вяртацца да берыеўшчыны мы не маем намеру і надзяляць неабмежаванымі правамі органы дзяржаўнай бяспекі не збіраемся. Але вывады з размовы, якую мы правялі з вамі, будуць зроблены. У вас якое званне? Палкоўнік? Прадстаўлены да генерала? Больш я вас не затрымліваю, таварыш палкоўнік".

Шкада, не дажыў Першы да тых дзён, калі са свайго кабінета не змог бы ён не пачуць, як на подступах да плошчы Леніна рвалі антыпартыйнымі воклічамі глотку шматтысячныя калоны ўчарашніх маўчуноў. Хай бы ён палюбаваўся, як перавярнулася ўсё дагары нагамі. Дзе яна, ягоная партыя? Цяпер кажуць: яе развалілі зверху. Ну так, не народ яе змёў, але ж ён і не абараніў, не заступіўся! Значыць, правільная мая тэорыя: было тое, пра што народ маўчаў, яно і перамагло, а не тое, што ён выкрыкваў з трыбун.

А вывады з нашай размовы Першы зрабіў. Яшчэ на пятнаццаць год завяз я ў палкоўніках. Толькі пасля Чарнобыля, дзе давялося забяспечваць сакрэтны рэжым, памянялі гнеў на літасць. Але позна: радыяцыя, адстаўка, так і не давялося пафарсіць у генеральскім мундзіры. Словам, дорага мне каштаваў ваш Гаркуша. Адно цешыць — новая ўлада, умацоўвае органы, паднаўляе бюст Фелікса Эдмундавіча. Органы — галоўная сіла ў дзяржаве, і ніякія партыі цяпер не перашкодзяць ім рабіць сваю справу".

Цяпер, калі адстаўны генерал пацвердзіў у асноўных рысах праўдзівасць Гаркушавай "памоўкі" (як ні дзіўна — пацвердзіў!), мне засталося толькі ўзнавіць па памяці фінал самой маёй сустрэчы з Гаркушам — нашага застольнага сядзення. Гарэлка ў нас даўно

скончылася, а цяпер, калі наступіла і развязка Гаркушавай гісторыі, я падумаў: няўжо ён толькі таму і шукаў мяне ў горадзе, каб расказаць мне яшчэ адну сваю "памоўку"? Магчыма. Але расказаў бы мне ён яе ці не, ад гэтага ў ягоным жыцці нічога не змянілася б. Тады, можа, была ў яго нейкая іншая мэта?.. Якая?.. Я пільна прыгледзеўся да Гаркушы, і мне здалося, што нечага ён яшчэ не дагаварыў, — зірнуў на гадзіннік, час на аўтобус, але не хочацца яму везці ў сабе дадому нейкую няпэўнасць, разгубленасць. Дык нарэшце — ён недаўменна пацінуў плячамі і развёў далоні: "Розуму не дабяру, куды падзелася дачка? Тыдзень назад машынак розных малому навезла, шакаладу, дый сама ў новым плацці!.. А перад гэтым Чубок — пра зяця: у цябе ён, кажа, усім зяцям зяць. Дык я і ламаю галаву: можа, гэты яе Мох такое намаляваў нешта, што і на вялікія грошы ўзбіўся?.. Не ўтрываў — паеду, думаю, пагляджу. Прыехаў, а ў яе і каморка зачынена, і зала. Я да таго Жоры, што сам сабе падвывае, — пацалаваў прабой і там. Дзе яны ўсе?.. Можа, на раёне?.. А потым думаю: не, што зяць нешта людскае намаляваў, такога быць не можа, а пра дачку думай не думай, зязюля яна і ёсць зязюля. Пагараваў так, а потым і ўспомніў: казаў Туравец — кватэру даюць і тым, хто паскардзіцца ў газету. Ага, у газету? Дык мне і скардзіцца не трэба, у мяне ў газеце свой пісацель, ён мне і паможа. А цяпер бачу, ты сам у гэтым чужым катуху, дык які ж ты мне памочнік?.."

Гаркуша ўздыхнуў, безнадзейна паківаў галавою, і вось ён шукае ўжо вачамі сваю сумку. Мы ўсталі. На развітанне, адчуваючы нейкую сваю віну, я памкнуўся злёгку абняць Гаркушу, але ён ухіліўся. Толькі ўнізе, ля пад'езда, ён акінуў мяне цёплым развітальным позіркам: "Бывай, пісацель!" Цяпер ужо не адказаў я — нешта засела ў горле.

Бывай, Гаркуша. Больш мы ніколі з табою не ўбачымся. Пра цябе яшчэ я пачую, а ўбачыцца не давядзецца. Бывай!..

## 13. Бунт

Так, пра Гаркушу я сёе-тое яшчэ пачую... У "Явары з калінаю" я расказаў, як аднойчы сустрэўся ў Мінску з Айчанашам, — ужо ад яго я нешта даведаўся пра Гаркушу. Праўда, вельмі мала. Я не разумеў, чаму Айчанаш такі скупы на словы, сказаў толькі, што цяпер у Заліп'і "зона", што яшчэ раней Гаркушу перавялі ў леснікі. Пазней я зразумею: Айчанаш баяўся абмовіцца, што Гаркуша даўно ўжо ягоны цесць, зразумею, калі яшчэ праз цэлых пяць год пачую пра гэта ад самой Гаркушавай дачкі. Зрэшты, пакуль што я ведаю толькі тое, што Айчанаш даў ёй ключ ад сваёй кватэры і

яна вымушана была пакарыстацца гэтым ключом. Чытач не забыў: Гаркушава дачка пра тыя даўнія падзеі расказвае мне ў маім кабінеце, і сваю гісторыю яна не давяла яшчэ да канца.

Мабыць, першы раз так надоўга яна змоўкла і амаль што заплюшчыла вочы. Як быццам наўмысна — каб я зведаў на сабе яшчэ і магію яе доўгіх, з выгнутымі ўгору кончыкамі чорных веек. Але так можна было б падумаць, каб не аплылі прыкметна ўніз і яе пабляднелыя шчокі, не апусціліся куточкі вуснаў. Не, ёй, мабыць, было ўжо ўсё роўна, як яна перада мною выглядае, бо не магла ж яна не здагадвацца, што гэткі, падобны на трагічную маску, выраз яе твару не робіць яе прыгажэйшай. І цыгарэта, якую так артыстычна яна падносіла да падружоўленых вуснаў, раптам стала ёй непатрэбнаю: не дакурыўшы, яна груба раздушыла яе ў попелцы... Нарэшце яна прыўзняла павольна вейкі, і штосьці нядобрае, пагражальнае зірнула на мяне з яе трохі раскосых шэрых вачэй... Шэрых?.. Каб жа так!.. У галаве пранеслася: “Пришла, как лето, дочь Анастасия, вся [redacted] мать — и сероглаза, и добра”, але ж не, не матчыны, не ціхія, не “месячныя” вочы былі ў дачкі, дый наогул ці былі яны шэрыя?..

“Вы спалохаліся? — Яна мяне бачыла навылёт. — Я вам казала, мае вочы бываюць зялёнымі — акурат калі я пачынаю злавацць, а якраз зараз яна і закіпае, мая лютая злосць на ўсіх вас. Якія ж вы ўсе чыстыя, якія бязгрэшныя!.. Але не думайце, што толькі вы будзеце мяне судзіць, я вас не пашкадую таксама. Спачатку пакаюся сама, ну так, грэшная — і перад Богам, і перад Мохам, а потым адкажаце і вы, адкажаце... усяго на адно пытанне. Вы не забыліся, чаго я да вас прыйшла? Так, я — ваш Страшны суд, пабачым, што адкажаце вы, не так мне, як свайму сумленню!.. Але перш пра сябе, — калі хочаце, можаце запісваць мае чыстасардэчныя паказанні.

Колькі сябе помню, чула бацькава: “Усё ідзе на пагібель”. Так ён і навешчаваў яе — найперш мне, маёй душы. Не спакушаў Мох, сама кралася, як шпіёнка, у Савіну хату, а потым і бегла да яго на сунічную паляну, адно гэта — пагібель, а яшчэ большая: як убачыла, што трэба несці свой цяжкі крыж, — здрадзіла, адраклася. Тое, што ён сам мяне брыдка аблаяў і прагнаў, — не апраўданне, значыць, тым цяжэйшы мне выпаў крыж, мая маці ўсё стрывала б. Не яна выбрала бацьку, а ён яе, але як ужо за ім, дык і цярпіць усё жыццё, бо ён то з ляснічым пацапаецца, то з большым начальствам, так і чакай, пагоняць з канторы, а яшчэ і тую ж нуду з лесу прыцягне — мухі на ляту ў хаце дохлі. Ды ўсё роўна, як ні спакушаў д’ябал, — не паддалася. Бо святая. А я... таксама цярпела, нават болей, чым маці, бо ніколі яна не разувала п’янага бацьку, а яе зяця я

разувала, — цярпела, але не надоўга хапіла майго цярпення — да першай спакусы, і досыць было мне меднага ключыка.

Дык, мабыць, адразу за гэта і пакараў мяне Бог, бо які ж неймаверны зведала я назаўтра жах!..

Прачнулася, але вачэй не расплюшчваю — пачула знаёмы з дзяцінства пах. Раскінула рукі, млею, лежачы дагары, бо, як салодкі наркоз, удыхаю сунічны п'янкі пах, ну так, я не трызню: пахнуць суніцы — я ж недзе там, на сваёй грэшнай паляне, пад Высокай Грываю! Побач Мох, і мая рука млява цягнецца да яго, але... чаму яна слізгае зверху ўніз па нейкай роўнай паверхні? Сцяна! Гладкая каменная сцяна!.. Спалохана расплюшчыла вочы: дзе я, што са мною? Ліхаманкава падхапілася, села, агледзелася — і ўсё ўспомніла! Дый пачула: у другім пакоі размаўляе па тэлефоне ЁН. Але ж як невыносна пахнуць суніцы! Адкуль яны тут? Я вар'яцею!..

Увайшоў Віталь Фёдаравіч. Гэты мой жах — пахнуць суніцы! — ён зразумеў па-свойму — жартоўна пагразіў пальцам: "Усё, піянерка, цяпер мы з табою муж і жонка, таму выкінь з галавы дурное. На гэтым тыдні па ўсіх правілах зарэгіструем шлюб, а пакуль... нікому не адчыняй дзвярэй, як бы настойліва хто ні дамагаўся. Ты ведаеш, што я быў жанаты і што ў мяне ёсць дачка. Яна студэнтка, вучыцца тут, у чыгуначным, а жыве ў інтэрнаце. Прыходзіць і да мяне, але сама па сабе дачка для нас не праблема. Праблема ў тым, што яна выступае ў ролі траянскага каня — у гэтую крэпасць хоча ўварвацца мая былая жонка. Калісьці я не апраўдаў яе надзей, затое цяпер маё становішча яе задаволіла б: разам з дачкою яна пранікала ўжо ў гэтыя сцены, і яе намёкі наконт сённяшняй маёй адпаведнасці яе высокім ідэалам былі больш чым празрыстыя. Аднак, калі яна застукае нас незапісаных, я не паручуся за сваю цяперашнюю пасаду. Нам трэба паказваць узор высокай маральнасці — ты мяне разумееш? Таму нікому не адчыняй. Ну, будзь разумнай, а я пайшоў. Прыеду на абед, абмяркуем астатняе. Напрыклад, як нам падаць сябе тваім бацькам, тут ёсць над чым падумаць".

Ён нахіляецца нада мною, каб пацалаваць, ягоныя валасы распадаюцца на два бакі, ён цалуе мяне ў шчаку, а я не магу ўжо трываць, я зусім вар'яцею, бо, кажуць жа, калі чалавек крануўся з розуму, яму нешта здаецца — як мне гэты нясцерпны сунічны пах! Як толькі ляпнуў ён дзвярамі, я падхапілася з ложка, і хто ж я цяпер, як не вар'ятка: у кароткай сподняй кашулі кінулася да акна, зірнула ўніз: ці не там, можа, на якім газоне паспелі тыя суніцы — фортачка адчыненая, дык і пах; не, там, унізе, дзіцячая пляцоўка; выскачыла ў прыхожую, і, мабыць, стогн адчаю вырваўся з маіх грудзей, бо суніцы запахлі яшчэ больш — ратуйце мяне, людзі!.. Спалохалася, што выскачу ў калідор і закрычу, спынілася, залама-

ла рукі, заплюшчыла вочы — здалося, мацней пахне з кухні, ступіла да зашклёных матавых дзвярэй, тузанула — а-а-х! — перада мною, на табурэце, поўны кошык спелых суніц, вузкі і доўгі лубяны кошык!.. Павяло, як п'яную, апусцілася на другі табурэт, прыхінулася спіною да сцяны і зноў заплюшчыла вочы. Сядзела так і ціха стагнала, але ўжо ўсцешна, а потым пачула і быццам дзіцячыя свае ўсхліпы — стала смешна з самой сябе, і смех мой быў падобны на шчаслівы плач.

Суніцы, ды не тыя! Адна за адну спялейшая, бо не з лесу, а з агарода. З лесу нясеш часам і недаспелую, бывае, што дзюбачка і зеленаватая, а гэтыя дужа старанна выбіралі — спелыя і буйныя, адна ў адну. Потым Віталь Фёдаравіч скажа: "Прывыкай, цяпер ты жонка адказнага работніка, і нам дадому будуць час ад часу прывозіць калі не суніцы, дык нешта іншае. Прымай як належнае". Гэта будзе ў абед, а пакуль я і сама патроху брала сябе ў рукі. Так, гэта мае другія суніцы. Тыя, першыя, навек выкіну з галавы, і не будзе мяне ўсё жыццё даймаць іхні пах, не буду я пакутаваць ад яго, як маці пакутуе ад свайго тарфянога смуроду. Адзін раз жывём на свеце, адзін раз, і... што гэта я ўжо раблю ў я г о на кухні?.. Мыю суніцы... Намыла поўную талерку, пасыпала цукрам — хай пускаюць сок, а я пайду пакупаюся ў ванне.

Памылася, насуха выцерлася, але адзявацца не стала. Вярнулася ў чым маці нарадзіла на кухню, узяла талерку з суніцамі, лыжачку і перайшла ў залу. Страшэнна захацелася ўбачыць сябе ў люстры — голую, з талеркаю суніц у руцэ. Я то адступала ад люстра, то падыходзіла да яго бліжэй, паварочвалася бокам, — так, у мяне было прыгожае цела, і мне падабалася трымаць перад самымі грудзьмі талерку з суніцамі, па адной браць іх лыжачкай, есці і любавацца сабою — як сказала б сёння мая дачка, гэта быў ні з чым не параўнальны мой кайф!..

Напэўна, вы здагадваецеся, што ўрачыстай рэгістрацыі шлюбу, з маршам Мендэльсона, у нас не было, ды і ў загс я не хадзіла і не пыталася ў Віталя Фёдаравіча, хто і дзе нас запісаў. У мяне быў іншы клопат: як паказацца на вочы бацьку і маці, як ім адкрыцца? Бо калі ёсць у бацькі першы вораг, дык гэта Віталь Фёдаравіч, а пра маці і падумаць страшна: ён — яе першае каханне, і, выходзіць, мы з ёю цяпер суперніцы. Адганяла трывожныя думкі, бо не магла нават сабе ўявіць, як я заяўлюся ў Заліп'е і скажу, што я... Айчанашава жонка.

"Ты цудоўна прыдумала, піянерка, — сказаў Віталь Фёдаравіч, калі я і пры ім абмовілася — "як я заяўлюся". — Спачатку візіт ім нанясеш ты адна і правядзеш там — зводдаль, жартам — псіхалагічную падрыхтоўку, маўляў, а што б вы сказалі, калі б я..., ну і гэтак далей. А там будзем бачыць, што рабіць потым. Трэба

толькі, каб ехала ты з гасцінцамі, а сама была вясёлая і шчаслівая. І яшчэ: шафёр падкіне цябе да Грабянцоў, а лесам ты пойдзеш як быццам з аўтобуса, каб раней часу яны чаго не западозрылі, бо калі спачатку іх не падрыхтаваць, можа быць лятальны вынік".

Гэта ў яго быў чорны гумар — лятальны вынік, але так я і зрабіла — паехала адна. Пятровіч, немалады і распаўнелы шафёр, быў нямы як рыба, дык моўчкі ён і дамчаў мяне да Грабянцоў. Хуценька перабегла жоўты пясок і схавалася ў кучаравым сасонніку. Так, схавалася, каб калі нехта і ўбачыў, як вылазіла з машыны, дык на чыстым не паспеў бы надта разгледзець — хто. А потым іду па лесе, а мяне ой як нудзіць, бо такую непамысную навіну нясу я маці і бацьку, няма ў мяне да іх ні жалю, ні літасці. А бліжэй да Заліп'я мяне ўжо і ліхаманіць, бо адно, што нудзіць, а другое, з парога я павінна заззяць ім ясным сонейкам. Дык я і заззяла, але ў гэты, першы прыезд так і не прыдумала ніякага жарту, чыёй магла б я быць жонкаю. Адно была вясёлая і шчаслівая, ажно занадта, дык, мабыць, гэта і здалося ім падазроным, бо заўважаю, усё неспакойней прыглядаецца да мяне маці, а бацька таксама зірне і як не пацісне плячамі: "Што з дачкою?"

Так было першы раз, а калі я прыехала праз тыдзень, яны ўжо ўсё пра мяне ведалі. Ну проста ўсё чыста!.. Валіку я прывезла цікавую цацку — чыгунку, дык выкладваю кругам пластмасавыя рэечкі, заводжу ключыкам паравозік, а маці не зводзіць з мяне ўстрывожаных і жаллівых вачэй. Зірнула на яе, а яна шэрымі балеснымі вачамі проста моліць мяне быць перад ёй, як на споведзі, праўдзівай і шчырай. І гаворыць: "Дачка мая родная, у тую нядзелю прыбегла ты, як во цяпер, дый кажаш — з аўтобуса. А ты ж не на аўтобусе ехала, скажы маці чыстую праўду — не на аўтобусе?" Не магу хутка прыдумаць, што ёй адказаць. Нехта падгледзеў-такі, што на "Волзе" ехала. Дык, можа, так адразу і сказаць? Не, адразу нельга: "Мама, ну якая розніца, на чым я ехала?" А яна: "Ты на легкавой машыне ехала, на чорнай". А я сваё: "Мама, няўжо табе не ўсё роўна, на чым я ехала? Ну, можа, і на машыне, можа, падвёз хто па дарозе". А яна: "Вось бачыш, як хлусіш ты роднай маці. Падвёз па дарозе! Калі б па дарозе, дык паехаў бы далей, а то ж развярнуўся назад! Ты думаеш, людзі дурныя, нічога не петраць! А маці з бацькам у цябе сляпыя? Не бачаць, якія дарагія вязеш ты малому гасцінцы? Гэта ж вялікія грошы, адкуль іх у цябе столькі? Маўчыш? Ну дык твая лепшая сяброўка, Светка, не змоўчыць, па ўсім Заліп'і, як сарока, разнесла: такую маладую ды прыгожую цябе адзенуць і абуюць — во як ты хвалілася ёй! І кватэру табе дадуць, і на легкавой машыне катаць будуць! Дык няўжо ж на гэткую сваю ганьбу гадавалі мы цябе з бацькам, мая ж ты дачушка!.." Так яна выводзіць мяне на чыстую ваду, а я ад страшэннай крыўды адно хапаю ротам

паветра, а слова вымавіць не магу, ды нарэшце-такі выдыхнула амаль шэптам: "Мамачка, як ты магла паверыць? Гэта ж яна, жаба зялёная, сама мяне так навучала, маўляў, калі б ты захацела, дык усё мела б, мужчыны для такіх нічога не шкадуюць. Гэта яна мне так казала, а не я ёй!.. А машына!.. Ну так, мамачка, на машыне мяне прывезлі, але ж розныя бываюць машыны, грэх табе так пагана думаць пра сваю дачку!" Адводжу ад сябе злы нагавор, а сама прыкідваю: калі ўжо ў іх такое гора — дачка кінулася ў распусту, дык гэтым яны падрыхтавалі сябе і да горшага: самы час сказаць ім праўду. І — быццам у вір галавою: "Мама, гэта праўда, што машына была не абы-якая. Ты ведаеш, у Гомелі цяпер за вялікага начальніка Віталь Фёдаравіч, Айчанаш, дык на ягонай машыне я і прыехала — і ў тую нядзелю, і сёння. Мамачка, ты ж сама нараіла мне, каб я схадзіла да Віталя Фёдаравіча, вось я цябе і паслухалася. Дык цяпер вазьмі сябе ў рукі і не палохайся, бо што я хачу табе сказаць: я выйшла замуж за Віталя Фёдаравіча, за Айчанаша, і цяпер я законная яго жонка".

Што з маёй маці? Яна яшчэ глядзіць на мяне, але вочы патухлыя, няцямныя, я тармашу яе за плечы: "Мама, мамачка!", крычу Валіку: "Вады, Валічак, вады!", але ж дзіця, што яно разумее, адно заходзіцца плачам: "Баба, баба!" Асцярожна нахіліла, паклала маці на канапу, кінулася на кухню, бягу з вадою, а тады і пырскамі — на твар маці, на твар!.. Нарэшце яна ціха прастагнала, расплюшчыла вочы і ледзь чутна прамовіла: "Вяроўкі..." — "Што ты сказала, мамачка?" — не разабрала я. А яна мне тым жа слабым голасам: "Хавай вяроўкі. Вернецца з лесу бацька — павесіцца".

Нічога ад бацькі не хавала — ні вяровак, ні стрэльбы, бо не асмелілася і сказаць яму пра сваё новае замужжа. Так назаўтра і паехала ад іх — з болем у душы і са смутнай надзеяй, што цяпер ад маці, можа, неяк само сабой дойдзе да бацькі тое, што ведае яна.

Колькі разоў яшчэ прыязджала да іх — машыну адпускала на шашы, а назад, у Гомель, вярталася на аўтобусе. І кожны раз везла ў горад сваю нязбытную віну — перад маці, перад бацькам. Аднак усё часцей ува мне абзывалася і нязгода: то казалі, за якія грахі Бог паслаў ім такую кару — п'яніцу зяця, а цяпер ён лепшы за Віталя Фёдаравіча? Бацька яшчэ не ведае, хто яго новы зяць, але ж быў Мох — вяровак не хавалі, — думала так, і, пакуль ехала ў горад, мая нязгода — з бацькам, з маці перамагала ўва мне маю віну перад імі.

А ў горадзе тая ж прыкрасць: Божа мой, як цудоўна было б тут, у чыстай, прыгожа абстаўленай кватэры, адчуць сябе бясконца шчаслівaю, калі б не той маўклівы дакор у матчыных і бацькавых вачах! Дакараюць, а за што? Чым я вінаватая? Тым, што не засталася ў цёмнай Жоравай баковачцы? Не прызнавала я гэтай віны, і

ўсё ж... у самыя шчаслівыя хвіліны яна раптам нагадвала аб сабе, і я ўсё часцей і падоўгу не магла ад яе адкаснуцца. Паступова гэта зрабілася маім унутраным змаганнем, ад якога я страшэнна стамілася.

Трэба было неяк ратавацца ад гэтага наслання. І тут вы даведаецеся нарэшце, калі і чаму я стала такой вучонаю, бо, вы памятаеце, я абяцала вам расказаць... Правільна, мне трэба было займець такі штодзённы клопат, які заглушыў бы ўва мне мае трывожныя думкі. Але не сама я даўмелася — кінуцца з галавою ў навуку, дапамог выпадак.

Вы, мабыць, заўважалі: званок у пярэдняй можа быць і нясмелым, і нецярплівым, і патрабавальным. А тут ён здаўся мне яшчэ і нейкім нервовым, раздражнёным. Нікога і нічога не баючыся, бо даўно ўжо я выйшла ў гэтай кватэры з падполля, адчыняю дзверы і каго вы думаеце бачу я перад сабою? Першую жонку Віталя Фёдаравіча і ягоную дачку. Хто была яго першая жонка, у вашым "Явары..." напісана: школьная сяброўка маёй маці, Волька-артыстка, тая, што задавалася колісь сваёй тонкай таліяй. Я адразу яе пазнала, не па таліі, бо ад яе не засталося і знаку, а таму што разы са два бачыла яе ў Грабянцах — жыла яна ў раёне, але прыязджала да старых бацькоў. А што з ёю дачка, я здагадалася, бо яна была падобная на маці. Адчыніла ім і ў той жа момант жахнулася — такім брудам, яшчэ не ступіўшы на парог, пачала абліваць мяне старэйшая: "Ага, во дзе ты, галубка! Відаць, разумнейшая за маці, тая, замужняя ўжо, на першага стрэчнага кінулася, на гіцля, а ты вунь каго акруціла — сакратара па ідэалогіі! Дык, можа, падчарку ў хату пусціш? Смялей, дачка, праходзь, тут бацька твой жыве, шкада, няма качаргі, а то мы яе турнулі б!.. Бач ты яго, дачку ў абшчагу, а гэтая лярва ў харомах раскашаваць будзе? Не дажджэцца! Напішу ў цэка, другі раз папруць з воўчым білетам!.. Вон адсюль, паскуда!" Гэтак яна ўжо ў пярэдняй тупнула перада мною. "Мама, не трэба так", — вінавата азвалася дачка. "Не трэба? А што трэба? Каб з цябе глумілася гэтая гуляшчая?.. Вы, дурныя, вучыцеся, набірайцеся розуму, вам гэта прыдасца, а мы свае бессаромныя любошчы спраўляць будзем! Колісь мамачка: хто ў інстытут, а яна ў блуд, але тая хоць у школу адхадзіла, а гэтая яшчэ ў восьмым класе мамачку пераплюнула. Ну, чаго вочы талопіш? Збірай свае манаткі — і вон адсюль, сучка!"

Штосьці бацькава прачнулася ўва мне, бо гэта ж ён пра сябе так кажа — я рахманы, але да пары, а я ж маладая, дый цупкая, і косць у мяне, мабыць, не арыстакратычная, словам, яна мяне хацела качаргой, а я і без качаргі як турнула нахабную бабу за дзверы! А мая падчарка і сама вылецела ў калідор — будзе ведаць, які ў мачыхі нораў... Доўга не змаўкаў на лесвічнай пляцоўцы бабскі лямант, і не скажу, што плявала я на яго. Не, села я ў зале на канапу,

развяла, паклала на яе мяккую спінку рукі, прытулілася патыліцаю да сцяны і надоўга задумалася.

Я адчувала г э т а , калі яшчэ жыла з Мохам. Часам ён памкнецца нешта мне сказаць, але зірне на мяне — і змаўкае, бо ён адукаваны, разумны, а я ўсяго прыгожая лялька. І тое самае адчула я, калі стала жонкаю Віталя Фёдаравіча. Вядома, гэта прымітыўнае ўяўленне — каб абое немаведама як былі адукаваныя, бо хто-хто, а жанчына, калі яна толькі не клінічная ідыётка, можа недахоп свайго разумовага развіцця кампенсаваць тым, што дала ёй прырода: так, той жа прыгажосцю, някідкай абаяльнасцю, жаночай пяшчотаю, а галоўнае — прыроджанай інтуіцыяй, калі разумным можа быць яе сэрца. Але гэта я цяпер так разважаю, а тады брудная лаянка першай жонкі Віталя Фёдаравіча вельмі на мяне падзейнічала: "Мы вучымся, а яна тут свае любошчы спраўляе!"

Канечне, было б дзіўна, каб я сказала Віталю Фёдаравічу: хачу быць роўнай з табою — пайду вучыцца. Бо куды я пайду — у дзевяты клас, у тэхнікум? Жонка сакратара па ідэалогіі ў дзевятым класе — гэта смешна. І тады Віталь Фёдаравіч сам сказаў мне аднойчы: "А як ты, піянерка, глядзіш на тое, каб павысіць сваю адукацыю? Становішча абавязвае, бо ты — мая жонка, таму выбірай факультэт, будзем паступаць, засталіся два тыдні да заняткаў". А я кажу: "На які факультэт, у мяне няма атэстата за дзесяць класаў, бо толькі восем і скончыла". А ён: "Атэстат ты магла згубіць, таму возьмем у раённым аддзеле копію — справа тэхнікі. Напэўна, матэматыка ды ўсякая там фізіка ў цябе не пойдзе, выбірай штонебудзь гуманітарнае — гісторыю, філалогію". А я пытаю: "А што такое філалогія?.."

Раскажу, якою была я студэнткаю. Віталь Фёдаравіч пасмейваўся: адзін спартсмен пяць гадоў правучыўся ў інстытуце, але ніводзін выкладчык не ведаў яго ў твар, і было ў рэктара клопату, каб уручыць выпускніку дыплом, давялося везці дадому, дык і жонка партыйнага работніка такога высокага рангу магла б таксама даць сабе палёгку. Але я, наадварот, хацела так затлуміць галаву навукаю, каб не думаць і не ўспамінаць пра тое, што было ў маім нядаўнім жыцці. Вучылася я пад сваім дзявочым прозвішчам, ды шыла ў мяшку не схаваеш, усе ведалі, хто я такая, — і студэнты, і выкладчыкі. Але адзін, небарака, чуў звон, ды не ведаў, дзе ён, здаю экзамен, села перад ім з білетам, а ён, замест таго каб слухаць адказ, заводзіць са мною ліслівую гаворку і ўжо бярэ залікоўку, каб паставіць адзнаку — канечне ж, "выдатна", распісваецца, а сам буркуе, як голуб: "Ну, перадавайце прывітанне свайму бацьку". Дык я і пытаю: "А вы адкуль яго ведаеце?" А ён: "Ну як жа, ну як жа — ведаем". А я кажу: "Не ведаеце вы яго. Мой бацька Іван Адамавіч, таму я Іванаўна, чытайце ў залікоўцы. А Віталь Фё-

даравіч, якога вы маеце на ўвазе, — мой муж. Вам трэба было б ведаць, як завуць сакратара па ідэалогіі". Хоць аднаму дала адлуп, бо ўсе падлашчваюцца, ветліва ўсміхаюцца, асабліва моташна было на першым курсе. Потым, калі зразумелі, што ненармальная, грызу першакрыніцы, якіх самі яны ў руках не трымалі, трохі да мяне пахаладнелі, пакрыўджаныя, што нельга жонцы сакратара па ідэалогіі зрабіць паблажку.

Калі я скажу: усе пяць гадоў была першай студэнткаю, і не ліпавай, што дзве мае курсавыя работы былі адзначаны на ўсесаюзным конкурсе, а палова дыпломнай — надрукавана ў навуковым зборніку, вы можаце не паверыць: ну як жа так, нават у дзявяты клас не хадзіла і раптам першая студэнтка! Але, можа, таму і стала першаю, што трэба было даганяць іншых. Я даганяла, а на самой справе пераганяла іх. Возьмем хоць бы літаратуру. Цяпер я ведаю: галоўнае ў творы не тое, што пра яго можна разумна сказаць, а тое, што ў ім адчуваеш сэрцам, што немагчыма перадаць словамі. А тады я помніла, як вывучаюць літаратуру ў школе: сюжэт ды яшчэ — гэты за калгас, а той супраць. Таму і ў старажытнай літаратуры на што я накінулася? Найперш на сюжэт. Пра яго можна даведацца і з падручніка, так іншыя і рабілі. А я не. Я ледзьве не на памяць вучу ўсё па хрэстаматыі — і "Павучанне Уладзіміра Манамаха", і "Маленне Данілы Заточніка", і "Хаджэнне Багародзіцы па муках" — Божа, там такія жахі!.. Да гэтага часу помню: "І відзе другія жоны ва агні ляжашча, і разлічныя змія ядаху іх, і рэчэ святая: "што саграшэнне іх?" — і атвешча Міхаіл: "то суць манастыра чарніцы, яжэ целяса свая прадаша на блуд, да таго радзі здзе мучатся". Гэта хрысціянская літаратура, і калі б я вучыла яе па падручніках, з чужых слоў, яна засталася б для мяне пустым гукам, але ж я ўчытвалася, заглыблялася ў яе, таму са мною і адбылося тое, як бывала іншы раз у Заліп'і: лямпачка ледзьве тлее, бацька кажа — няма напружання, і раптам — хоць збірай іголкі! Такой была і ўва мне гэтая яркая ўспышка: я раптам зразумела, што на свеце ёсць дабро і зло, праўда і падман, вернасць і здрада, што людзі жывуць не толькі зямным, матэрыяльным, але і вечным, духоўным... Раней, калі пра тое самае пачынаў гаварыць Мох, я заставалася абыякавай да ягоных слоў, да мяне яны не даходзілі, а цяпер... Вы здагадаліся ўжо, што вучоба не прынесла мне супакаення. Пачуццё смутнай віны, якой я не прызнавала і ад якой хацела збавіцца, цяпер пачало даймаць мяне яшчэ мацней, бо гэта ўжо была віна не толькі перад бацькам і маці, а найперш перад Мохам. Я зразумела: ён жыў тым вышэйшым жыццём, да якога я не змагла ўзняцца, бо дзеля яго трэба было ахвяраваць сабою.

Не, я не сказала Віталю Фёдаравічу: досыць, твой дабрабыт і камфорт абрыдлі мне, вяртаюся ў Жораву каморку да Моха, бо ён

мая зямная юдоль і побач з ім я буду святою — як маці побач з маім бацькам. Нават не дужа якую раскошу ў двухпакаёвай кватэры на цёмную каморку памяняць я ўжо не магла... Дый машына... Як падумаеш: бегла б, шчамілася б у аўтобус, бо ўжо і без цябе ў ім пальца не праткнуць, трэслася б да Заліп'я! Не, лепей усё-такі на "Волзе" — сорак хвілін, і ты на месцы. Канечне, лепш было б, каб туды зусім не ехаць, але ж там маці, бацька, там Валік! І вось — гэтая мая драма: пад'едзеш, а ён кумельгам вылятае з двара: "Мамачка, пакатай на машыне!", і такі ж ён падобны на Моха, наш хлапчук, што адразу перад вачамі ўзнікае і ён сам, лабаты і сінявокі Мох.

А потым — мае першыя летнія канікулы, тыдзень да нашага ад'езду ў Крым. Трэба было сабрацца, тое-сёе прыкупіць, а мяне, як ніколі, грызе сумленне: Моха забралі ў ЛПП, а што як не без удзелу Віталя Фёдаравіча? Тады гэта яшчэ адна мая здрада Моху і мой здзек з яго: ён — у чорнай турэмнай робе, за калючым дротам, а я ў прыгожым купальніку загараю ля цёплага сіняга мора!..

Мною завалодала нешта безразважнае, авантурнае: нікуды не паеду, пакуль не пабываю ў Моха, не павінюся перад ім, не адвязу хоць невялічкай перадачы. Але як гэта зрабіць? Употай ад Віталя Фёдаравіча? Адлучыўся б у камандзіроўку — за дзень на аўтобусе справілася б, але ў аўтобусе д'ябал акурат і сутыкне з кім-небудзь са знаёмых. Дойдзе да мужа, а ён і насупіць бровы: "Гэта што ж — падман, здрада?" Не, на аўтобусе нельга, а тады даруй, Віталь Фёдаравіч!.. Схлусіла — трэба да бацькоў, а сама падгаварыла Пятровіча. Рызыкавала, але ж не толькі маладым шафёрам-шэльмам быць у патаемных змовах з жонкамі сваіх "шэфаў", — пажылы маўчун павагаўся і, хоць гуляў з агнём, урэшце згадзіўся: едзем нібыта ў Заліп'е, а павернем у другі бок...

Але не далёка ад'ехалі мы ад Гомеля. У машыне мне стала блага. Спыніліся, было гэта ў чыстым полі, ды не, побач з дарогаю расла адзінокая бярозка, я села пад ёю ў цянёк, і яна доўга суцяшала мяне лагодным шумам, аж пакуль не перастала мяне муціць. Усё, грэх мне было ехаць да Моха... Так я і не павінілася перад ім, і гэта на доўгія гады стала яшчэ адной маёй пакутаю.

Я нарадзіла дачку, год адседзела з ёю дома, потым зноў вучылася, скончыла інстытут. А мая душэўная мука так і засталася са мною.

У восемдзесят шостым годзе, калі пачалася гэтая ваша эпахальная вакханалія, была Мохава першая, ды, мабыць, і апошняя, выстава. Яго ўжо не было на свеце, і, як вы думаеце, хто пра яго паруп іўся, хто сабраў ягоныя карціны, эцюды, накіды? Аб'явіўся-такі ўчарашні дысідэнт, ён, аказваецца, быў гарачым прыхільнікам Мохавага таленту, разам з Мохам ён сродкамі выяўленчага мас-

тацтва падрываў знутры таталітарызм — вы, мабыць, ужо здагадаліся — гэта быў Жора Лепень... Я прыйшла на выставу і не магла стрымаць слёз, сядзела на крэсле, плакала і так, скрозь слёзы, на адной з карцін раптам пазнала сябе. Гэта было нешта касмічна-міфалагічнае, разам і прасторавы і часавы сюжэт, бо адны і тыя лініі, гледзячы, у спалучэнні з якімі плаўна закругленымі лініямі іх успрымаеш, належалі як аднаму, так і другому сюжэту: адзін — выява кругавога сусветнага руху планет і зорак, цэлых сузор'яў, другі — запаволены танец антычных багінь, з іх ідэальнымі жаночымі формамі, з іх плаўным выгінам рук — такім, як сёння ў Маі Плісецкай, памятаеце яе "Смерць лебедзя"? І вам не трэба ўжо казаць: адна з антычных багінь і была падобная на мяне. Чародка мілых дзяўчатак пырхала па зале, а тут яны спыніліся і дзівяцца: што яе так уразіла, гэтую інтэлігентную дамачку, глядзіць на нейкую незразумелую карціну і выцірае хустачкай слёзы?.. А я не магла іх суняць: так, калісь і я не разумела Моха, ягонага высокага ідэалу, бо, прымітыўнае вясковае дзяўчо, я і не магла яго зразумець. Цяпер у думках я дзякавала Моху — ён далучыў мяне да свайго Сусвету, а чаму я плакала... не толькі таму, што была вінаватая перад ім, але і ад крыўды. Ад крыўды на яго, на Моха. Аднак і не толькі ад крыўды. На той выставе я раптам адчула: нешта мяне раздражняе, я пачынаю злавацъ, але на каго, на што — на свой горкі лёс? Не, я не маці: гэта яна ўсё лёс ды лёс, маўляў, каму якое выпала наканаванне, а я раптам падумала: ну так, я вінаватая, адракласся, але ж і ягоная віна перада мною не меншая! І тут жа мне здалося, што не толькі Мох, а і яшчэ нехта вінаваты перада мною. А хто — і на выставе, і пасля яшчэ доўга не магла даўмецца. І толькі цяпер магу зусім пэўна сказаць: злую на ўсіх вас, на ўсю вашу разнамасную публіку!.."

Яна і раней увесь час пагражала: "Я злая, я прыйшла вас судзіць!", але мяне гэта не надта палохала, бо ўсё роўна пазірала яна, самае большае, строга ды яшчэ задзірліва-іранічна. І нават цяпер, калі не вельмі вясёлы яе расказ наблізіўся да зусім сумнага фіналу, яе твар мог здацца пахмурным, пакрыўджаным — толькі не злым. Але так да пэўнага моманту. Бо раптам тарганупіся і трохі прыўзняліся маркотна апушчаныя куточкі яе вуснаў, і як жа адразу перамяніўся ўвесь твар! Бо ўжо не крыўда і не скруха варухнуліся ў тых жа цёмных куточках, а здзеклівая, зласлівая пагарда! Цяпер і напраўду яе твар зрабіўся злым, бо яшчэ і бровы яна ні разу не зводзіла так сурова, і нічога добрага не абяцаў мне яе гнеўна-саркастычны позірк. Так, цяпер я канчаткова пераканаўся: яны былі больш зялёныя, чым шэрыя, яе пранізліва-злыя вочы!.. І ця-

пер яны ўсур'ёз мяне палохалі, гэтак жа як і нежартоўная пагроза чулася мне ў яе голасе.

"Цяпер, калі жыццё перавярнулася дагары нагамі, вы ўсе вунь якія чыстыя: у вас бязгрэшнае мінулае, вы не пастуліліся там сваім сумленнем, вы нікому не здрадзілі... А я, бач, якая: ужо больш за дваццаць гадоў жыву з Віталем Фёдаравічам — ганьба мне, ганьба, бо цяпер гэта вінаваты ва ўсіх смяротных грахах партакрат! I ў вашым рамане вы прыкінуліся нібыта лепшым сябрам Айчанаша — там, у Заліп'і, але няўзброеным вокам відаць, што гэта іронія, насмешка. Ну дык я вам больш скажу: я сама іранізую з ягонага прымітыўнага афарызма, ад якога за вярсту патыхае вышэйшай партыйнай школай: "Жанчына можа быць шчаслівай толькі з перадавым чалавекам свайго часу", іранізую, бо гэта яшчэ і ягоны намёк на сябе самога. Але і не пабаюся сказаць вам у вочы: Віталь Фёдаравіч у сто разоў лепшы за ўсіх вас разам узятых, у чалавека ёсць нязломны ўнутраны стрыжань, бо якім быў перакананым марксістам-ленінцам, такім і застаўся — не спалохаўся вашага ўлюлюкання!.. А ўсе вы... Пра мёртвых або добра, або нічога, але калі пачынаць, дык з яго, з Моха... Небажыхар, яму ўсё роўна, ёсць у яго кватэра ці не, усё роўна, на чым спаць — на мяккай цешчынай пярыне ці на голых спружынах у міліцыі, і, дзякуй яму, узнёс мяне ў свой Космас, але хто павінен быў даць шчасце мне тут, на Зямлі? Дабро "круглае" — гэтую сваю філасофію ён давёў да абсурду, бо, каб змагацца за сваё зямное шчасце, трэба быць "вострым", а гэта для яго непрымальна, і яго хапіла толькі на тое, каб намаляваць чарцей у будзёнаўках! Толькі ў нязбытных марах і творчых фантазіях ён сягаў да сваёй сусветнай гармоніі. Хаця не зусім так, пра сябе ён падбаў: выпіў гарачага пуншу (брава, Бялоў!), і Сусвет павярнуўся да яго "удивительно доброй и перспективной стороной". А што самае большае зрабіў ён для мяне — паклапаціўся, каб я стала вольнай ад яго, бездапаможнага, зламанага. Гэта блеф, што ён прайграў мяне ў карты, проста ён адштурхоўваў мяне ад сябе — як той тапелец, што, захлынаючыся ў палонцы, штурхае далей ад яе блізкага чалавека, каб ён не ўваліўся таксама.

Божа мой, колькі ж вас і сёння такіх, як мой колішні Мох, што спачатку здаўся мне Богам! Толькі і здатныя, як той Ісус Хрыстос, з'явіцца народу, а потым аказваецца: тое шчасце, якое ён табе абяцаў, — не для цябе, зямной, смяротнай... Напіша геніяльнае апавяданнейка або верш, выставіць у нейкім салончыку свой звышсучасны шэдэўр — і ўжо ён ашчаслівіў чалавецтва, але і сёння, калі столькі ўсюды ўсялякай свабоды, чорны вол наступіць на нагу

і вам — а тады колькі ж вас яшчэ сап'ецца і загіне пад плотам,— знайшлі спосаб, як зберагчы ў сабе чалавека, — сагнуцца, але не зламацца... Дэзерціры!.. А дзе ж вашы сапраўдныя сённяшнія героі?.. У мяне дачка-нявеста, абалдзенная дзеўка (даруйце, гэта з яе лексікону), а за каго мне яе выдаць — каб калі ўжо не мая маці, калі не я, дык хоць яна была па-сапраўднаму шчаслівая? Дзе той ваш джэнтльмен, ваш рыцар?.. Можа, гэты, што ездзіць на "мерсэдэсе"? Калісь там, у нас, быў адзін знакаміты жулік, Лёшка Гамон, а цяпер жулік на жуліку едзе і жулікам паганяе, ды мала таго — яшчэ і абяцае ўсім вечнае шчасце! А найперш у яго шчаслівая жонка, а як жа — у яе ж і "мерсэдэс", і Канарскія астравы, але другі жулік падкупіць забойцу-найміта, і — была жонка, а стала ўдавою. Вы кажаце, жулік — не сапраўдны сённяшні герой? А хто ж тады? Ага, яны! Палітычныя прастытуткі з адмыслова падвешанымі языкамі! Сёння яны мятуць імі перад адным валадаром, заўтра перад другім, а калі ж яны шчыра дбаюць пра нашае шчасце — у першым выпадку ці ў другім? І гэтыя таксама не героі?.. Тады хто ж застаецца?.. Ах, ваш Быкаў! Узнеслі да нябёс — апостал нацыі! Ну чытала, прызнаю — апостал, але чаму так мала ў яго гарачых паслядоўнікаў, верных вучняў? Прыходзіць з юбілейнай дэманстрацыі Віталь Фёдаравіч — трыумфуе, ззяе: ваш Быкаў хацеў ускласці да абеліска Перамогі кветкі, а яны, ветэраны-артадоксы, не пусцілі яго на плошчу да Вечнага агню!.. Як там у вас у "Явары" называецца фільм Сяргея Абразцова? Вось іменна: "Ну каму ён патрэбен, гэты Васька?" А здавалася ж, прамая дарога да жаданай мэты: адраджайся — і будзеш шчаслівы. Аднак учора вы адраджэнцы, а сёння адрачэнцы — выходзіць, і ўчора вы былі "перадавыя людзі нашага часу", і сёння?.. Што, зноў я не пра тое?.. Ну так, у "Явары з калінаю", здаецца, у эпілогу, вы гаравалі, што ніхто, маўляў, "не хапіўся практыка Гаркушы". Ну дык цешцеся, вунь колькі іх сёння, дзікуноў-практыкаў, паслухаць іх геніяльныя глупствы, дык яны за адну хвіліну зробяць усіх нас шчаслівымі. А шчасця як не было, так і няма. Так што не бачу я сярод вас ні герояў, ні светачаў, вы нават не ведаеце, што такое чалавечае шчасце, а можа, і не хочаце ведаць, адно прыгожа балбочаце пра яго, выдаяце сябе за прарокаў. Ішла судзіць вас усіх, а вывернула перад вамі сваю душу і зразумела: гэты мой істэрычны бунт — для вас бура ў шклянцы вады, ніякім, нават Страшным судом вас не праймеш, але хацелася калатнуць вас усіх загрудкі, зазірнуць гнеўна ў вочы і спытаць: "Калі ж мы нарэшце будзем на гэтай зямлі шчаслівымі?"

Першае, што падумаў: "Так, істэрычка. Чаго ёй ад мяне трэба?.. Бацькавы гены: той усё жыццё шукае нейкага шчасця — то

сваёй жонцы, то ёй, дачцэ, дык і ў яе гэты сляпы максімалізм — хоча, а чаго, і сама не ведае... Яна прыйшла мяне судзіць! Гэта я, гэта ўсе мы нечым сёння перад ёй вінаватыя, нечым ёй не дагадзілі! Годзе!..

Так — годзе!.. Але каму я гэта кажу — ёй?.. А можа — сабе?.. Сабе, сабе... Годзе, спадар пісьменнік, бо яе праўда — не светач ты, і не прарок, нездарма ж з цябе пасмейваўся калісь Гаркуша; дык і не апраўдвай сябе і такіх, як сам, — усе мы вінаватыя, а кожны ў той меры, колькі віны ён на сябе прыме...

Устаў з-за стала, падышоў да акна. Адсюль, з дзевятага паверха, мне адкрываецца велічная панарама: на першым плане — кафедральны сабор, за ім — Верхні горад, а яшчэ далей, на плошчы перад Купалаўскім скверам, падымаецца недабудаваны пампезны гмах з маўзалейным ступеньчатым верхам. У наш, мінскі маўзалей хацелі, мабыць, пакласці мумію эпохі таталітарызму, але аказалася, што не ўсюды на свеце яна памерла, і будаўніцтва замарозілі. Але звароту ў мінулую эпоху, відаць, ужо не будзе — гэта разумее мая госця, і адсюль гэтая яе трывога за дачку, за яе будучыню. Бо калі б вярнулася мінулае, сваю дачку яны з Айчанашам як-небудзь уладкавалі б.

"...Калі ж мы нарэшце будзем на гэтай зямлі шчаслівымі?" Не, яна не спадзяецца на мой адказ, хутчэй яна чакае, што я сам пра нешта ў яе спытаю. Мне рупіць спытаць, але — баюся. Нарэшце перамог сябе: "Ну, а як жа маці, бацька? Жывыя, здаровыя?" — "Жывыя, але... хворыя. З таго часу, як..." Вось гэтага я і баяўся: яна сказала, што хоча, каб дачка была шчаслівая, а Валік?.. Я павярнуўся да яе — грымаса болю да непазнавальнасці змяніла яе твар, па яе шчоках цяклі слёзы. "Я ж вам яшчэ не казала, як у нас гэта склалася... з Валікам... Бацька доўга не ведаў, што я за Айчанашам, бо маці маўчала, — помніла, як у самой пацямнела ўваччу, баялася, каб з бацькам не здарылася яшчэ горшае. Але рана ці позна трэба было набірацца духу, дык аднаго разу маці і кажа: "Іван, у нас вялікая навіна. Толькі ты не хвалюйся..." — "Кажы!" — загадаў бацька. Ён сядзеў на крэсле каля стала, а мы з маці на канапе, і я адчувала на сабе яго строгі позірк. "Іван, — зноў, як вінаватая, кажа маці, — наша дачка другі раз выйшла замуж, а за каго... ты ніколі на таго не падумаеш. Віталь Фёдаравіч цяпер яе чалавек. Не гневайся на яе, можа, так і лепш. Ёй, а не нам жыць з ім". Бацька доўга сядзеў моўчкі, а потым сказаў: "Твая праўда, ёй жыць на свеце, дык і няхай жыве з кім хоча і як хоча. Але каб і нагі ягонай не было ў маёй хаце. І ўнука мы вам не аддадзім, Валік наш". Гэта былі балючыя для мяне словы. Я пачула ў іх і тое, чаго бацька не

сказаў уголас: наш — значыць, дзедаў, бабін і... Мохаў... Валік забаўляўся на падлозе сваёй чыгункаю, а тут падхапіўся і паказвае дзеду, як ён умее заводзіць паравозік, накручвае ключыкам траскучую спружынку, а дзед сумна і замілавана глядзіць на ўнука і зноў кажа: "Валік наш, бо не той у яго цяпер бацька".

Віталь Фёдаравіч згодны быў усынавіць Валіка, але бацька пра гэта не хацеў і слухаць. Не магу сабе дараваць — не забрала хлопчыка, а ён неўзабаве адвык ад мяне і, калі я прыязджала, ужо не зваў мяне мамаю. Так ён у іх і рос, там і вучыўся — у Грабянцах. Віталя Фёдаравіча перавялі сюды, у Мінск, і, бацечка ж ты мой родны, калі б рос Валік у нас ды насіў прозвішча Айчанаш, той, той быў бы ў яго бацька — туды сыноў партыйных работнікаў не пасылалі!.. Не магу больш, не магу... Помню, як везла яго ў калясачцы на луг, рассцялю дзяружку, а ён пальчыкамі і ловіць на ёй кузурак... І адразу... труна... Не магу, не магу!.. Вы пра бацьку?.. З таго часу, як прывезлі Валіка адтуль... у цынкавай труне... стаў часта хварэць — сэрца... Два інфаркты... Маці кажа, памерці б разам...

Але Валік — гэта восемдзесят сёмы, а годам раней штó ўзяў бацька ў галаву: нібыта ён гэтую бяду наклікаў — Чарнобыль. Нібыта збылося ягонае прароцтва: "Усё ідзе на пагібель". Я даводжу, яшчэ ў Бібліі пра зорку Палын сказана, а ён толькі галавой ківае".

І апошняе, што яна сказала, трохі супакоіўшыся: "Гадоў пяць назад прыходзіць да мяне адна жанчына, ведаеце, ёсць такія жанчыны-лялечкі, яна і пажылая ўжо, і сіваватая, а тварык свежы. І кажа: адкрыю табе таямніцу, у цябе ёсць брат — па бацьку, яму ўжо васемнаццаць гадоў. Не думай, кажа, чаго благога пра свайго бацьку, ён святы чалавек, а калі грэшная, дык адна я, але ж калі б не ён, не твой бацька, дык я і на каліўца б не зведала, што такое наша жаночае шчасце. Усё ў жыцці бывае, можа, калі спатрэбіцца табе дапамога, дык ён жа табе брат, напалову, але брат. Яму яшчэ я не сказала, але набяруся смеласці і таксама скажу, чый ён і хто ён. Шкада толькі, што прозвішча ягонае не Гаркуша".

*1994 — 1996 гг.*

**Кусянкоў М.**

К 94 Арляк і зязюля: Раман.—Мн.: Маст. літ., 1998.—238 с.

ISBN 985-02-0340-4.

"Апантаная любоў", "Светлая мелодыя кахання" — загалоўкі рэцэнзій на першую кнігу дылогіі — раман "Явар з калінаю" (1994). Тэма кахання дамінуе і ў гэтай, другой яе кнізе. Да асноўных персанажаў дзвюх кніг, а гэта памочнік ляснічага Іван Гаркуша і яго жонка Зоя Пятроўна, у новым рамане далучаецца яшчэ адна галоўная гераіня — іх дачка Насця. Яе безаглядняе каханне надало жыццю Гаркушаў той выключны драматызм, калі ў невялікай "сямейнай кроплі" адлюстраваўся надзвычай шырокі комплекс грамадскіх праблем — сямейна-бытавых, маральна-этычных, эстэтычна-філасофскіх. Ва ўмовах сацыяльнай задухі пасляваенных дзесяцігоддзяў просты, дый "элітарны", чалавек шукае сабе на роднай зямлі шчасця — але ці знаходзіць?..

Сюжэт кнігі ў многім абумоўлены цесным перапляценнем яго рамантычнай і дэтэктыўнай ліній.

**УДК 882.6-31**

**ББК84 (4Бен)6**







Літаратурна-мастацкае выданне

**Кусянкоў Мікалай Сяргеевіч**

*Арляк і зязюля*

Раман

Рэдактар Л.І.Каўрус. Мастак М.М.Грыбаў. Мастацкі рэдактар А.М.Малышава. Тэхнічны рэдактар М.Ц.Папкова. Карэктары В.Л.Бур'як, А.В.Спрынчан.

Падп. да друку 14.07.98. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера афс. №1. Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 12,60. Ум. фарб.-адб. 12,60. Ул.-выд. арк. 16,27. Тыраж 1300 экз. Зак. 1101.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ №3 ад 19.11.97. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Аддрукавана з арыгінал-макета заказчыка на ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінаце ВПП імя Я.Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.